ГРЫЦУК ВАЛЕРЫЙ

# МАЁ ЗМАГАНЬНЕ

*Беларусь перадусім*

***Прысьвячаю маёй маці***
***Грыцук Вользе Ўладзіміраўне***

Частка І

2013

# ЗЬМЕСТ

Copyright©Fundacja Ramualda Trauguta
Book I
ISBN:978-
Print: SOWA Sp.z.o.o.

*Гэта Кніга распаўсюджваецца як падарунак Фундацыі*

***Я шчыра ўдзячны падтрымцы Анатолія Грышчука і Фундацыі імя Рамуальда Траўгута, дзякуючы якой надрукавана гэтая кніга.***

## Слова да чытачоў

Я ад 5-га класу школы марыў быць знакамітым вучоным (выбітным навукоўцам).
Так, я пачаў дарогу да вялікай Навукі, спачатку ў марах, але потым працаваў у Акадэміі Навук, апошняя пасада: старэйшы навуковы супрацоўнік. Так, я – навуковец.
Але Радзіма-Беларусь мяне паклікала на іншы шлях, шлях Змаганьня.
Кожны чалавек мае выбар сваёй Дарогі. У мяне быў выбар: Навука, ці Змаганьне за Беларусь. У 1996 годзе я зрабіў канчатковы выбар – Змаганьне.
У першай кнізе ня будзе падрабязнасьцей маёй дзейнасьці; падзей , але будуць «акцэнты». Я спадзяюся, што пазьней , на «адпачынку», будзе час для больш грунтоўнай кнігі... Бо пакуль я ўсё яшчэ ў Змаганьні.. За Беларусь.
“***Цярпець каменьні, стрэлы Лёсу, ці зрушыцца на мора крыўдаў і зьнішчыць іх Змаганьнем?” -- Шэксьпір,Гамлет***

Вось гэтае пытаньне даўно стаіць перад беларусамі ( ды і Беларусьсю), менавіта гэтае Пытаньне пераклікаецца з іншым ,«Людзьмі звацца..». Але ,я лічу, што даўно прыйшоў час каб і беларусы, якія лічаць сябе дэмакратамі («апазыцыяй»), такі адказалі на пытаньне Гамлета, а лепш, рэальна пачалі Змагацца і перамаглі ў сябе раба.
Як ? Спосабаў Змаганьня многа, галоўнае , каб была **«Хочам»»,** каб была моцнае жаданьне змагацца, а потым і само Змаганьне . Так як спачатку была «Слова», так пачаткам Змаганьня ёсьць «Хочам!».
***Валеры Грыцук***

# ПАЧАТАК

1977 год.

Вячэрняя Масква , пасьля працы ў Інстытуце да 22 гадзін, ( звычайная праца эксьпэрыментатара) я іду па вуліцы і ўспамінаю Беларусь, сваю каханую жонку... Я ўваходжу ў інтэрнат асьпірантаў АН СССР (Масква), што на вуліцы Д.Ульянова. Паволі, стомлена, ( пасьля працы) я іду доўгімі паўзмрочнымі калідорамі... Раптам я пачуў гаворку. Гамоняць людзі на нейкай мове, якую я ніколі не чуў.. Хто яны? Дзьверы ў пакой былі адчынены, а таму, я павітаўся, сказаў «извините» і запытаў, што гэта за мова... Мне адказалі, што гэта мардоўская мова. Потым я знайшоў, што ёсьць такі народ «мардва», колькасьццю меней 100 000 чалавек.. Таксама неяк узгадалася тоя , што гаварыла мая бабуля (маці маёй маці) аб мардве. У 1914 годзе каля 2 -3 мільёнаў беларусаў царская ўлада прымусіла бегчы «от немцев» у глыбіню Расеі. Так і вымушаны былі выехаць сем'і маёй бабулі і дзядулі. Тады , у дарозе да Расіі і , у адваротны бок, у выніку эпідэмій памерла вялікая колькасьць беларусаў, можа і 1 мільён. Дакладных лічбаў няма. Але з 15 чалавек сям'і майго дзеда засталося жывымі толькі два чалавека. Дык вось, бабуля гаварыла, што мардва «дзіўны народ»: секс на вуліцы, нават у мароз – гэта звычайная справа. Але я вяртаюся да Масквы 1976 года. Так, то быў першы імпульс да маіх думак, чаму Я не гавару беларускай мовай.. Больш таго, на 5-м курсе універсітэту, я

гаварыў , што беларуская мова не патрэбна.
У школе, г.Кобрыня, мне не далі вывучаць беларускую мову, нават запатрабавалі ад бацькоў сьпецыяльная «расписки», што яны ня хочуць каб іхняе дзіця вывучала «мову» і вучылася на беларускай мове... Так і пазбавілі мяне беларускай мовы, якую, я, і далей , не бачыў у дзяржаўных установах Беларусі.А ў сталоўках Менску (пазьней) мяне называлі «пісьменікам», бо я пачаў размаўляць на Мове.
І вось Масква. Інтэрнат АН СССР, дзе жылі людзі амаль з усяго СССР--- мініСоюз, па нацыянальнаму і сацыяльнаму складу, бо там, я добра пазнаёміўся з дочкамі 1-х сакратароў КПСС, паўднёвых рэспублік. І вось нейкі малы «народец» таксама мае СВАЮ МОВУ.

Я – хто ? Дапамог мне прыйсьці да беларускасьці і беларускай Мовы Зьміцер Санько, які быў маім Настаўнікам у беларускай справе. Ён таксама жыў у тым інтэрнаце. Потым, дзякуючы яму , я пазнаёміўся з Зянонам Пазьняком (1979) і беларускімі нацыянальнымі мастакамі.

## 1978
## Пачатак Змаганьня

Зьміцер скончыў асьпірантуру і з'ехаў у Менск, а мне яшчэ 2 гады быць у Маскве. Ад Зьміцера, з Менску, я атрымаў паведамленьне, што Пазьняк пачаў грамадзянскую акцыю абароны «Вярхняга Гораду» (Менск) і прасіў мяне, каб я напісаў ліст да вышэйшых кіраўнікоў СССР, але каб пад лістом была некалькі подпісаў беларусаў. Я напісаў такі Ліст на імя Грамыка,

тады ён быў міністрам замежных спраў. Некалькі беларусаў, які жылі ў Інтэрнаце, падпісалі. Адзін адмовіўся. Потым ён пайшоў на працу ў «КГБ».
Такія Лісты я пісаў і ў Менску, куды вярнуўся на пры канцы 1979г. Зьбіраў я подпісы сярод навуковых супрацоўнікаў АН БССР. Некаторыя падпісвалі, некаторыя адмаўляліся. Лісты былі накіраваны ў ЦК КПБ і газэту «Звязда», з маім асабістым каментаром. Акцыя абароны «Вярхняга Гораду» доўжылася некалькі год. Тады мы перамаглі русский шовинизм у Менску. Гэта зараз моладзь прайграла абарону «Вярхняга Гораду» ды яшчэ маладая лідэрка з «маладога фронту» апраўдваецца, што гэта «неактуальна». Што гэта за «фронт» ? Толькі сьцягамі махаць? Так і гэта патрэбна, але ці толькі....
Зьміцер Санько, сапраўдны беларус, добры чалавек , быў і добрым сябрам. Ён і , ягоная жонка, Натальля, якую я лічу ідэялам жанчыны, ідэяльнай жонкай, дазволілі некалькі месяцаў жыць у іхняй 2-х пакаёвай кватэры.А ў іх ужо была двое дзетак...

Так , Зьміцер Санько, прывёў мяне ў «беларускі гурт». Потым былі размовы з Зянонам, там жа , на кватэры Санько. Сустрэчы з мастакамі і агульныя сьвяткаваньні нацыянальных гістарычных падзей, слуханьне сьпеваў Забэйды-Суміцкага і шмат іншага. Менавіта тады (1979- 1980) ,я пазнаёміўся з нацыянальнымі талентамі Беларусі, вялікімі Мастакамі: Алесям (Аляксеям) Марачкіным, Міколам Купава і , потым, аўтарам «каня», Яўгенам Куліком і іншымі адметнымі беларускімі мастакамі і творцамі. Даруйце, не буду называць усе імёны, бо магу памыліцца ў напісаньні

прозьвішча. Фактычна , я браў удзел у нелегальным беларускім нацыянальным Руху. Падкрэсьлю – культурніцкім. Аб антысавецкай дзейнасьці гаворкі , непасрэдна, не было. Але «25 Сакавіка» ,БНР, мы сьвяткавалі. Яўген Кулік намаляваў і надрукаваў славутую паштоўку «Ніхай Жыве Беларуская Народная Рэспубліка». Два асобніка ён падараваў мне, да гэтага часу Паштоўка ў мяне заўсёды перад вачыма.
Ездзіў я і на «нашае Купальле», каля Вязынкі. Неяк , там, я пазнаёміўся з самастойным незалежным гісторыкам Міколам Ермаловічам, потым ,канешне, чытаў, ягоныя дасьледваньні. На «Купальле» і на іншых нашых сьвятах мы размаўлялі аб гісторыі Беларусі і магчымай будучыні Беларусі, але думка,што Беларусь хутка будзе «незалежнай» нават у галаву не прыходзіла. Так, па крысе, я вырастаў у Беларуса.
У 1980 -1983гг. пачаў я таксама зьбіраць беларускую бібліятэку, падпісаўся на шмат розных беларускіх выданьняў, у тым ліку, і на факсіміле «Наша Ніва». Пазьней я аддаў 5 рублёў на аднаўленьне «Менскай ратушы».
Вельмі шмат я чытаў , асабліва творы Уладзіміра Караткевіча. Да гэтага часу мая «настольная кніга»- «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

Мікола Купава пачаў грамадзянскую Акцыю: беларускі дзіцячы садок і беларуская школа ў Менску. Я таксама падпісаў адпаведны Ліст. Сьвядомыя беларусы пісалі Лісты да уладаў, тлумачылі іншым беларусам неабходнасьць Мовы. З гэтай Акцыяй была цяжэй, тут мы не перамаглі русский шовинизм у Менску, бо , перадусім, беларусы не былі актыўнымі, нават,

інтэлігэнцыя.
Думалі мы і аб спосабах распаўсюджваньня праўдзівай гістарычнай літаратуры. Ксеракопіі тады (у Менску) яшчэ не была. Мне нават прапанавалі вынайсьці нейкі новы метад памнажэньня інфармацыі.. Пакуль я думаў --- на Захадзе пачалі вырабляць «ксераксы».

Потым была (не вельмі актыўная) мая дзейнасьць у клюбе «Спадчына», які ўтварыў Анатоль Белы . Не вельмі актыўная, таму што я меў вельмі хворая дзіця (нарадзілася хворым) і навуковая праца ў Акадэміі Навук, Інстытуце, вымагала таксама шмат часу і думак. Менавіта тады ,у клюбе «Спадчына» , пачалося стварэньне Беларускага прыватнага Музея, які «атабарыўся» потым каля Старых Дарог, дзякуючы высілкам Анатоля Белага. Нашая грамадзкая арганізацыя была першай беларускай незалежнай няўрадавай арганізацыяй. Нам была вельмі няпроста падтрымліваць культурніцкую дзейнасьць Клюба, абсалютна без палітыкі. Але афіцыйная дзейнасьць была вельмі важная: нам дазвалялі адкрыта арганізоўваць гістарычныя лекцыі і абмеркаваньні, выставы. Усё гэта пашырала кола «беларусаў». Я лічу, што Анатоль Белы рабіў вельмі важную справу і помнік у новай Беларусі яму павінен быць. Дарэчы аб дзейнасьці клюба «Спадчына» надрукавана некалькі кніжак, некалькі радкоў там ёсьць і пра мяне. (Не па словам, а па Справам).

А на «вуліцы» , у тыя часы, ужо пачынаецца вецер пераменаў-- «времена перестойки». З другога боку, мы і зноў вымушаны былі змагацца за беларускасьць,

пісаць Лісты, размаўляць з функцыянерамі ЦК КПБ-КПСС. Мясцовая «камуністычная» улада хацела забраць памяшканьне ( скляпеньне на вул.Сурганава) у Клюба, адпаведна, мы «грукалі» ва ўсе дзверы.
У выніку прадстаўнікоў Клюба запрасілі на сустрэчу ў ЦК КПБ. Памяшканьне нам пакінулі, але пазней , Анатоль Белы знайшоў лепшы пакойчык.
З тых часоў вельмі тужліва памятаецца адно святкаваньне «Купальля», халодная ноч і мой напой «для сугрэву», якім я пачаставаў таксама і Міколу Ермаловіча . Памятаю песні Забэйды-Суміцкага, плыту якого я слухаў дзякуючы гуртку беларускіх мастакоў. Раней , я канешне, нават і ня ведаў аб такім выключным беларускім спеваку. Казалі, што ягонае майстэрства спеваў лепшае чым Шаляпіна... Так, паволі, надыйшоў Час Пераменаў, 1988г.

“ПЕРЕСТРОЙКА.”

Для мяне «перестойка» пачалася з таго, што мне пашэнціла падпісацца на «АиФ» і шмат чытаць іншыя газеты, то быў ,бадай , 1987 год.
Трэба адзначыць, што ,яшчэ , да БНФ, мяне ( па месцу жыхарства, «Уручча», Менск) далучылі да стварэньня першага на Беларусі КГС, Камітэта грамадзкага самакіраваньня. Ініцыятарам былі камуністы, але мы ,самаробныя дэмакраты, перамаглі камуністаў – большасьць у КГС была за намі. Мая дзейнасьць
у КГС была значнай, але то «сацыяльная дзейнасьць». Пазней, у наступнай маей аповесці пра «тыя часы» , я распавяду адносна КГС «Уручча-1,2,3».
1988г., кастрычнік, заля Дома Кіно ( «Чырвоны

Касцёл») . Я быў на тым пасяджэньні , калі быў абвешчаны «БНФ», але актыўна далучыцца ня мог , бо я меў сямейныя праблемы, вельмі хворае дзіцё. Памятаю гарачыя дыскусыі і нярвовую атмасфэру.

Кароткая падсумаваньне.
У часы БССР сярод беларусаў не назіралася дысыдэнтаў, менавіта, «антисоветчиков». ( Кукабака-? ) Фальклёрныя гульні маладзёнаў,тыпу «Майстроўні» не далі аніякага выніку. Збіццё дзікімі «афганцамі» беларускіх дзяцей , якія гукалі «Вясну», таксама не пашырала кола беларускага супраціву. З другога боку, нацыяльная-культурная дзейнасьць свядомых мастакоў была грунтам для стварэньня БНФ «Адраджэньне», бо ў гэтым гурце былі цалкам свядомыя, дарослыя, Беларусы, якія ведаюць чаго хочуць, менавіта яны ,на пачатку , былі «грунтам» БНФ.
І агульнае. «Перастройка» вызваліла ў людзей іх «Хочам!». Вось таму і першай праявай «Хочам» на Беларусі быў бунт аматараў тытуню. Яны сапраўды хацелі...

## 1989
## Пачатак Дэмакратычных зменаў у Беларусі.

1989 год паказаў , што рэальныя змены ў грамадзтве пачаліся. Кааператывы камсамольцаў «делали деньги» для сябе і сваіх бацькоў, партфункцыянераў. Прага да багацця парушыла ўсю камуністычную ідэялёгію. Газеты публіковалі сэнцыйныя факты, але то была проста праўда аб рэчаісьнасьці. З'явіліся матэрыялы аб «Чарнобыльскай катастрофе». Тут трэба дадаць, што

«ядро» БНФ складалася з навукоўцаў Акадэміі Навук і сьвядомых мастакоў ( тых , з гурта) , якія ездзілі па Беларусі ( шукалі «тэмы» для сваіх карцін») і бачылі «сітуацыю». Навукоўцы, напрыклад ,фізік Юрый Хадыка добра ведаў ШТО адбылося і якая гэта пагроза для беларусаў. У выніку. «Чарнобыльская праблема» была прыярытэтнай справай для БНФ. Сябры БНФ пачалі распаўсюджаць інфармацыю аб выніках «Чарнобыльскай катастрофы», што яшчэ была даволі цяжка, заставалася толькі «вуліца».
БНФ выводзіць на вуліцы Менску некалькі дзесяткаў тысяч людзей на “Чарнобыльскі шлях”(красавік і верасень ). Улада , ЦК КПБ вымушана прызнаць наяўнасьць чарнобыльскай праблемы; пачынаецца распрацоўка праграмы дапамогі ахвярам бязглуздай палітыкі камуністаў .

Я, як навуковец, разумеў вялікую небяспеку «бруднага атаму» , але лічбаў , узроўню радыяцыі і колькасьці выкінутага «бруднага атаму», я не ведаў. Але першая падзея ( акрамя мітынгу каля «Маскоўскіх могілак») , якая рэальна паказала народу Беларусі, што пачынаюцца змены, быў мітынг на плошчы Леніна ў Менску. У гадавіну «ВОР» ,лістапад 1989 году , адбыўся шматлюдны мітынг перад Домам ураду, на плошчы Леніна ( мне падалося каля 50000 ) з патрабаваньнем прыняцьця дэмакратычнага закону аб выбарах.

Потым, дэпутаты-камуністы ВС БССР вымушаны былі ўнесьці істотныя зьмены ў закон аб выбарах.
Далі выступіць і Зянону Пазьняку, які таксама заклікаў

грамадзян «не штурмаваць будынак Дома Ўрада», а быць спакойнымі . Я сам чуў такія крыкі, што неабходна «взять штурмом Дом коммуністов». Пад час мітынгу «КГБ» зладзіла іншую правакацыю: паслалі майора міліцыі Гусакова затаптаць кветкі ў помніка Леніна, што ён і зрабіў. Але тады правакацыя не спрацавала. Я быў звычайным удзельнікам, але стаяў недалёка каля помніка. Прозвішча правакатара, пазней ( у 1990 годзе) мне паведаміў мой знаёмы, капітан міліцыі.

**КГС, Камітэт грамадзкага самакіраваньня, «Уручча-1,2,3»Менск. 1989г.**

**КГС** быў афіцыйна зарэгістраваны ў 1989г, але размовы пачаліся ў 1988, і стаў сапраўды школай Дэмакратыі. Так, нам дапамог закон СССР, які даваў вельмі шырокія магчымасьці жыхарам, якія маглі рэальна вырашаць праблемы нашага мікраараёна, дзе жылі больш за 20 000 людзей. Сябры Камітэта грамадзкага самакіраваньня (большаць з вышэйшай адукацыяй**)** ухвалілі асноўны прынцып дзейнасьці КГС: прапануеш нешта зрабіць, добра. Але і ты, сам, павінен дейнічаць згодна са сваей прапановай.

Гісторыя КГС патрабуе асобнай кнігі. Пакуль магу толькі звярнуць увагу,што менавіта актывісты КГС былі выбраны дэпутатамі Менскага гарадзкога і Першамайскага раённага Савета дэпутатаў у 1990 і наступных выбарах. Менавіта мая актыўная дзейнасьць

у КГС падняла і аўтарытэт БНФ.
Я, ад пачатку, быў вельмі актыўным дзеячом КГС, адначасова, я быў кіраўніком ( ад 1990)
уручанскай суполкі БНФ. Нашая суполка была самая моцная (вялікая) і эфэктыўная пасярод усіх суполак БНФ. Безумоўна сябры суполкі , то сапраўдные Беларусы , але «рухавіком» была мая дзейнасьць. Нейкі час я быў, таксама, намеснікам старшыні К**а**мітэта грамадзкага самакіраваньня, «Уруčча-1,2,3». Такая мая дзейнасьць на двух (трох, дэпутацтва) «пасадах» дазваляла мне вырашаць праблемы жыхароў мікрараёна і ,реальна, мацаваць аўтарытэт БНФ.

## **БНФ і выбары 1989г. дэпутатаў СССР**.

Я, як сябра БНФ, далучыўся да выбарчай кампаніі. Лідэр БНФ прапанаваў ( у нашай акрузе) падтрымаць «эканаміста» Жураўлёва. Я браў удзел у інфармацыйных пікетах, але не актыўна, бо Жураўлёў мне не падабаўся. Падрыхтоўка да абароны навуковай ступені ( дысэртацыя) таксама вымагала часу .А потым мяне папрасілі ў склад выбарчай камісіі. Галасы мы лічылі правільна, без фальсіфікацый і, «Пратакол» быў адпаведны, сапраўдны.

Маё стаўленьне да кандыдата, потым дэпутата, пацьвердзіла жыццё.
Жураўлеў забыўся і на БНФ і, на Беларусь.
Але я быў сябрам участковай выбарчай камісіі. Я пільнаваў справядлівасьць выбараў. У нас усё была чэсна.




**Мітынг  беларусаў на пл.Леніна, Менск 1989 год**






**Беларускі народ патрабуе парлямент без камуністаў, 1991 год.**




Сьвядомы беларус,1991 год



Грамадскае аб'яднанне
БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ"
8, вул. Варвашэні, 220005 Мінск, Беларусь
тэл. (375 17) 284 50 12, 213 30 08

БНФ зарэгістраваны...



**З В А Р О Т**

**да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

Мы, дэпутаты Першамайскага раеннага Савета заклікаем вас прыняць Закон аб візавым рэжыме уезду ў Рэспубліку людзей з краін, дзе існуюць узброеныя канфлікты і адсутнічае кантроль над распаўсюджваннем зброі і наркотыкаў.

Мы павінны абараніць свой народ ад злачынстваў і распаўсюджвання наркотыкаў.

акр. 51 /В.І. Грыцук/

59 акр. /Патаповіч Г.М./

7 акр. /Прадзівіч Л.А./

і іншыя дэпутаты....

Для мяне ўвесь 1989 год (акрамя падрыхтоўкі і абароны дысэртацыі) быў годам КГС, які мы стварылі з грамадзян і для грамадзян і пачалі актыўную дзейнасьць для людзей, распрацоўвалі планы дзейнасьці, там і «мясцовае радыё».
У гэтым годзе адбыўся ўстаноўчы з'езд БНФ у Вільні. Я не браў удзел у гэтым з'ездзе па сямейным прычынам. Грамадзкая арганізацыя БНФ «Адраджаньне» была зарэгістравана ўладамі толькі 19 чэрвеня 1991 года.

## 1990

ЗАХОП **ТБ** ДЛЯ БНФ

**Выбары ў ВС і ў мясцовыя Саветы дэпутатаў Дэпутацкая дзейнасьць**

Так, гэта быў той год, калі ў мяне доўга балелі рэбры, не ад хваробы, ад «палітыкі». 25 лютага 1990 БНФ запрасіў грамадзян на размову з Уладай. У выніку – стотысячны мітынг БНФ на плошчы Леніна. Зразумела, што тады Ўлада – то ЦК КПБ-КПСС, на Беларусі, то 1-шы Сакратар ЦК КПБ- КПСС, Ефрем Соколов. БНФ патрабаваў усей праўды аб «Чарнобыльскай Катастрофе». Але 1-шы Сакратар ЦК КПБ- КПСС , як заўсёды, пачаў «ліць ваду». Народ не захацеў яго слухаць. Потым далі выступіць Пазьняку.Народ, праз адпаведную рэзалюцыю, запатрабаваў «сыйсьці» камуністычнай уладзе і запатрабаваў жывога этэру прадстаўнікам Народа Беларусі.

Былі і іншыя выступоўцы, прагучала прапанова ісьці зараз да тэлецэнтру і дамагацца прамога тэлеэтэру для прадстаўнікоў дэманстрацыі. Прыйшлі на вуліцу Камуністычную, што недалёка ад помніка Перамогі. Нас, так бы мовіць, спрабавалі «ахоўваць» салдаты ўнутраных войск з алюмініевымі шчытамі. Але людзей была так многа, што ўсе гэтыя салдацікі трапілі ў «людзьскі вір» і былі раскіданы, групоўкамі. Я не ведаю, як то атрымалася, але , непасрэдна, каля будынку тэлецэнтру, я апынуўся , я адзін, зацiснутым колам салдатаў унутраных войск. То бок, я ў сярэдзіны «кветкі», зробленай з алюмініевых шчытоў салдацікаў. Мяне так зацiснулі, што я ледзь дыхаў. Але я такі пачуў , што этэр нашым лідэрам далі. А у мяне доўга балелі рэбры.

Зразумела, што дазвол на выступ па БТ, даў тагачасны кіраўнік, на сваю рызыку. Генадзь Бураўкін тады з’яўляўся кіраўніком Дзяржтэлерадыё БССР (1978—**1990**), аднак за падтрымку дэмакратычных сілаў і прадстаўленьне этэру лідэрам БНФ быў вызвалены ад пасады і накіраваны на дыпламатычную працу, у ААН.

Дык вось, мой кароткі аналіз сітуацыі з «чарнобыльскім электаратам»

Вось Генадзь Грушавы ўспамінае пра першае падарожжа ў «Чарнобыльскую зону» 22 ліпеня 1986 года і адразу стварэньне «Фонду « для дапамогі людзям пры «Чарнобыльскім камітэце **БНФ**.» Ён таксама распавядае, што праз структуры і ,потым, незалежнага Фонду, ён распаўсюджваў «**Ідэялёгію БНФ**» (вывяд 2013 года). Ён справядліва ганарыцца , што вялікая колькасьць дзяцей паправіла сваё здароўе ў **дэмакратычных** краінах Захаду.У 2010 годзе спадар

Грушавы гаварыў *«на оздоровлении за границей побывали миллионы детей»,* але ў 2013 годзе, ужо , больш сціпла, «больш за 300 000». Ён справядліва заслугоўвае «Героя Беларусі». Для мяне важна не лічба, а тоя , што ГЭТА рабіў сябра БНФ. Але , нібы парадокс, у «чарнобыльскіх раёнах» жыхары галасуюць потым за наменклатурных камуністаў КПБ-КПСС.
Вось яшчэ адно пытаньне да кіраўніцтва БНФ, перадусім, да Зянона Пазьняка. Чаму не была выкарыстана гэта «заслуга БНФ» ? Так, зразумела, агульная ментальнасьць беларусаў: павага да «Начальніка», які вышэй за Бога.
Але дзе была праца актывістаў, кіраўніцтва БНФ ? Яе не была.

<u>Ахова Дэмакратыі.</u>
У тыя часы (90-ыя) я часта быў ахоўнікам дэманстрацый ( «дружына БНФ»), бо мы чакалі правакацый ад "КГБ". Я валодаў (і валодаю) кунг-фу, а таму лічыў сваім абавязкам ахоўваць Дэмакратыю. Але тут узнікае адразу асацыяцыя: 2010 год, 19 снежня. Я не магу зразумець ідэятычнасьці сітуацыі, таго , што Дэмакратыя засталася бяз аховы. Калі такія «лідэры» не змаглі забяспечыць элементарны парадак, то як яны могуць кіраваць дзяржавай?
Перадусім, у мяне былі бы пытаньня да вайскоўца, былога « генерала БЗВ», Міколы Статкевіча.... Але я яго добра ведаю, і ведаю чаму і ён не арганізаваў «ахову»... Шкада..

# Выбары

( 4 сакавіка ) Яшчэ не была зарэгістравана арганізацыя БНФ «Адраджэньне», але і рэальна разгалінаванай структуры яшчэ не было. Людзей , на кандыдатаў ад БНФ у Вярхоўны Савет БССР, наш Лідэр назбіраў. Вылучалі «кандыдатаў» зарэгістраваныя грамадзкія арганізацыі, дзе ў кіруючых ворганах былі сябры БНФ. А вось з, «жадаючымі», кандыдатамі, ў мясцовыя Саветы дэпутатаў была праблема.Так, быў зроблены спіс «кандыдатаў», якіх падтрымлівае Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне». Але кандыдатамі былі «вообще демократы», у большасьці. Нават ( час паказаў) у Менскі гарадзкі Савет Дэпутатаў, «ад БНФ» трапілі выпадковыя людзі. Як, гэта не дзіўна, нават пасля вялікай арганізацыйнай працы ( з'езд 1989 года ) дэмакраты, БНФ , не былі падрыхтаваны да выбараў. Тоя, што даволі шмат прадстаўнікоў ( «спіс БНФ») былі выбраны дэпутатамі, як гэта часта бывае ня толькі ў нашай краіне, была не поспехам працы актывістаў БНФ, а толькі жаданьнем людзей рэальных пераменаў, аб якіх увесь час гаварыў Міхаіл Гарбачоў. А большасьць людзей свядома, ці падсвядома разумеюць , што старыя кадры «не перестроятся». Дарэчы тоя ж самая адбылося і ў 1994. Не такім «хорошим» быў Александр Лукашенко-- для большасьці, быў дрэнным Кебіч, які быў «тварам» КПСС -КПБ сістэмы. Бо нават вельмі разумныя людзі ( добрыя людзі, маі знаёмыя) вучоныя, галасавалі супраць Кебіча за Лукашенко ў 1994 годзе. Так адбывалася і тады ў 1990 годзе , вельмі дапамагла БНФ грамадзкая арганізацыя «Таварыста беларускай мовы», якая таксама вылучала кандыдатаў,

але на большае «беларусы» не былі здольныя.
Нам, сябрам БНФ, ва «Уруччы» была прасьцей, мы мелі КГС. Таму была вырашана, што ўсе актывісты КГС «ідуць у дэпутаты», адпаведна і сябры КГС ( каля 50 чалавек) таксама дапамагалі ў агітацыі.
Я ад Навукі адрывацца не хацеў, але падумаў, што дэпутатам Першамайскага раённага Савету Менску магу быць, вельмі то мне замінаць ня будзе, раён – то не ўся краіна....

У 1990 я быў абраны дэпутатам Першамайскага раённага Савета народных дэпутатаў горада Мінска у вельмі цяжкіх , сапраўды, канкурэнтных выбарах. Калі у іншых выбарчых акругах (нашага мікрараёну) быў толькі адзін «кандыдат», то мне камуністы выставілі ажно 5-ць, сацыяльнарозных грамадзян, ад рабочага да дырэктара.
Актыўная дзейнасьць БНФ-ца (мяне) ў «КГС» ,у гэтай, сапраўды дэмакратычнай структуры, дапамагла мне здабыць прыхільнасьць большасьці жыхароў мікрараёна і да БНФ. Але, я таксама добра папрацаваў і пад час выбарчай кампаніі. Я хадзіў па пад'ездах, праводзіў сходы на лесвічных пляцоўках--- людзі ўважліва слухалі. Пытаньнеў задавалі мала, больш слухалі. Дапамагаў мне Валеры Паўсьцюк.( сябра БНФ). Трэба адзначыць, што маі выборцы – гэта былыя афіцэры Савецкай Арміі, інтэлігэнцыя і «маласемейка», дом з аднапакаёвымі кватэрамі. У «маласемейке», у большасьці, жыў «рабочий класс». Канешне мне дапамагалі і сябры «КГС, асабліва ў «маласемейке», дзе жылі былыя «афганцы». Падкрэслю, я ўсюды

размаўляў толькі на беларускай мове. Я быў выбраны адразу, з вялікім адрывам ад членаў КПСС, дырэктара, рабочага і іншых.
Камуністы зразумелі маю «вагу» і мой імпэт, а таму напярэдадні выбараў Старшыні Першамайскага раённага Савета народных дэпутатаў размову са мной папрасіў 2-гі сакратар КПБ-КПСС Першамайскага раёна, Уладзімір Белахвостаў. Ён хацеў ведаць каго ( ці яго) я падтрымаю. У яго быў моцны канкурэнт , Іван Мацкевіч,1-шы сакратар КПБ-КПСС Першамайскага раёна. У Савет была выбрана 68 дэпутатаў. Зразумела, што большасьць дэпутатаў-- то артадаксальныя камуністы, якія вымушаны былі такі выбраць паміж «сакратарамі», а таму ад галасоў дэмакратаў залежала, ХТО, будзе Старшынёй Першамайскага раённага Савета дэпутатаў.
Свае абяцаньні грамадзянам я стрымліваў, быў самым актыўным дэпутатам у Першамайскім раёне.
Як дэпутат, я актыўна працаваў . Асабліва я спрабаваў зрабіць уплыў «БНФ» на супрацоўнікаў міліцыі.У мяне гэта атрымалася. Пасля 1993г. сярод міліцыянтаў рабілася (некалькі разоў) апытаньне адносна і майго аўтарытэту. Па словах начальнікаў «РОВД-- РУВД» , я меў падтрымку больш за 70% супрацоўнікаў міліцыі. Жыццё паказала, што так і ёсьць: да 2000 года я не меў вялікіх праблемаў з міліцыяй, як і не мелі праблемаў сябры БНФ у нашым раёне. Адпаведна , у гэтым раёне, я знайшоў (улады зацьвердзілі) афіцыйнае (2-гоя) памяшканьне для БНФ, на галоўным праспекце Менску.
Дзейнічаў я ня толькі як дэпутат, і актывіст КГС «Уручча-1,2,3» але, таксама, як кіраўнік суполкі ( а

потым і раённай арганізацыі БНФ). Я ладзіў навагоднія святы для дзяцей у мікрараёне, часта сустракаўся з жыхарамі і рэальна вырашаў іхнія праблемы.. У выніку, большасьць жыхароў мікрараёну ведала мяне , «Грыцука-БНФ-ца».

Вось так, БНФ, праз маю дзейнасьць дэпутата (і актывіста КГС) набываў аўтарытэт у мікрараёне і нават у раёне Менска, Першамайскага раёна.

У 1990 годзе я таксама актыўна ўдзельнічаў у агітацыйнай кампаніі выбараў дэпутата , ад БНФ, у Вярхоўны Савет. Мы падтрымалі акадэміка Яўгена Канаплю.

Мы, дэмакраты «Уручча» і сябры БНФ, цалкам перамаглі. Дэпутатам у ВС быў абраны Яўген Фёдаравіч Канапля, акадэмік, вучоны , які працаваў па даследваньню вынікаў «Чарнобыльскай катастрофы», які быў у спісе «з падтрымкай БНФ».Час паказаў, што Яўген Канапля паслядоўна змагаўся за «чарнобыльскія праблемы».Трэба адзначыць, што «кандыдатам у дэпутаты ВС» быў таксама сябра КГС «Уручча-1,2,3», журналіст «Народнай газеты», які быў вылучаны сходам жыхароў ( Уладзімір Самойлаў, бацька «таго з РНЕ» ). Вырашальным чыннікам была нашая , «БНФ-я» агітацыя і ,канешне, тоя, што мы змаглі растлумачыць грамадзянам праблему «Чарнобыльскай катастрофы», у якой быў вельмі добра абазнаны акадэмік Яўген Канапля, менавіта , у праблемах здароўя. Ён абяцаў дапамагчы стварыць Пункт радыялягічнага кантролю харчаваньня ў мікрараёне. Сваё абяцаньне акадэмік стрымаў: ён даў нам прыборы, а непасрэдна ,сам «Пункт радыялягічнага кантролю харчаваньня» стварыў я . Пункт 2-а гады

месціўся ў будынку Першамайскага універсаму. Я таксама там працаваў (задарма) у вольны час, правяраў прадукты. Дарэчы, ягады і грыбы, якія нам прыносілі на праверку, у 90% выпадкаў былі радыяктыўныя.
Бадай, тут, я крыху распавяду аб сваёй дэпутацкай дзейнасьці.

ДЭПУТАТ.

Першамайскі раённы Савет Народных Дэпутатаў г.Менска, вось такая назва была выбарнага воргана, куды мяне выбралі жыхары мікрараёна «Уручча», што на ўсходзе Менска, за «Маскоўскімі могілкамі», каля «Военного городка», дзе месцілася танкавая дывізія. У Першамайскім р-не , рэальна, была больш за 200 000 чалавек. Большасьць інстытутаў АН БССР і адзінак «ВПК» (заводы і ўстановы вайскова-прамысловага комплексу) была таксама ў нашым раёне.
“*Не для славы – а для Справы”*-- **Валеры Грыцук**

Звычайна людзі баяцца праўды, калі яна невыгодная непрыемная, а часам праўда забівае, палітычна і, нават, фізічна . Дзякуючы выхаваньню праз сваю маму, я вымушаны ўсё жыццё змагацца за Праўду і Справядлівасьць. Больш таго, я лічу, што Праўда і Справядлівасьць ідуць побач. Вось таму праўда аб Верхнім Горадзе, у Менску, напрыканцы 80-х, штурхнула мяне змагацца за Справядлівасьць, за гістарычную спадчыну для беларусаў. Мы тады перамаглі. Далей была змаганьне за Праўду гістарычнай спадчыны ў клюбе “Спадчына” і сустрэчах свядомых беларускіх мастакоў, што

скончылася ўтварэньнем БНФ “Адраджэньне”. І вось у 1990г. “вецяр пераменаў” пахіснуў маю навуковую дзейнасьць і паставіў мяне перад выбарам: альбо рабіць Навуку і стаць акадэмікам, альбо актыўна будаваць дзяржаву Беларусь, незалежную і дэмакратычную, а потым і багатую, дзе шануюць Правы Чалавека.

Менавіта таму, я вырашыў быць і «крыху дэпутатам». Але «крыху не атрымалася. Я актыўна ўдзельнічаў у працы «Камісіі па захаваньню законнасьці, ахове правоў грамадзян, галоснасьці, вывучэньню грамадзкай думкі», рабіў істотныя прапановы на сесіях Савета . Напачатку камуністы-дэпутаты спрабавалі з мяне смяяцца, выскоквалі дырэктаркі школаў (члены КПСС) і крычалі, што я дрэнна гавару на беларускай мове.Але свае заўвагі рабілі на русском языке. З часам з маёй мовай звыкліся, тым боле, што мае прапановы былі вельмі моцна аргументаваны. . Сярод дэпутатаў Савета , «афіцыйным сябрам БНФ» быў толькі я адзін. Але даволі хутка я змог стварыць пастаянную (кааліцыю) групу дэпутатаў (23 дэпутата), якая падтрымлівала мае прапановы. Як дэпутат, 2 гады, камуністам-дэпутатам, я даказваў, што менавіта мая дзейнасьць у камісіі па “кантролю за міліцыяй” найбольш эфэктыўная . Старшынёй Камісіі (1990-1992) быў былы КГБ-ст, які блакаваў усе мае прапановы, які заблякаваў таксама афіцыйную рэгістрацыю раённай арганізацыі БНФ. Але пасля таго, як гэты «КГБ-ст» чарговы раз дыскрэдытаваў сябе, дэпутаты- камуністы вымушаны былі такі абраць мяне старшынёй дэпутацкай «Камісіі па захаваньню законнасьці, ахове правоў грамадзян, галоснасьці, вывучэньню грамадзкай думкі», мяне,

ідэялагічнага ворага.

10 гадоў майго змаганьня за Праўду , Справядлівасьць, Закон і Парадак у Першамайскім раёне Менска былі цяжкімі, але пасьпяховымі, так што ўсё кіраўніцтва раёну мяне паважала і лічылася з маёй думкай., а міліцыя была талерантная да БНФ на працягу 10 гадоў.

У раёне з'явілася некалькі газэтаў, таксама і газэта «Наша Уручча». Пазней, я быў нават журналістам гэтай (і «па-за штатам»,газеты «Вечерний Минск») газэты. Я дапамог стварэньню кабельнага тэлебачаньня «ТВ – ИТС», дзе амаль 5 год быў стваральнікам і вядучым палітычнай праграмы, задарма ,канешне. Але першай маёй справай змаганьня за Праўду , Спавядлівасьць, Закон і Парадак у Першамайскім раёне была прапанова стварыць «стэнд Галоснасьці»-- іфармацыйны стэнд на вуліцы, дзе былі копіі дакументаў Першамайскага раённага Савета Народных Дэпутатаў г.Менска і выканкама. Амаль 10 год копіі дакументаў мясцовай улады былі на стэндзе і людзі ведалі, ШТО робіць мясцовая ўлада.

Зразумела ,я дапамагаў і канкрэтным людзям. Некалькі прыкладаў. Я дапамог маці хвораму на «цукроваю хваробу» дзіцяці знайсьці патрэбную дапамогу. (Можа я выратаваў яму жыццё ). Іншаму грамадзяніну я дапамог «разабрацца» з міліцыяй. Але ,найбольш цікавая наступная гісторыя. У доме, на вул.Нікіфарава была памяшканьне для сантэхнікаў ЖЭС, але вечарам і ў начы , там рэальна была «маліна», гвалт і «оргии» у начы . Жанчына з малымі дзецьмі, праз сцяну вымушана слухаць вэрхал п'яных кампаній на працягу 7 гадоў. Куды толькі яна не пісала скаргі. ... «Маліна»

заставалася. І вось , калі я абыходзіў кватэры, паразмаўляў і з гэтай жанчынай: яна распавяла мне пра сваю «бяду». Я, як дэпутат, напісаў адпаведныя лісты. Праз 7 (сем) дзён «маліну» закрылі, памяшканьне для сантэхнікаў перанеслі ў іншы дом. «Бордель» скончыў свае «канцэрты». **7 (сем) дзён і 7 гадоў!**

Вось гэта гісторыя ёсьць прыкладам чым адрозніваецца эфэктыўны дэпутат ад простага жыхара. Зразумела, такая мая дзейнасьць на карысьць жыхароў была больш-меньш вядома людзям, адпаведна, я меў аўтарытэт .На жаль толькі у тых, хто хацеў ведаць ня толькі цэны ў крамах.

Менавіта, таму мне не перашкодзілі арганізаваць пераможныя выбары (1994) для кандыдата ад БНФ у Першамайскім раёне і здабыць другое памяшканьне ( офіс)для БНФ "Адраджэньне" на праспекце Леніна (зараз- Незалежнасьці). Больш таго, падкрэсліваю, да канца 2000г. не была рэпрэсій дэмакратаў, з боку міліцыі раёна.
Як дэпутат я клапаціўся аб жыхарах мікрараёна «Уручча» і ўсяго раёна. Я дамогся парадку ў «ЖЭС», дрэннага начальніка звольнілі.
Па прапанове жыхароў ,але праз маю дзейнасьць, была адкрыта прамтаварная крама, захавана крама па продажу гародніны (для пенсіянераў). Доўгі час працаваў «Пункт дозиметрического контроля продуктов» у мікрараёне «Уручча», дзе і я, непасрэдна, правяраў прадукты «на радыяцыю». Гэтую маю прапанову падтрымаў акадэмік Яўген Канапля, забяспечыў абсталяваньнем. Была і шмат іншых спраў, кансультацый грамадзянам па іхнім прыватным

справам, часта , на вуліцы, бо мяне ведалі, таму і пыталіся.
Прашу звярнуць увагу , я першы у Менску прапанаваў «вынесьці інфармацыю - «Гласность» , на вуліцу. І ад чэрвеня 1990 г., 10 год, грамадзяне, на вуліцы , маглі пазнаёміцца , па дакументах, з дзейнасьцю мясцовай улады.
Ведалі мяне і рабочыя Першамайскага раёну. Я гэта падкрэсліваю, таму што на тыя часы, калі Менскі гарсавет ня меў сваей газэты, радыё, ТБ - гэта была выключна важная справа.
Па запрашэньню прафсаюзных актывістаў Менскага гадзіннікавага завада, я выступіў на «сходзе акцыянераў», дзе растлумачыў працаўнікам, што павінна рабіць кіраўніцтва Заводу і ,якая ёсьць роля акцыянераў. Я таксама абверг некаторыя падманныя «закіды» дырэктара Заводу.
Ну і, канешне, я пастаянна, бываў на сустрэчах з работнікамі міліцыі, тлумачыў ім сутнасьць Закону і розніцу Арміі і міліцыі, адпаведна, тоя, што супрацоўнік міліцыі не павінен выконваць незаконны загад Начальніка, а карыстацца толькі Законам. Я , лічу, што і дзякуючы мне, міліцыя Першамайскага р-на ў 1990-1995 гадох працавала дастаткова эфэктыўна.
Калі я атрымаў ад грамадзян інфармацыю аб карупцыі ( узяў незаконна сабе яшчэ адну кватэру) намесьніка Старшыні ( Аляксандр Новік) выканкама , то я агучыў гэта на сесіі Савета дэпутатаў. Намесьнік мне пагражаў судом. На жаль, грамадзяне не перадалі мне больш дакладнай інфармацыі, а таму я не змог звярнуцца ў пракуратуру па гэтай справе.
У 1995 г. Прэзыдэнт РБ падпісаў антыканстытуцыйны

Указ аб скасаваньні раённых Саветаў Дэпутатаў у гарадах. Я , зразумела, як дэпутат і сябра-заснавальнік Фонда ім.Льва Сапегі, быў катэгарычна супраць. Напярэдадні , я напісаў адпаведныя артыкулы ў газеты «Звязда», «Советская Белоруссия», «Народная газета». Артыкулы былі надрукаваны.
Я прысутнічаў на пасяджэньні Канстытуцыйнага Суду, дзе разглядаўся гэты Указ Прэзыдэнта Александра Лукашенко. На жаль, дэпутаты ВС, фактычна, падтрымалі Лукашенко. На тым судзе прысутнічаў толькі дэпутат-камуніст Валерый Шчукін. Але , нават, тыя дэпутаты ВС, якія лічылі сябе «дэмакратамі» не зразумелі важкасьць справы, не была «голасу» і дэпутатаў ад БНФ. Сёньня, некаторыя з іх, «цьвёрдыя апазыцыянеры».
**Канстытуцыйны Суд «адмяніў»(палічыў , што Указ супярэчыць Канстытуцыі) Указ Прэзыдэнта Александра Лукашенко, адпаведна, ВС вымушаны быў пацьвердзіць норму Канстытуцыю і Закона**. Прашу звярнуць ўвагу на гэтаю інфармацыю і параўнаць з адказам на мой Ліст, «и.о. Председателя --- Голобурды» у 2000 годзе.
Але ўжо пачала сваю дзейнасьць новая формула ўлады: «Право Силы, а не сила Права». Выканаўчыя структуры ( дзе працавалі былыя члены КПСС) дзяржавы глядзелі толькі на Указы Прэзыдэнта Александра Лукашенко, а не на Закон, Канстытуцыю.. Я спрабаваў змагацца , патрабаваў скліканьне Сесіі Савета дэпутатаў , пісаў у ворганы Пракуратуры.... Але ўсё марна --- усюды працавалі былыя члены КПСС, яны падпарадкаваліся ,цалкам, новаму «1-му Секретарю КПСС», толькі зараз ён называўся

«Президент Александр Лукашенко».
Але я збіраў сваю дэпутацкую «Камісію па захаваньню законнасьці, ахове правоў грамадзян, галоснасьці, вывучэньню грамадзкай думкі» ў будынку выканкама яшчэ 3 гады,.мы рабілі прапановы для выканкама. Нашыя прапановы (Камісіі) выканкамам не прыймаліся да разгляду, але прысутнічаць на пасяджэньні Выканкама мне дазвалялі.
Надалей, я пісаў, лісты ў дзяржаўныя органы і падпісваўся «дэпутат», «Старшыня дэпутацкай камісіі..». Я атрымліваў адказы і, нават, некаторыя маі прапановы , адносна дзейнасьці Першамайскага суда , міліцыі, прыймаліся да разгляду і, нешта, рабілася па маім прапановам ажно да 2000г.
Маім ( можа і ня толькі маім) поспехам была і тоя, што пасля майго звароту ў МУС, міліцыянтаў не пазбавілі дадатковай дзяржаўнай падтрымкі. Але я таксама звяртаў увагу МУС на неадпаведнасьць закону ў афармленьні міліцэйскіх дакументаў, «пасведчаньняў».
Я вельмі ўдзячны капітану міліцыі, сябру нашай Камісіі, Віктару Праўдзіну, які заўсёды падтрымліваў мяне. Бацька ягоны, рускі чалавек, з архангельскай зямлі ( «крепкий мужик») , а маці беларуска, а таму Віктар добра валодаў беларускай мовай. Пазней ён стаў беларускім пісьменьнікам.
У 2000 годзе я атрымаў апошні ліст ад дзяржаўнага воргана , пракуратуры г.Менска, дзе да мяне звярталіся як да « Старшыні Камісіі... ».
З другога боку ,насельніцтва аніяк не пратэставала--яно была моцна атручана абяцанкамі - хлуснёй кандыдата, а потым Прэзыдэнта, які ім «всё даст». На жаль, нават, у Менску, большасьць жыхароў

спадзявалася , што так і будзе. Менавіта таму, пад час выбараў дэпутатаў гучалі гэтыя ідыёцкія словы.
***«Что ты мне дашь ?»***

Гэтыя словы ад электарату я чуў не аднойчы, калі ў чарговы раз кандыдатаваў на дэпутата…

Але я ані разу не чуў, каб нехта зыпытаў :"А што ты зробіш для горада, раёна, вобласьці, краіны Беларусі?".І гэта ў Менску,(мікрараён Уручча) Так, некаторыя "разумнікі" ( з адукацыяй") пыталі аб " праграме", што была вельмі і вельмі рэдка. А што такое "праграма" апазыцыйнага палітыка, які мае заўсёды меньшасьць галасоў у выбарчых ворганах ? Так, у мяне былі праграмы і потым, я нават дамагаўся каб нешта ўключалася ў Плян развіцця Раёна. Напрыклад, пабудова Парка ў мікрараёне «Уручча-2» і г.д. Але бяз «маёй улады» гэта так і засталося толькі на паперы.

Калі коратка акрэсліць маю дэпутацкую дзейнасьць, то гэта была дзейнасьць на карысць «галоснасьці» (інфармацыя), дэмакратызацыя, тэрытарыяльнага самакіраваньня, кантролю над міліцыяй, захаваньня Правоў Чалавека.

Таксама дзякуючы мне, на працягу амаль сямі гадоў ( 1993- 2000гг.) Выканкам Першамайскага раёну перыядычна разглядаў «пытаньне» , выкананьня Закона аб мовах, то бок «беларусізацыя» раёна . Дарэчы многа сучасных маладых дэмакратаў-беларусаў менавіта з Першамайскага раёну.

**<u>Інфармацыйная дзейнасьць для краіны.</u>**
Я даволі часта выступаў , апавядаваў пра мясцовыя праблемы і , прапановы як іх вырашаць, на

дзяржаўным радыё. Мне давалі «этэр» на «Беларуская маладзёвая» (кіраўнік -Жанна Літвіна) і радыё «Сталіца» ажно да 1999 года, уключна.. Вельмі цікава, што кіраўніком радыё «Сталіца» быў стары артадаксальны камуніст, але ён чамусьці прыхільны ставіўся да мяне, БНФ-ца.

Потым, я быў стваральнікам, рэдактарам і вядучым праграмы «Палітыка» на кабельным тэлебачаньні ў мікрараёне Менска «Уручча 4,5» і частка вайсковага гарадку. Стварыў ТБ вельмі дзіўны (для мяне) (русский) чалавек , які падтрымліваў РНЕ , але вельмі паважаў мяне. Я рабіў сваю Праграму бяз аплаты. Людзі былі задаволены маі выступамі. Але гэтая ТБ была закрыта пракуратурай ( і КГБ ?) у 1999 годзе. Я так і не зразумеў прычыну, але змагацца за ТБ я не захацеў, таму што ўладальнік ТБ не ўлічыў мой пратэст супраць РНЕ.

На гэтым ТБ я зрабіў экспэрымент пад час выбараў. Да гэтага часу я ўжо «начытаўся» аб тэхніках PR ( і NLP). Я выкарыстаў тоя, што палова жыхароў «выбарчай акругі» магла глядзець маю Праграму, а другая палова не мела «кабелю». Я скарыстаўся магчымасьцю і выкарыстаў PR- тэхнялёгіі супраць недэмакратычнага «кандыдата». Эфэкт быў 100%.. На тых выбарчых участках, дзе жыхары глядзелі маю Праграму, яны прагаласавалі так, як я прапанаваў.

Быў я і журналістам незалежнай раённай газэты «Наша Уручча». Уладальнікам і рэдактарам быў Мікола Бусьнюк ( таксама дэпутат), мой партнёр па грамадзкім справам у Першамайскім раёне. Заробак мне не плацілі. Найбольш папулярным ( і значным) быў мой

артыкул адносна «*законнай карупцыі*» мясцовага начальства. Я напісаў артыкул, на падставе матэрыялаў КНК ( Спадар Долгалёв, кіраўнік, дазволіў мне пазнаёміцца з дакументамі). Мясцовая начальства выкарыстала сакрэтную Пастанову Савета Міністраў (В.Кебіча) аб танных крэдытах. Зразумела, што гэтую пастанову ведалі толькі наменклятуршчыкі, якi «хапнулі» грошы, пабудавалі катэджы, а потым за свой месячны заробак «погасили кредит», бо пачалася гіперінфляцыя.

Быў я і журналістам (пазаштатным) газэты «Вечерний Минск». Я ,час ад часу, пісаў аб навінах у Першамайскім раёне Менска ,ці праблеме адукацыі для Правоў Чалавека.

Некалькі разоў ( як дэпутат) я выступаў у школах. Лічу важным маю размову з клясай (па прапанове Валеры Паўсьцюка) дзе вучыліся актывісты расійскага РНЕ (і вядомы, Самойлов). Я думаю, што мой выступ адхіліў многіх дзяцей (бацькі іх --этнічна рускія, вайскоўцы) ад гэтай рускай шавіністычнай заразы.

**Выснова для дэмакратаў.**

Калі больш агульна, то можна засведчыць так. Менавіта дзякуючы мне, Першамайскі р-н быў самы прыхільны для дэмакратаў ( з боку міліцыі таксама) ажно да 2001г . Падкрэсліваю, менавіта дзякуючы мне, АДНАМУ актыўнаму дэпутату , арганізацыя БНФ атрымала другое афіцыйнае памяшканьне, на галоўным праспекце Менска. За часы дэпутацтва і грамадзкай дзейнасьці я засвоіў таксама і наступнае.

**Усе разумныя праграмы ( эфэктыўныя) даўно**

**напісаны і рэалізаваны ў Эўропе, перадусім, для мясцовай улады.**

Таксама дастаткова праграмаў (вырыянтаў) развіцця (трансфармацыі) агульна, для краіны. А перашкаджае «эфэкту» вельмі часта карупцыя , у розных формах. І зараз, у часы "глябалізацыі" бяз уніфікацыі якаснай прадукцыі і добрага сэрвісу, канкурэнтную барацьбу не выйграць. Зразумела прадукцыя павінна быць на сучасных тэхнялёгіях. Больш таго, непасрэдна грамадзяне павінны дапамагаць рэалізаваць Праграмы, а не чакаць ад дзяржавы, палітыкаў наступнай выгоды, грошаў., *«Што ты мне дашь?»*.

Нехта гаворыць аб ментальнасьці, мясцовай спецыфічнасьці – усе гэта глупства. Хочаш сядзець у сваей ментальнай "зямлянцы"- ну то сядзі і гавары так і, паспрабуй са сваей "спецыфікай" быць багатым. Глябалізацыя (і сучасныя тэхнялёгіі ) ўсё імклівей «набірае ход», адбываецца дыфузія ўсяго, то бок, узаемапранікненьне, што вядзе да змяншэньня і нават знішчэньня нацыянальных і этнічных адметнасцей, нават геапалітычных асаблівасцей. Адпаведна мяняецца ментальнасьць людзей, можа і не ў найлепшы бок, але гэты працэсс ідзе хутка. Маі развагі адносна грамадзскіх працэсаў дапамаглі мне вынайсці новы Закон грамадзкіх працэсаў, хуткасьць якіх залежыць ад хуткасьці абмену інфармацыі. ( глядзіце ў дадатку).

Адпаведна, я мяркую, што сёння, напрыклад, тоя, што добра для шведа, фіна, немца – будзе добра і для беларуса. Такім чынам можна цалкам імплэментаваць усю заканадаўчую сістэму Швецыі (акрамя караля) у

Беларусь. Навошта выдумляць, «сваю нацыянальную праграму», як той казаў, «велосіпед» (ровар). Такія развагі я раблю па аналізу сваёй дзейнасьці, перадусім, як дэпутата, а таксама, пасля вывучэньня жыцця на Захадзе.

Для мяне , у 1990 годзе, значнай падзеяй была таксама, тоя , што дэпутаты ад БНФ дамагліся прыняць ВС БССР « Дэклярацыю аб дзяржаўным суверэнітэце БССР», 27 ліпеня **.**

**БНФ.**

У пачатку 1991 года я павялічыў сваю актыўнасьць у БНФ. Раней я меў сямейныя праблемы (моцна хворая дзіця) і рыхтаваўся да абароны навуковай ступені (абараніў). Адпаведна я пачаў даволі часта сустракацца з Зянонам, ужо як са Старшынёй БНФ.

Я яму зрабіў першую параду для БНФ. Я прапанаваў нашую газэту «Навіны БНФ» раздаваць **бясплатна** , а не прадаваць ( быў высокі кошт – 50 копеек). Зянон запярэчыў: «Газета дае нам сродкі.». Я спрабаваў яму растлумачыць, што тады больш людзей чыталі бы нашу інфармацыю , то была бы больш прыхільнікаў БНФ, бо многія такі шкадавалі 50 коп. на газету, а сродкі трэба была шукаць у іншым «месцы» . Дарэчы, рэдакцыя Газэты прапанавала «крыніцу», але Зянон не пагадзіўся. Я лічу, што гэта была першая значная памылка палітыка Пазьняка, калі не лічыць капіяваньня прыбалтыйскай канцэпцыі.

Калі «народ» хоча браць --- трэба яму даваць, а не абмяжоўваць. Гэта як у кунг-фу: ня трэба супраць сілы ставіць жорсткую заслону, трэба сілу адхіліць і

перанакіраваць.
Я не прысутнічаў на з'езде ў Вільні, бо трэба была апеквацца хворым дзіцём, а вось потым ,на з'езде БНФ 1991 года я быў. з'езд адбываўся ў будынку Тэатра ім. Янкі Купалы, прысутнічала група цэнтральнага (маскоўскага) тэлебачаньня і мяне («крупным планом») паказалі на увесь СССР, які яшчэ не разваліўся. Маі знаёмыя ( і сваякі) з Масквы распавядалі мне , што бачылі мяне па тэлевізару. На з'ездзе мне прапанавалі быць сябрам Сойму БНФ. Я адмовіўся, бо палічыў , што дэпутацтва і + актыўная дзейнасьць у БНФ (1991 год) перашкодзяць маёй працы вучонага.

1991 год быў вельмі бурлівым, але ўжо тады былі бачны прыкметы паразы БНФ.
А таму я вымушаны пагадзіцца з такім меркаваньнем.

*Владимир Мартьянов, Сергей Олехнович,С. О Салідарнасць, TUT.BY*

*В. М. ...недоверие на тот момент ко всем этим движениям национального возрождения, к народным фронтам.Наверное, тут вина и государственной пропаганды, но больше той стратегии, которую реализовывал Белорусский народный фронт. И была огромная масса других людей, которые вообще не понимали, что происходит, с которыми этот фронт работать не хотел или не умел, и только отпугивал их своим фанатизмом. В том числе и в таком, казалось бы, благом деле, как национальное возрождение. Это породило страх, скажем, того, что русских выдворят из страны. Х**отя никто из лидеров фронта напрямую этого, вроде как, и не говорил. Но они не сумели наладить диалог с обществом.***

Таксама я вымушаны выказаць сваю думку адносна выключнай “ролі дэпутатаў ад БНФ” па абвяшчэньню Незалежнасьці Беларусі. Гэта вельмі добра і патрэбна

была рабіць тоя, што яны зрабілі 25 жніўня і да канца верасня 1991 года.

Але Незалежнасьць Беларусі была бы і бяз іх. Вось паглядзім на “парад суверэнітэтаў”., які рэспублікі СССР (большасьць) абвясціла ў 1990 годзе. Так 12 чэрвеня 1990 года з'езд народных дэпутатаў РСФР прыняў “Декларацию о государственном суверенитете РСФСР”. То значыць. “малая Москва” паслала “сигнал”. А вось паглядзім калі была абвешчана “НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ” іншых .

””*Литовская Республика 11 марта 1990*

*Грузинская Республика 9 апреля 1991*

*Эстонская Республика 20 августа 1991*

*Латвийская Республика 21 августа 1991*

*Украина ---- 24 августа 1991*

***Республика Беларусь 25 августа 1991***

*Республика Молдова 27 августа 1991*

*Азербайджанская Республика 30 августа 1991*

*Республика Кыргызстан 31 августа 1991*

*Республика Узбекистан 31 августа 1991*

*Республика Таджикистан 9 сентября 1991*

*Республика Армения 21 сентября 1991*

*Туркменистан 27 октября 1991*

*Российская Федерация 12 декабря 1991*

*Республика Казахстан 16 декабря 1991* ””

Бачым, што “**Независимость»** большасьць

«декабрьских» рэспублік абвясціла непасрэдна пасля паразы “ГКЧП”. Толькі Казахстан -- “”16 декабря 1991”. Дэкларацыю аб “***Провозглашение выхода из СССР***” большасьць з іх прыняла таксама ў жніўні 1991.

Такім чынам распад СССР выглядаў так: парляменты рэспублік СССР паслядоўна прыймалі наступныя заканадаўчыя акты –абвяшчэньне “суверэнітэту” (1990 год), абвяшчэньне “Незалежнасьці”, абвяшчэньне “Выхаду са складу СССР”, абвяшчэньне “Незалежнасьці дэ-юрэ” (дэнансацыя саюзнай дамовы).

Больш таго, я звяртаю ўвагу, што нават аўтаномныя нацыянальныя рэспублікі РСФСР , у 1990 годзе абвясціла “суверэнітэт”, такіх была ажно 14 рэспублік.

Таксама трэба памятаць, што Беларусь была асобным (ад СССР) сябрам ААН.

Так, канешне, у Беларусі не было ( і практычна няма) беларускай нацыянальнай наменклятуры, але быў “партхозактив” , дырэктары буйных прадпрыемстваў, “камсамольскіе бізнесмены”-- дзеткі Начальнікаў. Дзейнічаў СССР-кі закон аб каапературах... То бок, Грошы (і часам вялікія) ужо “круціліся” і траплялі ў кішэні Начальнікаў. Але была Масква, якая ўсё кантралявала. “Партхозактив” добра памятае “узбекскае хлопковое дело”.... І вось пасля 26 жніўня Масква занялася толькі расійскімі справамі.... На “званкі” з Мінска (“Что прикажете?”) не адказвывае... Кантролю няма! Дык няўжо ўсе “партхозактивисты” такіе дурні, што не пабачылі: безкантрольнасццю можна скарыстацца і “хапнуць” ? А суверэнітэт , пры несвядомым “народзе” (што была

даказана жыццём) дае, ўвогуле, неабмежаваныя магчымасьці “начальнікам”. Узгадаю і іншы прыклад---Казахстан. Там абсалютна ўсім кіравалі рускія, большасьць насельніцтва была таксама – этнічна і свядома, русские. Вось здаецца, перадусім, Казахстан, павінен быў імкнуцца аб'яднацца з Расіяй...Але прычына тая ж, там “партхозактив” вельмі хутка зразумеў, што можна “хапнуць”. Есьць прыклады, калі былыя жыхары Казахстана, кідалі высокія пасады ў Маскве, у 1991-1992 гадох, і хуценька вярталіся ў Казахстан, “сколачивать капитал”.

Дарэчы і зараз прычына тая ж…. Лукашенковская наменклатура “хапае” ( у каго дарагія “авто” ?) і думае “хапнуць” праз прыватызацыю беларускага народнага дабра, а таму маўкліва падтрымлівае суверэнітэт Александра Лукашенко і толькі з ГЭТАЙ прычыны.

Выснова: бяз дэпутатаў ад БНФ Беларусь мела бы Незалежнасьць у 1991 годзе, мо на 3-4 месяцы пазней...

У тыя часы быў цікавы выпадак у суполцы БНФ «Уручча». Сябра суполкі прапанаваў мне збіраць зброю і сказаў ,што можа здабыць пісталет. Я сказаў: «Добра. Нясі – паглядзім». Да гэтага часу нясе. Дарэчы ,больш я яго не бачыў. Іншы сябра, былы вайсковец ( я яму верыў) сказаў , што ведае дзе «у тупіке» стаяць два вагона з вайсковай зброяй, без аховы. Я задумаўся. Я быў не супраць «прыватызаваць» яе для БНФ, але была праблема транспарту і захаваньня зброі. Я паспрабаваў пашукаць «магчымасьці», але марна. Бадай тую зброю прадалі палкоўнікі, ці прапаршчыкі --ужо адчуваўся развал СССР.

1991 г.

ЗАЯВА
народных дэпутатаў ад БНФ Першамайскага
раёну г.МІнска

СтановІшча у грамадстве ва усІх сферах жыцця рпрацягвае пагаршацца.

ПракамунІстычны Вярхоуны Савет РБ І створаны Ім урад на чале з В.КебІчам не маюць сваей канцепцыІ выхаду з крызІсу І здольны ролькІ ІсцІ у хвасце падзей услед за дзяржавамІ-суседзямІ. Гэтая злачынная палІтыка - шлях да збяднення нашага гаротнага народу, страты усІх працоуных здабыткаў нашай Бацькаушчыны.

ТолькІ сталыя эканамІчныя сувязІ І гарантаваныя двухбаковыя палІтычныя пагадненнІ могуць стаць гарантыяй незалежнай РэспублІкІ Беларусь, а не калонІІ - Белая Русь.

ТолькІ глыбока абгрунтаваная эканамІчна-палІтычная канцепцыя І яе рэалІзацыя зможа прадухІлІць вяртанне да камунІстычнай дыктатуры І голаду.

КПСС(КПБ) ужо фармальна няма, але ж былыя камунІсты засталІся на ўсІх кІруючых пасадах, што амаль непрыкрыта спрыяе умацаванню ценявой эканомІкІ, мафІІ. Сёння створаную працай народа маёмасць выкупляюць за бясцэнак, Ідзе бессаромнае рабаунІцтва народнага багацця.

Хто чынІць эканамІчны сабатаж, хто зацята стрымлІвае своечасовае прыняццё заканадаўчых актаў дзяржаунага уладкавання, хто не жадае дэмакратычных рэформаў, незалежнай палІтыкІ І эфектыўнай эканомІкІ?

Зыходзячы з гэтага, мы, народныя дэпутаты ад БНФ усІх ўзроуняу Першамайскага раёну г.МІнска заклІкаем сваІх выбаршчыкау, грамадзян БеларусІ, падтрымаць патрабаванне аб правядзеннІ Усенароднага рэферэндуму ў РэспублІцы Беларусь па пытаннІ:

Самароспуску Існуючага камунІстычнага Вярхоунага Савета І выбары новага Вяроўнага Савета (Сойму) на падставе новага закону аб выбарах, распрацаванага апазІцыяй БНФ у Вяроўным Савеце.

Народныя дэпутаты:

BELARUS DEMOCRATIC
REFORMS SUPPORT FOUNDATION
P/b N° 93, Minsk 220141.
Republic of Belarus.
Fax.: (0172) 266757, Ph. 264817

БЕЛАРУСКІ РЭСПУБЛІКАНСКІ ФОНД
ПАДТРЫМКІ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ РЭФОРМ
220141, Рэспубліка Беларусь
г. Мінск, а/я № 93
Факс: (0172) 266757, Тел. 264817

№ 13
"15" ... 1993 г.

Старшыні Вярхоўнага Савета
Рэспублікі Беларусь
сп. Шушкевічу С.С.

Паважаны Станіслаў Станіслававіч !

Кіраўніцтва Фонду Падтрымкі Дэмакратычных Рэформаў (Фонд імя Л.Сапегі), які прадстаўляе сабой Асацыяцыю дэпутатаў мясцовых Саветаў Рэспублікі Беларусь, аб'яднаных для спрыяння працэсу рэформы сістэмы мясцовых органаў улады, хацела б сустрэцца з Вамі для абмеркавання нашых прапаноў па гэтай праблеме .

Асноўныя прынцыпы правядзення рэформы сістэмы мясцовых органаў улады ў Рэспубліцы Беларусь, якія прапанаваны нашай Асацыяцыяй, наступныя :

- замацаванне ў Канстытуцыі асноў самакіравання, выкладзеных у Еўрапейскай Хартыі Тэрытарыяльнага Самакіравання;
- неабходнасць правядзення адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформы (скасаванне абласнога ўзроўню прадстаўнічых органаў) і пераход на 2-х узроўневую структуру мясцовых органаў самакіравання;
- раздзяленне дзяржаўнай улады на месцах і мясцовых прадстаўнічых органаў;
- поўная самастойнасць мясцовых Саветаў у межах сваей кампетэнцыі ў вызначэнні і стварэнні сваей унутранай арганізацыі, структуры органаў выканання і кіравання;
- выбары кіраўніка выканкама (мэра) ўсім насельніцтвам горада (раена);
- самастойная фінансавая база (бюджэт мясцовых органаў самакіравання не павінен з'яўляцца часткай дзяржаўнага), узмацненне ролі камунальнай уласнасці;
- вырашэнне ўсіх спрэчных пытанняў паміж дзяржаўнымі органамі і мясцовымі Саветамі толькі ў судовым парадку;
- выпрацоўка новай рэгіянальнай палітыкі, стварэнне замест існуючай адміністратыўнай структуры 30 – 100 адміністратыўна-эканамічных рэгіенаў;

**Зварот БРФПДР да С.С.Шушкевіча, Старшыні ВС Беларусі**

## 1991

1991 год для мяне пачаўся інфармацыяй аб змаганьні Народа, Грамадзян , у Вільні супраць дыктатуры КПСС-КГБ.

Я паехаць у Вільню не паехаў, але пачаў збіраць подпісы супрацоўнікаў Інстытута Акадэміі Навук пад лістом падтрымкі змагароў Вільні. За адзін дзень я назбіраў каля 120 подпісаў (усяго каля 200 супрацоўнікаў у Інстытуце). Потым адаслаў адпаведную Тэлеграму ў Вільню., пазней , лістом, на адрас «Городского Совета Вильнюса» – усе арыгінальныя подпісы. Я чуў , што некаторыя беларусы паехалі ў Вільню—абараняць Свабоду. З другога боку, большасьць беларусаў засталася абыякавай: «Мая хата с краю». Але найбольш абуральным і сёньня ёсьць тоя, што галоўны бандыт «вільнюскіх падзей» ,генерал Усхопчык, вельмі выгодна жыве ў Беларусі. Але як той казаў: «Бандыцкая ўлада ласкава да бандытаў». І калі свядомыя палякі, кожны год ладзяць пікеты каля дома генерала Ярузельскага, то у Беларусі такога няма.. каля дома Усхопчыка...

## «Воля народа СССР»

Вясною 1991 адбыўся першы , у гісторыі СССР, «референдум» за працяг жыцця ў СССР. Я тады, разам з мастаком Віктарам Свістуновым зладзіў пікет у мікрараёне «Уручча-2» супраць СССР. Віктар намаляваў вельмі добры плякат: людзі за калючым дротам. Мы гадзіны дзве стаялі з гэтым плякатам каля крамы, размаўлялі з людзьмі. Розныя настроі мы

адчулі, але старыя людзі (бабкі) былі вельмі агрэсіўныя: хацелі падраць наш плякат і пабіць нас. Але мы на гэта ім не дазволілі. Рэфэрэндум адбыўся, большасьць «ЗА». Але той самы «савецкі народ» чамусьці не абараніў СССР , калі пачаўся «парад суверенитетов».
Гісторыя паказала: не «народ» бароніць. За каштоўнасьці і прынцыпы змагаюцца Людзі, «Асобы», менавіта яны і перамагаюць, калі згуртаваныя .

**1991. БСДГ. Страйкі . ГКЧП і «быдла»**

На пачатку года некалькі маіх знаёмых прапанавалі мне далучыцца да стварэньня (аднаўленьня) БСДГ, Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады. Меркавалася, што кіраўніком будзе Міхаіл Ткачоў. Да ягонай асобы я ставіўся добра, таму пагадзіўся падтрымаць стварэньне Партыі ды і ідэі Справядлівасьці мне вельмі пасавалі. На працы, ІБОХ АН Беларусі , я стварыў суполку з 4-х чалавек, сяброў БСДГ. Мяне абралі старшынём суполкі і дэлегатам на з'езд Партыі, які ў неўзабаве і адбыўся ў Менску. Такім чынам я быў сябрам-стваральнікам БСДГ, але актывістам БСДГ я не быў, бо ,перадусім,-- БНФ.

<u>Нечаканыя страйкі.</u>
Так, канешне, я памятаю раптоўны страйк працоўных. Але, то не была праца БНФ. Рабочых да Дому Ураду выпіхнулі жонкі ( «бо дзецям хутка есьці ня будзе чаго») і дырэктары («Начальство») МТЗ і МАЗ. Начальнікі сказалі простыя рэчы: «*У нас грошай няма. Грошы мае ўрад, вось туды і ідзіце»*. Так, потым,

дзякуючы актывістам БНФ, у патрабаваньнях «рабочага клясу» з'явіліся і палітычныя патрабаваньні... Фармальна, бо рэальна «працоўным» яны не былі патрэбныя і, яны не баранілі іх. Больш таго , рабочыя тады былі бы катэгарычна ( але пасіўна) супраць «Незалежнасьці», гэта да таго, што зараз некаторыя выстаўляюць сябе вельмі разумнымі ( Сяргей Антончык), што не прапанавалі гэтая патрабаваньне працоўнаму класу. Тады аб ліпеньскай , 1990г., «Дэклярацыі» ужо «народ» забыўся, але памяталі як галасавалі на «рэфэрэндуме» за «обновлённый СССР».
Я назіраў гэтыя падзеі, але не браў актыўнага ўдзелу. Мяне такі здзівіў супраціў «трудящихся масс» адносна палітычных патрабаваньняў-- «нам політікі не надо». Так, пазней, у асноўным дзякуючы рабочаму ,дэпутату Сяргею Антончыку, рабочыя ўжо не выкідвалі (прапанаваныя ім БНФ) палітычныя лёзунгі, але яны іх не цікавілі, яны проста іх «терпели». Вось ужо я тады і задаў сябе пытаньне: Што гэта? Чаму? Гэта ідыятызм, дэбілізм, ці «страх у крыві» беларусаў?
Пазней я пазнаёміўся з патрабаваньнямі ( «на фанеры») рабочых польскага Гданьска ... З тых патрабаваньняў, толькі адно была чыста палітычным.... І то былі палякі, якія не былі зрусіфікаваны -дэнацыяналізаваны і «советизованы».......
Але беларусы і пазней, пад дыктатурай Лукашенко, не жадаюць «палітыкі».. «Каўбаса», і паболей, іх цікавіць, а таму гатовы (большасьць) прадаць сваю краіну таму, хто дасьць больш гэтай «каўбасы».

**І вось ЖНІВЕНЬ 1991.** 19-га, панядзелак. Я быў у адпачынку, але застаўся ў Менску.

Раніцай , мо, каля 10-00, уключыў тэлевізар.... «Лебединое озеро».. Усюды.... Дзіўна. Потым уключыў радыё... Даведаўся. ГКЧП. Уключаю свой SHARP, слухаю радыё «Свобода»», чую Ельцына. Зразумеў. Хуценька пабег да суседа , Віктара Свістунова \вечная памяць яму\, мастака і свядомага Беларуса, бо тэлефона тады я яшчэ не меў. Сябры суполкі БНФ былі на працы, а хто і па-за Менскам. З Свістуновым мы вырашылі друкаваць улёткі-паведамленьня з Масквы ад Ельцына. Я, як намесьнік старшыні КГС «Уручча -1,2,3» меў ключ ад інфармацыйнага стэнда на будынку крамы («Першамайский»). Вось на стэнд я ляпіў нашыя улёткі, так яшчэ недзе клеіў. Я меў друкавальную машынку, але можна была друкаваць толькі 4 копіі.

Што мяне здзівіла-- ніхто не спрабаваў зрываць нашыя ўлёткі , нават, тады, у першы дзень, 19 жніўня.... З другога боку, і гуртаваньня дэмакратаў не назіралася... Ехаць да дэпутатаў БНФ у Дом Ураду ? Не. Я вырашыў падымаць «мясцовы народ»-- друкаваў інфармацыю «ад Ельціна» і клеіў па мікрараёне.
20 жніўня я зрабіў плякат «МЫ – БЫДЛА???» Я зрабіў такі плякат, таму што я не пабачыў, што мінакі, увогуле цікавяцца падзеямі ў Маскве. З гэтым плякатам я хадзіў цэлы дзень па вуліцах Менску, таксама і па праспекту Леніна, часткі Першамайскага раёну. НІХТО да мяне не падыйшоў, НІХТО НЕ ЗАПЫТАЎ, не абурыўся.. Быў адзін п'яны чалавек ,які пачаў на мяне матюгацца, але яго людзі хутка супакоілі....
21 жніўня, праз паведамленьня з Масквы, я адчуў, што ГКЧП прайграў... Так і сталася.
З тых часоў я памятаю тоя, што беларусаў ГКЧП і

«московские дела» не турбавалі. Беларусы, як звычайна, займаліся сваімі штодзённымі справамі.

Можна была зрабіць такую выснову:
а нам беларусам усё адно ,які будзе маскоўскі Пан.

На жаль, БНФ,**як арганізацыя,** не спраўдзіўся. Таму была прычына: ўсё кіраўніцтва БНФ была ў парламенце (ВС), а сістэма сувязі паміж структурамі не была дапрацавана. Так, і то быў час адпачынку. Лета. Далей --вядома.

# Пастанова Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

**Аб паўнамоцтвах Часовай камісіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР па ацэнцы дзеянняў членаў ГКЧП і падтрымаўшых іх грамадска-палітычных утварэнняў, органаў дзяржаўнай улады і кіравання, службовых асоб**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР пастанаўляе:

1. Прадаставіць права Часовай камісіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР па ацэнцы дзеянняў членаў ГКЧП і падтрымаўшых іх грамадска-палітычных утварэнняў, органаў дзяржаўнай улады і кіравання, службовых асоб і грамадзян:

1.1. Прыцягваць да работы Часовай камісіі народных дэпутатаў усіх узроўняў, спецыялістаў, службовых асоб і грамадзян.

1.2. Неадкладнага доступу да дакументаў любой важнасці і сакрэтнасці ўсіх дзяржаўных і грамадскіх органаў, арганізацый і устаноў, размешчаных на тэрыторыі рэспублікі.

1.3. Па пытаннях, якія адносяцца да дзейнасці Часовай камісіі, браць тлумачэнні ў службовых асоб і грамадзян.

1.4. Адбіраць са складаннем адпаведных пратаколаў дакументы, якія адносяцца да дзейнасці ГКЧП, дзяржаўных і грамадскіх органаў, арганізацый і устаноў, службовых асоб і грамадзян, што аказалі яму садзейнічанне.

1.5. Накіроўваць прапановы, абавязковыя для разгляду, аб адказнасці службовых асоб, якія аказалі садзейнічанне ГКЧП.

2. Абавязаць службовых асоб дзяржаўных і грамадскіх органаў, арганізацый і устаноў неадкладна аказваць Часовай камісіі і яе членам неабходную дапамогу і садзейнічанне, у тым ліку і прадастаўляць транспартныя сродкі, а таксама прымаць меры рэагавання на прапановы Часовай камісіі ў тэрмін не пазней 10 дзён.

3. Члены Часовай камісіі і асобы, якія прыцягваюцца да работы ў ёй, вызваляюцца ад выканання прафесіянальных абавязкаў з захаваннем сярэдняй заработнай платы.

4. Сакратарыяту Вярхоўнага Савета Беларускай ССР забяспечыць умовы для дзейнасці Часовай камісіі.

Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР С. ШУШКЕВІЧ.
27 жніўня 1991 г. гор. Мінск.

svaboda.org (RFE/RL)

**Камісія Вярхоўнага Савета РБ**

Апасля адпаведных рашэньняў ВС і стварэньня Камісіі Вярхоўнага Савета Белаусі па даследваньню дзеяньняў ГКЧП на тэрыторыі БССР… , мяне ўключылі ў склад Камісіі па гораду Менску. Так я стаў «членам Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па даследваньню дзеяньняў ГКЧП на тэрыторыі БССР». Старшынёй , па Менску, быў Міхаіл Марыніч, камуніст, былы старшыня Мінгарвыканкама. Казалі быў «хабарнікам».Мой калега па працы непасрэдна ( так ён гаварыў) даваў яму хабар, каб атрымаць месца у «кааператыве на кватэру». Прэсавым сакратаром быў прызначаны Якубовіч, той, хто пры дыктатары Лукашенко стаўся, рэальна, галоўным ідэёлагам дыктатуры. (СБ).

Я ж сумленна пачаў сваю працу «члена Камісіі».

Я быў актыўным членам Камісіі, рабіў допыты начальнікаў “КГБ” ( раёну, Менска і рэспублікі), кіраўнікоў раённай арганізацыі КПБ і заводаў.

Як толькі я атрымаў Пасведчаньне , якое мне дазваляла адкрываць УСЕ сейфы  ( і нават у «КГБ») , уваходзіць у кожнае памяшканьне і рабіць допыт кожнага грамадзяніна БССР, незалежна ад пасады, я пайшоў у раённае аддзяленьне КПБ-КПСС. Мне паказалі ўсе пакоі і адкрылі ўсе сейфы. Зразумела, што я там нічога не знайшоў. У нашым, Першамайскім раёне было ( і ёсьць) шмат прадпрыемстваў ВПК ( вайскова-прамысловы комплекс). Пасля камуністаў , я вырашыў наведацца ў НІІ ( аб'яднанье «Агат») , дырэктарам якога быў Азаматаў. Я запатрабаў адкрыць усе сейфы. У адным з сейфаў, я знайшоў тэлеграму з Масквы

(ГКЧП) аб неабходнасьці падтрымаць ГКЧП. Начальнік 1-га аддзела (бадай былы НКВД-ст) не хацеў аддаваць мне «тэлеграму» ,але сказаў, што ён , разам са мной, павязе яе ў ВС. Я пагадзіўся. «Тэлеграма» была перададзена ў Камісію. Пасля гэтага я накіраваўся на другоя прадпрыемства ВПК ( «завод Леніна») , што на вул.Валгаградскай. Але, там, я ўжо нічога не знайшоў, іх папярэдзілі.

Я не быў адзіным сябрам Камісіі па Першамайскаму раёну, была некалькі. Я ужо не памятаю іхнія прозвішча, акрамя Маркава Андрэя ( «вообще демократа»). Усе яны былі вельмі пасіўнымі, але і наш кіраўнік, Марыніч Міхаіл, таксама не заклікаў да актыўнасьці і, ён НІКОЛІ , нас разам не сабраў, «інструкцый» нам таксама не дасылаў. Канешне, я меў права не хадзіць на працу ў АН, але ў мяне быў «індывідуальны працоўны плян». Зразумела, што я не мог кожны дзень займацца следчымі дзеяньнямі, бо трэба была таксама і на асноўнай працы (АН БССР) нешта рабіць, а з другога боку, кіраўніцтва БНФ, таксама не давала аніякіх «інструкцый». Больш таго , у мяне была думка ( не ў аднаго мяне) што ўсе гэтыя «расследваньні» не дадуць выніку. Але ж «мандат» маю. Я -- чалавек адказны, а таму працягваў працаваць , **шукаць ГКЧП-стаў.**

Наступным быў мой візіт да старшыні ТБ, тэлебачаньня, А .Сталярова.

Я пайшоў да яго з другім дэпутатам (не памятаю зараз прозвішча).Задаваў пытаньня Сталярову я. Галоўным была пытаньне: «Чаму ён даваў загад перадаваць паведамленьня ГКЧП і «круціў» «Лебединое озеро». Ён нам адказаў, што яму

тэлефанаваў кіраўнік «спецгрупы» і выказаў пагрозу, што калі ён ня будзе выконваць загады ГКЧП , то «*все студии будут разгромлены*». Як я не спрабаваў даведацца прозвішча кіраўніка «спецгрупы» , Сталяроў мне толькі гаварыў: «Зараз не час».\\ Зараз , я думаю, што тады тэлефанаваў Барадач, ён тады быў камандзірам «спецгрупы» \\. У 2011 годзе, на маё непасрэдная пытаньне да Барадача, што ён гаварыў Сталярову і чаго той, баяўся, Барадач толькі адказаў: «Я не знаю». Пасля размовы са старшынёй ТБ, я склаў «справаздачу» і адвёз у Камісію ВС.

Былі яшчэ маі размовы («допыты») кіраўнікоў у Першамайскім раёне. Больш меньш значнымі былі наступныя 3-ы размовы.
Завітаў, я ў раённы аддзел «КГБ». Сейф быў пусты і нічога я не знайшоў. Кіраўнік «КГБ» сказаў, што «все бумаги он отдал в городской отдел КГБ». А таму, мы проста паразмаўлялі. Ён сказаў, што на тэрыторыі БССР дысыдэнтаў не была, Кукабака-- то быў чалавек псіхічна хворы. Наступым быў старшыня гарадскога (Менскага) адзела «КГБ».
Да яго я пайшоў разам з дэпутатам Менскага гарСавета Андрэям Телькоўскім.
Тады «рэй вёў Телькоўскі», ён апытваў КГБ-та. Мы ведалі ,што аніякай інфармацыі мы не атрымаем, так і сталася. Але я вырашыў наведацца у «КГБ БССР». Я запрасіў на сустрэчу намесніка старшыні «КГБ БССР», бо спадзяваўся, што можа нешта-такі ён скажа адносна ГКЧП, але марна. Размова была, але аніякіх канкрэтных фактаў я не здабыў, а «сейфы КГБ БССР» праверылі ўжо дэпутаты ВС.

«Зверху», ані Марыніч, ані Пазьняк, даручэньняў мне не давалі , а таму я спыніў свае пошукі ГКЧП-аў.

З другога боку , я вырашыў скарыстацца «паўнамоцтвамі» і праверыць фінансаваньне КПБ-КПСС. Я наведаўся, да нядаўна створанага банку. Я пайшоў у «Беларусбанк», кіравала тады ім Тамара Віннікава, там адзін «след» я знайшоў. Я паказаў Віннікавай маё Пасведчаньне і, яна напісала «цэдульку» да свайго галоўнага фінансіста , каб далі мне ўсе патрэбныя выдрукі. Пакуль я ішоў па калідорах, я паглядзеў паперу, на якой пісала Віннікава. На адваротным баку «загаду» адносна майго патрабаваньня, была запіска да нейкай Марыі (?) каб купіла яна “столовый сервиз” для падарунка патрэбнай асобе… Я тады неяк не падумаў аб сэнсу «падарунка». Але потым , дома, калі ўспамінаў падзеі, я зразумеў, што ТОЯ была хабарам некаму. Але «цыдульку» я аддаў.
У банку я працаваў цэлы дзень і без абеду. Я прагледзеў вельмі шмат рахункаў і знайшоў такі рахункі дзе калгасы пераводзілі свае грошы на рахункі ЦК КПБ-КПСС, што была незаконным. Я склаў чарговую справаздачу Камісіі, але не цікавіўся як былі выкарыстаны вынікі маёй працы.
Я падкрэсліваю, ніхто , нас, сяброў, гарадской (Менскай) Камісіі не збіраў. Як той казаў «пушчана ўсё была на саматёк».Таксама не была каардынацыі дзейнасьці і сяброў БНФ з боку кіраўніцтва БНФ.

**Адзіным вынікам Камісіі ВС «па ГКЧП» была тоя, што была забаронена часова дзейнасьць КПБ-КПСС.**

Ані медалёў, ані «ганаровых грамат», ані грошаў, за маю цяжкую працу ў Камісіі ВС я не атрымаў. Нават падзякі ад дэпутата ВС і кіраўніка БНФ таксама не дачакаўся. Але ж я быў, бадай, самым актыўным «следчым» , у раёне дакладна, а можа і ў горадзе.
Пасведчаньне «члена Камісіі ВС БССР...» у мяне не забралі ---яно засталося ў мяне, але потым міліцыя (ці «КГБ») яго ў мяне скралі.
Другой цікавай «маёй»падзеяй таго году была тоя, што апасля абвяшчэньня ВС нацыянальным сцягам бела-чырвона-белага сцяга, спатрэбіўся тэрмінова сцяг на будынак улад Першамайскага раёну. Зразумела, што я меў наш Сцяг. Кіраўніцтва выканкама лагічна падумала, што ў «галоўнага БНФ-ца Раёну» беларускі Сцяг павінен быць.Мой сцяг, бела-чырвона-белы, папрасілі аддаць Першамайскаму раёну, на будынак выканкама. Я, канешне, аддаў . І доўгі час мой сцяг, наш Сцяг, лунаў над будынкам былых камуністаў. Пазней ,выканкам нават мне заплаціў нейкую «драбязу» за Сцяг.
Вось таму, сябры, трымайце каля сябе заўсёды наш Сцяг, бо можа раптам спатрэбіцца новай, нашай , уладзе.

## 1992
## Рэфэрэндум , які не адбыўся

Першай «праверкай» БНФ «Адраджаньне», як арганізацыі, пасля выбараў, быў збор подпісаў грамадзян пад прапановай БНФ аб правядзеньні рэфэрэндума. Тады ,у Першамайскім раёне сябры БНФ, пад маім кіраўніцтвам, сабралі 20 000 подпісаў грамадзян, і большасьць гэтых подпісаў была сабрана

нашай суполкай сярод жыхароў 4-х «Уруччаў» і вайсковага гарадка, г.Менска..
Я, асабіста, тады, усяго за тыдзень, сабраў 1010 подпісаў грамадзян. 9 подпісаў стары сталініст знішчыў, падраў ліст. Я яго пашкадаваў, старога сталініста , а мог нават за краты пасадзіць.... Вельмі прасіла прабачыць «старого дурня» ягоная дачка. А вось лукашысты зараз нікога не шкадуюць.
У той жа час, я, асабіста, зацьвердзіў сваім подпісам 70 000 подпісаў грамадзян, бо ў Першамайскі раён ( самы дэмакратычны раён) прыносілі подпісы з іншых раёнаў. Дарэчы сведчыць тоя і то, што менавіта старшыня выканкама Першамайскага раёну пагадзіўся ( былы сакратар КПСС) афіцыйна зацьвердзіць «факсіміле» (гумаваю пячатку), як асабісты подпіс спадара Анцулевіча, які быў кіраўніком Ініцыятыўнай Групы Рэспубліканскага рэфэрэндума. Падкрэслю, Першамайскі выканкам не быў абавязаны гэта рабіць, тым больш , «факсіміле»-- гэта зусім новая справа. Выканкам меў поўная права паслаць Анцулевіча па «інстанцыях». Зразумела, што пачаліся бы размовы «інстанцый»: якая ўстанова павінна зацьвердзіць «факсіміле» . Заяўку разглядалі бы месяц, то бок, час мінуў бы для афармленьня подпісаў. Але «факсіміле» была атрымана. Былі зроблены гумавыя копіі «факсіміле»-пячаткі. Можа некаму гэтая падзея здаецца «драбязой». Але паспрабуйце ўявіць сябе: колькі часу спатрэбілася бы Анцулевічу, каб асабіста падпісаць усе паперы?
І я , таксама, усю ноч, (разам з іншымі сябрамі БНФ ) працаваў такой пячаткай, «факсіміле Анцулевіча», каб зацьвердзіць ягоным подпісам 450 000 подпісаў

грамадзян Беларусі.

Прапанова на *Рэфэрэндум 1992*

*Ці лічыце Вы неабходным правядзеньне ўвосень 1992 года выбараў у вышэйшы орган дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь на падставе "Закона аб выбарах народных дэпутатаў Беларусі", праект якога ўнесены Апазіцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце, і ў сувязі з гэтым, датэрміновы роспуск цяперашняга Вярхоўнага Савета?"*

Вось так некаторыя «былыя» апісваюць тую сітуацыю.

*«13 красавіка 1992 г. у Цэнтральную камісію па выбарах і рэфэрэндумах (ЦВК) было пададзена звыш 440 тысячаў подпісаў грамадзян (закон патрабаваў 350 тысяч)."* *"Старшыня Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч меў права і мусіў склікаць сэсію ВС, на якой павінна была быць прызначана дата рэфэрэндуму. Аднак гэта не было зроблена.".* *"Некалькі месяцаў Шушкевіч, які меў неабмежаваны доступ да СМІ, займаўся (нароўні з прапагандысцкай машынай прэм'ер-міністра Кебіча) дыскрэдытацыяй ідэі рэфэрэндуму і новых выбараў. У выніку намэнклятура атрымала час для кансалідацыі."*

"*...формула ж апазыцыі БНФ палягала ў тым, што толькі новы дэмакратычны Вярхоўны Савет павінен прымаць новую Канстытуцыю."*

"***Жыцьцё*** *паказала, хто меў рацыю: Вярхоўны Савет, абраны яшчэ ў камуністычны час, адмовіўся ад палітычных і эканамічных рэформаў і прыняў Канстытуцыю з прэзыдэнцтвам, якое імгненна трансфармавалася ў аўтарытарызм.".* *"Праўда, значна пазьней у адным з інтэрвію Станіслаў Станіслававіч назваў больш празаічную прычыну сваёй пазыцыі. "Тыя наіўныя прапановы, што былі з боку БНФ –"Вярхоўны Савет у адстаўку"... Гэта я павінен уносіць такую прапанову? Я старшыня, і я павінен такое прапаноўваць? Дык*

*яны мне скажуць: "Навошта ты нам такі патрэбны, мы зараз новага абярэм".»*

Словы С.Шушкевіча можна зразумець так: «***Я буду сядзець на цёплым месцы і максімальна прыстасоўвацца, каб сядзець доўга***». Відавочны, абсалютны эгаізм чалавека, які цынічна гаварыў аб Дэмакратыі. Больш таго, Станіслаў Шушкевіч хлусіць, калі ўспамінае важныя моманты ў гісторыі Беларусі. Сяргей Навумчык, дакументальна, тоя даказаў. Я падтрымліваю выснову Сяргея. Больш таго, і сама «дэмакратычнасьць» Шушкевіча вельмі дзіўная, глядзіце частку «БРФПДР». Я таксама не выключаю, што Шушкевіч быў «сексотом КГБ». І зноў чытайце ўспаміны Сяргея Навумчыка.

Мы, актывісты БНФ, зрабілі максімум, подпісы сабралі і яны былі зарэгістраваны ЦВК.
Але, як гаварылі дэпутаты ад БНФ, Станіслаў Шушкевіч, старшыня ВС Беларусі, не захацеў тэрмінова прызначаць сесію ВС каб зацьвердзіць волю Народа, выкарыстаць «палітычны момант», як і ў жніўні 1991 года.
Я таксама, перакананы, што тэрміновая сэсія ВС і людзі на Плошчы , крызысныя сітуацыя ( і гаспадарчая) ў краіне змусіла бы камуністаў ( як і 25.08.1991) выканаць Закон. У палітыцы, як і на вайне, вельмі важны час пачатку «аперыцыі».
На жаль , Зянон Пазьняк, спадзяваўся толькі на сваю асабістую сілу, а была магчымасьць  сабраць подпісы УСІХ дэмакратычных дэпутатаў ( ня толькі ВС) пад Лістом да Станіслава Шушкевіча, старшыні ВС

Беларусі, з патрабаваньнем прызначыць Рэфэрэндум. Але тады Станіслаў Шушкевіч катэгарычна адмовіўся, бо не была ціску на яго. Потым, у 2012, ён, фактычна, сказаў , што хацеў застацца на Пасадзе як можна даўжэй, то бок эгаізм асобы перамог клопат аб Радзіме.
Але і БНФ, арганізацыя, не абараніў ( **не была вулічных пратэстаў**), 450 000 подпісаў грамадзян за прапанаваны Рэфэрэндум 1992.

Кіраўніцтва БНФ , арганізацыі, не захацела падрыхтаваць і зладзіць вулічныя дэманстрацыі, пікеты, мітынгі каб абараніць подпісы грамадзян, гонар грамадзян.

У выніку, бяздзейнасьць БНФ адкінула ад Арганізацыі вялікую калькасьць прыхільнікаў. «Фронт» разваліўся. Народ Беларусі пабачыў: БНФ – слабы. Гэта была найвялікшай паразай Дэмакратыі.

1992 г.

# Грамадзяне Беларусі!

Мы стаім на мяжы жабрацтва. Эканоміка Беларусі зьнішчаецца. Яшчэ два гады таму на рубель выплачанай зарплаты ў Рэспубліцы выраблялася тавараў на 2 рублі, і былі ўсе магчымасьці ўдвая палепшыць жыцьцёвы ўзровень народу. Ужо тады Беларускі Народны Фронт прадбачыў развал Саюза, крах ягонай гаспадаркі і прапанаваў рашучыя захады, каб ўратаваць беларускую эканоміку. Галоўны спосаб абароны насельніцтва Рэспублікі ад непрадказальнай палітыкі суседніх дзяржаваў — умацаваньне незалежнасьці. Гэта ўласныя грошы, мытная служба, войска... Паводле разьлікаў спецыялістаў, Беларусь, якая мае разьвіты гаспадарчы комплекс, кампактную тэрыторыю, надзвычай выгаднае геаграфічнае становішча, працаздольны і таленавіты народ, магла б за 8 гадоў наблізіцца да ўзроўню жыцьця эўрапейскіх краін.

Аднак два гады Вярхоўны Савет і Ўрад цягнуцца ў хвасьце суседніх дзяржаваў. У выніку Беларусь нясе мільярдныя страты, гіне эканоміка, растуць цэны. Спыняюцца заводы. Неўзабаве пачнуцца масавыя звальненьні працоўных. Нам пагражае эканамічны паралюш, калі ня будзе ні працы, ні тавараў, ні грошай. Вось вынік палітыкі «мы пойдем вслед за Россией»! Куды?!

Тым часам кіраўнічая наменклатура, перасеўшы з кабінэтаў ЦК ў кабінэты Саўміна і Вярхоўнага Савету, праводзіць «дзікую» прыватызацыю, ператвараючы агульнанацыянальнае багацьце ў сваё ўласнае. Гэтае злачынства выклікае абурэньне сумленных людзей. Узрастае напружанасьць, узьнікае пагроза сацыяльнага выбуху.

У гэтых умовах адзінае выйсьце — тэрміновы роспуск наменклатурнага Вярхоўнага Савету. Трэба стварыць новы, прафесійны вышэйшы орган улады і Ўрад народнага даверу, якія пачнуць хутка ажыцьцяўляць праграму выхаду з крызісу. Адпаведная канцэпцыя эканамічнага разьвіцьця Рэспублікі створана ў Апазіцыі БНФ.

Мы прапануемісьці да роспуску ВС і новых выбараў законным шляхам — шляхам рэферэндуму. Рэферэндум — гэта адзіная магчымасьць цывілізаваным спосабам высьветліць думку грамадзян: ці падтрымліваюць яны палітыку цяперашніх уладаў, ці выказваюць уладам недавер?

Для таго, каб правесьці такое галасаваньне (рэферэндум), трэба папярэдне сабраць 350 000 подпісаў. Заклікаем грамадзянаў Беларусі падтрымаць гэтую ініцыятыву і паставіць свае подпісы за правядзеньне рэферэндуму.

Ніжэй разьмешчаны бланк падпіснога ліста. Калі Вы згодныя падтрымаць ініцыятыву аб правядзеньні рэферэндуму, запоўніце, калі ласка, гэты бланк, акуратна і дакладна запісаўшы ўсе пазначаныя там дадзеныя, якіх патрабуе Закон аб рэферэндуме, і пастаўце асабісты подпіс. Прапануйце зрабіць гэта членам Вашай сям'і (старэйшым за 18 гадоў), Вашым суседзям.

Пры гэтым памятайце, што падпісацца аднаму чалавеку можна толькі адзін раз. Нельга падпісваць гэты ліст, калі Вы падпісалі іншы! Калі хто паставіць подпіс двойчы, або напіша несапраўдныя дадзеныя ці падробіць подпіс, ён, паводле Закону, можа быць прыцягнуты да адказнасьці.

Ліст з подпісамі або чысты бланк, калі Вы ўстрымаліся, вярніце, калі ласка, чалавеку, які Вам яго даў. Зрабіце гэта тэрмінова, не трымайце ў сябе ліст даўжэй за 1—2 дні.

Вельмі ўдзячныя Вам за падтрымку.

*Ініцыятыўная група рэферэндуму.*

---

## ПАДПІСНЫ ЛІСТ

у падтрымку прапановы аб правядзеньні рэферэндуму па пытаньню:

**«Ці лічыце Вы неабходным правядзеньне ўвосень 1992 года выбараў у вышэйшы орган дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь на падставе «Закона аб выбарах народных дэпутатаў Беларусі», праект якога ўнесены Апазіцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце, і ў сувязі з гэтым, датэрміновы роспуск цяперашняга Вярхоўнага Савета?»**

Збор подпісаў праводзіў член ініцыятыўнай групы ______________ (прозьвішча) ______________ (імя) ______________ (імя па бацьку)

(пасьведчаньне аб рэгістрацыі ініцыятыўнай групы рэферэндуму №1 выдадзена цэнтральнай камісіяй па рэферэндуму Рэспублікі Беларусь)

| Прозьвішча, імя, імя па бацьку (поўнасьцю) | Дата нараджэньня | Месца жыхарства (поўны адрас) | Пашпарт (серыя, нумар) | Дата падпісаньня | Подпіс |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |
| | | | | | |
| | | | | | |
| | | | | | |
| | | | | | |

Усяго подпісаў:



Старшыня ініцыятыўнай групы ______________ *У.Анцулевіч*

М.П.

Член ініцыятыўнай групы



Кадр з фільму «Прысяга,1992». Валеры Грыцук ( першы)

Марш БЗВ, 1992 год

*Выснова.*

У 1992г. кіраўніцтва БНФ, З.Пазьняк, перадусім, таксама і дэпутаты ад БНФ, зрабілі стратэгічную памылку: не абаранілі 450 000 подпісаў грамадзян за Рэфэрэндум . БНФ- арганізацыя не паказала спробу актыўнай абароны і гэта быў пачатак занепаду масавага Руху -- БНФ. Грамадзяне палічылі, што БНФ падмануў іх. Мне асабіста гэта нагадвалі жыхары таго ж Уручча ажно 10 гадоў.
Другая стратэгічная памылка БНФ і, асабіста, Пазьняка, тоя, што дэпутаты ад БНФ не пакінулі ВС у 1992, не актывізавалі працу з народам, Дэпутаты ад БНФ павінны былі пакінуць ВС, альбо фізічна, а мо нават , і фармальна. Тоя, што З.Пазняк ЦАЛКАМ засяродзіўся на дэпутацкай дзейнасьці была галоўнай паразай БНФ, такім чынам ён замарозіў дзейнасьць арганізацыі БНФ «Адраджэньне».(Бяз яго ў БНФ нічога нават не абмяркоўвалася). Больш таго, такой дзейнасьццю ( у 2012 годзе сам пацьвердзіў тоя) даў аргументы ворагам беларусаў, аб «насильственной белорусизации страны», што дазволіла прэзідэнту Александру Лукашенко правесьці антыканстытуцыйны Рэфэрэндум 1995г. аб (фактычнай) дыскрымінацыі беларускай мовы.
А таму ёсьць ( і ў тых падзеях) значная віна З.Пазьняка, старшыні БНФ “Адраджэньне” і ягоных намесьнікаў, таксама як і дэпутатаў ад БНФ. Апраўданьне таго, што сябры БНФ засталіся ў ВС і дапамагалі «беларусізацыі», я не лічу слушнай. Больш таго, звяртаю выключную ўвагу, менавіта «такая»

беларусізацыя дазволіла Лукашенко зрабіць рэфэрэндум у 1995 годзе.
А раней ( 1991) была ініцыятыва «Дэмакратычнай плятформы»,таксама і Генадзя Грушавога, аб самароспуску Вярхоўнага Савета.. Зянон Пазьняк быў катэгарычна супраць.. Дарэчы , звышамбіцыёзнасьць ЗП разбурыла і саму «Дэмакратычную плятформу», дзе ўсе павінны слухаць толькі яго. Мне распавядалі дэпутаты ВС.
Бадай , ён баяўся, што больш яго не выберуць дэпутатам. Гэта яшчэ адзін «дзіўны факт» для гісторыка ЗП ( можа таму, што ён быў толькі гісторык-«тэатразнаўца»), калі палякі, змагары за Вольнасьць першым Прэзыдэнтам Польшчы выбралі камуністычнага злачынцу , генерала Ярузельскага.

## Прысяга. БФПДР.

1992 год быў вельмі напружаны. В.Кебіч ( старшыня СовМін-а) хацеў аб'яднаньня з Расіяй, хацеў мець расійскі рубль ( «единую валюту») для Беларусі. Адпаведна, дэмакратычныя грамадзяне вырашылі паказаць свой пратэст супраць здрады Радзімы. Найбольш яскрава гэта была паказана праз стварэньне БЗВ (Беларускае Згуртаваньне Вайскоўцаў) і ганаровае прыняцце Прысягі для абароны Беларусі. Асноўным арганізатарам гэтых падзей быў Мікалай Статкевіч, вайсковец, падпалкоўнік. Я далучыўся да БЗВ і прыняў Прысягу. Ёсьць відэафільм «Прысяга», я стаю ў першым шэрагу, у светлай куртцы, з «пагонамі». Фармальна ( быў запісаны) я быў нейкім кіраўніком раённага адзела БЗВ, я меў абавязак захоўваць спісы

усіх сяброў БЗВ, жыхароў Першамайскага раёну гор. Менска. Але каб была нейкая рэальная дзейнасьць БЗВ у Раёне – гэтага я не памятаю. Мікола Статкевіч да мяне таксама не звяртаўся з прапановамі. «Спісы» былі ў мяне...

## Дэпутацкі Клюб г.Мінска -- першая спроба.

У 1992г. Я быў актыўным удзельнікам стварэньня **Дэмакратычнага Дэпутацкага Клуба г.Мінска.** Дэпутаты Менскага гарадскога Савета дэпутатаў і Саветаў дэпутатаў раёнаў Менска сабраліся ў будынку Мінгарвыканкама. Пагаварылі, нібы абралі кіраўніцтва і .... разышліся.. Больш у такім складзе мы не збіраліся, збіраліся купкамі, але арганізацыя «Дэмакратычны Дэпутацкі Клуб г.Мінска» не была створана. Такім чынам, Дэпутацкі Клюб г.Мінска не быў створаны. Чаму? Бадай таму, што «ініцыятары» не падзялілі «портфели».
Але я там пазнаёміўся з іншымі дэпутатамі, у тым ліку, з дэпутатам Менскага гарадзкога Савета дэпутатаў, Георгіям (Жорай) Куневічам.
Вось, менавіта ён і запрасіў мяне дапамагчы стварыць грамадзкую арганізацыю, якая бы прапагандавала ідэі і дэмакратычныя формы працы ворганаў мясцовага самакіраваньня, мясцовай улады.. Я пагадзіўся, пачалася праца над статутнымі дакументамі і збіраньнем вядомых людзей для рэгістрацыі Арганізацыі, БФПДР, Беларускі Рэспубліканскі Фонд Падтрымкі дэмакратычных РЭФОРМАЎ. Пазней наш Фонд змяніў назву на Фонд імя Льва Сапегі.

**БФПДР, Беларускі Рэспубліканскі Фонд Падтрымкі дэмакратычных рэформаў.**

Мы стваралі рэспубліканскую арганізацыю, для дзейнасьці па ўсёй краіне. Але як знайсьці людзей? Перадусім, мы (ініцыятары) хацелі сабраць дэмакратычных дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў. Ну тады ў СМІ быў «разгул Дэмакратыі» (па словах вядомага дыктатара), у газетах, нават мясцовых, друкаваліся розныя думкі. Былі размовы журналістаў з дэмакратычнымі дэпутатамі. Вось таму я і вырашыў шукаць сяброў для Фонду ў газэтах.
Я вышукваў у раённых газэтах «дэмакратычных дэпутатаў», складаў спісы і перадаваў Куневічу, пісаў лісты «кандыдатам», ці тэлефанаваў ім. Такім шляхам я «дайшоў» і да Віцебска. Дзейнасьць дэпутатаў Віцебскага гарСавета мяне вельмі зацікавіла , а таму я зкантактаваўся з імі. Праз нейкі час мы дамовіліся аб сустрэчы. На сустрэчы, у будынку Віцебскага гарСавета мы стварылі Віцебскую філію БФПДР, яе ўзначаліў Хрыстафор Жаляпаў, дэпутат Віцебскага гарСавета. І вось гэтая Віцебская Філія , створаная маей ініцыятываю,засталася «жывой» ( адзіная) і да гэтага часу. Безумоўна, то,перадусім, дзякуючы працы і энтузыязму Хрыстафора Жаляпава. Разам з Куневічам мы былі на сустрэчах з мясцовым дэпутатамі ў іншых гарадох, у тым ліку, у маім родным Кобрыне. На сустрэчы ,у гарадзкім Доме Культуры прысутнічала мясцовае начальства і дэпутат ВС ( ад Кобрыня) Віктар Кучынскі. На жаль, кобрынскія дэпутаты не падтрымалі наш Фонд.

Вельмі дапамог у тыя часы Фонду вучоны і бізнесмен , «хімік», Яўген Рахманько.Увогуле добры чалавек Яўген, дэмакрат, Беларус.

У Фондзе мяне абралі Адказным Сакратаром. Фармальна – гэта была другая кіраўнічая пасада. Але я не імкнуўся «камандаваць» у Фондзе--- у мяне была навуковая праца ў АН РБ, кіраваў «чарнобыльскай праграмай» у Інстытуце.
Але, для сябе, я паставіў задачу: прапагандаваць ідэі Фонду. Сустракаўся з журналістамі, пісаў артыкулы ў СМІ. Напісаў вялікі артыкул аб сутнасьці мясцовага самакіраваньня ў новы часопіс, «Беларуская думка».
Я быў таксама запрошаны на сустрэчу з вялікім гуманістам, Джорджам Сорасам, калі ён быў у Менску. На той першай сустрэчы ( былі яшчэ, пазней, тры сустрэчы), якая адбывалася ў гатэлі, каля былога будынка ЦК КПБ (зараз «прэзідэнта») я доўга размаўляў (адзін на адзін) з Джорджам Сорасам. Зразумела, што я распавёў яму аб нашым Фондзе, таксама яго зацікавіў стан навукі у б.СССР. Я скарыстаўся яго зацікаўленасьцю, а таму я прапанаваў яму падтрымаць фінансава гаротных, бедных, навукоўцаў. Мы нават паспрачаліся адносна сэнсу такой дапамогі. Але потым, я мяркую, што Джордж Сорас узгадаў нашу размову і выдаў вялікай колькасьці навукоўцаў ( ня толькі ў Беларусі) па 100$ разавай дапамогі. (1993 год) Я, навуковец, такую дапамогу не атрымаў, бо мне кіраўніцтва АН РБ не паведаміла аб гэтай «акцыі».
Але БФПДР хутка атрымаў даволі вялікі грант ад Джорджа Сораса. Для мяне таксама і тут даляраў «не

хапіла». Прасіць для сябе , я не прашу, і не люблю прасіць, а хадзіў я «у Фонд» толькі пасля маёй асноўнай працы, то бок, калі ўжо «грошы былі падзелены».
Калі падсумаваць, кіраўнік Фонду, Георгій Куневіч, а потым , Міраслаў Кобаса мяне пакрыўдзілі. Даляраў ад Фонду я не меў, у заграінчныя падарожжы мяне не запрашалі. У той жа час, большасьць сяброў для Фонду знайшоў і запрасіў у Фонд менавіта я. Асноўную рэкламу Фонду, на пачатку, зрабіў таксама я. Няхай гэта будзе на сумленьні Куневіча і Міраслава Кобаса. Адзіная, што прыемна мне ўспомніць, тоя як Куневіч дамовіўся з польскім бокам і прапанаваў мне паехаць у Познань на з'езд усёй мясцовай улады Польшчы і на канфэрэнцыю , у Беласток.
Але пасля перамогі «саўкоў» у 1994г. Фонд Сораса хутка вымушаны быў пакінуць Беларусь. З другога боку з'явіліся іншыя крыніцы фінансаваньня.
Жора Куневіч , на жаль , разбэсціўся вялікімі грашыма, а таму пачаў кіраваць як дыктатар, сябрам Фонду гэта не падабалася. Міраслаў Кобаса разам з Андрэям Завадскім пачалі рыхтаваць «палацавы пераварот» , у патаемку, таксама і ад мяне. Але трэба была прызначыць з'езд сяброў Фонду. Прызначыць з'езд можна была толькі рашэньнем Праўленьня Фонду, якое , у сваю чаргу, збірае (і кіруе) Старшыня Фонду,то бок, Жора Куневіч. Жора ведаў «чым пахне», а таму адмовіўся збіраць Праўленьне. Пасяджэньне Праўленьня ( згодна са Статутам) мог правесьці і Адказны Сакратар, то бок, я . Міраслаў Кобаса папрасіў мяне правесьці пасяджэньне Праўленьня каб прыняць неабходныя дакументы да з'езду і прызначыць

дату самога з'езду . Кобаса і К$^{o}$ напярэдадні Праўленьня , мне дакументы не прапанавалі паглядзець. І гэта пры тым, што там была закладзена скасаваньне маёй «пасады». Я, канешне, мог запатрабаваць праекты дакументаў на з'езд, але не хацелася сваркі і «разборак», таму я пагадзіўся, і мне метады Жоры абрыдлі.
З другога боку, мне вельмі не спадабалася нахабства Мірслава. На той час, шэраговы сябра Праўленьня, Міраслаў Кобаса спрабаваў старшынстваваць на пасяджэньні Праўленьня, адсоўваў мяне, што парушала наш Статут. Можа ён мяне лічыў «за дурня», які нічога не разумее.. Я мог у кожны момант закрыць пасяджэньне Праўленьня і з'езд не быў бы прызначаны. Для мяне паўстала Дылема: што рабіць ? Так, тады, Міраслаў Кобаса абразіў мяне, але я «праглынуў», бо я хацеў каб Фонд і надалей працаваў эфэктыўна. Я палічыў, што Кобаса – гэта «меньшае зло».
На з'езде ( які таксама вёў я, старшынствую) мая пасада , «Адказны Сакратар» была зліквідавана. Але я ніколі не прагнуў «Пасады»,
бо я РАБЛЮ СПРАВЫ НЕ ДЛЯ СЛАВЫ, і асабістай карысьці, а толькі для карысьці агульнай.

Міраслаў Кобаса ператварыў Фонд , у большасьці, у месца працы для сябе і яшчэ некалькіх чалавек. Сёньня Фонд – гэта адзінае месца працы для Міраслава Кобаса, то бок, крыніца «кармёжкі», ну і, па неабходнасьці (для афармленьня грантаў) кармленьне «экспертов». На маю думку беларускія «эксперты» нічога новага не змогуць прапанаваць Беларусі.
Самакіраваньне для дыктатуры не патрэбна, неабходна

толькі «вертикаль» («ствол» з редкими «ветками»). Так, канешне, Фонд змог надрукаваць даволі шмат экспэртных матэрыялаў, кнігі на рускай мове. Але я лічу, што можна была зрабіць значна больш. Асабліва мне не падабаецца, што вялікую колькасьць «палатнікаў» (членов так называемаго «парламента») Кобаса, праз Фонд, «свозил в туристические поездки» у Эўропу. Зразумела, што гэтыя «туристы» аніяк не дапамаглі «дэмакратызацыі Беларусі», але ( можа) дапамаглі захаваць рэгістрацыю Фонда. Так, захаваўся Фонд, у 2012 годзе, была гадавіна – 20 год дзейнасьці.
Але вынікі дзейнасьці Фонду сумныя і малазначныя. Праграму Фонду мы не выканалі і не «заразілі» ідэяй самакіраваньня насельнікаў Беларусі, а тым больш «вертикальшчиков», ці «палатников».
У сувязі з тым, што ў гэтым годзе (2013) Станіслаў Шушкевіч вельмі актывізаваўся, я нагадаю адносна ягонай «дэмакратычнасьці». Мы, Фонд, ад пачатку (1992) пісалі лісты да Старшыні ВС, Станіславу Шушкевічу, з прапановай сустрэцца і абмеркаваць нашыя прапановы па рэформе сістэмы мясцовага самакіраваньня. Станіслаў Шушкевіч не пажадаў нам адказаць. Але, калі адчуў , што ягонае «крэсла» хістаецца (пасля першага галасаваньня супраць яго), то пагадзіўся на кароткую сустрэчу, якую ён проста «адсядзеў». Адпаведна, ён, Старшыня ВС, не даў даручэньня Камісіі ВС папрацаваць з нашымі прапановамі.

## Змаганьне за Пашпарт

Жора Куневіч прапанаваў мне (1992 год) паехаць на

канфэрэнцыю ў Беластоку, Польшча. Але ж я не меў заграніічнага пашпарту.У Беларусі працягваў яшчэ ўсюды існаваць СССР з адпаведнымі завядзёнкамі. Нават у 1993 годзе, калі (па патрэбах Фонду) у 1993 годзе я ездзіў па Менскай вобласьці, у выканкамах раёнаў, мне ставілі пячатку з гербам БССР, на камадзіровачнае пасведчаньне.

Дык вось, напісаў я «заяву» на пашпарт, але ж я - дэпутат, а таму начальнік міліцыі Першамайскага р-ну прапанаваў мне дапамогу «паскорыць атрыманьне заграніічнага пашпарту», я не адмовіўся.
Даваць звесткі аб сабе я пайшоў у гарадское «КГБ», бо бяз «полной информации» пашпарт мне нельга выдаваць (Інструкцыя НКВД-КГБ). Я, канешне, даў інфармацыю аб сабе, аб маіх бацьках і... Далей афіцэр “КГБ” запатрабаваў ад мяне інфармацыю аб маіх дзядулях і бабулях..(!!!??????) Тут я не вытрымаў і нагадаў афіцэру які зараз год і, тоя, што ён не ў СССР, а зараз працуе на Рэспубліку Беларусь, суверэнную дзяржаву. Я сказаў што гэтую інфармацыю я даваць ня буду з Прынцыпу! Акенца зачынілася. Хвілін праз 5 акенца «канторы» адчынілася і афіцэр падаў мне паперы, дзе была запісана мая інфармацыя (бяз дзядуль і бабуль) , я распісаўся. Афіцэр сказаў: «Вы свободны. Ждите приглашения». Я не ведаю, што вырашыла «справу», але праз 3 дні атрымаў заграніічны пашпарт (чырвоны СССР-скі) у Міністэрстве замежных спраў РБ. Праз наступныя тры дні я быў ужо ў незалежнай Польшчы, першы раз за межамі СССР, зараз і Рэспублікі Беларусь.
Дазвольце тут узгадаць яшчэ раз Польшчу--- вельмі

эмацыйны і ўрачысты момант.  У тым жа , 1992, мяне выправілі (ад БФПДР) яшчэ раз у Польшчу, Познань, на нараду (канфэрэнцыю) усёй польскай улады. Я быў разам там з нашым сябрам з Брэста. І вось заля канфэрэнцыі. Пачалося. І вось я раптам чую, слова «Бяларусі», то абвесьцілі, што прысутнічае дэлегацыя беларускіх дэмакратаў. ...Мы (удвох) усталі, каб паказацца людзям. І тутака,усе (каля 3000 ) прысутных кіраўнікоў польскай улады ад войта да прэзыдэнтаў гарадоў і міністраў урада Польшчы ўсталі і горача віталі нас (БЕЛАРУСАЎ) працяглымі воплескамі.. У мяне нават слёзы ў вачох стаялі. Дзякуй ім.
Дзенкуе панове-- то памёнтам цалэ жыце.
Але пазней, я сустрэў і іншых палякаў ад улады , палякаў-шавіністаў, які мне вельмі перашкаджалі змагацца з дыктатурай Лукашенко.

**1993  год**

**і маё пытаньне**

Цікава была мне ( і ня толькі мне) паглядзець на беларусаў- эмігрантаў, якія вымушаны былі пакінуць Беларусь у 1944 годзе. У ліпені 1993 новая беларуская арганізацыя "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" змагла правесьці ў Менску І з'езд беларусаў Свету. Прыехалі беларусы са ЗША, Эўропы і нават з Аўстраліі. З некаторымі я паразмаўляў. Памятаю, што Вітаўту Кіпелю я прапанаваў арганізаваць «Праграму навучаньня беларускай моладзі на Захадзе», але не меньш чым на 5000 чалавек. Ён адмовіўся.
Я не прысутнічаў увесь час на пасяджаньнях з'езду

( былі справы) , але некаторым беларусам-эмігрантам я распавёў і аб стварэньні Беларускага Рэспубліканскага Фонду Падтрымкі дэмакратычных рэформаў. Выбачайце, не памятаю зараз прозвішча, нейкая жанчына-эмігрантка дала мне , на Фонд, 20 даляраў. Даляры я аддаў Жоре Куневічу.

Пасля 25 жніўня 1991, у часы з'езда беларусаў Свету панаваў святочны радасны настрой сярод беларусаў.

Адчуваў Свята і я.

Але крыху пазней, жорсткая рэчаісьнасьць хутка знішчыла гэты святочны настрой.

1993 год для БНФ быў годам разгубленнасьці і пасіўнасьці і, нават чарговы з'езд БНФ не «ажывіў» дзейнасьць сяброў Фронту. На гэтым жа з'езде я запытаў З.Пазьняка , што калі я вылучу сваю кандыдатуру на пасаду Старшыні БНФ... Ён мне сказаў, што гэта вельмі адказная і «цяжкая» пасада.. На гэтым размова скончылася, але ( пазней) я зразумеў, што Зянон ужо пабачыў ва мне Канкурэнта.

Можа і па гэтай прычыне Пазьняк і , адпаведна, загіпназаваныя Лідэрам, дэлегаты не прынялі маю прапанову зрабіць галоўны заклік для БНФ:

Мы за БЕЛАРУСЬ СУВЭРЭННУЮ НЕЗАЛЕЖНУЮ ДЭМАКРАТЫЧНУЮ БАГАТУЮ.

«Падзея» 1995 года маю выснову цалкам пацьвердзіла.Але я не дамагаўся палітычнага лідэрства --- я яшчэ хацеў быць Вучоным.

Пасля з'езду я паразмаўляў з Пазьняком і прапанаваў яму зладзіць , праз БНФ, шырокую шматмесячную Кампанію па тлумачэньню грамадзянам вялікай шкоды,

для здароўя людзей ,радянуклідаў (радыяцыі). Я нагадаю, што я , асабіста, меў ужо шматлікія прыклады радыяктыўных прадуктаў, якія я правяраў у нашым «Пункце» у мікрараёне «Уручча». Зянон адмовіўся падтрымаць маю прапанову. Я лічу, што тоя была наступнай вялікай памылкай для БНФ.
Была спроба БНФ арганізаваць антыкарупцыйны мітынг у Менску, у ліпені. Але акцыя не атрымалася. На пляцу каля Дома афіцэраў сабралася ня больш за 100 чалавек.

Дэпутаты БНФ , па-ранейшаму, сядзелі ў ВС, спрабавалі , канешне, ўплываць на прыняцце законаў, але марна, бадай, толькі «Закон аб міліцыі», быў , у значнай частцы, прыняты з «БНФ-кага тэксту». Дарэчы, потым ( і зараз) менавіта гэты Закон і б'е апазыцыянераў, праз сведчаньне міліцыянтаў у судзе. \\У Законе СССР тоя забаранялася\\\.
З другога боку, не чуваць была ( зразумелай для насельніцтва мовай) прапановы з боку дэпутатаў БНФ па вырашэньню эканамічных праблемаў.А інфляцыя ў тыя часы была 1290 працэнтаў.
Так, канешне , былі прапановы дэпутата Заблоцкага, але простым людзям яны былі незразумелыя.

## Канстытуцыя

Пад час абмеркаваньня праекту Канстытуцыі, мне была незразумела: чаму З.Пазьняк і іншыя БНФ-цы не запатрабавалі ад ВС, каб у Канстытуцыі, каб кандыдат на пасаду Прэзыдэнта Беларусі меў узрост **больш** за 40

гадоў? Не зрабілі «эфэктыўную псіхалягічную атаку» ? ( будачаму дыктатару у 1994г не была 40 гадоў). Для мяне гэта была вельмі дзіўна таму , што большасьць ( увогуле) дэпутатаў ВС якраз і была за «больш за 40 гадоў». І у той час ужо былі вядомы амбіцыі «калгасніка». Сведчыць таму і выступ Віктара Ганчара ў ВС. Пад час галасаваньня менавіта гэтага тэксту Канстытуцыі ( «.. 40 гадоў, 35..), Ганчар зрабіў псіхялягічную правакацыю, «*Вы, что боитесь Александра Лукашенко?*». А таму дэпутаты каб паказаць , ШТО яны «не баяцца» прагаласавалі за магчымасьць быць Прэзыдэнтам і для«калгасніка». Я зараз маю такі варыянт . ЗП і К$^{o}$ , яны думалі па-кітайску ,(калі два вялікіх звера б'юца, то трэці --- забірае здабычу) , то бок , АЛ <----- > ВК, а перамагае ЗП. Але , у рэальнасьці, не было «кітайскага варыянта»- было Неразуменьне БНФ-мі палітыкамі сітуацыі, ЗП і К$^{o}$ не зразумелі моц Лукашенко.

Я таксама, чуў , ад розных абазнаных у той сітуацыі, людзей, што Пазьняк і К$^{o}$ не ўспрымалі кандыдата Лукашенко сур'ёзнай праблемай. Дарэчы , сам ЗП (потым) ва ўспамінах, ускосна, гэта пацьвердзіў. Але я не маю публічнага адказу ад былых дэпутатаў БНФ і сёньня, магчыма , што ім сорамна, бо была вельмі простая магчымасьць спыніць тады знішчэньне Беларусі, якое зараз адбываецца праз дыктатара Алесандра Лукашенко. Адзінае, нядаўна былы дэпутат ад БНФ сказаў публічна, што ЎСЕ кандыдаты на пасаду Прэзыдэнта рэальна спадзяваліся на перамогу. Калі, «усе», адпаведна , і Пазьняк. ( для мяне – то жарт) Дык якія яны , ЗП і К$^{o}$ пасля гэтага палітыкі?

**Яны не змаглі зрабіць элементарны прагноз!** Але, бадай, розуму не хапіла.
Дарэчы, менавіта , я, адзіны БНФ-вец ( у Менску дакладна) хто агітаваў людзей супраць Лукашенко (1994), а таму мяне бабкі ( на пікеце) ледзь не пабілі. На магчымае пытаньне чытачоў.... адкажу так. У гэтым жа годзе (1993) я напісаў прыватны ліст Зянону Пазьняку, дзе параўнаў яго дзейнасьць з метадамі Гітлера, да тых людзей, паплечнікаў, якія яму дапамагалі. Я яму растлумачыў , чаму я ТАК напісаў. Так я напісаў вельмі жорстка, але я таксама хацеў зрабіць «псіхалягічную атаку». На той час, ЗП адсунуў ад сябе вельмі паважаных мной людзей, не слухаў іх парадаў. Фактычна грэбаваў імі, гэта тыя людзі , якія ўсё жыццё былі (і засталіся) «нацыяналістамі», напрыклад, Аляксей Марачкін. Потым я сустрэўся з Зянонам, але ён мне задаў толькі адно пытаньне : «Ты што звар'яцеў?».. Размаўляць, дыскутаваць, ён адмовіўся.
Дыктатары не дыскутуюць, дыялог ім не вядомы.
А таму, пакрыўджаны Зянон мае ,і надалей, парады таксама не слухаў. (але Час паказаў , што я меў рацыю). Дыялёгу не атрымалася і свае «метады» (метады лідэра секты) ЗП не змяніў.
Маю выснову пацьвердзіла галасаваньне сяброў БНФ на з'ездзе 1999г. На жаль, запозна.
Значна пазней, я напісаў ліст да ЗП (калі ён быў ужо ў Польшчы): я прапанаваў яму супрацоўнічаць, а каб яму была лягчэй пагадзіцца на маю прапанову, я папрасіў у хрысціяніна -католіка Зянона Пазьняка прабачаньня за мае непрыемные словы. Хрысціянін Зянон Пазьняк ані прыняў маі прабачаньня, ані захацеў

са мной сустрэцца -паразмаўляць. Вось такі «хрысціянін»! Вось такая «мараль» Пазьняка.
Але наступнай праверкай для арганізацыі БНФ --- былі выбары Прэзыдэнта Беларусі, 1994год.

## Дэпутацкі Клюб, спроба другая.

**Тады , у 1992 годзе,** арганізацыя «Дэмакратычны Дэпутацкі Клуб г.Мінска» не была створана. Але я адчуваў патрэбу ў каардынацыі дзейнасьці і абмену інфармацыі для дэмакратычных дэпутатаў г. Менска. Напрыканцы года, з дапамогай дэпутатаў раёнавых Саветаў народных дэпутатаў г.Менска, некаторых дэпутатаў гарСавета і дэпутата ВС Віталя Малашка я (нанова) стварыў, і зарэгістраваў, Дэпутацкі Клуб г.Мінска «Дэпутаты за Рэформы». Глядзіце фотакопію .
Дзейнасьць наша была , у асноўным, у абмене інфармацыі і абмяркаваньні сітуацыі ў Менску. Адзіны праект, які мы падалі ў Фонд Сораса, Алесь Анціпенка, (тады кіраўнік аддзелу ў Менску) адкінуў, але нашу ідэю канфэрэнцыі скраў. Новых праектаў для Клюбу я не пісаў, бо гэта вымагала часу, якога у мяне не было. Так, мы сустракаліся, размаўлялі, але большай актыўнасьці Клюбу не было.

## 1994
## Канстытуцыя. Выбары першага Прэзыдэнта Беларусі

***Дэпутацкі Клуб «Дэпутаты за рэформы» -- прапанова для Старшыні ВС РБ.***

У мінулым, 1993 , ВС працаваў таксама па стварэньне новай Канстытуцыі , ужо Рэспублікі Беларусь, сувэрэннай краіны. Адносна гэтай падзеі лепш распавядуць былыя дэпутаты ВС, але і на маё мяркаваньне, Канстытуцыя не была добра «упарадкавана», а , потым, і прынята «чыста», цалкам легітымна. Я ўважліва сачыў за падзеямі ў ВС, тым больш , што я меў права свабоднага ўваходу ў будынак СавМіна, адпаведна, сустракаўся з дэпутатамі ВС.
Тэкст Канстытуцыі мне не спадабаўся ,ў частцы «Прэзыдэнт», асабліва. На тле тых падзей , якія былі , можна была прагназаваць , што будучы Прзыдэнт можа істотна змяніць палітыку і сутнасьць дзяржавы. Сярод большасьці сяброў БНФ панавала думка (скінутая зверху), што «гэта» прыгатавана выключна для Кебіча.Так, дэпутаты ад БНФ былі супраць пасады «Прэзыдэнт», але змяніць сітуацыю яны не маглі.

У той жа час, я вельмі ўважліва слухаў выступы старшыні «антыкарупцыйнай камісіі» ад студзеня 1994г. На працоўным месцы ( у Акадэміі Навук), на стале, у мяне стаяла «радыёкропка», адпаведна, я мог выконваць сваю працу, якая ( часам) не патрабавала моцна «мазгоў» і слухаць радыё. Апасля 3-х месяцаў слуханьня гэтага «старшыні-калгасніка» ( сёньня, 2013, і ён яшчэ ён дыктатар РБ), я адчуў небяспеку для Беларусі. Будучы прэзыдэнт гаварыў дакладна пра тоя, што хацелі пачуць насельнікі Беларусі і, што ім «баліць», гаварыў «простым языком» і абяцаў пакараць усіх вінаватых у збядненьні «народа», «*выслаць 77 карупцыянеров на Гімалаі*»... А таму,тады , ужо (сакавік) я адчуваў, што гэты «гаварун» можа быць

абраны Прэзыдэнтам. Я размаўляў на гэтую тэму з сябрамі з нашага Дэпутацкага Клюбу, які быў створаны ў мінулым годзе. Думкі былі розныя, але была занепакоеннасьць. Я пачаў думаць адносна абароны канстытуцыйных свабодаў. У сакавіку я прапанаваў Старшыні ВС Мечыславу Грыбу падтрымаць ідэю стварэньня «Руху ў падтрымку Канстытуцыі». Была нагода--- «прямая лінія», якую арганізавала газэта «Звязда». Мечыслаў Грыб не падтрымаў гэтую ідэю, але ў сваей кнізе адзначыў гэтую, маю прапанову.

Артыкул ЗП супраць Расіі

Недзе у сакавіку 1994г. Пазьняк апублікаваў у «Народной газете» артыкул аб расійскім імпэрыялізме. Я прачытаў яго і зразумеў, што гэта будзе вялікая праблема для ўсяго БНФ, і , нават, беларусаў. (так і сталася, да гэтага часу расейцы вінаваць нас у «национализме»). На Сойме БНФ я жорстка раскрытыкаваў Зянона Пазьняка, за ягоную палітычны кароткі далягляд і неразуменьне сітуацыі ( геапалітыкі), у якой знаходзіцца Беларусь. Я скончыў свой выступ такімі словамі: «Зянон Пазьняк , як асоба , мае права публікаваць такія артыкулы, Зянон Пазьняк , як гісторык мае права публікаваць такія артыкулы. Але ,Зянон Пазьняк , дэпутат ад БНФ, і як Старшыня Беларускага Народнага (!!!) Фронту , НЕ мае права публікаваць такія артыкулы, бо яны шкодныя для іміджу Арганізацыі!».
Больш НІХТО з сяброў БНФ не выступіў: не падтрымалі мяне, але не падтрымалі (публічна) і Пазьняка. Пасля майго выступу была нейкая

«наэлектрызаваная» цішыня.
Гэты быў першы яскравы доказ ,што маё разуменьне сітуацыі, мой прагноз ёсьць 100% правільны! Але , такім чынам, я яшчэ больш дадаў негатыўных эмоцый ЗП супраць мяне. Але як казалі старажытныя грэкі: «*Платон мне сябра, але Ісьціна даражэй*!».
Мая дзейнасьць была моцная ня толькі ў словах.
Да таго часу, суполка БНФ ва Уруччы і, ўся арганізацыя ў Першамайскім раёне Менска, былі ўжо дастаткова моцныя, асабліва на тле прыязнай да БНФ мясцовай улады. Вельмі важную ролю мела мая асабістая , «уладная пазыцыя». На той час, камуністы такі пагадзіліся зацвердзіць мяне старшынёй дэпутацкай камісіі Савета дэпутатаў Першамайскага раёну. Нагадаю, я ўзначальваў «Камісію па захаваньню законнасьці, ахове правоў грамадзян, галоснасьці, вывучэньню грамадзкай думкі».
Згодна з заканадаўствам я меў даволі вялікую ўладу, перадусім, я меў права на сталы і поўны кантроль міліцыі. Я даволі часта праводзіў сустрэчы з супрацоўнікамі міліцыі і меў ў іх аўтарытэт, не гледзячы на тоя, што ,увесь час, была дзяржаўная прапаганда супраць БНФ.
Дэпутацкай дзейнасьці я прысвяціў асобную старонку.
Мой дэпутацкі статус дазваляў бяз перашкод заходзіць у будынак Вярхоўнага Савета, Савета Міністраў. Я даволі часта сустракаўся з дэпутатамі. Размаўляў я і з Віктарам Ганчаром, які мне не спадабаўся. В.Ганчар ,перадусім, быў супраць большай ролі мясцовых Саветаў дэпутатаў, фактычна, супраць мясцовага самакіраваньня. Але, я быў (і ёсьць) актыўным прыхільнікам дэмакратычнага мясцовага

самакіраваньня., бо быў адказным сакратаром Фонду імя Льва Сапегі, (раней была назва Беларускі Фонд Падтрымкі Дэмакратычных Рэформаў, БФПДР) і актывістам КГС. Пасля Рыгора (Жоры) Куневіча (ініцыятара) я быў самым актыўным дзеячом ( і стваральнікам) БФПДР, таму (нагадаю) я напісаў ( была апублікавана) шэраг артыкулаў на тэму мясцовага самакіраваньня для «Звязды», «Советская Белоруссия», «Народная газета» і часопіса «Беларуская думка». Вось тады, гэты часопіс , «на хвалі Дэмакратыі» надрукаваў, бяз цэнзуры мой вялікі артыкул аб сутнасьці мясцовага самакіраваньня. Я не бачыў, каб нехта яшчэ пісаў такія артыкулы, а шкада.
Такім чынам мая грамадзкая актыўнасьць была вельмі значная і забірала шмат часу, асабліва зменшалася мая навуковая дзейнасьць у Нацыянальнай Акадэміі Навук. Ад 1992 г. я быў выканаўцам і кіраўніком экалягічнай , «чарнобыльскай праграмы» ў сваім Інстытуце.
Таксама увесь час я мусіў пераадольваць супраціў мясцовых камуністаў, у маёй дэпутацкай дзейнасьці . Больш таго, трэба была пільна сачыць за падзеямі ў ВС. Сяргей Навумчык, які абяцаў дапамагчы сябрам БНФ з інфармацыяй аб дзейнасьці ВС, даручэньне БНФ не выканаў. Яму была даручана рабіць «бюлетэнь» -- «Навіны Вярхоўнага Савету» для сяброў БНФ.
Я увесь час памятаю і шкадую, што ў 1994г, дэпутаты ад БНФ, не зрабілі сваю “цудоўную псіхялягічную атаку” і не пакінулі ў Канстытуцыі 40 гадоў для кандыдата на пасаду прэзыдэнта, што дазволіла маладому балбатуну ўскочыць у крэсла Прэзыдэнта РБ. Вядома ( успаміны Сяргея Навумчыка), што ,

фактычна, Станіслаў Шушкевіч прапанаваў псіхічна хворага «колхозника» на пасаду «Старшыні антыкарупцыйнай Камісіі», што дазволіла гэтаму таленавітаму балбатуну на поўніцу выкарыстаць СМІ для будачай сваёй перамогі.
Такім чынам, тут, (і пасля здрады ў 1992г.) ужо можна акрэсліць Станіслава Шушкевіча як «Бацьку-Знішчальніка Беларусі»№ 1.( Лукашэнко -№ 2)
Але , у «нізе» БНФ, праца працягвалася ў змаганьні за Беларусь. Вось такая сітуацыя была нарярэдадніадні выбараў 1994.

## Выбары першага Прэзыдэнта Беларусі

ХТО быў кандыдатам на пасаду першага прэзыдэнта, напісана дастаткова.
Я, перадусім, хачу звярнуць увагу толькі на некаторыя моманты, якія вельмі блізкія для мяне. Кандыдатамі, якіх я мог падтрымаць былі Зянон Пазьняк і Станіслаў Шушкевіч( бо я яшчэ не разумеў тады ягоную асобу цалкам). Чуў я таксама і адносна «інтрыгі» па вылучэньню кандыдатам беларускага камуніста, але блізкага да дэмакратаў, Генадзя Карпенка. Са спадаром Карпенка я таксама сустракаўся асабіста, але размовы былі кароткія. Дарэчы ён падтрымліваў развіццё мясцовага самакіраваньня. Спадар Карпенка падтрымаў асабістым подпісам праект Дэпутацкага Клуба г.Мінска «Дэпутаты за Рэформы» па большай і лепшай інфармаваннасьці грамадзян. Мяне не цікавіла «інтрыга», таму я не ведаю падрабязнасцей, але чуў, што «заблакаваў» вылучэньне Генадзя Карпенка кандыдатам на прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, Алег

Трусаў. Зараз я думаю, што папрасіў яго зрабіць «блок» для Карпенка З.Пазьняк. Бо, то -- «канкурэнт», чалавек дэмакратычных поглядаў, ды бяз «карупцыі», як то (нібы) была для Станіслава Шушкевіча. У тыя часы, я цалкам меў давер да кіраўніцтва БНФ і дэпутатаў ад БНФ у Вярхоўным Савеце, а таму не цікавіўся «кухняй» вялікай палітыкі.
Пасля 2010 года пачалі публікавацца ўспаміны былых дэпутатаў ад БНФ у Вярхоўным Савеце, дзе апавядаецца, як яны знаёміліся з вопытам парламенцкай дзейнасьці іншых былых рэспублік СССР. Тады ў мяне ўзнікае пытаньне: чаму яны ( дэпутаты ад БНФ у Вярхоўным Савеце) не зрабілі аналіз пераемнасьці ўлады партыйнымі функцыянерамі ў былых рэспубліках СССР і не ўлічылі грамадзкую думку ў тых, новых краінах , адпаведна, зрабілі бы прагноз для Беларусі? Больш таго сярод дэпутатаў ад БНФ у Вярхоўным Савеце былі гісторыкі, якія ведалі добра трагічную гісторыю беларусаў, русіфікацыю і саветызацыю беларускага насельніцтва... Дык чаму, чаму палітыкі БНФ не «паставілі» на прагрэсіўнага, былога, члена КПСС, то бок Карпенка ? Так, гаварылі, ён мог «быць вельмі блізкім да Расеі»... Але ці бліжэй чым Кебіч, Лукашенко? Больш таго, я сам бачыў, што спадар Карпенка ішоў, паслядоўна, па дарозе да Дэмакратыі.
Вышэй я ўзгадаў вопыт польскіх дэмакратаў.
Можна і паглядзець на вопыт суседзяў, Украіну. «Проросийский, функционер» Леонид Кучма, пасля таго я заняў пасаду Прэзыдэнта Украіны , ўжо вядомы як «украінскі нацыяналіст».

Дыялектыка, думаць, аналізаваць – гэта павінна быць справай кожнага дня для тых Homo sapiens, хто займаецца палітыкай. Але, я ведаю з жыцця, што адна справа ---- Ведаць, і зусім іншая справа--- карыстацца ведамі.
Вось прыклад са штодзённага жыцця. Усе, Homo sapiens, хто вучыўся ў школе ведаюць што гэта такое «інэрцыя»... Але як назіраеш паводзіны людзей у грамадзкім транспарце ( у розных краінах), то нібы людзі і не ведаюць, што калі аўтобус робіць паварот, то трэба трымацца за нешта, бо па «інэрцыі» зваліўся.
Мая асабіста думка.
Перамог эгаізм і аўтарытарызм Зянона Пазьняка , які вельмі хацеў быць «кандыдатам на прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь» ( і марна спадзяваўся \!\ перамагчы..). То бок, уласныя амбіцыі Пазьняка перамаглі клопат аб лёсе Беларусі. Дарэчы , менавіта, звышамбіцыі ЗП развалілі «Дэмакратычную плятформу» у Вярхоўным Савеце і не адбыўся самароспуск ВС .
Але тады, я быў актывістам БНФ, які верыў кіраўніцтву БНФ. Я лічыў, што я павінен актыўна працаваць на «мясцовым роўні», а вышэйшымі справамі займаюцца іншыя лідэры БНФ.
А таму, менавіта, дзякуючы мне, была створана самая магутная рэгіянальная арганізацыя БНФ, у Менску, Першамайскім раёне.
Калі абвесьцілі выбары «Прэзыдэнта», то мы спачатку збіралі подпісы грамадзян за нашага кандыдата -Зянона Пазьняка. Тады подпісы збіраліся лёгка. А потым я пачаў арганізацыю самой выбарчай кампаніі, якая была паспяховай. Так канешне, шэраговыя сябры дапамагалі

ў агітацыйнай кампаніі, але яны былі толькі «нагамі», простымі выканаўцамі. Чаму мая кампанія была паспяховай ?
Бо гэтую «кампанію» я пачаў значна раней. Я эфэктыўна бараніў інтэрэсы жыхароў. Менавіта я стварыў самую моцную суполку БНФ у менскім мікрараёне ад 1990 года. Я ладіў "новагоднія ёлкі" для жыхароў "Уручча", з падарункамі «ад БНФ». Карацей, я працаваў на Перамогу ад 1989 ( стварэньне Камітэта Грамадзкага Самакіраваньня (і гл. таксама ніжэй-"галадоўка"). Маю працу кіраўніцтва БНФ не захацела пабачыць, а некаторыя сябры ( у апраўданьне сваёй няздольнасьці) гаварылі:" "Уручча" – то моладзевы раён!", то бок, жыхары , «аўтаматычна» прагаласавалі за кандыдата ад БНФ.Але такіх, у Менску, "моладзевы раён" была некалькі. Дык чаму там «БНФ» не перамог ?
Я маю поўнае маральная права акцэнтаваць на гэтым факце!
ТО, дзякуючы мне, у гэтым ,маім, раёне ( выбарчай акрузе) Пазняк (1994) быў «выбраны прэзыдэнтам». Але я , асабіста, (прыватна) быў супраць ягонай кандыдатуры, бо ведаў - будзе параза, грамадзяне Беларусі не выбяруць яго Прэзыдэнтам Беларусі.

ПАДМАН ЗП.

Нам ( рэгіянальным кіраўнікам) Зянон растлумачыў, што такім чынам ( ягоны ўдзел) мы "правалім" увогуле выбары Прэзыдэнта, але зробім добры PR для БНФ-выбараў 1995, у Вярхоўны Савет, у парлямент. Як гэта

была наіўна .. Але зараз вядома: Пазьняк нас падмануў. Я тады пагадзіўся на такі варыянт, паверыў і пачаў працаваць.
Таму, паўтару, менавіта, я , Грыцук Валерый Іванавіч, зрабіў( сваёй працай) кандыдата ад БНФ, Зянона Пазьняка, прэзыдэнтам , для жыхароў мікрараёну "Уручча", Менска , у 1994.(Гэта каля 30 000 жыхароў). http://grycuk.livejournal.com
Я думаю, што будзе цікава чытачам даведацца аб чынніках майго поспеху. Майго! Бо больш НІДЗЕ ( падтрымку «сваякоў» , трайбалізм, нельга лічыць) сябры БНФ не спрацавалі з пераможным вынікам.
**Чаму я змог арганізаваць перамогу Кандыдату ад БНФ?**
**Падсумуем.**
Я—прафесійны аналітык ад 1975, а апошнія 10 год – выключна ў палітычнай сфэры.
Ад 1992 да мая 2001г, я , фактычна, быў другой уладай у Першамайскім р-не горада Менску. З другога боку, па усёй Беларусі, была іншая сітуацыя. Чаму?
Бо не была такіх актыўных дэпутатаў-БНФ-цаў, не было і дэмакратычнага КГС, Камітэта Грамадзкага Самакіраваньня, у якіх «рэй вялі» сябры Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» .
У Пінску, напрыклад, былі «вообще демократы», які кіравалі мясцовым гарадзкім Саветам дэпутатам, але то «вообще демократы». Жыццё, гэтая «вообще» пацьвердзіла.
Мікрараён "Уручча", Менска , у 1994.(Гэта каля 30 000 жыхароў). Жылі там розныя людзі, ад афіцэрах розных ( нават і КДБ) , навукоўцаў , ды "работяг" вельмі звязаных з вёскай. Але я працаваў там з гэтым

насельніцтвам ад 1989г, бязперапынку! Вынік ---- Пазьняк там перамог і Лукашенко і Кебіча. Адзіная акруга, дзе была арганізавана кампанія па тэхнялёгіі PR і, якая грунтавалася на маёй асабістай дзейнасьці , за кандыдата БНФ! Доказ , эфэкту менавіта маёй працы, то – 1995. Мінула толькі 12 месяцаў!
І вось праз 12 месяцаў , у тым жа «БНФ -скім Уруччы” Сяргей Навумчык, сакратар Зянона, малады дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі , прайграў абсалютна невядомаму камуністу, з непрыгожым прозвішчам, Казлоў. Фальсіфікацый “галасоў” не было., бо я тады перамог у выбарах у менскі гарСавет. Я не дапамагаў Навумчыку ( аб гэтым ніжэй), але на яго працавалі ўсе сябры арганізацыі БНФ Першамайскага раёну!

**Чаму перамог чалавек з калгаснага агароду?**

1. Маюць рацыю тыя аглядальнікі :” *Лукашэнка перамог, бо такі быў стан беларускага грамадзтва на той час. Лукашэнка перамог, бо абяцаў адрадзіць СССР, бясплатны тэлевізар кожнаму, вярнуць уклады ў Ашчадбанку і спыніць* ***гвалтоўную* беларусізацыю****. Лукашэнка перамог, бо ўмеў таленавіта хлусіць і абяцаць людзям невыканальнае”*. То бок, звычайны голы папулізм, абяцаньне Цуду. Але, гэта толькі частка Праўды.

2. Таму , што ў звыклым ( як беларусы) да замбаваньня грамадзтве, («падрыхтаваным Кашпяровским і Чумаком) СМІ- гэта “УСЁ!”* І таму, я паўтараю. Менавіта 3 -х месячныя выступы, ледзь не штодзень, Старшыні

антыкарупцыйнай Камісіі, Александра Лукашенко, ў розных СМІ паказалі «народу» сапраўднага «Героя», «Асілка», які іх (народ) «выратуе» у барацьбе з «цмокам» карупцыйнай КПСС-й наменклятуры.

3. Зразумела дапамагала Лукашенко непрыбалтыйская (нацыянальная свядомасьць) свядомасьць ,а «советский человек», якім ужо былі ,рэальна большасьць, беларусаў, то бок, ментальнасць прыстасаванца і «иждивенца»,\\ *Я правёў «эсперымент па ўздеяньню (СМИ) ТБ , на «сваём» кабельным ТБ --- 100% эфэкт\\

4. «Альтэрнатыўная сіла» - БНФ, пасля 1992 года, згубіла давер «широких масс», ЗП і дэпутаты ад БНФ не зразумелі, што народ імі толькі цікавіцца, назірае ( як у цырку) але ўжо не падтрымлівае. //дарэчы **красавік 1**995 года гэта засведчыў\\\

5. Гэта таксама і фактычная бяздзейнасьць БНФ як арганізацыі (не дэпутатаў у ВС) да выбараў 1994 года.

6. Вельмі няўдалая кампанія самаго кандыдата ад БНФ, Пазьняка

7. Канешне і таемная падтрымка Лукашенко расійскімі спецслужбамі.

Я падкрэсліваю, што , асабліва, Радыё дапамагло Лукашенко. Дык вось. Ад снежня 1993 па май 1994, 3-ы разы на тыдзень, балбатаў будучы прэзыдэнт. Можа нават каля 75 гадзін этэру.
Дарэчы дыктатар Лукашенко гэта зразумеў і сцеражэ «каналы» зараз.. Літаральна праз 3-месяцы «на

пасадзе» ён пачаў закрываць «рот» СМІ.
З другога боку , вынікі першых прэзыдэнцкіх выбараў ёсьць вынікам подступаў «КГБ -ФСБ» Расеі . Пазьней мы даведаліся, што «КГБ» Масквы падрыхтавалі Александра Лукашенко , як «запаснога пророссийского Кандидата». Вельмі магчыма, што, менавіта, расейцы прапанавалі Віктару Шэйману зрабіць «замах на Кандыдата», што вядома як «выстрел под Лиозно». Гэта істотна дадала «галасоў» Кандыдату. Старыя бабкі , пад час галасаваньня , так і казалі, што я хачу прагаласаваць за таго, «каго хацелі забіць, але прозьвішча яго не памятую». \\Я не разумею, чаму М.Грыб ( старшыня ВС) не запатрабаваў ад Пракуратуры прыцягнуць да крымінальнай адказнасьці удзельнікаў таго «спэктакля», бо была даказана, што не была замаху на жыцьцё «Кандыдата». Расейцы націснулі?\\\ «Операция К» расейцаў не здзіўляе, бо Гісторыя паказала прыклады, што моцныя дзяржавы (Імпэрыі) заўсёды працуюць «дублем». Абавязкова ёсьць «афіцыйны Кандыдат» , прыхільнік Імпэрыі і, запасны – ад спэцслужбаў.
Але я прапаную вярнуцца ў 1992. Спроба праз Рэфэрэндум пераабраць Вярхоўны Савет. БНФ, як арганізацыя, **НЕ абараніў** 450 000 подпісаў грамадзян Беларусі, **не вывеў народ на вуліцы**…. У выніку давер да БНФ істотна зменшыўся. Дэпутаты ад БНФ не пакінулі ВС. Чаго яны потым дамагліся? НІЧОГА! Але, Пазняк і К$^{o}$ , спрабавалі “пераскочыць мур” у ВС і, забыліся цалкам на **арганізацыю БНФ “Адраджэньне”.** Яны працавалі над праектамі законаў. Ідзе тыя праекты ? У сметніку.
Потым наступная стратэгічная памылка. Пазняк

спадзяваўся узяць больш «мандатаў» для БНФ у Вярхоўны Савет і там вырашыць «усе пытаньні». Чаму памылковая і , менавіта, стратэгічная, ?
Бо ў той час (1995 год) , большасьць насельнікаў Беларусі была «безумно влюблена в Президента», які , як мог, бэсціў БНФ. А пад час выбараў 1995 года заклікаў да (фактычнага) байкоту выбараў... У той жа час, актывісты БНФ ,без "вождя", не ведалі што рабіць - і нічога не рабілі. Бо «вождь» цяжка працаваў у ВС, а ягоныя намесьнікі, без загаду Начальніка нават «дыхаць» баяліся, ці проста нічога не хацелі рабіць.
Таму , 5-ы складнік перамогі Лукашенко – гэта фактычная бяздзейнасьць арганізацыі БНФ пасля весны 1992 года, не дэпутатаў, якія чамусьці ездзілі па калгасам. . Дзе, я ў якім калгасе ( і ці маглі) падтрымалі БНФ ?
6- ты чыньнік перамогі Лукашенко -- гэта вельмі няўдалая кампанія самаго Пазьняка. Адно тоя, што ў "праваслаўнай" ( пераважна) краіне і працяглай, сталай, контрпрапагандзе камуністаў супраць БНФ, дэманстраваць сваю "каталічэскую веру" была згубнай практыкай. Ягоны фільм , «Зянон Пазьняк», **паэт і католік ( і** «паляк») **быў найлепшай контрпрапагандай супраць самаго кандыдата ад БНФ.**
І высновa:
Выбары 1994 былі дэмакратычнымі . Лукашэнка перамог без фальсіфікацый. (Ведаю і свой родны Кобрын.Там людзі шчыра галасавалі за Лукашенко. А там выступаў таксама і Зянон.Мяне не запрасіў) .
Першамайскі р-н Менска быў цалкам пад маім кантролем – там , дакладна, не было фальсіфікацый. А

таму, выбары 1994 агульна былі дэмакратычнымі па форме, але несправядлівымі, бо былі няроўныя ўмовы для апазыцыі для адпаведнай агітацыі. Але па краіне, канешне былі фальсіфікацыі пад час першага туру. Ці была гэта істотна, ці не – мы не даведаемся. Я , асабіста, сумняваюся, што (па усей краіне) за Пазьняка прагаласавала болей электарату чым за В.Кэбіча, бо такога, пасля стратэгічных памылак ЗП, не магло быць. Асабліва «авральная беларусізацыя» напалохала людзей. Як гаварыў мой сябра (актывіст БНФ), Пазьняк спрабаваў сагнуць шкляную трубку бяз яе разагрэву. Вось яна і ляснула.
Я нагадаю, што «**советскому человеку**» у Беларусі, Кебіч ужо прапанаваў частковая вяртаньне у СССР, «российский рубль» и «экономическую интеграцию с Россией». Потым, праз шмат гадоў, сам Кебіч сказаў, што «у нас с Лукашенко фактически были одинаковые программы».
Але , я паўтараю, што галоўнай прычынай паразы была фактычная бяздзейнасьць БНФ, як арганізацыі , пасля 1992, пасля "збору подпісаў", а таксама інтрыгі Навумчыка і Пазьняка. Іх уласныя амбіцыі былі ( і ёсьць для ЗП) вышэй за інтэрэсы БНФ "Адраджэньне", за інтэрэсы Беларусі.

**Масква**.
Таксама, я хачу ўзгадаць ( як аналітык) ролю вонкавых сілаў. На жаль, Беларусь так і не займела нацыянальнай наменклятуры ( у адрозненьні ад прыбалтыйскіх краін), беларускай, а таму ўвесь гэты «парт-хоз актив» глядзеў на Маскву і чакаў «команды» ад русских.
Роля Масквы заўсёды была ( і ёсьць ) значная.

Масква (як імперская) заўсёды мела свайго “Кандыдата”.
Адпаведна, расейскія спецслужбы выстаўлялі і будуць выстаўляць «дублёров». Такімі былі: 1994 – Лукашенко. 2001—Маринич. 2006 – Козулин. 2010 – Са-ков (Некляев). Бо, кожная Імперыя хоча “свайго”, няхай і “сукінага”…. Я ,канешне, зрабіў грунтоўны паліталягічны аналіз для такой высновы. Маі аналітычныя артыкулы будуць выдадзены асобнай кнігай.
Але я не згодны з журналістам Віталем Цыганковым і такімі іншымі, што Лукашенко быў нам вызначаны Лёсам ( ці Богам). Доказаў шмат, што магло быць інакш. Шмат памылак зрабілі дэмакраты, а Пазьняк зруйнаваў аўтарытэт арганізацыі Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» ужо ў 1992 годзе. Больш таго, некаторыя сябры БНФ, ужо на з'езде БНФ 1991 года, у голас, адзначылі аўтарытарызм Зянона Пазьняка і сваю нязгоду быць у такой арганізацыі, а пасля з'езду 1993 года пачаўся масавы зыход «старых сяброў» з БНФ.

## Памылкі дэмакратаў

Асноўныя памылкі:
Пазьняку нельга была выстаўляць сваю кандыдатуру на пасаду Прэыдэнта РБ.
Трэба была дазволіць памяркоўнаму да Дэмакратыі, былому члену КПСС, дэпутату ВС , кіраўніку горада Маладзечна , новаму дэмакрату, Генадзю Карпенка выставіць сваю кандыдатуру ад аб'яднаных дэмакратычных сілаў.
Заблякаваў збор подпісаў за вылучэньне Генадзя

Карпенка , Алег Трусаў ( па нейкіх сваіх амбіцыях? Ці на прозьбу ЗП). Нельга была, пасля «крадзяжу скрыні цвікоў», быць кандыдатам на пасаду Прэзыдэнта і Станіславу Шушкевічу. Вучоны і «чысты інтэлігэнт», «памяркоўны» чалавек, які не змог публічна абараніцца ад смешнага абвінавачваньня не змог і ня можа быць палітыкам (а можа яму таксама параілі з Масквы) Адпаведна, ён, на выбарах 1994 года, набраў галасоў нават меней чым паэт, каталік, фатограф і нацыяналіст Зянон Пазьняк. Ды і не ёсьць Шушкевіч палітыкам, ягоная «партыя», за ўсе гады існаваньня, аніяк не праявіла сябе , як палітычная сіла.
Арганізацыя Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» не здолела заваяваць аўтарытэт грамадзян праз сацыяльныя справы і нават праз праўду (і **дапамогу людзям**) аб «Чарнобылі».
Арганізацыя Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» не здолела таксама і арганізаваць і эфэктыўную агітацыйную кампанію. Кіраўнікі штабоў, актывісты БНФ, так і засталіся дылетантамі і гультаямі (у большасьці). Праца пад час толькі выбарчай Кампаніі, рэальна, для кожнага актывіста то некалькі дзён - то не праца.

## Антыкарупцыйны даклад Сяргея Антончыка

Снежань 1994 года**.**

Я хачу таксама нагадаць вельмі важную падзею таго ж 1994 года.
Прэзыдэнт РБ быў выбраны, але Вярхоўны Савет працягваў сваю працу. Дзейнічала ( неяк )

«антыкарупцыйныя Камісія». Намесьнік старшыні Камісіі Сяргей Антончык падрыхтаваў даклад аб карупцыі каманды Пэзыдэнта і самога Александра Лукашенко. Трэба нагадаць, што прадстаўнік «рабочего класса» Сяргей Антончык ўвесь час удзельнічаў у палітычным жыцці, ініцыяваў пратэсты, страйкі працоўных і марыў быць «беларускім Wale\n\sa». Сяргей быў і сябрам БНФ. ЗП ведаў мару Антончыка і вельмі нярвова назіраў за яго дзейнасьцю. Менавіта па гэтай прычыне (амбіцыі, канкурэнцыя) ЗП і «фракцыя БНФ» (па загаду ЗП ) не падтрымала «Антыкарупцыйны даклад» Сяргея Антончыка. Але , Сяргей Антончык , адпаведна свайму статусу, аддаў свой даклад , для публікацыі, у цэнтральныя газеты.
Вось тут , «на арэну» выходзіць прэсавы сакратар Прэзыдэнта РБ, памагаты будачага дыктатара, Александр Федута. Згодна сваёй пасадзе, Федута кіраваў усімі СМІ. Александр Федута **незаконна** забараніў друкаваньне «**Антыкарупцыйнага даклада»** Намесьніка старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета( парлямента) **Сяргея Антончыка. Менавіта Федута аддаў незаконны «загад» не друкаваць афіцыйны «Даклад»** Намесьніка старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета, то бок, парлямента. Некаторыя шаўкі ад журналістыкі паўтараюць падман Федуты, *«взял на себя ответственность*». Нармальны, справядлівы суд у дэмакратычнай дзяржаве хутка бы вынес абвінавачвальны прысуд Александру Федуце ( арт. «Статья 426. Превышение власти или служебных полномочий».Перавышэньне службовых паўнамоцтваў і «Статья 424. Злоупотребление властью или служебными полномочиями», злоўжываньне

службовымі паўнамоцтвамі, КК РБ). Увогуле мяне дзівіць амаральнась людзей, у тым ліку і вядомага паэта, якія супрацоўнічаюць з такімі подлымі істотамі, як Александр Федута.
«Антыкарупцыйны даклад» Сяргея Антончыка быў надрукаваны толькі ў «Газете Андрея Климова».
***Мая выснова адносна лукашыста Александра Федуты і магчымыя вынікі апублікаваньня дакладу С.Антончыка.***
Я гавару, што **Александр Федута ёсьць забойцам Праўды** і ён **, такім чынам, змяніў ход Гісторыі для Беларусі .** Беларусы пайшлі не да Дэмакратыі , а на дарогу ў дрыгву, а таму ,Беларусь хутка знікне з мапы Зямлі, як сувэрэнная дзяржава.. Я таксама перакананы, што апублікаваньне Дакладу перашкодзіла б Александру Лукашенко здейсніць пераварот у 1996. Адбыўся бы імпічмент.
Той хто супрацоўнічае, нават, вітаецца з Александрам Федутам грэбуе Мараллю!
Рэдактары газэтаў канешне паказалі свой страх, што не апублікавалі «Даклад», а далі толькі «белыя плямы». Але іх можна і зразумець, калі нават «фракцыя дэпутатаў БНФ» публічна не падтрымала Сяргея Антончыка. Фракцыяй кіраваў Зянон Пазьняк.
Дык хто вінаваты ў існаваньне дыктатуры на Беларусі?

## 1995
## Мова , рэфэрэндум і выбары ў ВС

Галадоўка дэпутатаў БНФ у ВС 11 -12 красавіка 1995 года.
Дэпутаты ад БНФ спрабавалі заблакаваць правядзеньне

антыканстытуцыйнага Рэфэрэндума парляментскімі сродкамі, але іх была вельмі мала. Тады БНФ-цы пайшлі на апошні сродак: галадоўку ў залі Вярхоўнага Савету. І тут “любимый, такой популярный” Прэзыдэнт Александр Лукашенко дае загад спецслужбам : «выкінуць БНФ-аў». І вось бандыты «народнага прэзыдэнта» збілі народных дэпутатаў і як смецце выкінулі на вуліцу. Чаму так адбылося? Чаму «народны прэзыдэнт» займеў смеласьць на такія бандыцкія дзеяньня?

Вы, ужо прачыталі аб «Антыкарупцыйны даклад» Сяргея Антончыка і паводзінах дэпутатаў Пазьняка. Дык вось, бо яны, дэпутаты ад БНФ, ўжо перасталі (пасля 1992) быць дэпутатамі ад Арганізацыі «Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне»» . Больш таго , «народ» не атрымаў ад дэпутатаў Пазьняка інфармацыі, што ўжо, на той час, «народный президэнт» Александр Лукашенко парушыў сваімі «Указамі» шэраг артыкулаў Канстытуцыі, што засведчыў Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь, але застаўся безпакараным і нават не была “Заявы парлямента”.! Вось таму для «народа» Александр Лукашенко быў такім любімым і добрым, бо калі няма інфармацыі -- «няма» і факту. Лукашенко сваім інстынктам адчуваў, што «народ не встанет за депутатов -БНФ -цев», так і атрымалася. Ну і ахоўнікамі Прэзыдэнта былі «малпы» з Масквы, якія , дарэчы, і білі беларускіх дэпутатаў.// не верце хлусні, што то былі супрацоўнікі беларускага «КГБ», то былі “маскоўцы”//

Вось таму, «дэпутаты Пазьняка» ( бо , менавіта, яны такімі сталіся) нечакана апынуліся на вуліцы з сінякамі

і гузакамі на целе. Відавочна, што яны былі ў шоку, бо тоя, што трэба была зрабіць ( імгненна «падняць» **усю** Арганізацыю БНФ») яны не зрабілі. Гэта сведчыць таксама і аб адсутнасьці дзеяздольнай Структуры БНФ.

Зразумела і тоя, што нават усе прыхільнікі (ды і сябры) БНФ Менску не выйшлі на вуліцы з пратэстамі супраць бандыцкіх дзеяньняў Александра Лукашенко. Той факт ,што не была народнага пратэсту, яшчэ раз падкрэслівае: Арганізацыя Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» не была здольнае арганізаваць нешта сур'ёзнае, а тым болей – хутка.

Ня трэба гаварыць адносна масавасьці «маршаў БНФ», слабая дзейнасьць Арганізацыі ў «рэзананс» імпульснага незадавальнення насельніцтва-- то не праца.

ПАСТАНОВА ВС РБ

3. Раённыя, у гарадах Саветы дэпутатаў захоўваюць свае паўнамо у поўным аб'ёме да вырашэння пытання аб іх існаванні ці ліквіл Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь.

4. Рэкамендаваць тэрытарыяльных выбарчых камісіям па выб дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў арганізаваць правядзенне выб дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў адначасова з давыбарамі дэпу Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

5. Зыходзячы з таго, што Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з снежня 1995 года № 519 "Аб некаторых пытаннях забеспячэння дзей мясцовых Саветаў дэпутатаў" супярэчыць артыкулам 8 і 9 Закона Рэспу Беларусь "Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Белар прапанаваць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь адмяніць гэты Ук распараджэнні мясцовым выканаўчым і распарадчым органам, зроблен сувязі з яго рэалізацыяй.

Падтрымліваючы палітыку скарачэння расходаў на ўтрыманне орг дзяржаўнага кіравання, якая праводзіцца Прэзідэнтам Рэспублікі Белар рэкамендаваць абласным, гарадскім і раённым Саветам дэпутатаў самаст прыняць рашэнні аб скарачэнні штатаў не менш чым на 30 працэн расходаў на ўтрыманне свайго рабочага апарату.

6. Прапанаваць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь адмяніць Указы а кастрычніка 1995 года № 433 "Аб зацвярджэнні Палажэння аб пар вырашэння пытанняў, звязаных з аб'яднаннем аднайме адміністрацыйных адзінак, якія маюць агульны адміністрацыйны цэнт № 434 "Аб аб'яднанні адміністрацыйных адзінак Рэспублікі Беларусь, маюць агульны адміністрацыйны цэнтр" у сувязі з тым, што яны супярэ Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Старшыня Вярхоўнага Савета
Рэспублікі Беларусь



С.ШАРЭЦКІ

22 лютага 1996 г., г. Мінск.
№ 87-XIII

Пракуратура Першамайскага р-на
Г.Мінска

У адпаведнасці з Канстытуцыяй РБ і існучым заканадаўствам усе спрэчныя пытанні павінны вырашацца на падставе Канстытуцыі і зыходзячы з існуючых законаў.
У адпаведнасці з Законам "Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь" Прэзыдыум Першамайскага раённага Савета г.Мінска зарэгістраваў камітэт грамадскага самакіравання ( КГС ) "Уручча- 1,2,3"
Згодна з "Палажэннем аб органах тэрытарыяльнага грамадскага самакіравання самакіравання " Мінскага гарадскога Савета камітэты грамадскага самакіравання маюць права на сваю дзейнасць на тэрыторыі г.Мінска. У той жа час некаторыя дзяржаўныя служачыя спасылаюцца на гэтыя дакументы каб забараніць ( ліквідаваць ) дзейнасць камітэтаў грамадскага самакіравання на падставе нібыта ліквідацыі раённых Саветаў.
Прапаную спіс нарматыўных актаў адносна гэтага пытання.

1. Указ Прэзыдэнта РБ ад 13.09.1995 № 383 аб ліквідацыі раённых , у гарадах, Саветаў.
2. Рашэнне Канстытуцыйнага Суда РБ ад 11.12.1995 аб неадпаведнасці Канстытуцыі Указа Прэзыдэнта РБ ад 13.09.1995 № 383 і страціўшым сілу з моманта падпісання.

У адпаведнасці з Канстытуцыяй РБ і ў мэтах тлумачэння законаў Вярхоўны Савет РБ сваёй Пастановай ад 22.02.1996 № 87-XIII растлумачыў прававы статус раённых Саветаў і падцвердзіў іх існаванне і дзейнасць.
Аналізучы заканадаўчы працэс і нарматыўныя акты дзяржавы можна пераканацца, што не існуе іншых нарматыўных дакументаў, якія вырашаюць пытанне аб ліквідацыі раённых Саветаў.
Калі спасылацца на Канстытуцыю РБ , ў рэдакцыі 1996 года,то толькі Савет Рэспублікі можа ліквідаваць мясцовыя саветы. Адпаведных пастаноў Савета Рэспублікі не існуе.
Больш таго, згодна Закону "Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь " раённыя Саветы ў гарадах існуюць, аб чым згадваецца, напрыклад, ў артыкуле 5 дадзенага Закону. Зверана з кантрольным экземплярам Палаты прадстаўнікоў Нацыяльнага сходу.
Такім чынам відавочна, што раённыя ў гарадах Саветы існуюць у адпаведнасці і ў межах заканадаўства. Згодна Закону "Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь" не можа быць ліквадаваны і Першамайскі раённы Савет г.Мінска, адпаведна мае права на сваю дзейнасць і камітэт грамадскага самакіравання ( КГС ) "Уручча- 1,2,3".

Прашу звярнуць таксама ўвагу і на перавышэнне сваіх паўнамоцтваў Адміністрацыяй Першамайскага раёну г.Мінска ў пытанні ліквідацыі камітэтаў грамадскага самакіравання, ( КГС ) "Уручча- 1,2,3". У кампетэнцыю адміністрацыі раёна, згодна Палажэнню ( якое рэгулюе дзейнасць адмінстрацый ) вырашэнне такіх пытанняў не ўваходзіць.

Копія «Заявы» Валерыя Грыцука, Старшыні «Камісіі па захаваньню законнасьці, ахове правоў грамадзян, галоснасьці, вывучэньню грамадзкай думкі» , у Пракуратуру.

БССР

ВЫКАНКОМ Першамайскага раённага Савета народных дэп. г. Мінска | ИСПОЛКОМ Первомайского районного Совета народных деп. г. Минска

"12" 06 1995г.
№ Д-14

Старшыне дэпутацкай кам1с11
па захаванню законносц1, ахове правоу
грамадзян, галоснасц1, вывучэнню грамадскай думк1
Г.1.Грыцуку

На Ваш зварот выканкам Першамайскага раена паведамляе, што дзяржауны сцяг новага узора на будынку выканкама узнят на падставе рэферэндума.

Старшыня выканкома     1.Ф.Мацкев1ч

Мясцовая ўлада ўжо замяніла Сцяг.

ДЭПУТАЦКІ КЛУБ Г.МІНСКА
"ДЭПУТАТЫ ЗА РЭФОРМЫ"

**ГРЫЦУК**
**Валерый Іванавіч**
Старшыня клуба

Беларусь
220141
г. Мінск — 141 а/я 93

0-17-
тэл. 63-71-84
факс 34-37-91

Дэпутацкі Клуб

Так, галадоўка далей не была патрэбна.Але патрэбна была іншае, патрэбна была арганізаваць вулічныя пратэсты супраць злачынных дзеяньнях Прэзыдэнта, супраць гвалту над законнымі дэпутатамі і, абавязкова, з тлумачэньнем таксама незаконнасьці рэфэрэндума і магчымасьць для "русского языка» мець статус афіцыйнага.
Адпаведна, тлумачэньне для дзяржаўных сымбаляў, якое не была такі шырока зроблена пасля 1991 года. Значная частка насельніцва думала, што на рэфэрэндуме зацьвярджаем "Пагоню" і "Бела-чырвона-белы" сцяг. Вядома ж, шмат хто, можа, амаль усе насельнікі Беларусі, не ведаюць і не разумеюць сапраўднай Гісторыі,..Гісторыя – гэта ня толькі "факт" і "дата", але ўсё "поле", дзе адбываецца Гісторыя.
Адносна дзеяньнеў ( у 1995) Лукашенко, з улікам 18 гадоў, трэба абсалютна зразумець, што дыктатар здольны на кожнае злачынства.
Але ёсьць ( і ў тых падзеях) віна З.Пазьняка, старшыні БНФ "Адраджэньне", і ягоных намесьнікаў, таксама як і дэпутатаў ад БНФ. Пасля паразы БНФ ў спробе рэфэрэндуму 1992г. (21 гадавіна зараз), дэпутаты ад БНФ павінны былі пакінуць ВС, альбо фізічна, а мо, нават, і фармальна. Тоя , што З.Пазняк ЦАЛКАМ засяродзіўся на дэпутацкай дзейнасьці была галоўнай паразай БНФ.
Я быў кіраўніком раённай арганізацыі БНФ у Менску і памятаю, што не была аніякіх спробаў кіраўніцтва БНФ вывесьці людзей на вуліцы на знак пратэсту супраць злачынства, бандытызму улады. (11.04.1995, «галадоўка») Лукашенко.
То таксама, як БНФ не абараніў ( не была вулічных

пратэстаў), 450 000 подпісаў грамадзян за прапанаваны Рэфэрэндум 1992.
Ну а калі нават самі сябе не бароніш – то хто цябе будзе паважаць?
Рэфэрэндум **наконт сымбаляў** .

Вялікае колькасьць грамадзян нарярэдадніадні Рэфэрэндума ,падкрэсліваю, думала, што яны галасуюць не за «новыя» герб і сцяг, а зацьвярджаюць «Пагоню» і бела-чырвоны-белы сцяг. У бюлетэнях не была выявы «новых». У памяшканьнях выбарчых участкаў толькі віселі плякаты з лукашенковскими «символами». Але выборцу трэба была (адначасова) галасаваць (выбіраць) дэпутатаў у ВС. Таму большасьць электарату проста «пролетала» праз тыя плякаты, не глядзела на іх, бо засяроджвалася на біяграфіях кандыдатаў і тэкстах бюлетэня, бо, як заўсёды, цікавілася кандыдатамі ў апошні момант.
Адносна Мовы электарат таксама не пачуў тлумачэньня чаму назіраўся «аврал», наадварот, лукашэнкаўская прапаганда бэсціла прапанову БНФ «по языку» і забывалася нагадаць ,што гэты Закон прынялі камуністы на пачатку 1990 годзе. Кіраўніцтва БНФ таксама не ўлічыла тоя, што вельмі вялікая частка ўрадоўцаў (чиновников) былі этнічна русскими, зразумела, яны не хацелі карыстацца нашай Мовай.
Прыклад. Нават (2013 год) зараз у кыргызыў з «Мовай» , каргызскай, праблема.
Дык вось, адносна ганебнага рэфэрэндума 1995. І зноў, Пазьняк ( і ягоныя дэпутаты) не зразумеў сітуацыю, ён пераконваў нас, мясцовых лідэраў, што “***возьмем мандаты ў ВС і вырашым праблему рэфэрэндума.”*** .
Адпаведна, аніякай агітацыі супраць рэфэрэндума БНФ

не праводзіў. СМІ падалі інфармацыю толькі аб адным выпадку агітацыі “супраць” і затрыманьню сябра БНФ, дэпутата мясцовага Савету дэпутатаў -- гэта быў мой асабісты пратэст. Я сам намаляваў плякат супраць незаконнага Рэфэрэндума і наклеіў ноччу на будынак школы. Ахоўнік школы (потым выбачаўся, калі пазнаёміліся) выклікаў міліцыю і, мяне затрымалі. У пастарунку я быў не доўга - міліцыя мяне ведала, але сам факт адзначылі і перадалі «на верх».
Дзейнасьць дэпутатаў ад БНФ адносна выканьня Закона «аб мовах» (1990 года), дакладней, падштурхоўваньне хутчэйшага выкананьня Закона, на тле таго, што ў 1990- 1992гг. гэты Закон выконваўся вельмі дрэнна , таксама не спрыяла падтрымцы БНФ. Больш таго, у зрусіфікаваным грамадзтве, эфэктыўна дзейнічала лукашенкаўская -дзяржаўная прапаганда: *«БНФ хоча ўсіх прымусіць размаўляць на беларускай мове, праблемы народа і дзяржавы іх не цікавяць»*. Адпаведна, грамадзтва Беларусі была ў стане «аврала» на тле катастрафічных эканамічных праблемаў --- перманентны стрэс. Зразумела , што людзі былі не задаволены, але не чулі тлумачэньняў чаму так адбываецца. Вось прыклад з інтэрнет. *«Клавдия 5 мая 2009 .В 94 году мы с мамой по очереди со словарём в тетрадку письменно переводили учебник по истории Беларуси, тихо при этом ругались, хотя помнится это тоже повлияло на настроения моих родителей и сразу отмело Позняка как кандидата.»* Зразумела, што ўсё гэта засталося і ў 1995 годзе.
Я лічу, што і Мечыслаў Грыб таксама вельмі нашкодзіў беларусам і Беларусі, гавару гэта ўвесь час.. !Ён, Старшыня ВС, не дамогся пакараньня бандыдатаў ,

якія выкінулі ( у прямым сэнсэ) дэпутатаў з залі ВС. Не абараніў Генеральнага пракурора Шаладонава , якога прэзыдэнт Лукашенко незаконна звольніў з пасады. Адносна неканстытуцыйных іншых дзеяньнеў Прэзыдэнта , Грыб таксама быў вельмі памяркоўны.

## Выбары ў ВС. 1995

«*Выбары ў траўні 1995 г. спалучаліся з так званым "рэфэрэндумам" аб зьмене сымболікі ("Пагоні" і Бел-Чырвона-Белага Сьцяга), скасаваньня статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай і эканамічнай інтэграцыі з Расеяй.*
*Уласна, гэта была адна палітычная кампанія. І пачалася яна з брутальнага зьбіцьця 19 дэпутатаў Вярхоўнага Савета, што было прадметам ўзбуджэньня крымінальнай справы Генэральным пракурорам Шаладонавым (за што яго, Шаладонава, Лукашэнка зьняў). Паводле доктара юрыдычных навук Пастухова, аднаго гэтага дастаткова, каб лічыць вынікі "рэфэрэндуму-95" "юридически ничтожными".»*-- успаміны Сяргея Навумчыка.

**І з другога боку,**
Сяргей Навумчык , разам з Зянонам Пазьняком, прымусілі мяне адмовіцца ад патрэбы быць дэпутам ВС, быць нават кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета РБ бяз дапамогі БНФ.

## Праўда аб выбарах у ВС 1995 года, ва Ўруччы. (Менск)

Я быў таксама там кіраўніком суполкі БНФ, але на знак пратэсту супраць дыктатуры З.Пазьняка, я ўвогуле не ўдзельнічаў у выбарчай кампаніі. Чаму ? Нагадаю. То,

я, адзіны ў Беларусі, хто праз свае PR-веды і актыўную працу БНФ-ца ( і ў КГС) , зрабіў З.Пазьняка “прэзыдэнтам” на выбарах 1994г., у акрузе Першамайскага раёна Менску, куды ўваходзіў мікрараён Ўручча. Так, суполка там была самая моцная ў БНФ і сябры – добрыя выканаўцы , але толькі выканаўцы .
Сяргей Навумчык, нічога не зрабіў для насельніцтва Менска, акрамя таго, што камусь-ці «забраў кватэру», бо ён , малады чалавек, з Віцебску, «выбіў» сабе кватэру ў Менску, як дэпутат ВС. Я чакаў на сваю кватэру 10 гадоў, а малады чалавек з Віцебску, сынок партыйнага функцыянера, Сяргей Навумчык , атрымаў добрую кватэру у Менску амаль адразу, як толькі напісаў «заяву».

Чаму віцебскі Навумчык «возник» у менскім Урыччы???
Навумчык пабачыў тут “БНФ-скі электарат”(пасля параможных выбараў для кандыдата ад БНФ у 1994) і ўгаварыў Пазьняка паставіць кандыдатам ад Уручча яго, Сяргея Навумчыка (сакратара ЗП) .
Навумчык прайграў нават невядомаму камуністу з прозвішчам Козлов. І мясцовая Суполка БНФ працавала на Навумчыка. **Але ў гэтых “хлопцаў з БНФ ва Ўруччы” інтэлекту была малавата, таму, паўтару, Навумчык прайграў нават невядомаму камуністу**. І гэта ўсяго праз 12 месяцэў, як гэтыя ж выборцы Уручча прагаласавалі за З.Пазьняка.
Як тоя адбывалася?
Віцебскі Навумчык , падкрэсліваю, **угаварыў** Пазьняка паставіць яго кандыдатам ад Уручча, а мне, ГРЫЦУКу,

забараніць балатавацца. Што Пазьняк і зрабіў. Ён запатрабаваў ад мяне “**клятвы**” на з'ездзе БНФ, нават, і распіскі, што я ня буду балатавацца. Я, як, сумленны сябра БНФ , падпарадкаваўся старшыні БНФ і **маўкліваму з'езду** БНФ.І !!! НІХТО з дэлегатаў з'езду не запытаў у чым справа, НІХТО не падтрымаў мяне”.(“Вождь всегда прав”) .Дзе, ў якой партыі Беларусі такое была? Я сказаў : “Няхай, але я вам дапамагаць больш ня буду”. Я публічна пацьвердзіў : «НЕ буду кандыдатам». Падкрэсліваю, менавіта, па ініцыятыве (жаданьню) Навумчыка, Пазьняк **прымусіў** мяне адмовіцца нават ад жаданьня быць дэпутатам ВС. Я перакананы, што жыхары «Уручча»выбралі бы мяне дэпутатам ВС. ! Я папярэдзіў, што толькі я магу быць рэльна абраны дэпутатам ад БНФ, больш ніхто! Так і атрымалася: нікога жыхары «Уручча» не выбралі дэпутатам.

Сяргей Навумчык праляцеў як «фанера»!

Антыпатыя Пазьняка да мяне была такой моцнай, што і на паўторных выбарах ён прызначыў кандыдатам у дэпутаты ВС ад жыхароў «Уручча» Герменчука, які таксама не быў абраны дэпутатам. Чаму ЗП, на паўторных выбарах, у восень, не прапанаваў мне быць кандыдатам, а «паставіў» Ігара Герменчука, рэдактара газеты»Свабода»? На маё пытаньне Ігару: «Чаго ты тут спадзяешся злавіць?». Герменчук шчыра адказаў, што яму важна зрабіць рэкляму для Газэты.

Вось і Мараль! Дзеля, жаданьня “свайго сябра” Пазьняк грэбуе інтэрэсамі БНФ і , нават, сам прыязджаў ва Уручча, агітаваць людзей супраць мяне, сябра БНФ! То былі такія дзівосы. Так, Зянон Пазьняк у гарачы час пачатку выбарчай кампаніі прыехаў у

«БНФ-скае» «Уруччa» агітаваць супраць мяне сябра БНФ, які аніяк не парушыў Статут Арганізацыі і не выступаў супраць Праграмы БНФ
Тоя, што я быў бы абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета, я абсалютна перакананы.
Чаму? Галоўнае.
1) Мясцовая ўлада ставілася з павагай да мяне, адпаведна , выбарчая Камісія палічыла бы «галасы» правільна. ( мне , «мясцовая ўлада», прапанавалі балатавацца нават у 2000 годзе)

2. Я меў вялікі аўтарытэт у выборцаў, таму што ад 1989 года працаваў на іх ( ужо за 2 дні пачатку выбарчай кампаніі я назбіраў 300 подпісаў грамадзян за маё вылучэньне кандыдатам у дэпутаты ВС.)

3. На мяне (без загаду Пазьняка) працавала бы суполка БНФ і сябры Камітэта Грамадзкага Самакіраваньня.

Што атрымалася ?
Гэта вельмі важна адзначыць і памятаць, каб разумець наступныя падзеі.
Праз 12 месяцэў (1995) пасля «пераможнага Пазьняка», у тым жа “Уруччы” БНФ -скі Навумчык прайграў невядомаму камуністу, Казлову.. На Навумчыка працавалі сябры БНФ усей (падкрэсліваю, УСЕЙ) раённай арганізацыі ( самай вялікай,па колькасьці сяброў, у БНФ) .Дапамагалі Навумчыку і мясцовыя бізнесмены, друкавалі (на ксераксе) яму ўлёткі. Фальсіфікацый не было, але і «выбары» не адбыліся, бо я байкатаваў агітацыю (не ўдзельнічаў), а таму мала грамадзян прыйшло на выбарчыя ўчасткі. Не хапіла

300 галасоў.
Члены выбарчых камісій добра мяне ведалі і прапанавалі мне дапамогу ў «збіраньні галасоў» за пару бутэлек шампанскага. Бо я быў кандыдатам у Менскі гарадзкі Савет дэпутатаў.
Падкрэсліваю, у нас ( у нашай акрузе) фальсіфікацый не было, але па краіне, канешне былі фальсіфікацыі, як і па рэфэрэндуму.
Вось памятаю такі прыклад.. Вайсковая частка , «гарадок Уручча», мы , дэпутаты, я і Мікола Бусьнюк, наведалі выбарчы ўчастак у танкавай дывізіі. Мы прыйшлі крыху позна, бо пабачылі як салдаты, большасьць, ужо кідалі бюлетэні ў «скрыню». Два салдаты мелі некалькі бюлетэняў, але мы не паспелі «злавіць іх за руку». Вайсковая частка прагаласавала на 100% за кандыдата «от власти».
**Выснова.**
***Зянон Пазьняк ня толькі дапамог стварыць БНФ, але і разбурыў яго.***
..........................................................................................

**БСДП «Народная Грамада» і Ігар Чарняўскі**

Напачатку 1995 года, калі ў партыях абмяркоўвалася пытаньне адносна кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета, на пасяджэньні гарадзкой арганізацыі БСДГ мяне запісалі кандыдатам у ВС ад Партыі. У тыя часы дазвалялася быць сябрам , адначасова, у некалькіх партыях. Я яшчэ быў сябрам Беларускай Экалягічнай партыі (пазней), але там аніякай маёй актыўнасьці не было. Дык вось, у БСДГ, недзе пад канец красавіка (1995) , на пасяджэньні гарадзкой арганізацыі БСДГ

раптоўна узяў слова Ігар Чарняўскі і сказаў , што ён супраць маёй кандыдатуры на кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Савета. На пытаньне: «Чаму?». Ён адказаў, што я ( Грыцук Валеры) з'яўляюся аўтарам і вядучым палітычная Праграмы на кабэльным тэлебачаньні ва мікрараёне «Уручча – 4,5» і частка вайсковага гарадку. Дык вось , *«Грыцук у сваіх перадачах прапагандуе БНФ, а пра сацыял-дэмакратаў нічога не гаворыць.*».
Алег Трусаў, Старшыня Партыі ( і гарадзкой Арганізацыі) моўчкі з гэтым пагадзіўся і адразу паставіў прапанову Ігара Чарняўскага ( «зьняць») на галясаваньне. Пытаньнеў мне не было. Выступіць мне не далі. Большасьць прысутных падтрымала «прапанову Ігара Чарняўскага».
Тады мяне вельмі здзівіла гэтая «маўклівая большасьць». Але я «змагацца за партфель» палічыў ганебным: ня хочаце мець свайго дэпутата --- ня трэба. Гэтая падзея адбылася яшчэ да пачатку **подлай ( і шкоднай** для БНФ) «акцыі Навумчыка- Пазьняка».
Ну праз 10 год пасля сваей «падлянкі» на пасяджэньні гарадской арганізацыі БСДГ, Ігар Чарняўскі цалкам паказаў сваю подлую душонку. Дзеля грошай ён прадаў дыктатару ўсе беларускія каштоўнасьці і дапамагае дыктатуры нішчыць беларускую матэрыяльную культуру.

ПАМЯТАЕЦЕ?«**Не па словах судзіце – а па справах»**. На жаль для большасьці беларусаў на першым месцы – Словы, а не Справы.

## Выбары ў Менскі Гарадзкі Савет Дэпутатаў

Тады ж адбываліся і выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў. Я вырашыў удзельнічаць у гэтых выбарах бяз БНФ. Мая ініцыятыўная група была створана з жыхароў раёна і хутка сабрала мне неабходныя подпісы для рэгістрацыі кандыдатам у дэпутаты Менскага Гарадзкога Савета Дэпутатаў. Слова «народный» ужо тады знялі.
Па, колькасьці галасоў выборцаў (каля 50%) я перамог усіх астатніх кандыдатаў у дэпутаты Менскага Гарадзкога Савета Дэпутатаў горада Менска.
У той час мая маці вельмі хварэла і запатрабавала (пад час гарачай выбарчай кампаніі) каб я прыехаў у Кобрынь. Адпаведна я не мог праводзіць выбарчую кампанію ў гарСавет. Але напрыканцы агітацыйнай кампаніі я зрабіў «эксперымент». Я зрабіў улётку супраць небяспечнага канкурэнта, кандыдата ў Менскі гарсавет, **Начальніка** «ЖЭС». З дапамогай сябра, Міколы Ясенка, улёткі былі распаўсюджаны на тэрыторыі таго «ЖЭС».(Эфэкт быў 100%). Больш улётак я не распаўсюджваў --- ужо не было часу. Але многія жыхары «Уручча» ведалі маю дзейнасьць на іх карысць. Я тады мог быць абраны ( я перамог – па «галасам» ) ў Менскі гарадзкі Савет, але мая перамога была бы ( калі б «выбары адбыліся») адначасова з перамогай камуніста ( у ВС). Я не захацеў каб маі жыхары , майго Першамайскага раёну, мелі дэпутата -камуніста. Я адмовіўся ад прапановы выбарчай Камісіі . Можа і дарэмна.... Бо Камісія прапанавала не фальсіфікаваць «галасы» , а толькі пахадзіць са

«скрыняй» па кватэрах і сабраць гэтыя 300 , неабходных , галасоў. Потым ( і зараз) я падумаў, што празмерная прынцыповасьць (калі гэта нікому не шкодзіць) не патрэбная.
Яшчэ адзін момант. Я не ведаю, ці то прапанова Пазьняка, ці ягоных сектантаў (памёр чалавек, таму не назаву прозвішча), але мяне БНФ не вылучыў , нават, кандыдатам у дэпутаты Менскага Гарадзкога Савета Дэпутатаў. БОЛЬШ таго, ад БНФ, быў вылучаны мне канкурэнт, сябра маёй суполкі !!! Я размаўляў з ім – прапанаваў «зняць» яму сваю кандыдатуру.Але ён адмовіўся і не растлумачыў мне чаму ня хоча гэта рабіць. Я ж яму сказаў, што у ягоны шанец быць дэпутатам «нулявы». Вынік .За ягонаю кандыдатуру прагаласавала 9% выборцаў.Я думаю, што калі б ня была «БНФ-скага» кандыдата ў Менскі гарСавет, а , наадварот, была бы дапамога мне, то на выбары прыйшло бы болей людзей і, выбары адбыліся бы.
Вось гэта я паказаў ФАКТЫ. Ці ўся гэтая гісторыя не сведчыць аб абсалютна абсурднай сітуацыі ў БНФ і шкоднай (для БНФ і Беларусі) дзейнасьці Зянона Пазьняка, Сяргея Навумчыка і іншых, «зомбі» у БНФ?
Я вельмі раю чытачу – яшчэ раз прачытаць гэты кавалак.
Пасля такога маразму ЗП і абсурдных паводзін сяброў БНФ, я напісаў «Заяву» . У Заяве для БНФ, я напісаў: «***Я. Грыцук Валерый, сябра БНФ, ад пачатку існаваньня Арганізацыі, прыпыняю сяброўства ў БНФ, да таго часу, пакуль сябрам БНФ будзе Зянон Пазьняк».***
Адпаведна я спыніў усялякую дзейнасьць у БНФ.
На жаль, некаторыя «зомбі» у БНФ распаўсюджвалі

адносна мяне плёткі розныя.... Але маё Сумленьне абсалютна чыстае!

**1995**
**з'езды БНФ**

*Пазачарговы.*

Я ўжо ўзгадаў «маўклівы» ( пазачарговы) з'езд БНФ па вылучэньню кандыдатаў у дэпутаты.

Я звяртаю ўвагу на дзіўны (**выключны)** выпадак у дзейнасьці «дэмакратычнай» арганізацыі.

За 20 гадоў маёй дзейнасьці ў дэмакратычнай апазыцыі я не чуў такого, каб некага прымушалі (БЯЗ тлумачэньня нават) адмовіцца ад сваіх законных правоў на рэалізацыю Дэмакратыі. «ОГП», камуністы Калякіна, сацыял-дэмакрататы, зараз (і раней). «хрысціянскія дэмакраты».... Я буду ўдзячны тым грамадзянам Беларусі, які ўзгадаюць аналягічны выпадак у дзейнасьці апазыцыйнай арганізацыі.

Коратка, што адбылося,нагадаю.

Ад сябра Арганізацыі (БНФ) кіраўнік (Пазьняк) патрабуе даць абяцаньне і напісаць «распіску» , што ён адмовіцца ад свайго канстытуцыйнага права быць у ворганах улады краіны, то бок, не мае права нават зарэгістравацца кандыдатам у дэпутаты парляменту. **Прычыну** такога патрабаваньня лідэр арганізацыі не падае, а толькі з дыктатарскім імпэтам патрабуе і, канец, а дэлегаты з'езда маўчаць. Ну як тут не ўзгадаць Уладзіміра Высоцкага? «Жираф большой – ему видней!».

Вы разумее сутнасьць і абсурднасьць сітуацыі ? Гэта абсурд назіраюць маўкліва (гледачы) сябры БНФ

(« найлепшыя прадстаўнікі БНФ»), дэлегаты з'езду і кандыдаты ад БНФ у дэпутаты Вярхоўнага Савета..... Падкрэсліваю: МАЎКЛІВА!

**Чарговы з'езд БНФ 1995 года.**

Але тады, у 1995 годзе, абсалютная большасьць сяброў БНФ яшчэ не зразумела разбуральнай ролі ЗП, і паказаў тоя чарговы з'езд БНФ. Адпаведна Статуту неабходна была выбраць кіруючыя ворганы.

Нагадаю.

з'езд адбываецца апасьля **чарговых паразаў** БНФ , як руху,, партыі, як арганізацыі.

Рэфэрэндум 1992г. мы не абаранілі , што была прычынай незадавальненьня вялікай колькасьці прыхільнікаў БНФ, але ЗП ( **у 1993)** быў пераабраны Старшынёй БНФ.

1994 годзе наш кандыдат (ЗП) набраў вельмі мала галасоў выборцаў , больш таго выбарчая тактыка і стратэгія кіраўніцтва БНФ, то бок, Зянона Пазьняка была абсалютна памылковая.

У 1995 годзе БНФ мае катастрафічную паразу: не абараніў сваіх дэпутатаў, не выказаў нават істотнага пратэста (праз Арганізацыю БНФ) барбажынству новай улады ( зьбіцьцё дэпутатаў); не абараніў Мову.

БНФ, як арганізацыя, не праводзіла контрагітацыю ( ці нават тлумачэньне*) супраць антыканстытуцыйнага Рэфэрэндума па сымбалям і Мове**.

БНФ не мае нават 1-го дэпутата ў новым складзе ВС ( зноў катастрафічныя паліттэхналягічныя памылкі

кіраўніцтва БНФ); Абсалютнае неразуменьне сытуацыі ў Беларусі кіраўніцтвам БНФ.

Для прыклада іншай думкі даю тлумачэньне аднога з былых дэпутатах ад БНФ. *«А ў 1994-1995 г. кожныя суботу-нядзелю групы з трох-чатырох дэпутатаў рабілі паездкі па раёнах (прычым выступалі ня толькі ў райцэнтрах, але і ў калгасных клубах). Усяго мы аб'езьдзілі штосьці каля 300-350* ***калгасаў****.» \\\Беларуская рэдакцыя радыё «Свабода»*

*ЗЬВЯРНІЦЕ УВАГУ*-- паездкі па калгасам.А што такое мэтавая група, свой электарат, эфэктыўная агітацыя ?

Ну то можна была бы лічыць жартам ( для паліттэхноляга) , але то так і была. Калі магчымасьці агітацыі абмежаваныя, то агітацыю ( PR) трэба рабіць у тых выбарчых акругах, дзе электарат найбольш сканцэнтраваны ( вялікія гарады) і найбольш прыхільны да нашых кандыдатаў. Выбары -1994 засьведчылі , што вёска фактычна на 100% падтрымлівае свайго «калгасьніка», то бок Лукашенко. Тоя ж была і для малых гарадоў (*«райцэнтраў»).* Я маю прыклад майго Кобрыня. Але ж па загаду аўтарытарнага кіраўніка БНФ, Пазьняка, БНФ павінен быў «узяць» усю краіну. Гэта што?

Абсурд- то яшчэ вельмі пяшчотнае слова.

Вось такое была тло для чарговага з'езду БНФ.

У адпаведнасьці з нормамі палітыкі і нават Маралі , кіраўнік (фактычна быў дыктатарам) такой непасьпяховай палітыкі, паразы па усім франтам, павінен быў сам адыйсьці з «пасады».

Але ж не! Як жа «сьвяты чалавек»* не можа быць шэрагоўцам! Зразумела, што я вельмі добра адчуваў заганнасьць і хібы кіраўніцтва БНФ. Да таго часу я ўжо валодаў PR і NLP, атрымаў юрыдычную адукацыю (завочна). Але , паўтару, для мяне была вельмі важна мая навуковай дзейнасьць і навуковая «чарнобыльская праграма» , адпаведна, я не хацеў быць кіраўніком БНФ.

(Я шчыра спадзяваўся, што вынікі маёй навуковай «чарнобыльская праграмы» дапамогуць захаваць здароўе беларусаў).

З другога боку , маўчаць, быць баранам, я не хацеў. На той час, я ўжо добра пазнаёміўся з паліттэхналёгіямі і ведаў аб неабходнасьці мець «групу падтрымкі» для таго каб стаць фармальным лідэрам ( кіраўніком арганізацыі). Але ,я падкрэсьліваю, я не хацеў быць кіраўніком БНФ, а таму я не стварыў сябе «групу падтрымкі». Адзінае, што мне трэба была такі надрукаваць свае прапановы на паперы ў колькасьці 200- 300 асобнікаў, але ж я надрукаваў толькі 20.

На з'ездзе я прапанаваў сваю кандыдатуру на пасаду Старшыні, толькі дзеля таго, каб мець больш часу выказаць свае прапановы, **каб сябры БНФ мяне выслухалі**. Кандыдатам на «пасаду» прапанавалі таксама Юрыя Хадыка, і, канешне, аўтара усіх параз БНФ, Зянона Пазьняка.( перамогаў БНФ, пасьля лета і восені 1991 года, не была, толькі паразы).

Кіраваў тады з'ездам Валянцін Голубеў , былы актывіст КПСС, які ведае як душыць непажаданых. Дык вось ён, даў нам , **кандыдатам на Старшыню** БНФ для выступу толькі па **3, ТРЫ, мінуты**. Лукашенко і то

больш дае сваім канкурэнтам**!** Ну, а мы , інтэлігенты, (я і Хадыка) не абурыліся такой зьнявагай нас, бо дэлегаты з'езда падтрымалі прапанову былога камуніста Голубева, які не запытаў нашай (кандыдатаў) думкі, а хуценька паставіў сваю прапанову на галасаваньне. Вось такая нібы «дэмакратыя» была ў БНФ! Выступіў вельмі невыразна Юры Хадыка. Пачаў рабіць свой выступ і я... Але бачу, што дэлегаты мяне не слухаюць... Раптам пачаліся «пільныя» размовы паміж дэлегатамі, шум у залі. У мяне мільганула думка, можа зрабіць «эфэкт Хрушчова» ? ( Хрушчов пад час выступу на Генэральнай Асамблеі ААН, калі пабачыў , што яго не слухаюць, зьняў пантофлю і пачаў біць ёю па трыбуне). Голубеў не запатрабаваў цішыні! Што мне рабіць? Скінуць туфлю і як, Хрушчоў, грукнуць у трыбуну, як у звон? Але мая праклятая інтэлігентнасьць не дазволіла зрабіць мне гэта.. “А халяра з вамі”... Так я падумаў і выкарыстаў свае ТРЫ хвіліны.

Дык як назваць такія паводзіны «сьвядомых» і нібы «дэмакратаў» (згодна са Статутам і Праграме) , дэлегатаў з'езда ? Баранамі? **Зомбі?**

Не хочацца крыўдзіць, але Homo Sapiens назваць іх таксама нельга. У выніку, каля 20 дэлегатаў прагаласавала за Юрыя Хадыку,і адзін голас атрымаў я.

За мяне прагаласаваў адзін з нашай «групоўкі супрацьіву» ( глядзіце частку «**Спроба «палацавага перавароту» у БНФ»)** Я галясаваў за Юрыя Хадыку.

Галоўнымі тэзамі маіх прапаноў была пераасьцярога, што калі захаваецца той накірунак ( тоя кіраўніцтва) які ёсьць , **то арганізацыя БНФ ператворыцца ў**

**клясічную сэкту.** ( Дарэчы, я раней ужо назіраў такое ператварэньне на прыкладзе экалягічнай арганізацыі з канцэпцыяй «Детка»).

Я прапанаваў іншы шлях--- дэмакратычны.

Мой прагноз абсалютна спраўдзіўся і адсутнасьць ЗП у 1999 годзе дапамагла частцы сяброў БНФ скінуць з сябе пазьнькоўскае замбаваньне.

Ну, а існаваньне партыі КХП-БНФ цалкам адпавядае дзейнасьці сэкт, а іхні «мэсія» надалей бэсьціць усіх, хто не з ім, але прапанаваць нічога істотнага ня можа, усе ягоныя прагнозы памылковыя.

Я перакананы, што «ПАЛІТЫКА – ГЭТА МАСТАЦТВА КАМПРАМІСАЎ». Я не падтрымліваю: «палітыка - мастацтва магчымага» - бо усё жыцьцё – гэта мастацтва магчымага, толькі «мастацтва» бываюць рознымі.

*Вельмі мяне здзівіла выказваньне пісьменьніка Васіля Быкава. У перапынку ( пасьля маей прапановы «на Старшыню») ён падыйшоў да мяне і сказаў, што Зянон Пазьняк – гэта «сьвяты чалавек», адпаведна толькі ён можа быць кіраўніком БНФ. Зразумела, што я не стаў пярэчыць паважанаму пісьменьніку, але абсалютна ніякаму, як палітыку. Але ж я перакананы і тады і зараз , што «сьвятым чалавекам», «прарокам» не месца ў палітыцы. Іхняе месца ў касьцёле, царкве, кляштары і толькі там! У дадатку я прапаную маю ацэнку гэтага «ідала», ЗП.

** Вялікай памылкай БНФ была, што не было тлумачэньня праблемы «Мовы»

## Высновы адносна дзьвух з'ездаў БНФ

На з'езды былі ВЫБРАНЫ, трэба думаць, лепшыя ( «самыя разумныя») сябры БНФ. І вось гэтыя «разумнікі» адразу УСЁ «разумеюць» (якім чынам ?) , не задаюць пытаньняў, не спрачаюцца, але «сьвята» вераць (то бок, іррацыянальна) свайму «ідалу», Начальніку. Як гэта можна зразумець? Пазьняк валодае гіпнозам? Ці нейкімі «хвалямі» памагатыя ЗП апрацоўваюць дэлегатаў?

Думаю, усё прасьцей. Паглядзіце на насельніцтва Беларусі! Дыктатар вядзе , кручастай дарогай , іх у «бездань», жыцьцё пагаршаецца, але насельнікі не пратэстуюць, а многія «сьвята» вераць свайму ідалу.. НАЧАЛЬНІК, для беларуса , як Бог, а часам і «вышэй».

Дык вось, адносна «апазыцыі», перадусім , сяброў БНФ: **які «народ» -- такая і «апазыцыя».**

USA, ці Germany не закінулі ў Беларусь сяброў БНФ, ці іншых апазыцыянэраў ( як то са Sweden мужныя грамадзяне--- мядзьведзікаў ), усе яны тутэйшыя.

## Спроба «палацавага перавароту» у БНФ

Пасьля ўсіх паразаў БНФ пад кіраўніцтвам аўтарытарнага З.Пазьняка, менскія лідэры (раённых арганізацый) БНФ пачалі думаць як зьмяніць сытуацыю ў Фронце. Нас, кіраўнікоў раённых

арганізацый вельмі не задавальняла, што **менскімі** справамі займалася выключна Управа агульнакраёвай арганізацыі БНФ пад кіраўніцтвам ЗП, а не гарадзкая, менская, Рада БНФ, якая, фармальна, існавала. Кіраўніком, фармальным, гарадзкой, менскай, Рады БНФ быў Валянцін Голубеў. Ён , праўда, чэсна папярэдзіў, што на гэтай пасадзе ён рабіць нічога ня будзе. Пазьняку была выгодна такая сытуацыя, бо дазваляла займацца менскімі справамі, «паказваць актыўнасьць», а цяжкая праца па-за Менскам заставалася на «маргінале».

Я ужо не памятую хто ініцыяваў сустрэчу «незадаволеных» /здаецца Слава Сіўчык/, але 7 кіраўнікоў (з 9-ці) менскіх раённых арганізацый БНФ сабраліся на кватэры ў Вячэслава Сіўчыка.

Мы абмеркавалі сытуацыю , усе мы пагадзіліся, што дзейнасьць Зянона Пазьняка не эфэктыўная, вядзе да разбурэньня арганізацыі. Менавіта ягоны аўтарытарызм быў прычынай паразаў БНФ. Мы вырашылі, што, перадусім, трэба «узяць» і актывізаваць гарадзкую, менскую, Раду БНФ. Прапанавалі падтрымку мне на гэтай пасадзе. Я быў адзіным дэпутатам (сярод іх) і кіраўніком найбольшай і эфэктыўнай раённай арганізацыі. Я адмовіўся, бо меў шмат навуковай працы ў АН РБ і таксама пашыраў дзейнасьць Фонда імя Льва Сапегі (адказны сакратар). Прапанавалі майму аднакурсьніку па унівэрсітэту і важнаму начальніку на заводзе «Інтэграл», Уладзіміру Бордаку. Ён таксама адмовіўся. Астатнія сябры нашай групоўкі былі меньш аўтарытэтныя за нас , дваіх. У выніку, нічога мы не вырашылі, адпаведна , «палацавы

пераварот» у БНФ не адбыўся.

Высновы 1994-1995, мяркую, трэба падсумаваць.

1994.

Выбары былі дэмакратычнымі і свабоднымі , але не цалкам свабоднымі і справядлівымі, перадусім, таму, што астатнія кандыдаты (акрамя Кебіча і Лукашенко*) мелі няроўныя магчымасьці для агітацыі.

* Лукашенко выкарыстаў напоўніцу сваю папярэднюю пасаду і падтрымку спэцслужбаў Расіі, дзякуючы таксама і няздольнасьці дэпутатаў ад БНФ.

Дэмакраты зрабілі шэраг істотных памылак. Галоўная--гэта , тоя , што не вылучылі Адзінага Кандыдата для **«советского человека»**, добрага Начальніка, напрыклад, Генадзя Карпенка.

Дзіўна , што дэпутаты ад БНФ, якія ганарыліся тым, што добра ведалі сытуацію ў іншых рэспубліках былога СССР, чамусьці не зразумелі, што «советский человек» не можа выбраць нацыяналіста Прэзыдэнтам. Гісторыя тоя грунтоўна пацьвердзіла. ( У 2001 годзе на гэтую акалічнасьць беларускай апазыцыі паказалі з-за акеяну, але..)

1995.

Рэфэрэндум быў цалкам незаконны, як і гвалтоўны, можна , нават, сказаць, зьнянацку. А потым мы даведаліся, з публікацый , – гэта была «спэцаперацыя Сініцына -Лукашенко». Але я перакананы, што гэтая спэцаперацыя была распрацавана ў Маскве і даручана выканаць свайму агенту, Александру Лукашенко. Доказ

таму дае палітыка Расіі адносна моцнай падтрымкі «русского языка» ў дзяржавах СНД. І вядомы публічныя словы жонкі прэзыдэнта Медведева: ***«Там где где русский язык-- там территория России!»***. То бок, спачатку расійская экспансия лінгвістычная, а потым эканамічная і палітычная. ...

Па аднаму пытаньню, мы , дэмакраты, маглі выйграць, калі б была адпаведная агітацыя. Сьцяг і Герб. Нават супрацоўнікі міліцыі гаварылі: «Коня жалко».Шмат, хто з іх захаваў «старыя мундиры», с «Погоней». Але ЗП, напярэдадні Рэфэрэндума, гаварыў нам, актывістам БНФ: *« Выйграем выбары ў парлямэнт, ВС, і усё вернем.*» І гэта пасьля таго , як сабакі Прэзыдэнта выкінулі іх з залі ВС, і «народ» аніяк не пратэставаў.... Супэр «прагноз» Пазьняка, як і усе наступныя. Памятаеце: «Чорцік з табакеркі».... ( Гэта адносна таго, што ў 2001 годзе кандыдатам на выбарах з'явіцца Віктар Ганчар).

## Праблема і памылка дэмакратаў

БНФ,структура, перадусім, мае справядлівы папрок, у тым ,што не змагла арганізаваць контрагітацыю супраць Рэфэрэндума, як і тоя, што не спынялі «аврал» дзяржаўных структураў па выкананьню Закона «аб мовах». ( «чиновники перегибали палку»).Удакладню, Закон « аб мовах» быў прыняты напачатку 1990 і, ягонае выкананьне была разьлічана на 10 -ць, ДЗЕСЯЦЬ, гадоў, але ў 1990-1992 гг. гэты Закон, практычна не выконваўся, а потым пачаўся «аврал», які справакавалі дэпутаты ад БНФ, але не кантралявалі гэты працэс, не тлумачылі грамадзянам чаму так

адбываецца. Зразумела, што шмат людзей была абурана , не «Беларускай Мовай», а працэсам, «авралам». Я меў уласны прыклад: русская, супрацоўніца выканкама Першамайскага р-ну г.Менска, (у лютым 1994-га) наўпрост мне заявіла, што яна ніколі ня будзе карыстацца беларускай мовай.

Выбары1995-га.

Але , пасьля свабоднага 1994 –га, нельга такі пагадзіцца , што “*Лукашэнка ніколі не выйграваў справядліва - ні ў 1994, ні ў 1995*”. ( словы сакратара ЗП) Так, антыканстытуцыйны Рэфэрэндум паказаў, што ужо быў уключаны механізм фальсыфікацый.

Так , тыя (1995) выбары не былі цалкам свабоднымі і ужо цалкам несправядлівымі, але была дастаткова магчымасьцей для БНФ мець сваіх дэпутатаў. Дэмакратычныя грамадзяне былі выбраны дэпутатамі. Несправядлівымі, таму што , перадусім, папулярны Прэзыдэнт Лукашенко агітаваў супраць БНФ і нават спрабаваў , увогуле, спыніць выбары дэпутатаў.

З другога боку, электарат , асабліва , у Менску яшчэ слухаў дэмакратаў, таму і былі выбраны дэпутатамі «новыя дэмакраты», я гэта падкрэсьліваю. Адпаведна, была тады рэальная магчымасьць і менскаму сябру БНФ быць у ВС (Грыцуку Валерыю), але не падступнаму Навумчыку, які «разьзявіў свой рот на чужы агарод». Гэта не абраза – гэта Праўда.У выніку атрымалася, што арганізацыя БНФ не мае нават аднаго дэпутата ў новым складзе Вярхоўнага Савета. І што вельмі дзіўна для мяне, НІХО, з сяброў БНФ не абурыўся амаральнымі і палітычна памылковымі дзеяньнямі Пазьняка- Навумчыка. Сябры БНФ не

падтрымалі мяне, не папрасілі прабачэньня ў мяне і потым... Так, адзін чалавек, які лічыў сябе прыхільнікам БНФ і удзельнічаў у сходах уручанскай суполкі , Мікалай Ясенка, падтрымаў мяне. Больш таго, сяброў суполкі ён назваў «молчаливым агрессивным большинством». Адпаведна, ён адмовіўся далей падтрымліваць БНФ. Я доўга думаў над гэтай сытуацыяй і, на пачатку 1996 года, напісаў Заяву кіраўніцтву БНФ, дзе напісаў, што прыпыняю сваё сяброўства ў БНФ да таго часу, пакуль сябрам БНФ будзе Зянон Пазьняк. Адпаведна, я склаў з сябе паўнамоцтвы і абавязкі актывіста БНФ, кіраўніка раённай арганізацыі. Але, публічна, я не рабіў такую Заяву --- а дарэмна.

У тыя часы, на паўторных выбарах, па прозьбе знаёмага, я кансультаваў «Кандыдата» , бізнэсмэна. Ён перамог. То бок, я пацьвердзіў сваю здольнасьць майстра выбарчых тэхнялёгій.

Пазьней, у 1999 годзе, былая сябры уручанскай суполкі ( якая пасьля 1996 года спыніла сваё існаваньне) баяліся сустракацца са мной – бо сорамна. А , Валеры Паўсьцюк, які ўдзельнічаў таксама ўжо і ў непазьнякоўскім БНФ, калі пабачыў, што я аднавіў сваю дзейнасьць, спыніў сваю дзейнасьць у БНФ. Прычына тая ж: сорамна мне ў вочы глядзець. Я меў АБСАЛЮТНУЮ РАЦЫЮ!.

Дзіўныя такі беларусы. Памыліўся. Дык публічна скажы: так, я вінаваты, я не меў рацыю, а ты меў рацыю. Дык, не, як злодзеі, ціхенька зьбягаюць «убок».! І з такімі «змагарамі» мы пераможам дыктатуру? Ніколі.

Але галоўнае праблема тых часоў была пазначана суразмоўцамі на tut.by, з якой я вымушаны пагадзіцца. Цытую

“*В. М. — Ты прав. Хотя, на мой взгляд, 1994 год стал логическим продолжением и завершением тех процессов, которые происходили до того — примерно с конца 80-х.*

*Сегодня я четко понимаю одну вещь: белорусская интеллигенция на протяжении 5-6 лет имела возможность воспитать в гражданах тягу и уважение к собственной истории, к независимости, к традициям. К сожалению, в силу ряда причин сделать этого не удалось…*

*Поскольку термин "интеллигенция" теперь иногда используется и с негативным оттенком, замечу, что под словами "белорусская интеллигенция" я подразумеваю лучшие умы страны. Эта часть общества в первую очередь должна была воспользоваться уникальным историческим шансом, данным нашей стране посьле обретения независимости. С этой задачей ей справиться не удалось.*

*Поэтому, на мой взгляд, 1994 год, о котором мы говорим, стал всего лишь закономерным финалом многочисьленных ошибок, допущенных с 1988 по 1993 годы.*

*С. О. — Ты хочешь сказать, что за те 5-6 лет, которые прошли с позднегорбачевской поры до выборов первого президента Беларуси, было реально коренным образом что-то поменять в мозгах людей? Привить народу те ценности, о которых ты сказал?*

*В. М. — Думаю, это было возможно. При условии, конечно, что кто-то действительно ставил перед собой подобную задачу.” На мой взгляд, проблема как раз и заключалась в том, что об этом никто не думал. Лучшим умам казалось, что демократией, независимостью общество дорожит по определению. А значительная часть граждан страны хотела просто сытно кушать. Что, в общем-то, понятно. Никто не объяснил белорусам ни целей реформ, ни того, зачем и во имя*

*чего нужно пройти через определенные трудности и лишения. Потому-то призрак СССР с его мнимой стабильностью, а правильнее будет сказать - предопределенностью судьбы каждого индивидуума, не давал покоя многим нашим соотечественникам. Общество оказалось не готово к главному — к самостоятельности. Отсюда и тяга к "сильной руке".*

**Так**, беларуская інтэлігенцыя вельмі мала працавала на беларускаць , на дэмакратыю. Чаму? Перадусім, таму, што беларуская, нацыянальная інтэлігенцыя была ( і ёсьць) вельмі слабая, бо выў вынішчаны «залаты» генафонд Нацыі. Вынішчэньне Беларусаў пачалося ад паўстаньня Кастуся Каліноўскага і цягнулася да 1953 года. Хто ведае біялёгію, то разумее ,якая гэта катастрофа для кожнай супольнасьці жывых арганізмаў. Адпаведна, абсалютная большасьць беларускіх інтэлігентаў не хацела цалкам ахвяраваць сваёй прафесійнай дзейнасьцю дзеля Змаганьня. З другога боку рашэньне аб стратэгія і тактыцы Змаганьня «прыватызаваў» аўтарытарны Зянон Пазьняк. Прырода інтэлігента такая, што ён некалькі раз прапануюе сваю «канцэпцыю», але калі яго не слухаюць, то ён змагацца за сваю «канцэпцыю» ня будзе, а проста сыйдзе ў бок.

Зараз не надта успамінаюць, што стрыжнем, першапачатковым ядром БНФ былі нацыянальная беларускія мастакі. Выбачайце , не усіх памятаю, але гэта Аляксей Марачкін, Яўген Кулік, Мікола Купава і шэраг іншых, якія у 80-я падымалі і захоўвалі беларускую нацыянальную культуру.

ЗП ў 1992 і 1993 гг. перастаў слухаць іхняе парады. Адпаведна , большасьць гэтых інтэлігентаў збочыла. са “шляху Пазьняка” , не пагадзілася з ягоным

аўтарытарызмам...... ( а ,фактычна, дыктатуры ў БНФ).

З другога боку, я хачу адзначыць, што ЗП ніколі не перашкаджаў мне выступаць на пасяджэньнях Сойму БНФ, як то, пазьней, рабіў Вянцук Вячорка.

Сябры Сойма не абураліся і не падтрымлівалі мае прапановы, яны маўкліва чакалі канца пасяджэньня, канца нешматлікіх дыскусіяў.

На Сойме спрэчкі былі вельмі рэдкія і заўжды «думка Начальніка» , то бок, Старшыні БНФ , перамагала.

Адчуваеце? Бачыце падабенства?

БССР

| ВЫКАНКОМ Першамайскага раённага Савета народных дэп. г. Мінска | ИСПОЛКОМ Первомайского районного Совета народных деп. г. Минска |
|---|---|

«12» 06 1995 г.
№ 8-14

Старшыне дэпутацкай кам1с11
па захаванню законнасц1, ахове правоу
грамадзян, галоснасц1, вывучэнню грамадскай думк1
Г.1.Грыцуку

На Ваш зварот выканкам Першамайскага раена паведамляе, што дзяржауны сцяг новага узора на будынку выканкама узнят на падставе рэферэндума.

Старшыня выканкома І.Ф.Мацкев1ч

# ПАСВЕДЧАННЕ

Першамайскі раённы Савет г. Мінска

**Грыцук**

**Валерый Іванавіч**

*з'яуляецца*

*старшыней пастаяннай дэпутацкай камісіі*

па захаванню законнасці, ахове правоў грамадзян галоснасці, вывучэнню грамадскай думкі




Старшыня
Першамайскага раённага Савета
І.Ф. Мацкевіч

0067 68

# ПРОТОКОЛ

«15» ноября 1996 г. г.Минск

милиционер ОВД по охране Минского метрополитена ст. с-т Аксючиц В.Н.

руководствуясь ст.ст. 243,244 КоАП РБ, сего дня, в 20 час. 00 мин. в присутствии:

1. Павловец О.Н., прож. пр. Ф.Скорины, 6
2. Кухолов Р.К., прож. пр. Ф.Скорины, 6

произвел досмотр и изъятие у задержанного за совершение административного правонарушения гр-на /-ки/

Грицук Валерий Иванович

следующих вещей и документов:

1. 6 (шесть) листовок с призывами
2. Нет диктатуре. Не исполняйте незакон-
3. ные указы. Нет всему страху. Страх
4. сковал – рабство довлеет вами и все-
5. ми детьми. Второго Сталина Бе-
6. ларусь не перенесет.
7. Свобода или наручники в хлеву холод-
8. ном и грязном
9.
10.

Протокол прочитан, записано здесь верно [подпись]

со ст. 246 КоАП РБ ознакомлен.

Досматриваемый: [подпись]

Понятые: 1. [подпись] 2. [подпись]

Протокол составил: [подпись]

Копия протокола получена, справки по тел 265254:

Спроба майго Змаганьня супраць дыктатуры.1996г.

## Партыя Здаровага Сэнсу

Там я быў таксама.

Мне прапанавалі далучыцца да новай партыі, якая была зарэгістравана на пачатку 1995 года. Я ужо не памятаю хто, здаецца нехта з сяброў праваабарончай арганізацыі, якую стварыў «гінеколог-юрист», дэпутат Вярхоўнага Савета , які потым стаўся злосным і адданым сабакам дыктатара Лукашенко, а таму я не хачу ўзгадваць ягонае прозьвішча ў маёй кнізе, бо брыдка.

Ініцыятар і заснавальнік Партыі, пасьпяховы бізнэсмэн , Каравайчык Іван, назваў яе «Партыяй Здаровага Сэнсу». На той час можна была быць сябрам некалькіх партый. Актыўнасьць у БСДГ я спыніў, пасьля амаральных паводзін кіраўнікоў, але хацелася неяк ідэі сацыял-дэмакратыі распаўсюджваць у беларускім грамадзтве. Фармальна, Партыя Здаровага Сэнсу была сацыял-дэмакратычнай партыяй і , нават, 1995 годзе , удзельнічала ў стварэньні «Саюзу дэмакратычных сілаў», у стварэньні якога узялі удзел БСДГ ( Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада), ПНС («Партыя народного согласия»), ВЕС (партыя « Всебелорускего единства и согласия»)

Я пагадзіўся паглядзець Партыю . Пазнаёмілі мяне з сябрамі «Палітычнай камісіі». Некалькі разоў мы сабраліся , абмеркавалі магчымыя дзеяньні і зрабілі прапановы для дзейнасьці Партыі. Але , вельмі шкада, Партыя , у рэальнасьці была тыповым (на той час) НУА (NGO) , дзе у «Сьпісе» сябры былі, а рэальна амаль

ніхто не хацеў нешта рабіць згодна з Праграмай Партыі. Фактычна, я так зразумеў, партыя была створана толькі фармальна, дзякуючы амбіцыям і грошам бізнэсмэна Каравайчіка Івана. Але, ці то грошай была мала ў спадара Каравайчика, ці то ён не вельмі падабаўся сябрам, актывістам Партыі, але Партыя Здаровага Сэнсу , паціху, бяз шуму адыйшла ў небыт. Я разглядаў магчымасьць быць лідэрам гэтай партыі. Мне шчыра шкада, але «старшынёй» Партыі ( была ў мяне такая думка) бяз скандалу і інтрыг я бы не стаў , бо ( як заўсёды, амбіцыі «старога лідэра») бізнэсмэн не пагадзіўся бы аддаць «уладу». Шлях такой «бойкі» мне не пасаваў. Я быў не супраць нешта разумнае рабіць у Партыі, але бяз асаблівых высілкаў. Заўважыў я таксама адну акалічнасьць : «бізнэсмэн» баяўся гэтых разумных інтэлігентаў і, фактычна , хацеў, задарма, выкарыстаць нас , інтэлігентаў, толькі для рэалізацыі сваіх амбіцый, бо не прапанаваў нам нават пасады намесьнікаў Старшыні Партыі. Я кажу нам, бо былі і іншыя супрацоўнікі Акадэміі Навук у гэтай Партыі, напрыклад , Уладзімір Дунаеў.

З таго часу, я памятаю маю спрэчку з Каравайчикам адносна спосабу разбурэньня дыктатуры. Я прапанаваў мадэль «выпаданьня накрутак і іржавеньня», то бок, я лічыў, што трэба дапамагаць працэсу псаваньня і паступовага разбурэньня Сыстэмы, праз разбуральнае ўздзеяньне на яе істотныя і, нават дробныя , элемэнты. Каравайчык не пагаджаўся, бо лічыў , што толькі мадэль «бабы» ( вельмі цяжка куля, якая выкарыстоўваецца для разбурэньня будынкаў) можа быць эфэктыўная, то бок, Рэвалюцыя. Але ён забыўся як разбурыўся СССР.

Апошняя сустрэча ў ПЗС у мяне адбылася недзе ў маі 1996 года. Больш на сустрэчы мяне не запрашалі, і я сам таксама не імкнуўся, задарма, працаваць на амбіцыёзных бізнэсмэнаў.

## 1996

## Рэфэрэндум. Прыватныя «Праблемы»

Да гэтага часу ў мяне не была прыватных праблемаў. І на гвалт, раптоўна... Як то, на небе ані хмаркі не была, а пачалася гвалтоўная бура. У чэрвені 1996 раптам у мяне ўзьнiклі вельмі сур'ёзныя прыватныя праблемы – не па маёй віне, не з прычыны маіх дзеяньняў. Я нагадаю, што я па-ранейшаму меў моцны аўтарытэт у Першамайскім раёне горада Менску, мясцовая ўлада нават раілася са мной па некаторых пытаньнях .

Менавіта, дзякуючы мне, новым кіраўніком раёна быў зацьверджаны больш-меньш чысты (ад карупцыі) Іван Мацкевіч, а не яўны карупцыянэр , ягоны намесьнік, Новик Александр. Чаму дзякуючы мне? Бо я, асабіста, размаўляў са старшынёй Менскага гарвыканкама В.Ермошиным і , я прасіў яго не прызначаць карупцыянэра Новика кіраўніком Першамайскага раёну.

Супрацоўнікі міліцыі таксама паважалі мяне, то бок , я меў «сілу» .

І я не меў заганаў , як кажуць, бытавых. Гарэлку я не піў, п’яным ніколі не быў, па чужым бабам не «лазіў», то бок, быў ( і ёсьць) абсалютна маральным чалавекам.

Да таго ж , ужо я атрымаў юрыдычную адукацыю, адпаведна, законы (і працэдуры) вельмі добра ведаў. Калі, метафарычна, то для улады , я быў «гладкай куляй» (шар -рус.яз)., ухапіць не магчыма.

І вось паслугачы будучага дыктатара , бадай, задумаліся над тым як «нэўтралізаваць» такога небясьпечнага «БНФ-ца». Зараз вядома, што прэзыдэнт Лукашенко тады пачаў падрыхтоўку да дыктатарскага Рэфэрэндума, да дыктатуры. А я яшчэ, у 1995 годзе, абвесьціў сваё жаданьне быць агульнакраёвым лідэрам ( з'езд БНФ).

То бок, я даў усе падставы для «КГБ» ( дзе была маё «дело» ад 1978 года) зьвярнуць больш увагі на маю асобу. Вось, зараз, я і думаю (апасьля грунтоўнага аналізу тых падзей), што менавіта «КГБ» стварыла мне « цяжкія прыватныя праблемы» --- каб не было часу мне займацца Палітыкай.

Так, на жаль, гэта ў «КГБ» атрымалася, пажаданы для іх эфэкт быў дасягнуты. Але падзеі я назіраў і ў агульных апазыцыйных акцыях удзел браў.

## Захоп улады, канстытуцыйны пераварот, «супраціў авечак»

**ГРАК**

Раней я узгадваў, што была мая прапанова ў 1994 годзе стварыць шырокі рух для кантролю па дакладнай адпаведнасьці дзеяньняў улады Канстытуцыі. Тады мая прапанова не знайшла падтрымкі. І вось ,на пачатку 1996г., мой калега з АН Беларусі пачаў таксама «біць у званы», ён пераканаў кіраўнікоў партыі «ОГП»,

што  трэба ствараць такі Рух. Сказаў сваё «слова» і я. У выніку, сабраліся прадстаўнікі розных арганізацый каб абмяркаваць «прапанову». Галоўным абаронцам у гэтым руху вырашыла быць партыя «ОГП». Гэта здаецца быў люты 1996 года. Дамовіліся стварыць грамадзскі і рух і назвалі яго «Грамадзкі Рух у Абарону Канстытуцыі», ці проста ГРАК. Я, на жаль, не памятаю падрабязнасьцей., але рэальна ГРАК не дзейнічаў. Гісторыя паказала, што то была вялікая памылка, якая дазволіла Прэзыдэнту А.Лукашенко пайсьці на злачынства: незаконны захоп улады.

## Чарнобыльскі шлях

Пасля поўнай паразы ў палітыцы, кіраўнцтва БНФ з аднаго боку, была ў разгубленнасьці, напалохана паўстаньнем дыктатуры, а з другога боку неяк хацела паказаць, што «мы яшчэ не памерлі». Людзі , грамадзяне Беларусі дэмакратычнага складу, былі незадаволены, пасля падманаў 1995 года і дрэннай эканамічнай сітуацыяй . Людзі былі незадаволеныя ўладамі. У грамадзтве адчувалася напружаньне. Грамадзяне пачалі выходзіць на дэманстрацыі 25 сакавіка і 2-га красавіка. Калі «25 сакавіка» лічылася ( у «народзе») БНФ-скім святам, то дзень 2-га красавіка закранаў абсалютна ўсіх. Прэзідэнт (агент расійскага «КГБ-ФСБ») Александр Лукашенко абвесціў аб «Союзе» з Расіяй. Але на той час, для простых людзей Расія не была такой прывабнай для аб'яднаньня. Трэба ўзгадаць нацыянальную рысу беларусаў: «ставіць» на спакой (парадак) , што ёсьць даражэй за ўсё. Таму і

зараз так папулярна лукашенковская «стабильность». А Расія , у тыя часы , праходзіла першы этап дзікага капіталізму. Па расійскіх тэлевізійных каналах паведамлялася, амаль кожны дзень, аб «заказных убийствах» і жорсткіх канфліктах працоўных масаў з новымі ўладальнікамі (капіталістамі) заводаў і фабрык. Хуткае ўзбагачэньне «выбраных» і хуткая і жорсткая збядненьне «простого народа». Праблемы «энергоресурсов» для грамадзян Беларусі , у «свядомасьці», яшчэ не было. А таму прапанова «союза с бандитами и капиталистами» вельмі насцярожвала грамадзян Беларусі. Былі таксама паведамленьня ў расейскіх СМІ аб вялікай колькасьці « вооруженных уголовных элементов», якія трапляюць у Расею «с Юга». Я , нават, крыху раней, быў ініцыятарам адозвы ад імя дэпутацкага Клюба да вышэйшай улады Беларусі з прапановай пачаць ствараць сапраўдную « граніцу з Расіяй», каб не прапускаць бандытаў у Беларусь. Адпаведна агульная сітуацыя ў Беларусі была вельмі гарачай, «хмары былі чорныя». “Навальніца” павінна была быць.

Вось як успамінаюць тыя часы удзельнікі праграмы tut.by

*С.О. - в 1996 году массовые акции стали для Минска и других крупных городов привычным явлением. А в апрельском "Чернобыльском шляхе", посвященном 10-й годовщине аварии на АЭС, вообще участвовало порядка 50 тыс. человек!*

*В.М. - Ты прав: 1996-й стал, пожалуй, последним годом в летописи независимой Беларуси, когда уличные акции были столь многочисленными и частыми. Помимо "Чернобыльского шляха" можно вспомнить многотысячные митинги 25 марта, в годовщину провозглашения БНР, и 2 апреля, когда люди собрались, чтобы выразить протест против подписания*

*договора о создании Сообщества России и Беларуси.*

*С.О. - "Чернобыльский шлях-96" я запомнил очень хорошо, и, мне кажется, массовость этой акции была вызвана не только печальным юбилеем, но и тем, что многие люди увидели в подписанном недавно договоре о создании Сообщества Беларуси и Росси угрозу независимости нашей страны. На улицах Минска выплеснулось настоящее людское половодье со ставшими вновь опальными "бел-чырвона-белыми" флагами.*

*С.О. - Надо заметить, что дорогу "Шляху" периодически преграждали бойцы ОМОНа, с которыми организаторы акции пытались полюбовно договориться. Но стычек и кровопролития избежать, к сожалению, не удалось.*

*В.М .-Однако вернемся к "Шляху", который венчал митинг у Дворца спорта. На этом митинге, считаю, Пазьняк погубил себя как политик. Я имею в виду предложение Зенона Станиславовича почтить минутой молчания память Джохара Дудаева, убитого 21 апреля 1996 г.*

«Чарнобыльскі шлях» безумоўна арганізавала БНФ, бо ,перадусім, уладам трэба была нагадаць аб Праблеме, а , па-другое, планаваліся моцныя выступы супраць Александра Лукашенко, Зянона Пазьняка. Апасля восені 1995 года і абсалютная палітычнай паразы БНФ , ЗП знік , але ён адчуваў, што трэба неяк патлумачыць сітуацыю людзям. Гэта мы ўжо потым даведаліся як ён уцякаў ад «спецслужбаў». Але я і зараз не веру, што на тыя часы Александр Лукашенко быў гатовы забіць Зянона Пазьняка, бо яшчэ не быў створаны «эскадрон смерці». Казкі адносна крымінальнай справы, якія распавядае Сяргей Навумчык хай цешаць сектантаў ЗП. А вось псіхіку Зянона Пазьняка я ведаю добра, ён звычайны баязлівец. Я не хачу шмат пісаць на гэты конт: пашкадуем старога чалавека.

Але «Чарнобыльскі шлях» адбыўся і быў сапраўды

магутным Шляхам беларускага Народу. Пасля паспяховага «штурму БТ (TV) і ,адпаведна, выступу лідэра БНФ», гэты «Чарнобыльскі шлях» (1996-га) быў найбольшай праявай сьвядомасьці Грамадзян Беларусі . Тады можна была гаварыць: на нашыя вуліцы выйшаў Народ! Я,канешне, удзельнічаў у «шляху», але ў «авангард» не пёрся. Я прайшоў увесь «шлях» ,знаходзіўся недзе бліжэй да «хваста» калёны. Памятаю, канешне, моцныя выгукі абурэньня Народу, калі міліцыя спрабавала спыніць наш «Шлях» .Але нашыя хлопцы ( у тым ліку і ўручанскія) перакулілі і адсунулі ў бок, аўтамабілі міліцыянтаў.
Так, чуў я і выступ ЗП. Мяне ён не ўразіў, не зацікавіла мяне і ягоная прапанова «ушанаваць Дудаева». Але я не лічу, што гэты заклік зрабіў ЗП мярцвяком як палітыка. Так, канешне, збольшага, расійскія СМІ паказвалі Джохара Дудаева бандытам, але словы «незалежнасьць для чэчэнскага народу», для «Ічкэрыі» таксама гучалі ня толькі ад ЗП.. Адпаведна, кожны, хто можа ( і хоча) думаць , вымушаны быў задаць сябе пытаньне: «А чаму чэчэнскі народ ня можа мець сваю дзяржаву? Мы , вось, маем».
Пасля «Чарнобыльскага шляху» Зянон Пазьняк збёг назаўжды з Беларусі. І «абезгалоўлены» БНФ залёг у спячку.. У сувязі, з тым што, зараз, Сяргей Навумчык вельмі настойвае на «пагрозе жыцця для Пазьняка», я прапаную мой аналіз той сітуацыі.
І. Стан Александра Лукашенко. а) Вядома, што АЛ , перадусім, прыймае рашэньня на падставе сваіх псіхічных (дзіцячых) комплексаў і ўнутранаму адчуваньню (6-ае пачуцце) і толькі, потым, карыстаньне лагічнымі (разумнымі) развагамі. .

б) АЛ яшчэ карыстаўся моцнай падтрымкай насельніцтва, якое чакала «цуду». Ягоныя антыканстытуцыйныя дзеяньня не выклікалі пратэстаў грамадзян.(бо і ня ведалі ШТО адбывалася, СМІ цалкам пад АЛ)
в) АЛ палітычна знішчыў БНФ ( у парляменце сябраў БНФ няма)
г) АЛ пабачыў , што Пазьняк ня змог арганізаваць пратэсты грамадзянаў пасля бандыцкага збіцця дэпутатаў у залі ВС, то бок, Пазьняк быў слабы.
ІІ. Яшчэ не быў створаны «эскадрон смерці». Беларускае «КГБ» , была ўсё яшчэ «советское». Адпаведна там не існавала «боевого отряда», "малпаў", здольных на забойства палітычных апанентаў дыктатара і , нават, на збіццё дэпутатаў. Дарэчы, няма моцных доказаў , што дэпутатаў (1995 год) збівалі супрацоўнікі беларускіх спецслужбаў. Але і тады збіццё дэпутатаў ад БНФ у 1995 годзе не скончылася нават калецтвам. Псіхолагі ( і псіхатэрапэўты) даўно паказалі што ёсьць «бар'ер» для «забіцця» другога чалавека. Больш таго, людзі ў «чорным» дакладна ведалі, што яны б'юць законна выбраных дэпутатаў і ў «асаблівым месцы», у залі парляменту. Гэта вельмі цяжкое злачынства. У цывілізаванай краіне , такія "малпы" і прэзыдэнт хутка бы апынуліся бы за кратамі.
ІІІ. Жыццё паказала, што ЗП няздольны арганізаваць масавы пратэстны рух і , нават, няздольны дамаўляцца з кіраўнікамі дэмакратычных структураў. ЗП заўсёды быў ( і ёсьць) абсурдна безкампрамісны. Лукашенко дастаткова добра ведаў ЗП і , я ня думаю , што ён баяўся ЗП, як «сілы».
IV.Я не ведаю, ці мог прагназаваць АЛ «масавыя»

пратэсты грамадзянаў пасля арышту Пазьняка.. Але арганізаваныя БНФ, такія пратэсты абавязкова былі бы. Нават я браў бы удзел у такіх пратэстах.
Выснову ,паважаныя чытачы, рабіце самі.

Я толькі хачу ўзгадаць словы паважанай Валерыі Навадворскай, якая лічыць, што калі Зянон Пазьняк абвесьціў сябе «абаронцам беларускага Народу, то ён НЕ павінен быў баяцца «памерці за Народ».
Кастусь Каліноўскі не баяўся памерці «за Народ» і нават не прасіў «пашкадаваць яго» (помилования-рус.яз) у расійскага цара.
1996 не скончыў паказваць свае «неспадзяванкі». Наперадзе была лёсавызначальная падзея.

Я нагадаю, што ў снежні 1994 года Сяргей Антончык зрабіў свой «антыкарупцыйны даклад» і тэма «карупцыі» неяк абмяркоўвалася ў БНФ. Была вырашана арганізаваць «антыкарупцыйны мітынг», які і адбыўся 27 ліпеня,на пляцу каля Дома афіцэраў.Там выступіў і Сяргей Антончык. . Так, ужо вельмі жорстка гаварылася аб уладзе Александра Лукашенко, нехта ( я не памятаю - хто) прапанаваў актыўныя дзеяньні дэмакратаў для пачатку працэсу «імпічмэнт» ( то бок, адстаўка) для Александра Лукашенко.

Вось так успамінаюць тыя часы удзельнікі праграмы tut.by

*В.М. - Но прежде чем перейти к событиям лета и осени 1996 года, стоит все-таки пару слов сказать и о возникновении Сообщества России и Беларуси, ...............................................*

*Достаточно вспомнить 10-тысячный митинг в "старый" День независимости, 27 июля, когда, пожалуй, впервые громко и*

*внятно прозвучало слово: импичмент! Но, напомнив об импичменте, оппозиционеры сразу же предложили президенту "круглый стол"...*

*Конституционный суд признал незаконными около полутора десятков его указов. За это, в демократических и цивилизованных государствах объявляют импичмент.*

*С.О. - Замечу, в этот же день оппозиция провела "Всебелорусский конгресс в защиту Конституции, против диктатуры" - альтернативное мероприятие Всебелорусскому народному собранию, которое прошло в минском Дворце профсоюзов.*

*В.М. - При этом оппозиция так и не смогла добиться подлинного объединения демократических сил.*

Каб удакладніць ацэнку маладзёнаў (*«оппозиционеры сразу же предложили»* ), я нагадаю, што тады ўжо ,на «перадавую лінію» апазыцыі выйшлі, новыя дэмакраты, які былі абраны ў Вярхоўны Савет. Большасьць з іх, зусім нядаўна, былі памагатымі Александра Лукашенко. Вось таму «былыя хаўруснікі» і прапанавалі «круглы стол». Я думаю, што вось гэтая «былоя» і не дазволіла давесьці Справу да рэальнага імпічменту, адпаведна і да «*подлинного объединения демократических сил»*..

Я, зразумела, браў удзел ва ўсіх масавых акцыях апазыцыі, але толькі як звычайны грамадзянін.

Лета ( і далей) 1996 года для мяне была вызначальным прыватнымі справамі. Глядзіце вышэй. Наблізілася восень.

**Захоп улады -- пачатак дыктатуры Александра Лукашенко.**

Недзе ўлетку я даведаўся, што рыхтуецца «новая Канстытуцыя.
Для мяне ( я думаю – і для большасьці грамадзян) , нечаканым была прапанова прэзыдэнта Александра Лукашенко аб «референдуме». Праз нейкі час я даведаўся хто быў юрыдычным аўтарам зменаў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь. Я ведаў гэтага чалавека, сустракаўся з ім, ён быў экспертам Фонду імя Льва Сапегі, нашага Фонду. Аляксандр Міхайлавіч Абрамовіч быў, канешне, вельмі кваліфікаваным і разумным юрыстам, а вось Мараль (прынцыпы) у яго абсалютна адсутнічалі. Менавіта ён падказаў Лукашенко як зрабіць «канстытуцыю» для дыктатуры. Менавіта ён, Абрамовіч, прапанаваў асноўныя дыктатарскія артыкулы для «канстытуцыі» Лукашенко.

Мне не хочацца падкрэсліваць ягоную нацыянальнасьць, але так атрымліваецца, што людзі з ягонага «калена» вельмі часта мелі толькі адзін прынцып: «Я не маю аніякіх прынцыпаў». Такія словы я пачуў ад свайго начальніка ў Акадэміі Навук.

Дык вось неяк (пасля абвяшчэньня Рэфэрэндума) я сустрэў спадара Абрамовіча ў бібліятэцы Акадэміі Навук. Я пачаў яму гаварыць: «Ну як жа так можна дапамагаць ствараць дыктатуру..» .Але ён не захацеў нават выслухаць мяне – хуценька збег.  Вось я і думаю ( ужо зараз), што няма сэнсу гаварыць разумныя словы, аргументы такім істотам як Абрамовіч, дыктатар Александр Лукашенко... Гэта тоя ж самая, як спрабаваць «навучыць» ваўка есьці капусту.  А вось фізічная сіла для такіх істотаў пакідае «аргумент».

Дарэчы мы бачылі «прыклад». Сапраўдны Афіцер (МС) даў (пазней ) прыклад.

Дык вось, павінен быць Рэфэрэндум.

Бадай, «нечакана» --- была для ўсіх лідэраў дэмакратаў. Апазыцыя не змагла выкарыстаць пратэстны патэнцыял грамадзян, які быў паказаны на «Чарнобыльскім шляху». БНФ, бяз «галавы» ня мог дзейнічаць . Іншыя партыі, якія ўтварыліся, альбо «забяспечвалі» дзейнасьць сваіх дэпутатаў, як створаная ў 1995 годзе ОГП ( Объединенная гражданская партия) , ці займалася ўнутранымі «разборкамі», як Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, якая ператварылася ў аморфнае аб'яднаньне «Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя-Народная Грамада». Зноў атрымалася, што не апазыцыйныя арганізацыі, а дэпутаты ВС, сябры гэтых арганізацый павінны «УСЁ» вырашыць. Але сярод іх былі былыя паплечнікі Александра Лукашенко, дзеяньнямі якіх ( свядома ,ці падсвядома) рухала толькі жаданьнне «выторговать у сорвавшегося с привязи их ставленника» выгодныя пасады, для сябе асабіста. Гэта сведчыць і заява Віктара Ганчара, старшыні Цэнтральнага Выбарчага Камітэта, што ён, вынікі рэфэрэндума, не падпіша. І гэта пасля бандытызму прэзыдэнта Лукашенко ў красавіку 1995 года . Дурнем Віктар Ганчар не быў. То на што ён разлічваў, калі зрабіў такую «Заяву»?

Так, пачаўся збор подпісаў дэпутатаў пад «Заявай Вярхоўнага Савета» у Канстытуцыйны Суд. Неабходную колькасьць «подпісаў дэпутатаў» сабралі, «Заяву» аддалі у Канстытуцыйны Суд. Падпісалася пад

«Заявай аб імпічменце» 73 дэпутата .Але потым адмовілася ад свайго подпісу 12 дэпутатаў. ЧАМУ? Чаму яны не паведамілі публічна аб «давлении на их»? Дзе былі незалежныя журналісты? Чаму яны іх «не достали» ?

Потым пачаліся дзіўныя рэчы. Апазыцыйныя арганізацыі не пачалі інфармаваньне грамадзян праз пікеты , улёткі . Неабходна была грамадзянам растлумачыць «ШТО» адбываецца, менавіта, праз актыўнасьць апазыцыйных арганізацый, бо СМІ Александр Лукашенко ўжо «зацугляў»і павярнулася «савецкая прапаганда». Апазыцыйныя арганізацыі пасіўна згадзіліся на варыянт дэпутатаў Вярхоўнага Савета: прапанаваць альтэрнатыўны праект зменаў у Канстытуцыю.

Нагадаю словы Станіслава Багданкевіча (2002 год, форум ОГП). *«Будучи в Верховном Совете , я возглавлял 18 оппозиционных депутатов. Потом это число выросло до 22 депутатов.* ***Мы представляли миллион человек****. Так как же нет оппозиции? Как говорить об отсутствии* ***рейтинга?*** *Он просто неизвестен*.»

Працэдура імпічмента была пачата, на 22 лістапада было прызначана слуханьне справы аб парушэньні прэзыдэнтам Александром Лукашенко Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. На той час , Канстытуцыйны Суд прызнаў, што 18 Указаў Прэзыдэнта РБ Александра Лукашенко супярэчаць Канстытуцыі РБ. І вось наступная прапанова парушыць Канстытуцыю , а дакладней , увогуле «зламаць» Канстытуцыю, бо прапануецца новая Канстытуцыя . Але «колхозный»

прэзыдэнт Александр Лукашенко пабачыў , што няма супраціву ягоным бандыцкім дзеяньням. «Молчание - знак согласия». *«Закона нет для народного президента».* А калі ёсьць маўклівы дазвол на парушэньне законаў, то Прэзыдэнту можна ўсё. Вось таму Александр Лукашенко загадаў сваім памагатым «поговорить с зарвавшимися депутатами», то бок, з тымі дэпутатамі, які падпісалі «Заяву» аб імпічменце.

Я нагадаю, быў 1996 год, **яшчэ не была «исчезновений»**, нават крымінальных «авторитетов». Так, быў бандытызм Александра Лукашенко ў красавіку 1995 года. Але ж ён сам і, ўсе СМІ паведамілі, што «*депутатов аккуратно вынесли на руках».* Заявам БНФ , такія дэпутаты ВС, як Валеры Кругавы, канешне, не верылі. Дык чаго я паказваю «тло» тых падзей? Справа ў тым, што некаторыя падпісанты- дэпутаты напісалі заявы ў Канстытуцыйны Суд , што яны адмаўляюцца ад свайго подпісу пад «Заявай аб імпічменце прэзыдэнту». Чаму такія «независимые» , такія прафесійныя журналісты , напрыклад, з беларускай рэдакцыі радыё «Свабода», ці газэты «БР», іншых, якія лічаць сябе прафесіяналамі , не задалі простае пытаньне тым дэпутатам, якія адмовіліся ад свайго подпісу? «ЧАМУ ён адмовіўся ад свайго подпісу?» . Дарэчы, той жа ,Валеры Кругавы ( я лічу, «на халяву» ) атрымаў «статус уцякача» у Польшчы , мог бы адказаць на гэтае пытаньне.

Журналісты! Дзе вы ёсьць?!

Падпісалася пад «Заявай аб імпічменце» 73 ( хацелі -- 75) дэпутатаў.Адмовілася ад свайго подпісу 12.Чаму? Факты!Вось праца для журналістаў паказаць лёс

кожнага з «падпісантаў».

Мая думка такая.

Агульна, я магу сцьвердзіць, што «помста» Александра Лукашенко «подпісантам» (61-у дэпутату) не была страшнай, ніхто з іх «не исчез», ды і асаблівых праблемаў не меў, бадай, толькі адзін быў кінуты за краты. Зразумела, калі была магчымасць «зачапіць», то бок , дэпутат займаўся бізнесам і парушаў Закон, то ,канешне, дыктатар Александр Лукашенко скарыстаўся такой нагодай. Напрыклад, адносна таго ж (банкіра) Валерыя Кругавога. Але , дзеля Справядлівасьці, я хачу зазначыць, што ў Беларусі не можна быць паспяховым (багатым) бізнесменам, калі не парушаць Закон.

Я ўсё яшчэ чакаю прафесійнае працы журналістаў і адказу на пастаўленая Пытаньне.

На Рэфэрэндум былі прапанаваны і іншыя пытаньні, некаторыя , для мяне , вельмі дзіўныя.

Успамінаюць тыя часы удзельнікі праграмы tut.by ( я даю гэтыя ўспаміны, бо іх лёгка праверыць і знайсьці ў Інтэрнет, больш таго там была вялікая колькасьць каментароў, мае таксама.)

*В.М. - Их было семь: четыре из них внес президент, три - парламент. Глава государства интересовался у народа, согласен ли тот с предложенной президентом новой редакцией Основного закона страны, с переносом праздника Дня независимости с 27 июля на 3 июля - т.е. на День освобождения Беларуси от немецко-фашистских захватчиков. Третий вопрос был об отношении к отмене смертной казни, а четвертый - к "свободной, без ограничений" покупке и продаже земли.*

*Верховный Совет хотел знать, как относятся люди к новой Конституции, в которой отсутствует пост президента; к тому, чтобы финансирование всех ветвей власти осуществлялось гласно и только из государственного бюджета, а также к идее возврата прямых выборов руководителей местных органов власти*

*Ну а за то, чтобы финансирование всех ветвей власти осуществлялось гласно и только из государственного бюджета – 32,18% . 25 ноября, когда были подведены предварительные итоги, Лукашенко дал пресс-конференцию, назвав проведение референдума "безупречным» .*

Як гэта не дзіўна, але агітацыі, вулічнай, супраць Рэфэрэндума і набліжэньня дыктатуры, арганізацыі дэмакратаў не распачалі.

Але я не мог маўчаць. Я сам надрукаваў Улётку, зрабіў копіі і распаўсюджваў на праспекце імя Францыска Скарыны. Мяне затрымала міліцыя, склалі пратакол . Глядзіце фотакопію пратакола. Але судовага працэсу не была. Чаму? Я не ведаю.

Чым пагражаў Рэфэрэндум?

Каб была зразумела даю непасрэдна тэкст пытаньняў Рэфэрэндума ад Прэзідэнта.

*1. Перенести День Независимости Республики Беларусь (День Республики) на 3 июля.*

*2. Принять Конституцию 1994 года* ***с изменениями и дополнениями,*** *предложенными президентом РБ.*

*3. Выступаете ли Вы за свободную, без ограничений, куплю и продажу земли?*

*4. Поддерживаете ли Вы отмену смертной казни в РБ?*

Я думаю, што 99% насельніцтва не чыталі тэкст «прэзыдэнтскай канстытуцыі» , але шмат хто з іх галасаваў «за Лукашенко», а не за сутнасьць пытаньняў прапанаваных Прэзыдэнтам.

Вось прыклад «прафесійнасьці» журналістаў, якія ня звярнулі ўвагу, як у тэксце Канстытуцыі Лукашенко і $К^{о}$ схавалі падаўжэньне ягонага прэзыдэнтскага тэрміну на 2 гады. Менавіта схавалі, амаль ніхто тады не звярнуў увагі на той факт.

Але *і "безупречным»* працэс выбараў абсалютна нельга назваць, нават толькі па адной прычыне: законнага (легітымнага) кіраўніка Цэнтральнага Выбарчага Камітэта прэзыдэнт Александр Лукашенко, ізноў па-бандыцку, выкінуў з яго кабінету і пасадзіў туды сваю шаўку, Лидию Ермошину, якая ліжа боты гаспадара і да гэтага часу.

З другога боку ўзгадаем словы Станіслава Багданкевіча *«Будучи в Верховном Совете , я возглавлял 18 оппозиционных депутатов. Потом это число выросло до 22 депутатов.* ***Мы представляли миллион человек.»*** **.** Дык чаму, гэты мільён чалавек не выйшаў на вуліцы з пратэстамі?

Як адбывалася прызначэньне «Рэфэрэндума» і само галасаваньне, о «российском десанте» напісана даволі шмат.

Я паспрабаваў паўплываць на рашэньня ВС. Да таго часу, я ўжо быў дастаткова юрыдычна адукаваны. Я падрыхтаваў «праект Пастановы ВС» і праз сакратарку Шарэцкага перадаў яму маю прапанову. Адказу я не атрымаў і, мой праект Пастановы Вярхоўнага Савету

не быў пастаўлены на галасаваньне. І сёньня я перакананы, што мая прапанова спыніла бы рэфэрэндум.
Успаміны з tut.by

*С.О. - Но накануне в Минск из Москвы прилетели премьер-министр России Виктор Черномырдин и спикеры обеих палат - Егор Строев и Геннадий Селезнев. Прилетели, чтобы помочь урегулировать конфликт. Примечательно, что к руководству России с просьбой выступить в качестве третейского судьи обратился как раз таки Верховный Совет ( ?). В результате этого визита запланированное на 22 ноября заседание Конституционного суда, о котором ты говорил, не состоялось.* ***А 26-го свет увидел документ за № Р-45/96 о прекращении производства по делу "О нарушении Президентом Республики Беларусь Лукашенко Александром Григорьевичем Конституции Республики Беларусь" за подписью председателя Конституционного суда Валерия Тихини.***

*В.М. - Поздним вечером 21 ноября состоялась встреча, в которой принимали участие спикер Верховного Совета Семен Шарецкий, Геннадий Карпенко, лидер ПКБ Сергей Калякин, собственно Александр Лукашенко, глава Администрации президента Михаил Мясникович, член Конституционного суда Григорий Василевич, а также Строев, Черномырдин и Селезнев.*

*С.О. - Автографы под документом поставили Лукашенко, Шарецкий, Черномырдин, Строев, Селезнев и…* ***Тихиня,*** *хотя это выходило за рамки его полномочий. И вообще, поведение* ***председателя Конституционного суда в ноябре 1996 года вызвало в среде оппозиции очень много вопросов.***

Вось тут узгадалі товарища Тихиню, былого функціянера ЦК КПБ-КПСС. Дзе былі дэпутаты ад БНФ, калі яго прызначалі Старшынёй Канстытуцыйнага Суда?
Дык вось, абсалютна нечакана, у «перамовы» актыўна ўлез Валерий Тихиня.

Зараз кожны можа лёгка знайсьці праз Інтэрнет «паўнамоцтвы Старшыні Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь». Гэтыя паўнамоцтвы былі такія ж і ў 1996 годзе. Канстытуцыйны Суд павінен быць абсалютна нейтральным ворганам, адпаведна , і Старшыня Канстытуцыйнага Суда не павінен улазіць у розные «палітычныя перамовы». Але вось ,на гвалт, Валерий Тихиня ўдзельнічае ў перамовах паміж «апазыцыяй» і Прэзыдэнтам, потым ,нават, ставіць свой подпіс пад «Пагадненьнем».Чаму? Плёткі хадзілі розныя. Нібы пагражалі жыццю... і гэтак далей. Але ,вышэй, я растлумачыў, што такі «аргумент» -- то абсалютнае глупства, як і для дэпутатаў , якія «забралі» свой подпіс. Дастаткова была даць інфармацыю ў незалежныя СМІ аб уціск<br>ах і «пагрозах». Прычынай была іншае...

**Міхаіл Пастухоў**:"*Гэта была ноч здрадніцтва. Фактычна гэта было згортваньне дэмакратыі беларускай. Гэта была ноч, якая потым павісла над усёй нашай гісторыяй на доўгія гады. Гэта быў канстытуцыйны крызыс, гэта была зьмена ўлады ў абыход канстытуцыі, гэта была, дакладней, барацьба за ўладу".*

Народ .

Я, канешне, быў на «Плошчы», але я спадзяваўся на кіраўніцтва БНФ (Лявон Баршчэўскі, В.Вячорка, Юры Хадыка) , таксама і на «новых дэмакратаў»- дэпутатаў, а таму ўласнае ініцыятывы на «плошчы» не выказваў. Але думка была: што трэба рабіць. Зараз , безумоўна, я шкадую, бо я бачыў, што трэба была весьці народ да

будынку Канстытуцыйнага суда. Я адчуваю зараз і маю віну, за сваю «беларускасьць» (не высоўвацца) --я ж не «Начальнік», не фармальны лідэр апазыцыйнай партыі.
Былы суддзя КС , Міхаіл Пастухоў, гаварыў, што сярод «членов Конституционного Суда» была сітуацыя прыблізна 50% на 50%, што пацьвердзіла маю выснову аб неабходнасьці ціску вуліцы на Канстытуцыйны Суд.
Тагачасныя палітычныя лідэры ( і кіраўнікі БНФ , і ўцякач Зянон Пазьняк) не зразумелі небходнасьць ціску на КС. Я, безумоўна ,адчуваю сваю асабістую адказнасьць за тую сітуацыю. Але нагадаю, я прыпыніў сяброўства ў БНФ.
Да таго ж я вельмі не хацеў быць палітычным лідэрам, бо ўсё яшчэ я хацеў быць Вучоным. У АН Беларусі (інстытуце) я быў кіраўніком экалягічнай праграмы («чарнобыльскай»), таксама спрабаваў я змагацца за раённы Савет дэпутатаў , вывучаў юрыдычную навуку, удзельнічаў і ствараў грамадзкія арганізацыі.. Карацей, быў вельмі заняты рознымі справамі і лідэрства ў «вялікай» палітыцы мне не пасавала.
Мітусня на «Плошчы» (каля Дома Ураду) была толькі мітуснёй. Так, нас супакойвалі дэпутаты, што «дамовімся». На прапанову ад БНФ Старшыні ВС Шарэцкаму, прывесьці народ у залю ВС для падтрымкі «імпічмента» Прэзыдэнту, дыпламаваны калгаснік катэгарычна запярэчыў. Старшыня Вярхоўнага Савета, Сямен Шарэцкі спадзяваўся на «мирное разрешение конфликта». І гэта пасля таго, як ён публічна абвесціў, што насоўваецца ДЫКТАТУРА!
Як потым мы даведаліся «раб па сутнасьці», дыпламаваны **калгаснік,** Шарэцкі ( адпаведнасьць рускага слова - «крепостной») спадзяваўся на «барына»

з Масквы Менавіта ён запрасіў злачынную расійскую «тройку». Я , як толькі даведаўся ад прапанове раба Шарэцкага, накіраваў «урадавую тэлэграму» кіраўніку ўрада Расіі Черномырдину ад свайго імя. Падпісаўся я, «Председатель Депутатского Клуба г.Минска..» Я прасіў яго і расійскіх палітыкаў не ўмешвацца ва ўнутраныя справы суверэннай Беларусі. Але, але.. Сталася, тоя , што сталася.
Дарэчы, тады, 24 лістапада 1996 года былі давыбары дэпутатаў у Вярхоўны Савет. Але , я памятаю, што яны ( у Першамайскім раёне) не адбыліся ў большасьці акругаў. Галасаваць прыйшло меньш чым 50% уключаных у спіс грамадзян. Са спісамі грамадзян таксама была «праблема». А вось з «голосованием по референдуму было всё в порядке». Дзіва!

Вось мая ацэнка дзейнасьці «лідэраў».

Ну, і атрымалася, тоя, што атрымалася – ДЫКТАТУРА Александра Лукашенко.
Вось зараз чытаю ўспаміны некаторых дэпутатаў ад БНФ, як яны (дэпутаты) ўдала пагражалі дэпутатам-камуністам ВС у 1991 годзе , што прывядуць народ з вуліцы... Адпаведна, у мяне была і ёсьць пытаньне, чаму кіраўнікі БНФ, Лявон Баршчэўскі, перадусім, які быў дэпутатам у 1991 годзе, і выконваў абавязкі Старшыні БНФ у 1996 годзе, не заклікаў Народ да будынка Канстытуцыйнага суда, каб член ЦК КПСС Валерый Ціхіня выканаў Канстытуцыю, выканаў Закон і, Канстытуцыйны суд тады бы зацвердзіў бы «імпічмент» Прэзыдэнту, то бок, Александру Лукашенко...

Фактычна, арганізацыя БНФ не паказала сваей дзейнасьці ў гэты крытычны лёсавызначальны для Беларусі час. А палітычны ўцякач, але , ўсё яшчэ Старшыня БНФ, Зянон Пазьняк, так «зашыўся у нару» ад страху , што не змог выслаць нават «факс» сваім намесьнікам.
Пазней, у 2009 годзе, калі была прапанова выставіць на прэзыдэнтскіх выбарах 2010 года , Лявона Баршчэўскага, я паведаміў Лявону, што я катэгарычна супраць ягонай кандыдатуры. Больш таго, калі ён пагадзіцца быць «Кандыдатам», то я пакажу ягоную ганебную бяздзейнасьць , як кіраўніка БНФ у 1996 годзе. У выніку, Лявон Баршчэўскі адмовіўся быць «Кандыдатам».

Публікацыя вынікаў сфальшаванага рэфэрэндума ( масавай контрагітацыі супраць Рэфэрэндума ,дарэчы, таксама не была) і жорсткая прапаганда лукашенкаўскіх прастытутак-журналістаў , цалкам дэмаралізавала беларускіх дэмакратаў, а таму нават чарговыя незаконныя, злачынныя дзеяньні Александра Лукашенко: скасаваньне ВС і ПРЫЗНАЧЭНЬНЕ дэпутатаў у «палатку» не выклікала вулічных пратэстаў. Нават у СССР дэпутатаў «ГенСек» не прызначаў.
Дыктатура, як вірус, калі яе не задушыць на пачатку , то яна апануе увесь арганізм. Што і сталася.

**Выснова: апазыцыя, перадусім , БНФ, паказала цалкам сваю нямогласьць, няздольнасьць да актыўных дзеяньняў, няздольнасьць да супраціву.**

Кіравалі апазыцыйнымі арганізацыямі яшчэ доўга тыя ж «палітыкі-імпатэнты», якія не змаглі арганізаваць які-кольвек пратэст нараджэньню Дыктатуры. Некаторыя «тыя» фармальныя лідэры і зараз кіруюць..
То якая можа быць эфэктыўная дзейнасьць апазыцыі пад кіраўніцтвам няздольных да дзеянньнеў кіраўнікоў? Атрымліваецца, што яны трымаюцца за «пасады» толькі для «палітычнага турызму» на Захад і , на розны спосаб, знішчаюць канкурэнтаў. Што цікава, гультаяватыя беларускія журналісты дапамагаюць ім у гэтым антыдэмакратычным працэсе.

Для крытыкаў маёй дзейнасьці, я нагадаю.
У тых падзеях, 1996-га, я не мог браць актыўны ўдзел і па іншых прычынах. «КГБ» ( я думаю) «падкінула» мне нечакана сур'ёзную сямейную праблему, якой я быў вымушаны моцна займацца, дакладней , абараняцца, яшчэ доўгі час . Такія «праблемы» завяршыліся для мяне бязглуздай ( але жорсткай) крымінальнай справай супраць мяне. Калі некага мая прыватнасьць больш цікавіць, то можа прачытаць мой «Ліст сябру» на маей старонцы, якую я называю,на беларускі капыл, «мойчас»: http://grycuk.livejournal.com

**25 лістапада 1996 года можна «святкаваць» як дзень нараджэньня дыктатуры ў Беларусі.**

Ўвогуле , для таго часу ( верасень – снежань 1996 года) у мяне шмат пытаньняў да фармальных лідэраў, да дэпутатаў і іншых актывістаў, на якія і зараз, я (і ня толькі я) не маю адказу. Былыя дэпутаты ня хочуць гаварыць аб тых падзеях «всё» публічна,

а гультаяватыя журналісты «далей свайго носа» не бачаць.
Хто з журналістаў (ці былых дэпутатаў) напіша кнігу: « 1996 год – як гэта была?»Я лічу гэта вельмі важнай справай, якая можа паўплываць на бягучыя падзеі і так званы «дыялёг». Вось і тады быў жа «дыялёг» з яшчэ, маладым , дыктатарам...
1996 год паказаў канчаткова, што з «палітыкай --- канец», а таму я вырашыў заняцца больш актыўна дзейнасьцю ў грамадзкіх арганізацыях.

Я і раней удзельнічаў у стварэньні шматлікіх грамадзкіх арганізацый. У Менску дэмакраты-актывісты былі на відавоку. Як ,мінімум, на апазыцыйных мітынгах прысутнічалі ўсе дэмакраты. Механізм стварэньня грамадзкай арганізацыі быў просты. Ініцыятар новай арганізацыі прасіў знаёмых дэмакратаў даць згоду на сяброўства «у яго арганізацыі», даць сваё прозвішча ў «Спіс». Статут пісаўся лёгка, па ўзору. Вось так і атрымлівалася, што той самы чалавек (напрыклад, я) быў адначасова сябрам дзесяці грамадзкіх арганізацый. На жаль ( але то жыццё беларускае) так атрымлівалася, што і кіраўнікі грамадзкіх арганізацыях карысталіся аўтарытарнымі метадамі, а таму калі, ты хочаш дзейнічаць па сваей прапанове, то ты мусіш стварыць «сваю» грамадзкую арганізацыю.




**“Чарнобыльскі Шлях”.Загад дыктатуры: “БИТЬ!», 1996 год**



...9 ЛІСТАПАДА 1996 г. ● АГУЛЬНЫ ТЫРАЖ 142 970 ● КОШТ У РОЗНІЦУ — 1200 РУБ.

**Об обеспечении конституционного права граждан на участие в референдуме**

Указ Президента Республики Беларусь

(Окончание на с.2)

Ваш выбор

РЕФЕРЕНДУМ 9-24 ноября

**БЮЛЛЕТЕНЬ**

**для голосования на республиканском референдуме в Республике Беларусь 24 ноября 1996 года**

ОБРАЗЕЦ

**Прапаганда дыктатара, 1996 год**

*1997*

**HREC**

Адукацыйны Цэнтр «Правы Чалавека», HREC (Human Rights Educational Centre)

Пад час мінулагодніх падзей (1996г.), я пабачыў, што ,нават, дэмакраты-актывісты не разумеюць сутнасьці сваіх правоў, не разумеюць Правы Чалавека. Вось менавіта таму, я і вырашыў стварыць асобную арганізацыю , якая бы распаўсюджвала бы веды па Правох Чалавека ў Беларусі. Менавіта, не праваабарончую, ці «моніторынгавую», як «БХК», а асветніцкую арганізацыю.
На той час у мяне ўжо былі сустрэчы з прадстаўнікамі Amnesty International, якія прыязджалі ў Менск. Таксама я мог ў Акадэміі Навук карыстацца Інтэрнет, ангельскаю мову я ведаў дастаткова, каб разумець тэксты.
Вось таму ў мяне і была «база» для стварэньня такой арганізацыі. Я таксама меў добрыя кантакты са школамі ў сваім мікрараёне.
Але, зразумела, савецкая сістэма адукацыі, якая захавалася ў Беларусі, абараняць свае права, Права Чалавека, не вучыць , як то дыктатура і зараз.
На той час, нават тэкст «Усеагульнай Дэкларацыі Правоў Чалавека» знайсьці была цяжка. Я, асабіста захаваў тэкст УДПЧ, які надрукавала ў газеце ўлада М.С.Гарбачова.
Як ствараецца НУА (NGO) я ведаў, бо гэта была бадай ужо 10-ая арганізацыя , якую я ствараў, ці прыймаў удзел у стварэньні.

Была ( і ёсьць) вельмі важна, хто, якія асобы будуць сябрамі-стваральнікамі арганізацыямі. Статут напісаць для мяне не была праблемай, бо я ўжо атрымаў юрыдычную адукацыю , ды і «практыка» была ў мяне шырокай. Статут я напісаў сам. Потым, я папрасіў 16 чалавек каб яны былі сябрамі такой арганізацыі.Дзякуй усім ім , што пагадзіліся дапамагчы мне пачаць вельмі важную справу для Беларусі.

Потым я зладзіў агульны Сход, сабраў усе неабходны звесткі, папрасіў грошы (на рэгістрацыю) ў вельмі добрага чалавека, навукоўца ( Інстытут геахіміі і геафізікі АН РБ) і бізнесоўца Віталія Масквіча. Для рэгістрацыі юрыдычную адрэсу мне спачатку даў Інстытут, дзе я працаваў, а потым банк. Светлая памяць Віталю Масквічу, добраму чалавеку і дэмакрату – лукашенкаўскія сабакі рэпрэсіямі, загналі яго ў труну, не вытрымала сэрца крымінальнага пераследу. Менавіта, спадар Масквіч «карміў», плаціў грошы (зарплату) шмат каму з апазыцыі, але яны, канешне, і дня не працавалі ў ягонай фірме.Спадар Масквіч меў бізнес-фірму для геалагічных распрацовак пры Інстытуце геахіміі геафізікі Акадэміі Навук Беларусі.

Грамадзкая арганізацыя , Адукацыйны Цэнтр «Правы Чалавека»,HREC (Human Rights Educational Centre) была зарэгістравана ў Менскім аддзеле юстыцыі,

**22 снежня 1997 года.**

**Вось гэтыя грамадзяне Беларусі былі заснавальнікамі** Адукацыйнага Цэнтра «Правы Чалавека»:

Бусьнюк Мікалай, Грыцук Валерый, Гвінт Валянціна, Ківель Уладзімір, Ларычкін Александр, Лыч Леанід, Міхнюк Яўгенія, Паўлава Таццяна, Пастухоў Міхаіл,

Грыцук Алеся, Пастухова Валянціна, Праўдзін Віктар, Скапцова Галіна, Сталярчук Канстанцін, Уланава Таццяна, Шаўцоў Сяргей, Філатаў Сяргей, Еўтушенка Людміла.

Я вельмі ўдзячны ім , што пагадзіліся дапамагчы мне пачаць вельмі важную справу для Беларусі і беларусаў.

Але актыўнымі сябрамі былі Віктар Праўдзін (сакратар), былы міліцыянт, дэпутат Першамайскага Савету дэпутатаў г.Менска і настаўніца фізікі ў школе мікрараёна «Уручча -3», ТаццянаУланава. Вельмі я ўдзячны Віктару Праўдзіну, бо ён шчыра і сумленна ,да самага канца, дапамагаў мне. А вось Уланава, дазволіла сябе бабскія плёткі адносна мяне. Яна была маім намесьнікам у HREC , але стала працавала ў сярэдняй школе; падтрымлівала БНФ.

1997 год- быў, у асноўным, прысвечаны стварэньню і распрацоўцы плянаў дзейнасьці арганізацыі. Я, фактычна, адзін займаўся ўсім гэтым, бо сябры Арганізацыі былі (усе) вельмі занятымі людзьмі, займалі ( у большасьці) значныя дзяржаўныя пасады, ад старшыні суда Першамайскага раёну гораду Менску да пасадаў у Нацыянальнай Акадэміі Навук. Гэтыя людзі, (урадоўцы) шчыра мне паведамілі , што даюць згоду быць заснавальнікамі Арганізацыі ( прозвішчы ў спіс) , але дзейнасьці ў НУА ня будзе. Я працаваў за грошы толькі на асноўнай працы, у Акадэміі Навук. Але, ужо, задарма, дапамагаў дзейнасьці Фонду імя Льва Сапегі (Адказны Сакратар) і КГС «Уручча-1,2,3». Нідзе ў грамадзкіх арганізацыях я грошы не атрымліваў.

Працягваў я (як мог) і сваю дэпутацкую дзейнасьць. Да ўсяго гэтага дадаліся асабістыя праблемы – трэба была

змагацца за свае правы ў прыватных справах.
1997 год, акрамя, працы ў АН ( і прыватных спраў) быў для мяне пошукам магчымасьці дзейнасьці Адукацыйнага Цэнтра «Правы Чалавека», пошуку партнёраў у Эўропе. Зразумела, я і надалей удзельнічаў у масавых акцыях апазыцыі. У вясновай акцыі ледзь не патрапіў за краты, але мяне своечасова папярэдзіў знаёмы міліцыянт. ( «Ідзіце хутка адсюль»). Разважаць не было калі.  Як памятаю, менавіта , тады пачаліся першыя судовыя працэсы за ўдзел у масавай акцыі.
Адразу, пасля рэгістрацыі Арганізацыі, я пачаў хадзіць у Міністэрства Адукацыі з прапановамі ўвесьці ў школьныя праграмы «адукацыю па Правам Чалавека». Я размаўляў на гэтую тэму з супрацоўнікамі Міністэрства . Такім чынам я ініцыяваў стварэньне школьнай Праграмы і «Нацыянальнага Плана ў галіне адукацыі па Правам Чалавека».
Вось прыклады. Праграма.
*«Аб выкладанні правоў чалавека ў агульнаадукацыйных школах, прафесійна-тэхнічных вучылішчах і сярэдніх спецыяльных навучальных установах у 1998-99 навучальным годзе.»*
Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 15 студзеня 1998г.
Аб зацвярджэнні складу Нацыянальнага камітэта Рэспублікі
Беларусь па святкаванні ў Рэспубліцы Беларусь 50-годдзя прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Загадам Міністэрства адукацыі ад
4 лютага 1998 года 45 прадугледжана ўвядзенне з 1 верасня 1998
года абавязковага курса "Правы челавека" ў сярэдніх агульнаадукацыйных
школах, ліцэях, гімназіях, прафесійна-тэхнічных вучылішчах, каледжах,
сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах.
У адпаведнасці з вышэйназванымі дакументамі рэкамендуецца
ўключыць для абавязковага вывучэння ў праграму курса "Чалавек
і грамадства" (9, 11 кл.) раздзел па правах чалавека і ўнесці
ў асобныя тэмы дапаўненні па гэтай праблематыцы.
Неабходна адзначыць, што Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь
ад 15.01.1998г. і загадам Міністэрства адукацыі ад 04.02.1998г.

прадугледжана правядзенне 10 снежня 1998 года ў навучальна-выхаваўчых установах усіх тыпаў урока, прысвечанага 50-годдзю прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.
Гэтым жа Указам Прэзідэнта і загадам Міністэрства адукацыі прадугледжана арганізацыя ва ўстановах адукацыі ўсіх тыпаў куткоў (стэндаў) і выстаў літаратуры ў бібліятэках, якія прысвячаюцца Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.
Пазней, Указам Прэзыдэнта ,быў зацьверджаны «**Национальный План развития образования в области Прав Человека на 1999-2004гг.»**
Нацыянальны План быў выкананы толькі на 10 працэнтаў.

А дзе была апазыцыя? Грамадзкая арганізацыя ( не партыя) БНФ «Адраджэньне», дэмакратычныя НУА? Як яны скарысталіся з АФІЦЫЙНАЙ магчымасьці адзначыць дзень Правоў Чалавека? Не была іх. Ага, яны «гранты» не атрымалі, я вось без «гранта» змог публічна адзначыць вялікі Дзень!

**1998**

***Праекты і першы ў гісторыі Беларусі конкурс сярод школьнікаў па веданьню УДПЧ.***

1998 год быў адметны для Правоў Чалавека. У 1948 годзе Гэнеральная асамблея Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (Сход Народаў Міра) прыняла, зацьвердзіла тэкст Усеагульнай Дэкларацыі Правоў Чалавека. Дазвольце нагадаць пачатак УДПЧ.
***«Прымаючы пад увагу, што прызнанне годнасьці, якая ўласьціва ўсім членам чалавечай сям'і, і роўных і неад'емных правоў іх з'яўляецца асновай свабоды, справядлівасьці і ўсеагульнага міру; і***

***прымаючы пад увагу, што грэбаванне і пагарда да правоў чалавека прывялі да барбарскіх актаў, якія абураюць сумленьне чалавецтва, і, што стварэнне такога свету, у якім людзі будуць мець свабоду слова і перакананняў і будуць свабодныя ад страху і галечы, абвешчана як высокае імкненне людзей; і***

***прымаючы пад увагу, што неабходна, каб правы чалавека ахоўваліся ўладай закону з мэтай забеспячэння таго, каб чалавек не быў вымушаны ўжываць, у якасці апошняга сродку, паўстання супроць тыраніі і прыгнету;»***

Прыгожа , урачыста і магутна.
Але і тады і зараз ,на жаль, ёсьць шмат людзей, якія гавораць, што УДПЧ – гэта толькі «паперка». Дзіўная меркаваньне (для разумнага чалавека). Бо што такоя грошы? Гэта таксама «паперка», але усе пагадзіліся, прымаем (на веру) ,што гэта важкі і істотны жыццёвы неабходны сродак.. Адносна «электронных» (віртуальных) грошаў увогуле няма чаго гаварыць.. Але яны ёсьць. Так і з УДПЧ, агульна , і з Правамі Чалавека , калі мы іх прымаем, іх прытрымліваемся – то яны ёсьць. Калі НЕ--- то , адпаведна, іх няма.
Амаль, як у філёзафа-ідэяліста Гегеля.

Усе правы чалавека для ўсі х



1948-1998

Пяцідзесятая гадавіна Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека

---

Арганізацыйны камітэт конкурса
па Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека

Прадстаўніцтва ААН на Беларусі,
Асамблея дэмакратычных няўрадавых аргані зацый,
Адукацыйны Цэнтр «Правы чалавека»

# ГРАМАТА

Старшыня Аргкамітэту Валерый Грыцук





Сябры Адукацыйнага Цэнтра «Правы Чалавека» з партнёрамі, Балгарыя, Плоўдзіў.




Беларусь. Сустрэча з адвакатам, Верай Стрэмкоўскай ( у цэнтру)







Беларускія настаўнікі на трэнігу Адукацыйнага Цэнтра «Правы Чалавека»

Дык вось, гадавіна выключная. Хто яе ў Беларусі прыгадаў? Толькі мы, сябры Адукацыйнага Цэнтра «Правы Чалавека». Ці гэта ёсьць змаганьнем? Так .Гэта таксама змаганьне. Мы вырашылі арганізаваць конкурс сярод школьнікаў менскіх школаў. Напісалі адпаведны ліст у ААН (Жэневу) і прадстаўніцтва ААН у Менску, прасілі падтрымаць нашую акцыю. Ад офіса ААН з Жэневы мы адказу не атрымалі, а прадстаўнік ААН у Менску сказаў што ён падтрымлівае нас, вербальна, то бок словамі.
Але былі і такія, хто рэальна нас падтрымаў.
Як то не дзіўна ( а можа нармальна) падтрымала нас рэдакцыя «Вечерний Минск», можа таму , што я меў добрыя кантакты з некаторымі працаўнікамі газеты, а сам быў пазаштатным карэспандэнтам. Газета надрукавала нашую аб'яву аб пачатку конкурсу ,а потым, непасрэдна ў рэдакцыі газеты мы ўзнагароджвалі пераможцаў, менскіх школьнікаў. Вельмі шкада, што ніхто болей ў Беларусі не паўтарыў нашую «акцыю». Газета надрукавала мой артыкул, які быў прысвечаны гэтай падзеі і фотаздымак. Дарэчы, пераможцы (першыя два) потым сталі добрымі журналістамі, якія і зараз паважаюць Правы Чалавека і, абы што, не гавораць.У іхніх матэрыялах «желтізны» няма, што , напрыклад, усё часцей праглядае нават у матэрыялах журналістаў радыё «Свабода», бо такія журналісты не вывучалі Правы Чалавека.
Падрыхтоўка да Конкурсу не была простай, але была вялікае жаданьне арганізаваць такі конкурс, унікальную З'яву для Беларусі. Для мяне была праблема: як бяз грошаў знайсьці нешта добрае для падарунка пераможцам Конкурсу. Дапамог мне

бізнесмен, які арэндаваў памяшканьня для сваёй фабрыкі дзіцячых цацак у будынку нашага Інстытуту (АН Беларусі). Такім чынам мы мелі вельмі прыгожыя вялікія мяккія цацкі.
10 лепшых удзельнікаў былі ўзнагароджаны ганаровымі Граматамі. Форму Граматы, даволі прыгожую, ( шкада з памылкамі) зрабіў сын Уланавай.
Але ўрачыстасць , 10 снежня 1998 года, у рэдакцыі «ВМ» прайшла добра, усе былі задаволены. Такім чынам, бяз грошаў, мы змаглі вельмі ўрачыста і, упершыню, у гісторыі Беларусі , адзначыць гадавіну Усеагульнай Дэкларацыі Правоў Чалавека. Год я пражыў не дарэмна.

Адначасова (у 1998г.) я шукаў партнёраў за межамі Беларусі. У мяне ўжо была электронная пошта (на працы ў АН), а таму я мог пісаць лісты ў розныя NGOs усяго Свету. Я спрабаў усталяваць кантакт з польскімі няўрадавымі арганізацыямі, якія , на той час , былі вельмі актыўнымі, бо яшчэ атрымлівалі вельмі шмат грошаў ад USA. Я накіраваў лісты , з прапановай супрацоўнічаць, у некалькі польскіх арганізацый. Мяне здзівіла, што палякі (ніхто) не захацеў быць партнерамі для нашай дзейнасьці ( у тым ліку і так званая «Хельсінская фундацыя»). На той час, зарэгістраваных беларускіх НУА была нямнога. Наша Арганізацыя была афіцыйна зарэгістравана. Нечакана для мяне адгукнулася балгарская арганізацыя, з Плоўдіва, Bulgarian NGO: Education for Democracy Center, Krassimir Loykov, Head of Board. Мы пачалі пісаць сумесны праект на грант. Пад канец года я напісаў «праект» на грант ад ангельскай арганізацыі. Наш

партнёр з Плоўдзіва, зрабіў з майго праекту, заяўку на грант, якая адпавядае патрабаваньням ангельскага Фонду. Заяўка была адаслана ў Лёндан, і мы чакалі «the decision».

Мы прапанавалі фундатарам некалькі праектаў. Вось назва аднаго.

“*Альтернативный проект курса для средних школ. Уроки по правам человека ”*

*и “ДИСКУССИОННЫЕ СЕМИНАРЫ в помощь образования по правам человека ( обсуждение проекта Министерства образования и альтернативных проектов курса” “Уроки по правам человека” )*

Я пачаў таксама пісаць артыкулы на тэму адукацыя па Правам Чалавека. Мае артыкулы надрукавалі часопіс «Школа»», газэты «Звязда» і «Вячэрні Мінск».

Мы, сябры ,Адукацыйнага Цэнтра «Правы Чалавека» пачалі таксама збіраць літаратуру для першай у Беларусі спецыяльнай «Бібліятэкі па Правох Чалавека». Некаторыя кнігі былі прысланы нам з Жэневы, некаторыя кнігі я прывёз потым з Польшчы. Прадстаўнікі Amnesty International , якія прыязджалі ў Менск , таксама прывозілі літаратуру. Дарэчы, яны прапанавалі мне стварыць філію Amnesty International у Менску. Але то, ужо была для мяне зашмат.

Я спрабаваў заахвоціць гэтай справай знаёмых, нават на мітынгах раздаваў улёткі Amnesty International .

## “Камісія Ганчара”

Цікава і патрэбна ўспомніць, што частка дэпутатаў Вярхоўнага Савета працягвала сваю , дэпутацкую, дзейнасьць. Была створана адмысловая Камісія ВС , на чале з Віктарам Ганчаром , па збіраньню і аналізу фактаў парушэньня заканадаўства і, асабліва, Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь , «прэзыдэнтам» Александром Лукашенко. Факты (дакументы) былі сабраны, прававы аналіз быў зроблены, але праца Камісіі працягвалася. «Пацієнта» ужо можна была (згодна з Законам) садіць альбо ў «псіхушку», альбо, пажыццёва, у турму.

Прававыя «праблемы» улады Александра Лукашенко мяне таксама цікавілі, бо гэта ня толькі палітыка, але і Правы Чалавека. Размаўляў я ,на гэтую тэму, і з некаторымі дэпутатамі.

Кнгр 17-1-145

РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
МІНСКІ ГАРАДСКІ
ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

АДМІНІСТРАЦЫЯ
ПЕРШАМАЙСКАГА РАЁНА

220012, г. Мінск, зав. К. Чорнага, 3
тэл. 66-66-76



РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ
МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ
ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ

АДМИНИСТРАЦИЯ
ПЕРВОМАЙСКОГО РАЙОНА

220012, г. Минск, пер. К. Черного, 3
тел. 66-66-76

№ 50-41 от "14" 02 1997 г.
на № ______ от "__" ______ 199__ г.

СтаршынІ пастаяннай дэпутацкай камІсІІ па захаванню законнасцІ ахове правоу грамадзян,галоснасцІ, вывучэнню грамадскай думкІ

Грыцуку В.І.

Аб выдзяленнІ грашовых сродкау на пагашэнне запазычанасцІ за будаунІцтва гаражоу РАУС

АдмІнІстрацыя Першамайскага раёна па пытанню аб выдзяленнІ сродкау на пагашэнне запазычанасцІ за будаунІцтва гаражоу для РАУС паведамляе наступнае:

ПІсьмом ад 17.12.96 г. № 2-2-6/576 адмІнІстрацыя звярнулася у МІнгарвыканкам з просьбай аб выдзяленнІ грашовых сродкау на пагашэнне ~~запазычанасцІ~~ за будаунІцтва гаражоу для службовага аутатранспарта.

ПІсьмом ГарфІнуправулення ад 13.01.97 г. № 12/02-5/36 у сувязІ з адсутнасцю у гарадскІм бюджэце сродкау раёну адказана у дапамозе.

Прапануецца рашыць гэта пытанне шляхам актывІзацыІ работы з прадпрыемствамІ раёна з мэтай прыцягнення сродкау у фонд "Правапарадак".

У сувязІ з вельмІ цяжкІм фІнансавым становІшчам, наяунасцю вялІкІх сум крэдыторскай запазычанасцІ за энерганосьбІты, харчаванне, медыкаменты, адмІнІстрацыя раёна не мае магчымасцІ выдзялІць РАУС якІя-небудзь сродкІ дзеля пагашэння запазычанасцІ.

КІраунІк адмІнІстрацыІ [подпіс] І.Ф.МацкевІч

Дэпутацкую дзейнасьць я працягваю, свае абавязкі выконваю. Вось адказ на маю Заяву , клопат, 1997 год.

І далей..Узор дакумента паслугача дыктатара, які сведчыць аб парушэньні Канстытуцыі і законаў РБ. Улада адмаўляецца арганізаваць давыбары ў Менскі гарСавет і арганізаваць выбары ў раённыя Саветы дэпутатаў.(подпіс- В.Р. Голобурда)

**МІНСКІ ГАРАДСКІ САВЕТ ДЭПУТАТАЎ**

Рэспубліка Беларусь, 220050,
г. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 8
Тэлефон (017) 227-05-54; 220-16-08



**МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ СОВЕТ ДЕПУТАТОВ**

Республика Беларусь, 220050,
г. Минск, проспект Ф. Скорины, 8
Телефон (017) 227-05-54; 220-16-08

№ 7-207 от 03.08.2000г

На № ________ от ____________

**Грицуку В.И.**
пер.К.Чорного,3,
г.Минск

На Ваши обращения от 20.07.2000г. и от 25.07.2000г. сообщаем, что на основании ст.94 Избирательного кодекса Республики Беларусь вопрос об организации и проведении довыборов в местные Советы депутатов находится в компетенции городской территориальной избирательной комиссии.

Также сообщаем, что городские районные Советы депутатов упразднены Указом Президента Республики Беларусь от 19.09.95г. № 383.

И.о.председателя Совета В.Р.Голобурда

**МІНІСТЭРСТВА УНУТРАНЫХ СПРАЎ Рэспублікі Беларусь**
**СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ**
220006, г. Мінск, вул. Аранская, 1



**МИНИСТЕРСТВО ВНУТРЕННИХ ДЕЛ Республики Беларусь**
**СЛЕДСТВЕННЫЙ КОМИТЕТ**
220006, г. Минск, ул. Аранская, 1

«20» 06 2000 г. № 14/9-6

На № ______ от « » ______ 2000 г.

220141, Минск а/я 141 до востребования
Грицуку В.И.

Сообщаю, что Ваше обращение о непринятии мер сотрудниками Первомайского РУВД г. Минска мер по разрешению Ваших заявлений для рассмотрения направлено прокурору Первомайского района г. Минска.

Сотрудниками отдела по Первомайскому району управления Следственного комитета по г. Минску проверка по Вашим заявлениям не проводилась. !

Заместитель начальника управления Комитета В.С. Сырокваш

2001г.

## 1999

**Чаканьне ... Грамадзянскія выбары Прэзыдэнта. з'езд БНФ. *«Именем Президента Республики Беларусь».***
**Выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў.**

1999 год можна назваць годам чаканьня. Чакалі «нечага» абсалютна ўсе грамадзяне Беларусі. Большасьць чакала цуду ў эканоміцы (пасля зробленаму наўмысна ўладай «дефолта 1998»), дэмакратычныя грамадзяне чакалі (спадзяваліся) на законныя выбары прэзыдэнта Беларусі, «апазыцыя» таксама думала адносна гэтай праблемы. Актывісты БНФ думалі: «Што рабіць ?», калі старшыня Арганізацыі ,ужо амаль 4 гады , як уцёк з Беларусі і кінуў сваіх аднадумцаў. У тыя часы (1996 -1999 гады) сітуацыя ў краіне даволі хутка мянялася, апазыцыя павінна была дзейнічаць, а «галоўная сіла апазыцыі»- БНФ, фактычна ,спіць.
Я,нагадаю, я прыпыніў сваё сяброўства ў БНФ, адпаведна, я ня мог быць выбраны дэлегатам на з'езд БНФ. Што адбылося на з'ездзе 1999 года – вядома. Я лічу ,што нельга была пакідаць сітуацыю Status quo .
Трэба абавязкова ведаць ( і карыстацца гэтым) асаблівасьць беларускай ментальнасьці: беларус уважліва слухае толькі «Начальніка». Ну, а калі, «Начальніка» няма, то беларус не ведае ШТО рабіць. Адпаведна, Старшыня БНФ павінен быць абавязкова ў Беларусі.
Вось як успамінае падзеі з'езда старшыня (2002 год)

Менскай вобласной арганізацыі БНФ Валянцін Баранаў. «*Тады Вячорка нам (*сябрам БНФ*,* большасьці-- *аўт) уяўляўся разумным, адукаваным чалавекам. Спадзяваліся, што ён выкажа свае здольнасьці як партыйны мэнэджар, стваральнік структураў і арганізатар усей работы. З дапамогай трэцяга сектару (*НУА- *аўт), мы так марылі, атрымаем тэхнічную і матэрыяльную дапамогу.*» Я , дадам, што Вячорка ўжо меў «гранты» для сваей неўрадавай арганізацыі. І вось ,што адбылося потым. (2002 год). Валянцін Баранаў кажа. *«Усе гранты, заяўкі на якія пісалі нашыя рэгіянальныя кіраўнікі , пайшлі у «Лету»* ( міфічная падземная рака—аўт). *Мы так і не даведаліся, ці былі атрыманы сродкі* (згодна з заяўкамі—аўт.). *Не памятаю я і шчырых размоў Вячоркі з людзьмі.*» Апошняе і я магу пацьвердзіць.
Я нагадаю, што на з'ездзе 1995 года я прапанаваў (зрабіў прагноз) сябрам БНФ, на 2-а, два, ШЛЯХІ існаваньня, ці дзейнасьці, БНФ. Дэлегаты БНФ ( то бок, нібы людзі з дэмакратычнымі поглядамі) НЕ захацелі мяне слухаць-- такое моцнае была замбаваньне іх праз «харызматычнага лідэра», Зянона Пазьняка. (Дык чаго мы хочам ад жыхароў Беларусі ?). І вось толькі адсутнасць ЗП, «выключэньне поля замбаваньня» ачысціла розум большасьці сяброў БНФ. Але прайшло, фактычна, пяць гадоў . БНФ згубіла цалкам ня толькі лідэрства, БНФ згубіла Беларусь.
Я паўтараў і паўтараю, што для эфектыўнай палітыкі, для грамадзскага жыцця выключна важна патрэбныя дзеяньні ў дакладна адпаведны момант часу. Я называю гэта «рэзанансным дзеяньнем», глядзіце Дадатак.
Так, БНФ пачаў сваю дзейнасьць бяз ЗП, але сітуацыю

у Беларусі ня змяніў. А вось былыя паплечнікі Александра Лукашенко, раззлаваныя ягонай «неуправляемостью», вырашылі «пакараць» Александра Лукашенко. Галоўны выканаўца пляна расійскага «КГБ» (ФСБ), Віктар Ганчар, па «деланию с колхозника президента-марионетку» пачаў Акцыю «Выбары прэзыдэнта».То было пад канец весны 1999 года.
Зразумела ўсім свядомым грамадзянам, што Александр Лукашенко у 1996 годзе здзейсьніў канстытуцыйнае злачынства – бандыцкі захоп улады.
Пасля 1996 года Александр Лукашенко перастаў быць «Прэзыдэнтам Беларусі» для ўсіх нармальных людзей. Згодна з Канстытуцыяй 1994 года, у 1999 годзе павінны былі адбыцца новыя выбары (ці перавыбары) Прэзыдэнта Беларусі. І вось, галоўны «промотор» Александра Лукашенко вырашыў яго знішчыць, ці (я думаю), больш рэальна, напалохаць Лукашенко і ўзяць «патрэбную пасаду».
Віктар Ганчар, быў сапраўды дасведчаным юрыстам і разумнай істотай, але вось Прынцыпаў, Маралі для яго не існавала. Я некалькі разоў размаўляў з ім у «калідорах» Вярхоўнага Савету. Я дакладна пераканаўся, яшчэ ў 1993 годзе, што ён прыхільнік «моцнай улады без абмяжаваньняў». Вядома, што Ганчар і Булахаў хацелі спачатку зрабіць з «колхозника Лукашенко» марыянэтку, а потым «сесьці» у крэсла Прэзыдэнта.
І вось Віктар Ганчар прапанаваў апазыцыі незалежныя грамадзянскія выбары Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Дзе ён узяў грошы на «кампанію»-- я не ведаю. Але былі створаны «выбарчыя камісіі», у

асноўным, не з сяброў апазіцыйных партый, а проста з людзей дэмакратычнага складу, нібы па ўсёй Беларусі. Я ведаю чалавека , які быў «Старшынёй выбарчай камісіі па Першамайскаму раёну горада Менска» у акцыі Віктара Ганчара. Праз тры месяцы , пасля «Акцыі» яго звольнілі з добрай працы ў Акадэміі Навук. Гэта тэма таксама чакае «сваёй Кнігі».
Самае цікавае , што кандыдатамі на пасаду Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь пагадзіліся быць Зянон Пазьняк і Міхаіл Чыгір.
Міхаіл Чыгір быў першым «премьерам» першага складу ўрада Прэзыдэнта Александра Лукашенко, але адмовіўся ад пасады, бо быў нязгодны з незаконным хлуслівым Рэфэрэндумам.
Абодва «кандыдаты» ведалі Віктара Ганчара, які, у гэтай «Акцыі» выконваў функцыю законнага (што праўда) Старшыні Цэнтральнага Выбарчага Камітэту. Падкрэсліваю, характар і паводзіны Віктара Ганчара былі вядомы. А Зянон, увогуле ,то бок, па-народнаму, ведаў Віктара , «як аблупленнага». І вось пачаліся «выбары». Інфармацыі была мала нават у Менску. Я чуў, што недзе ёсьць «аўтобус», дзе месьціцца «выбарчая Камісія» па Менску. Але я не «галасаваў».
Далей атрымліваецца самае «дзіўнае». Калі «большасьць грамадзянаў прагаласавала», пачынаецца «падлік галасоў»..... Распаўсюджваецца інфармацыя, што Зянон Пазьняк «зьняў сваю кандыдатуру , бо не верыць Віктару Ганчару»..... «Прыехалі»--- як той, казаў. Глядзіце вышэй: «як аблупленнага».
Віктар Ганчар абвесьціў , што вялікая колькасьць грамадзян Беларусі «прагаласавала», але выбары «не адбыліся». Карацей, з палітычынае акцыі атрымаўся

«анекдот».
Зразумела, што Віктар Ганчар меў нейкую сваю асабістую мэту, а не працаваў для «Дэмакратыі і Законнасьці»... Але, на маю думку, калі бы ЗП не зрабіў сваю «заяву» («здымаю»), то апазыцыі можна была бы такі гаварыць , аб альтэрнатывным кандыдаце і агітаваць за яго да «афіцыйных выбараў» 2001 года. Але дэмакратычная супольнасьць , у весну 1999 года, была шакавана не «выбарамі», а гвалтоўным знікненьнем былога міністра ўнутранных спраў Рэспублікі Беларусь , генерала Юрыя Захаранка. Як то адбывалася --- напісана шмат. Я перакана


ны таксама, што Юры Захаранка, быў выкрадзены «эскадронам смерці» , на чале з катам Дмитрием Павличенко, дзеля рытуальнага забойства, *«Именем Президента Республики Беларусь»*. Спадара Захаранка я ведаў асабіста, ведаў ягоных знаёмых з вёскі- г.п.Васілевічы ( ён нарадзіўся і жыў там), а таму для мяне, раптоўнае таямнічае «знікненьне» Юрыя Захаранка была таксама шокам. Але ШТО мы (дэмакраты) маглі зрабіць? Нічога невядома была на той момант....

## Kidnapping

**27 ліпеня 1999** года, калі адбылася дэманстрацыя на ўгодкі абвяшчэньня «Дэклярацыі аб сувэрэнітэце БССР» адбылося нешта дзіўнае для мяне. Я ўдзельнічаў у дэманстрацыі толькі на пачатку, дайшоў ( кругамі хадзілі) да праспекта ім.Францыска Скарыны. Пабачыў , што кіруе «калёнай» толькі Мікола Статкевіч, то мне спадабалася, я сыйшоў. Тая

дэманстрацыя скончылася вядомай **«каменнай атакай**» маладых хлапцоў на «ОМОН».
Праз нейкі час, на пляцу Перамогі я сустрэў даўніх і сталых сяброў БНФ, вядомага мастака , Яўгена Куліка і, выбачайце, забыўся прозвішча, іншага нашага сябра. Стаялі , мы гаманілі, потым я прапанаваў, давайце купім марозіва. Купілі, аблізваемся так з асалодай, абмяркоўваем палітычныя праблемы... Стаялі мы, каля харчовай крамы, паглядалі на «помнік Перамогі»... І раптам, бачу, каля нас спыніліся **тры** легкавіка ( па аднаму на кожнага з нас) , зялёныя «Жыгулі». Выскачылі нейкія людзі і пачалі хапаць нас і зацягваць у «аўто». Я не супраціўляўся, бо ў мяне была пашкоджана правая рука. Мог канешне, ногі-то працавалі спраўна. Я і зараз не разумею чаму я не супраціўляўся, бо нападнікі нам міліцэйскіх дакументаў не паказалі, толькі сказалі «***пройдёмьте в машину»***... Можа гэта , тыповая міліцэйскае «пройдёмьте..» мяне супакоіла. Карацей , сеў я ў «аўто». Ужо там запытаў іх (была там два чалавека) : «*Хто вы, пакажыце дакументы?*» . Яны мне не адказалі, «аўто» паехала. Я іх папярэдзіў, што прыйдзе час і яны будуць адказваць за незаконныя дзеяньні.. Нуль реакцыі. Я не ведаю чаму, але страху у мяне не было. Але ж то была класічнае выкраданьне (kidnapping ), больш таго, на той час, ў Беларусі ўжо быў выкрадзены Юры Захаранка, “знік”.
Але прывезлі мяне ў міліцыю, РУУС Савецкага раёну. Завялі мяне ў залю, дзе была каля 20 чалавек маладых хлапцоў і дзяўчат. Праз нейкі час пачалі праверацъ дакументы. У мяне была пасведчаньне журналіста газэты “Наша Уручча”. Я паказаў міліцыянеру

пасведчаньне і запытаў чаго (і За што ? ) мяне затрымалі. Запытаў таксама адносна тых , хто мяне затрымліваў. Капітан міліцыі сказаў толькі, што вы ўдзельнічалі ў незаконнай масавай акцыі, а таму былі затрыманы. “*Пішыце тлумачэньне.*” Каля мяне былі яшчэ два журналісты, здаецца з “НН”. Яны настойліва гаварылі міліцыянеру , што выконвалі свае службовыя абавязкі, у дэманстрацыі, ці іншай незаконнай акцыі, яны не ўдзельнічалі. Я тады так і падумаў: “Нешта не хочацца за краты”. Я быў перакананы, што ўсіх, каго “злавілі” кінуць ў вязьніцу. Дарэчы так і адбылося, Amnesty International усіх тады незаконна асуджаных дэмакратаў “на сутки”, абвесціла “вязнямі сумленьня”. Во, і я меў шанец набыць “ганаровую міжнародную ўзнагароду”. Але , тады , у міліцыі, калі я пабачыў, што людзей цягалі на допыты (не, нікога не білі) і бралі адбіткі пальцаў , здымалі на “відео”... Не спадабалася мне вельмі тоя. Пачаў я пісаць “Объяснительную”. Я напісаў коратка:”Я выконваў свае журналісцкія абавязкі”. Капітан міліцыі прачытаў , аддаў мне маё пасведчаньне журналіста , сказаў, што я магу ісьці ( “*Вы свободны*”) , але загадаў , каб я прынёс яшчэ пацьвярджэньне з Рэдакцыі газэты. Каля 2-х гадзін я быў у міліцэйскім склепе.
Я выйшаў з будынка міліцыі, удыхнуў на поўныя грудзі паветра Свабоды і падумаў: дзіўная гісторыя. І да гэтага часу я не разумею, чаму нас, трох грамадзян, якія аніяк не парушалі Закон, мірна ласаваліся марозівам у спякотны летні дзень, захапілі невядомыя людзі і аддалі міліцыі..
Потым я напісаў артыкул у нашай газэце “Наша Уручча” з такой назвай: “*У Менску на цэнтральнай*

*вуліцы марожанае есьці нельга – нехта вас схопіць*". Дзе я іранічна апісаў здарэньне, але па сутнасьці , страшнае злачынства. Успамінаю тыя падзеі і вельмі шкадую, што я не напісаў заяву ў пракуратуру. Грамадзкая супольнасьць, жыхары "Уручча" таксама "праглынулі" гэты факт моўчкі. Можа мая «заява» (можа?) не дазволіла б бандытам пры ўладзе схапіць іншых,.. потым. Бадай, спрацавала "беларускае" --- "была, прайшло".

**Але яшчэ крыху тэма: «Ганчар»**

Пасля акцыі «Выбары , Віктар Ганчар працягнуў сваю дэпутацкую дзейнасьць у Камісіі Вярхоўнага Савету па даследваньню антыканстытуцыйных дзеяньняў Прэзыдэнта Александра Лукашенко. У восень, 1999 г., Старшыня Камісіі (Віктар Ганчар) сьцьвердзіў, што праца зроблена , «Даклад» гатовы для распаўсюджваньня... Праз нейкі час , пасля гэтай «Заявы», Віктар Ганчар таксама «знік», на дарозе да лазні разам са сваім сябрам бізнесменам.
Пасля , гэтага, другога «знікненьня», фармальныя лідэры зразумелі, што то аніякая выпадковасьць, не «помста» крымінальных элементаў, а , менавіта, брутальны палітычны пераслед з боку Александра Лукашенко. Магчыма, шок, пасля гэтых таямнічых «знікненьняў» замарозіў на працяглы час фармальных лідэраў апазыцыі, што істотна паўплывала на падрыхтоўку да «афіцыйных» выбараў 2001 году.

*Ніхто не хацеў паміраць*.... Нават за Беларусь, нават за Дэмакратыю.

Такім чынам, 1999 год паказаў грамадзянам , што Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь «не кантралюе сітуацыю», знікаюць вядомыя («знакавыя») людзі, а Александр Лукашенко, прэзыдэнт з «царскімі паўнамоцтвамі» не ведае, ШТО адбываецца. Ягоныя тлумачэньня ( асабліва сёньня) «знікненьняў» выглядалі дзіцячым балбатаньнем. Калі ты маеш абсалютную ўладу і вялікую колькасьць «сілавікоў» ( і тады іх было многа) то, чаму не ведаеш хто гэта зрабіў. Але зараз мы ведаем, што загадаў забіць палітычных канкурэнтаў менавіта Александр Лукашенко, на той час, ужо нелегітымны кіраўнік дзяржавы, які захапіў усю уладу у Беларусі.
Фармальных лідэраў апазыцыі як замарозіла: «ХТО НАСТУПНЫ?».Вось такім пытаньнем і скончыўся 1999 год, канешне, калі не лічыць «пераломныя» падзеі ў Расеі.

З другога боку, у беларускім грамадстве адчувалася незадаволеннасьць уладай Александра Лукашенко і нават супрацоўнікі міліцыі пыталіся, ці будзе апазыцыя мяняць уладу.
Таму была, такі, адна палітычная падзея , якая магла змяніць сітуацыю для апазыцыі.

**Выбары дэпутатаў Мясцовых Саветаў дэпутатаў**

Тады дэмакраты ( я і зараз у гэтым перакананы) маглі «узяць уладу» у Мясцовых Саветах дэпутатаў.
Але нейкі ідыёт з асяродзьдзя апазыцыі прапанаваў (здаецца , то быў Івашкевіч) ,а іншыя (баязліўцы і гультаі) падтрымалі ідэю «байкот выбараў” дэпутатаў у

м**ясцовыя** Саветы дэпутатаў, якія ўжо не былі «уладай». Нагадаю, я быў па-за актыўнай палітыкай. Адпаведна , я не сустракаўся з «палітыкамі». Тлумачэньне «байкоту» была такое: «Нельга легітымізаваць злачынную ўладу». Але, спадары-дэмакраты забыліся, што пасля таго як яны не абаранілі мясцовую ўладу ад «кастрацыі» у 1995 (і пазней) годзе , Саветы мясцовых дэпутатаў ужо цяжка была лічыць «уладай»-- засталіся дробныя «галінкі на стволе». //Дыктатар Александр Лукашенко параўноўваў сваю уладу са «стволом дерева»,// Але , сапраўды, як сказаў трапна нейкі журналіст, улада ў Беларусі хутчэй нагадвае ствол гарматы.

І вось тады, у 1999 годзе, жыхары майго «Уручча» прапанавалі мне быць кандыдатам у дэпутаты Менскага Гарадзкога Савета дэпутатаў. Я пагадзіўся, але сказаў, што вы самі збіраеце подпісы грамадзян на маё вылучэньне і арганізуеце выбарчую кампанію.

«Ініцыятыўная група грамадзян за вылучэньне Грыцука Валерыя Іванавіча кандыдатам у дэпутаты Менскага гарадзкога Савета дэпутатаў» была створана і пачала збіраць подпісы. Потым адбылося нешта дзіўнае. Я ведаю , што подпісы былі сабраны, але калі трэба была скончыць апошнія «фармальнасьці», у апошні дзень для рэгістрацыі «Кандыдата», знік кіраўнік «Ініцыятыўнай групы», Рогов Михаил . Зразумела, што бяз яго (па Закону) нельга была скончыць з «фармальнасьцямі». Гэты чалавек (Рогов) і потым мне нічога не растлумачыў. Я пачуў ад яго толькі, што кіраўніцтва заводу, дзе ён працаваў, тэрмінова скіравала яго у «камандзіроўку». Але ён мне нават не патэлефанаваў , што вымушаны ехаць « у

камандзіроўку». Мне патэлефанавалі з арганізацыйнага аддзелу Першамайскага выканкаму. На жаль, такіх «дзіўных гісторый» у маім жыцці шмат. Можа таму, што мая справа, «Дело» знаходзілася ў «КГБ» ад 1978 году?

Карацей, мяне не зарэгістравалі кандыдатам у дэпутаты «Менскага гарадзкога Савета дэпутатаў» . У арганізацыйным аддзеле Першамайскага выканкаму былі вельмі здзіўлены такой сітуацыяй, тэлефанавалі мне некалі разоў. А што я мог сказаць? З аднаго боку, я «БНФ -вец» . Для жыхароў мікрараёну я так і застаўся БНФ-цем , бадай, пажыццёва. БНФ байкатуе выбары.

З другога боку нізкая актыўнасьць няўдзячных жыхароў мікраараёна, для якіх я зрабіў вельмі і вельмі шмат. Мяне нават «ветераны» ( злосные ворагі БНФ ) паважалі, таму што я і ім, як старым людзям, дапамагаў.

Дарэчы , я зразумеў потым, што чакаць на «падзяку» і «разуменьне» ад выбарцаў марна. Палітыка - гэта заўсёды гульня і, часта, бяз правілаў для ўсіх бакоў, з маўклівай згоды.

Выбары у «маёй акрузе» увогуле не адбыліся. Кандыдаты былі вельмі слабыя, невядомыя людзі, а «улада» не захацела «уключаць адміністратыўны рэсурс».

Я думаю, што і мясцовая выканаўчая ўлады «хацела» каб я, Грыцук Валерый Іванавіч, быў дэпутатам Менскага гарадзкога Савета, бо мяне (усе яны) добра ведалі. Дарэчы, прадстаўнікі гэтай, мясцовай, удалы прапанавалі мне быць «кандыдатам» у «Палатку» у наступным, 2000 годзе.

Так, я не быў актыўным, у «палітычным» жыцці па

шэрагу прычынаў, узгадваў вышэй. Але зразумела, што з некаторымі сябрамі БНФ ( і іншай «апазыцыі») я сустракаўся.
Вельмі мяне здзіўляла бяздзейнасьць кіраўніцтва БНФ, відавочна аўтарытэт ЗП быў моцным прэсінгам на намеснікаў Старшыні БНФ. Але пасля ачышчальнага з'езду можна была пачаць рэальную палітычную працу. Тым болей, што Вінцук Вячорка не быў «навічком» у апазыцыйным Руху. Але , на жаль, ён задаволіўся «крэслам Начальніка», яму была гэта дастаткова. Уся дзейнасьць БНФ ператварылася ў паказ «дзейнасьці», то бок, у імітацыю .
То, як у анекдоце часоў Леаніда Брежнева. На прыватнае пытаньне замежнага журналіста да дысыдэнта, як жыццё у СССР, як то можна то паказаць.... Чалавек адказаў так. «*Уявіце сабе чыгуначны вакзал, цягнік. У вагоны зайшлі людзі. Прагучала абвестка , што цягнік пачаў рухацца... Але, рэальна, цягнік стаіць, з места не рушыў.Але ж людзям гаворыцца – вы едзіце. А таму вы , усе, павінны трэсціся, як пад час руху цягніка. І вось усе людзі , у вагонах,пачынаюць трэсціся --- мы едзем...»*.
На жаль , так, тады паводзіла сябе ўся апазыцыя, ня толькі БНФ. Шкада, што і пазней такія праявы «паказу» дзеяньнеў пераважалі саму дзейнасьць, то ёсьць (з большага) і зараз, у 2013 годзе.

Выснова.

**Апазыцыя зрабіла катастрафічную памылку , што адмовілася ад удзелу ў выбарах у мясцовыя Саветы дэпутатаў , у 1999 годзе. Мы мелі рэальны шанец «узяць уладу» у гарадох.**

Але іншую справу я рабіў.

Я, як, кіраўнік Адукацыйнага Цэнтра «Правы Чалавека» , пачаў рыхтавацца да выкананьня нашага праекту. Зрабіць трэба была шмат: дамовіцца наконт транспарту, памяшканьняў, абсталяваньня, купіць неабходныя матэрыялы. Абсалютную большасьць такой працы я рабіў сам, крыху дапамагала Таццяна Уланава. Грант мы атрымалі ад Charity Know How .
Я ня думаю, што ўсе падрабязнасьці маёй грамадзкай дзейнасьці ( дзейнасьць і ў іншых арганізацыях) цікавыя чытачам, а таму такую дзейнасьць я не апісваю, але дзейнасьць была і ў іншых арганізацыях.
Напрыклад, я быў заснавальнікам «Таварыства Беларускай Школы».... Дзе я толькі ня быў....

## Правы Чалавека і Палітыка

1999
Але яшчэ адзін палітычны факт. “Стамбульскі саміт», саміт АБСЕ, куды пусцілі і Александра Лукашенко, ужо дыктатара, пасля захопу ім улады ў 1996 годзе. Але ,фармальна, нават, на падставе Канстытуцыі 1994 года, ён яшчэ быў Прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь у 1999. Як прадстаўнік Рэспублікі Беларусь ён падпісаў, пагадзіўся з усімі дакументамі АБСЕ, адпаведна абяцаў выканаць і гэта:

**«*Александр Лукашенко, соответственно, обещал переговоры с оппозицией по четырем условиям ОБСЕ,* <u>*указанным в Стамбульской декларации :*</u>**

***доступ оппозиции к государственным СМИ, установление климата доверия, расширение функций парламента,***

***освобождение политзаключенных.»***

Усе разумныя і сумленныя людзі ўжо даўно зразумелі, што дыктатар Александр Лукашенко свае абяцаньні, нават падмацаваныя ягоным уласным подпісам , не выконвае і ня будзе выконваць! Няўжо , некаторым людзям, якія лічаць сябе разумнымі (зараз «беларуская тройка») за 14 год (1999 -2013 ) мала фактаў, каб зразумець простую рэч: «дыялёг з уладай» , то бок, з тэрарыстам Александрам Лукашенко ----- то самападман і шкодная дзейнасьць для Беларусі. Можа быць толькі гандаль, як са звычайным тэрарыстам. Захад дае тэрарысту грошы, а ён аддае «Захаду» закладнікаў. Адпаведна , нават размовы аб «дыялёге», то здрада Маралі, здрада Дэмакратыя.

Прыкрывацца «будучыняй Беларусі», то звычайны цынізм, для прыкрыцця ўласных эгаістычных інтарэсаў, «троіцы»,.**Н.Я.М**. ( ужо ў 2013 годзе, нібы «апазыцыя»)

Беларусь ня мае будучыні з дыктатарам Александром Лукашенко.




**Нязломны Змагар, Валерый Шчукін, 1998 год**



**Апошнія дні Юрыя Захаранка**
**( быў забіты па загаду Александра Лукашенко)**



*“Прымаючы пад увагу, што грэбаванне і пагардада правоў чалавека прывялі да варварскіх актаў...”*
**з Усеагульнай Дэкларацыі Правоў Чалавека**

**Інфармацыйныя бюлетэні №1, 2**

# АДУКАЦЫЯ ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА

**Мінск 2001**

**Пачатковы курс**
**навучання Правам Чалавека**

ВУЧЭБНЫ ДАПАМОЖНІК

# ПЕРШЫ КРОК

Amnesty international 1Easton Street,
London WC1 8DS, United Kingdom.

Пераклад Адукацыйнага Цэнтра “Правы чалавека”,2002 г.

---

**Мы зрабілі пераклад дапаможніка і прапанавалі беларускім НУА-м**

## 2000

**HREC, Праца Адукацыйнага Цэнтра «Правы Чалавека».**

**Беларуская мова.**

**Чарговы «байкот» выбараў.**

Для мяне 2000 год пачаўся з таго, што дыктатура пазбавіла мяне «дома» (кватэры). Таму пачаў я жыць у невыгодных умовах... На мне, па-ранейшаму, «віселі прыватныя праблемы», але я працягваў працаваць на грамадзтва, на Беларусь. Першай справай для мяне была пашырэньне ведаў па Правам Чалавека ў Беларусі. Спачатку я дамовіўся з дырэктаркай сярэдняй школы № 177, што у мікрараёне «Уручча-2», дазволіць нам адкрыць бібліятэку па Правам Чалавека ў школе. Дырэктарка тая была фармальным сябрам нашай арганізацыі. Усе кнігі, інфармацыю, якую , мы на той час сабралі, мы перадалі ў школьную бібліятэку. На жаль, у гэтай школе, не было цікавасьці да інфармацыі і да разуменьня Правоў Чалавека. Праз нейкі час мы перанеслі нашу бібліятэку ў іншую школу, № 184 . Там ,бібліятэкар, Ірына Міхайлаўна, вельмі зацікавілася бібліятэкай «Правы Чалавека». Яна стварыла спецыяльны стэнд , які адразу прыцягваў увагу. Спадарыня Ірына прапаноўвала пазнаёміцца з нашай літаратурай усім настаўнікам школы. Бібліятэка выкарыстоўвалася настаўнікамі для падрыхтоўкі вурокаў «па Правам Чалавека», якія некаторы час былі ў праграме сярэдняй школы.

Я неаднаразова быў у Міністэрстве адукацыі , размаўляў з намеснікамі міністра, кіраўнікамі аддзелаў. Пасля некалькіх гутарак ,Бубен Станіслаў Станіслававіч ( супрацоўнік Міністэрства адукацыі) , згадзіўся нам дапамагаць працаваць згодна з нашым праектам. Менавіта ён накіраваў на наш трэнінг настаўнікаў з усёй Беларусі і дапамог хутка атрымаць візу прадстаўніку ангельскай арганізацыі. Цікава, пазней, мне паведалі маі знаёмыя, што за нашымі « замежнымі гасьцямі» пільна сачылі супрацоўнікі «КГБ».

Першая значная падзея, трэнінг настаўнікаў і студэнтаў адбыўся 21 верасня 2000 года, у «прэзыдэнтскім комплексе - «Раўбічы». Была то вельмі цікавая і вясёлая прыгода, бо балгары, а потым і англічанін, прапанавалі нам вельмі цікавыя практыкаваньні. Глядзіце фотаздымкі з трэнінгу. Наступныя трэнінгі адбыліся непасрэдна ў Менску.

Таксама адбылася паездка дэлегацыі Адукацыйнага Цэнтра «Правы Чалавека», у Балгарыю, Сафію і Плоўдіў. У Сафіі мы мелі сустрэчу з намеснікам міністра адукацыі Балгарыі і шэрагам праваабарончых арганізацый.

У Плоўдзіве, дзякуючы нашым партнерам (Krassimir Loykov,Education for Democracy Centre і Trendafil Meretev ) мы сустрэліся з прадстаўнікамі ўсіх (NGOs) арганізацый Плоўдіва. Для нас была «адкрыццём» праблема цыганоў у Балгарыі. Карацей, супрацоўніцтва была плённым і карысным для Беларусі.

Адзінае, што ўспамінаць вельмі сумна --- гэта кіраўнікоў нашых беларускіх, няўрадавых арганізацый.

У 1999 годзе, я , асабіста, накіраваў лісты-прапановы вялікай колькасьці беларускіх няўрадавых арганізацый з прапановай удзельнічаць у нашым Праекце. У тым ліку ,я накіраваў прапанову ў арганізацыю Александра Мілінкевіча, у Гародню.

Для мяне была вялікай неспадзянкай, што НІХТО не адказаў на маю прапанову і , нават, ( на наступную маю інфармацыю) НІХТО з кіраўнікоў беларускіх НУА не паслаў свайго прадстаўніка на наш трэнінг!

Як гэта разумець? Можа з чытачоў хто можа растлумачыць такую абсурдную сітуацыю. Падкрэсліваю, мы, Адукацыйны Цэнтр «Правы Чалавека», былі ПЕРШАЙ арганізацыяй, якая занялася праблемай адукацыі грамадзян у галіне Правоў Чалавека. І , ужо, пасля, некаторыя НУА крыху цікавіліся гэтай праблемай, але (перакананы) выключна для таго каб атрымаць дадатковы «грант».

І вось,зараз, у 2013 годзе, чую ад прадстаўнікоў, ужо шматлікіх НУА, што «трэба сур'ёзна займацца праблемай адукацыі па Правам Чалавека».. Але і зараз не распаўсюджваецца наш пераклад на беларускую мову кнігі Amnesty International , «First step».(Першы крок). Я лічу ,што гэта вельмі эфэктыўная кніга для навучаньня сутнасьці Правоў Чалавека.

Спадарства, ДЗЕ ВЫ БЫЛІ РАНЕЙ! ?

А , раней, я чуў, увесь час, ад розных актывістаў-дэмакратаў, што няма сэнсу займацца адукацыяй у галіне Правоў Чалавека, бо Правы Чалавека ў Беларусі ўсё адно не выконваюцца. Гэтыя ж словы, я пачуў у 1999 годзе і ад дырэктара ліцэя імя Якуба Коласа,

спадара Ўладзіміра Коласа, якому я прапанаваў сумесны Праект. Я пачуў такія ж (дзіўныя ) словы гэтага спадара і на on-line канфэрэнцыі радыё «Свабода» у 2010 годзе. Не падтрымаў маю прапанову (значна пазней) распаўсюджваць веды па адукацыі ў галіне Правоў Чалавека і «Малады Фронт». Дзіўна такі. Я лічу, што на 90 адсоткаў, ведамі , які чалавек набывае ў сярэдняй школе, у жыцці не карыстаецца. Але ўсе вучаць і геаметрыю , і алгебру і нават астраномію... Ага. Зразумела. Бо ўлада прымушае... А бяз прымусу, для здаровага сэнсу, развіцця, падвышэньню разумовых здольнасьцей і магчымасьцю (разуменьню) сваіх Правоў...

Ці рабу ведаць аб правах не патрэбна ?

То як?   Вось і выснова.

Ну дзе ж у нас (у Беларусі) будзе цывілізацыя, калі нават разумным людзям, беларусам, «доходит» толькі праз 16 гадоў!

**Нібы выбары, нібы парлямент.**

У 2000 годзе дыктатура абвесціла «выбары» у Палату прадстаўнікоў ( не грамадзян, а дыктатара Лукашэнко).

Апазыцыя абвесціла «байкот выбарам» каб паказаць Захаду, што дэпутаты не выбіраюцца, а прызначаюцца.

Парлямент не існуе.

У 2013 годзе псіхічнахворы дыктатар пайшоў яшчэ далей.. Нават не «прадстаўнікі», а ўжо «мои дети..», так ён звярнуўся да «дэпутатаў».




Імя

Валерий

Прозвішча

Грыцук

Рэгіён

г. Менск

# V Кангрэс Дэмакратычных сілаў

## "Грамадзкая кааліцыя за адзінага кандыдата"

18 жніўня 2001г.

Менск




**Кангрэс Беларускай моладзі**

# ГОСЬЦЬ

## Сыны і дочкі Беларусі!

**Пад пагрозай незалежнасць нашай Дзяржавы.**

Дык збярэмся на свой Усебеларускі З'езд, каб увесь свет пачуў, што мы самі здольныя вырашыць лёс Бацькаўшчыны, што мы супраць гандлю суверэнітэтам краіны.

**Мы, як сябравалі, так і далей будзем сябраваць з Расіяй, але як дзяржава з дзяржавай, раўнапраўна і годна.** Мы не жадаем быць нічыім рэгіёнам, нічыёй акругай.

Хто хоча быць гаспадаром у сваім доме, няхай падтрымае Усебеларускі З'езд, які прымае Акт Незалежнасці Беларусі!

**Усебеларускі З'езд пачынаецца 29 ліпеня 2000 года.**

Забудземся на непаразуменні і крыўды! Згуртуемся!

Дзе згода, там свабода!

*Ён твой, Усебеларускі З'езд,*
*А таму*
*Ты, як свайму,*
*Паспрыяй яму!*

**Аргкамітэт Усебеларускага З'езду**

Адрас для карэспандэнцыі: 220065, Мінск, а/я 297
Кантактны тэлефон: (017) 223 65 29

2000 г.

ГП «Минская типография» 2000 г. Зак. 9768, тир.10 000

30.08.2001

ПРОКУРАТУРА
Республики Беларусь
ПРОКУРАТУРА
Первомайского района
города Минска
220049, г. Минск,
проезд Чайковского, 6

30.08.2001 года 88ж-2001
№ от

г.Минск-141, до востребования
Грицуку В.И.

Прокуратурой района Ваше заявление о проверке фактов нарушения закона сотрудниками милиции, указанных в статье «Нары, краты, кулакі», опубликованной 16.03.2001 года в газете «Народная Воля», рассмотрено.

Сообщаю, что прокуратурой района ранее проводилась проверка указанных в статье фактов, по заявлению Залипского С.А., по результатам которой 10.06.1999 года в возбуждении уголовного дела было отказано по основаниям ст.5 п.2 УПК РБ *в редакции 1960г.* (за отсутствием состава преступления).

В ходе проверки прокуратурой района был установлен факт нарушения дежурным нарядом ГОМ Первомайского РУВД города Минска 7.05.1999 года требований приказа МВД № 161ДСП. В связи с этим на имя начальника Первомайского РУВД города Минска прокуратурой района внесено представление, по результатам рассмотрения которого, ст.инспектор дежурный ГОМ Крипиневич В.В. привлечен к дисциплинарной ответственности.

Оснований для внесения протеста на постановление о привлечении Залипского С.А. к административной ответственности по ст.156 КоАП РБ - не имеется.

О принятом прокуратурой района решении заявителю сообщено, право на обжалование вышестоящему прокурору разъяснено.

Прокурор района
ст.советник юстиции В.Г.Романовский

Маё змаганьне за Правы Чалавека , для кожнага.



**Общественное телевидение Первомайского р-на "ТВ-ИТС" в Уручье. Тел. 265-91-87**

нравственно безопасное телевещание нравственно безопасное телевещание нравственно безопасное телевещание

## 30 декабря Вторник

*"Горячий" тел. студии 265-91-87*

**17.50** Объявления.
**18.00** Детская передача: «Долина сказок».
**18.40** Музыкальные ПОЗДРАВЛЕНИЯ по Вашим заявкам.
**19.00** Объявления.
**19.10** Милиция. Руководство ГОМ Уручья. Прямая линия.
**19.25** Наш ЖЭС. Прямая линия.
**19.35** «Музыкальный вторник»: «Новая эстетика».
**20.15** **Экология жизни**: «Система Запад-Восток или Система Восток-Запад». Прямая линия. Медитация под фильм «Кама-сутра».
**21.15** Объявления.
**21.25** Кино-ТВ-ИТС-клуб. Х/ф «За пригоршню долларов». Вестерн. К. Иствуд. По Вашим просьбам.

## 31 декабря Среда

*"Горячий" тел. студии 265-91-87*

**17.50** Объявления.
**18.00** Детская передача: «Долина сказок».
**19.00** Объявления.
**19.15** Газета «**СЛАВЯНСКИЙ НАБАТ**». Обзор завтрашнего номера.
**19.20** Музыкальные ПОЗДРАВЛЕНИЯ по Вашим заявкам.
**20.10** «Сузорье-97». Первомайский район.
**20.20 БОЛЬШАЯ Новогодняя программа «ТВ-ИТС» до 8 утра.**



**Общественное телевидение Первомайского р-на "ТВ-ИТС" в Уручье. Тел. 265-91-87**

нравственно безопасное телевещание нравственно безопасное телевещание нравственно безопасное телевещание

## 2 января Пятница

*"Горячий" тел. студии 265-91-87*

**17.50** Объявления.
**18.00** Детская передача: «Долина сказок».
**19.00** Объявления.
**19.30** Музыкальные ПОЗДРАВЛЕНИЯ по Вашим заявкам.
**19.55** «Военно-патриотическая организация РНЕ представляет». Прямая линия.
**20.30** «КришнаЛОКА». Прямая линия.
**21.15** Объявления.
**21.25** Кино-ТВ-ИТС-клуб. Х/ф «Иван Васильевич меняет профессию».

## 3 января Суббота

*"Горячий" тел. студии 265-91-87*

**17.50** Объявления.
**18.00** Детская передача: «Долина сказок».
**19.00** Объявления.
**19.10** Музыкальные ПОЗДРАВЛЕНИЯ по Вашим заявкам. 10 минут приема заявок на музыкальные ПОЗДРАВЛЕНИЯ через «ТВ-ИТС» <u>бесплатно</u>.
**19.20** Международный университет славянской ведической культуры. Прямая линия.
**19.50** «Актуальная тема». В.И. Грицук. Прямая линия.
**20.20** Белорусская Патриотическая партия. Прямая линия.
**20.45** «Гитара. Гитара. Гитара...».
**21.15** Объявления.
**21.25** Кино-ТВ-ИТС-клуб. Х/ф «Джентельмены удачи».

Мая праца на кабельным ТБ (ТВ-ИТС), Менск

*Не хочаш - не думай*
*Не хочаш – не жыві*

# Зварот да Беларуса.

Браце, ці можаш ты самому сабе адкрыцца, каб адказаць на пытанне: дзе той край, чым ты можаш ахвяравацца дзеля Беларусі? Га?

Думаю, што для Беларусі прыйшоў час духоўнага апокалепсісу.

Час самаачышчэньня. Бо калі мы здымаем усю іржу, то мо мы пабачым, што ўжо няма чаго ратаваць? Дык ці трэба падтрымліваць у сябе мроі і трызнення?

Я – той, хто яшчэ ў 1995 г., на З'ездзе, папераджваў аб наступствах.

Часткова, многія з тых, хто не хацеў мяне слухаць у 1995г., зразумелі нарэшце ў 1999г.

Але сутнасць "Фронта" зменілася мала: "выпалі" толькі рамантыкі-экстрэмісты. Дарэчы, экстрэмісты толькі на словах, але не па акцыях . 5 гадоў згублена. Што мы маем:

**Адмоўнае:**

"Фронт" не знайшоў <u>новых</u> формаў барацьбы.

"Фронт" так і не распачаў кадравае будаўніцтва; не здолеў стварыць і падтрымліваць групоўку прафесіяналаў; па-ранейшаму, акцэнт на нэгатыўных кампаніях;
няма працы з насельніцтвам, штодзеннай і праграмнай; па-ранейшаму: асноўная дзейнасць – клубная ,зборы дзеля перадачы інфармацыі зверху ўніз, радзей, абмен думак; па істотным момантам галоўнымі заганнымі тэзамі дзейнасці ёсць <u>"робім, што можам"</u> (для кіраўніцтва найперш) і "<u>хоць нешта раблю</u> ", больш для шэраговых сяброў.

Па сутнасці няма праграмы дзеянняў і тактыцы паводзін.
Што рабіць і як, ня ведаем ?

Сумяшчэнне пасадаў кіраўнікоў , змяшэньне партыі і грамадзкай арганізацыі – заганна і шкодна для руху Адраджэньня.

**Непадзеленнасьць грамадзкай арганізацыі і партыі; невыразная партыйная дзейнасьць; празмерная амбітнасьць лідэраў і "чапляньне" за крэслы; некалегіяльнасьць прыняцця большасьці рашэнняў; сыход даўніх змагароў; няма пастаянных крыніцаў фінансавання; няма <u>невулічных</u> масавых акцый.**

Неабходна адзначыць дадатнае: Стварэнне Маладога Фронту; узамадзеянне з грамадзкімі арганізацыямі; стварэнне КРДС; працай ў перадвыбарчай кааліцыі .
Праца з міжнароднай супольнасьцю.

***Маі прапановы:***

1) Прыняць рашэнне: <u>кіраўнік партыі</u> не можа быць старшыней грамадзкай арганізацыі БНФ "Адраджэньне".
2) Кіраўнікі павінны мець адзіны занятак: кіраўніцтва БНФ.
3) Зацвердзіць <u>лёзунг</u> БНФ:
**"Незалежнасць, багатая Беларусь з беларускай культурай".**
4) Вызначыць тэзысную праграму – максімум і 5-ці гадовую праграму.
5) Дакладна падзяліць, у тым ліку <u>арганізацыйна</u>, культурніцкую і палітычную дзейнасць арганізацыі і партыі.
6) Стварыць **"Школу прафесіяналаў"**.
7) Стварыць **"Фінансавую групу".**
8) Стварыць **"Нядзельную школу беларускай мовы"** пры раённых радах.
9) Акцэнт на адукацыйную і інфармацыйную дзейнасць: **"Вайна за мазгі"**.
10) Вызначэньне крытэрыяў дзейнасьці сябраў Сойма і іх вызвалення.
11) Стварыць **"Раду дарадцаў Сойму"** – усіх знакамітых Беларусаў туды.
12) Распрацаваць ( і ажыццяўляць ) сацыяльныя праграмы для насельніцтва.
13) Прыняць праграму штодзенных дзеяньнеў:
**"Сябра БНФ – гэта найлепшы чалавек і сябр."**

Валеры Грыцук 2000г.

( **Вышэй ,мой Зварот да Сойма БНФ,** фотакопія)

Фармальныя лідэры апазыцыі абвясцілі (чарговы) «байкот» выбарам 2000 года. Адносна гэтых так званых «выбараў» я быў згодны, што байкатаваць трэба. Дазвольце мне растлумачыць маю думку.

Што такое ўлада? Калі коратка.

У дэмакратычнай, нармальнай, краіне ўлада: выканаўчая, судовая, заканадаўчая. Дык вось, фармальна (выключна фармальна) заканадаўчая ўлада - гэта «дэпутаты» , якія павінны быць выбраны грамадзянамі ў чэсных справядлівых выбарах у заканадаўчы орган. Такім органам (фармальна) з'яўляецца зробленая ,«волевым решением» дыктатара Александра Лукашенко, ( Статья 6.Конституции РБ) «Палата прадстаўнікоў», якая некаторымі «незавісімымі журналістамі» чамусьці называецца парляментам.

Дык вось , выбары ў «заканадаўчы орган». Больш таго, гэта былі выбары пасля дзяржаўнага злачынства ( **арт. «Статья 357.Заговор или иные действия, совершенные с целью захвата государственной власти, УК РБ»**), канстытуцыйнага перавароту 1996 году. Антыканстытуцыйнасьць, незаконнасьць усіх дзеяньняў Прэзыдэнта Александра Лукашенко, пачынаючы ад прызначэньня незаконнага рэфэрэндума, пацьвердзіла камісія эўрапейскіх экспертаў, у скароце, «Веніцыянская Камісія». **Дык вось , у такіх умовах, трэба была паказаць дэмакратычнаму Заходу, што « беларускі народ не скарыўся» , што беларуская апазыцыя не прызнае незаконную ўладу дыктатара.**

Але, калі быць аб'ектыўным, то апазыцыя і не была гатовая для шырокага ўдзелу у выбарах. Амаль усе

дэмакратычныя апазыцыйныя партыі не ўдзельнічалі ў «спектаклі», акрамя партыі Міколы Статкевіча. Спадар Статкевіч выставіў сваю кандыдатуру ў акрузе, якая была ў Першамайскім раёне горада Менску. Я сустрэў яго на вуліцы. Пад час ягонага пікету я запытаў: «Мікола , навошта ты ўдзельнічаеш у гэтым спектаклі, дэпутатам ты ня будзеш». Ён мне адказаў, што партыя, ейныя сябры, заўсёды павінны ўдзельнічаць у палітычных выбарах. Я тады запытаў яго ,а калі такія выбары «праводзіў» бы Адольф Гітлер, то ты таксама ўдзельнічаў бы ў выбарах?» Мікола адказаў мне: «Так, удзельнічаў бы.». Падкрэсліваю, што «выбары» 2000 года былі важнымі для ацэнкі беларускай апазыцыі дэмакратычным Захадам, а таму пазыцыя «апазыцыянераў» была выключна важная. Рашэньне аб «байкоце» нібы «выбараў» была правільным, толькі «рашэньне» была, а вось дзеяньнеў ня была.

Ацэнку дзейнасьці палітыка Міколы Статкевіча я пакідаю (пакуль, з гуманных прычын) за чытачамі.

Але адкажыце на пытаньне: «Якіх поспехаў дасягнуў палітык Мікола Статкевіч і ягоныя партыйныя сябры, якія увесь час «размаўляюць з народам», то бок , удзельнічаюць у спектаклі «выбары»? У ролі «дэкарацыі» дэмакратычнасьці выбараў пад час панаваньня дыктатуры?

Я, канешне, сам не збіраўся браць удзел у выбарах, але такая , «ціхая» прапанова з боку мясцовай улады, мне была. Была мне і іншая прапанова: дапамагчы

«кандыдату» . Мне, як паспяховаму спецыялісту па палітычным тэхнялёгіям, не была праблемы зладзіць паспяховыя выбары, нават бяз прымітыўных парад «раздавать подарки избирателям» ,дарэчы, апошняе яшчэ тады шырока выкарыстоўвалася кандыдатамі-бізнесменамі. (кандыдатамі ад улады) Да мяне звярнуўся бізнесмен, кіраўнік страхавога агенства , офіс якога месціўся ў мікрараёне «Уручча». Але сам бізнесмен жыў у іншым раёне. Навошта ён захацеў быць дэпутатам - я ня ведаю. Але мяне папрасіў дапамагчы яму мой даўні знаёмы - я дапамог. А чаму не зарабіць грошы ў цяжкі для мяне час?

Карацей,, мой «кандыдат», невядомы «уручанцам» раней ,выйграў выбары, але выбары «не адбыліся», бо прыйшло галасаваць меньш за 50% зарэгістраваных грамадзян у выбарчай акрузе.

Ну, а потым , улада ўключыла адміністрацыйны рэсурс на поўніцу і зрабіла «дэпутатам» вайскоўца, калі і тады, рэальна, «выбары» не адбыліся.

У тым жа годзе я працягваў сваю праваабарончую дзейнасьць, дапамагаў парадамі грамадзянам і, галоўнае, я змагаўся за выкананьне Канстытуцыі і Закону. Так, я ўзгадваў , што ў нашай выбарчай акрузе, дзе я мог быць дэпутатам Менскага гарадскога Савету дэпутатаў выбары не адбыліся, галасаваць прыйшло толькі каля 20 працэнтаў грамадзян. Але Закон патрабуе ад улады арганізаваць паўторныя выбары. Глядзіце фотакопіі дакументаў. Дыктатура баялася дэпутата Валерыя Грыцука , бо толькі я мог быць выбраны і зноў , у чэсных выбарах, дэпутатам. Але Закон павінен выконвацца. Я звяртаўся з лістамі ў

дзяржаўныя ворганы з патрабаваньнем правесьці паўторныя выбары дэпутата ў Менскі гарадзкі Савет дэпутатаў. Дыктатура не зладзіла давыбары Менскі гарадзкі Савет дэпутатаў, нават пад час выбараў у «палатку» у 2000 годзе. Я тады звярнуўся з лістом у Менскі гарадзкі Савет дэпутатаў і атрымаў адказ «отписку».Таксама я спрабаваў змусіць улады выканаць Закон і праз суд, але ўсё марна. Глядзіце фотакопію адказу нейкага «В.Р.Голобурда» на асобнай старонцы.

Таксама важным для мяне была тоя, што ў 2000 годзе я аднавіў сваю дзейнасьць у БНФ, бо Пазьняка ў БНФ ужо не была. Я прапанаваў у лісток БНФ «газэта» шэраг артыкулаў аб маёй эфэктыўнай працы , сябра БНФ, у Камітэце Грамадзкага Самакіраваньня і працы менскага дэпутата. Я лічу, што то быў бы прыклад (узор) для іншых сяброў БНФ. Але рэдактар Віктар Івашкевіч адмовіўся друкаваць мае артыкулы. Раней , пры ЗП, кіраўніцтва БНФ таксама не цікавілася маёй дзейнасьццю. А зараз (пасля 1999) былыя намесьнікі ЗП дзейнічаюць таксама. У выніку я згодзен з думкай сябра БНФ з Гародні. Вось што тады надрукавала незалежная газэта. «*Любыя спробы разварушыць зьлетаргізаваную арганізацыю (БНФ- аўт.) выглядаюць больш да статутных мэтаў, чым самазадаволенная маўклівая аўтакратыя, якая ўсё глыбей і глыбей засмоктвае арганізацыю з ваяўнічымым назовам»*. То так і сталася. Але якія Настаўнік --- такія і вучні. І ня мае вялікага значэньня ўжо, калі «любімы вучань» параўноўвае публічна Настаўніка (2013 год) з самым страшным

дыктатарам XX-га стагодзя. Але то толькі зараз, у 2013 годзе. А хто мяне падтрымаў у 1995 годзе? «Вучань» тады таксама пляскаў у ладкі аўтарытарнаму «Настаўніку», і “зазіраў у рот правадыру”.

Таксама я падтрымліваю і іншую выснову таго сябра. « ,,, *у яго (БНФ-аўт.)зусім страчаны досьвед і механізм «размовы з народам», ....... няма альтэрнатывы дэмагогіі партыі ўлады. Асабліва ў пытаньнях мясцовай улады».*\\ «Сумныя весткі з забытага фронту», 2002 год\\. І вось у такой сітуацыі кіраўніцтва БНФ адмаўляецца ад майго досьведу...

Але, як дэмакрат і сумленны беларус, я працягваў сваю дзейнасьць і ў БНФ, я спадзяваўся тады, «пераходны перыяд» міне і арганізацыя, кіраўніцтва, заварушыцца. \\Але я бачу «пераходны перыяд» цягнецца і сёньня\\.

Як заўсёды, я браў удзел у кожнай вулічнай акцыі беларускай апазыцыі.

У 2000  годзе мяне вельмі здзівіла вайсковая аперацыя на тэрыторыі горада Менска, ( я - афіцэр запасу) 25 сакавіка. Я тады пабачыў «камандны пункт» ( «штабную машыну») каля бібліятэкі Акадэміі Навук, у дварах БТР-ы. Зразумела, што мірных дэмакратаў дыктатура тады жорстка разагнала. Вельмі магчыма, што гэта была трэніроўка , на выпадак «захопу ўлады» апазыцыяй у 2001 годзе, то бок, калі бы , рэальна ,«Адзіны Кандыдат» перамог бы дыктатара Лукашенко.

……………………………………………………

## Мова мая і ваша.

Важным той год для мяне ( шкада, што толькі для мяне) быў і ў тым, што я ПУБЛІЧНА змагаўся за беларускаю Мову ДЗЯРЖАЎНАЙ ЗВАЦЦА...

Я не лічыў і не лічу, што беларусізацыя Беларусі - гэта першачарговая справа, але кожны механізм дзейнічае спраўна , калі ўсе працэсы ў ім адбываюцца сінхронна. Дык вось, рэальная месца (належнае) Беларускай Мовы ў Беларусі і ёсьць тым неабходным ( але адным з іншых) працэсаў спраўнай («сінхроннай») дзейнасьці Беларусі , як дзяржавы.

Вось, я, паляшук да n-га ( 5 -га дакладна) «калена», вымушаны быў змагацца за Беларускую Мову, перадусім, з пачуцця змаганьня за Справядлівасьць і супраць дыскрымінацыі беларускай дзяржаўнай мовы.

Я ўжо некалькі год быў вымушаны змагацца за свае прыватныя правы , спрабаваў абараніць сваі законныя правы праз суд...( дзе там --- БНФ-вец правоў не мае). Дык вось, на кожным судовым пасяджаньні,

я патрабаваў (тады, у 1999, 2000 , 2001 гадох) усяго працэсу на беларускай дзяржаўнай мове. Заўсёды мне адмаўлялі , у маім (нашым) законным Праве. Я пісаў скаргі у Міністэрства юстыцыі, Канстытуцыйны суд, у Вярхоўны Суд. Напісаў, я адпаведны артыкул для газэты «Народная воля» -- «Я мужык, а гонар маю». Глядзіце тут копіі тых дакументаў. І.Сярэдзіч надрукаваў мой артыкул.. Надрукаваў , пазней, ён і маю

інфармацыю і юрыдычны аналіз маёй перапіскі з дзяржаўнымі ворганамі Рэспублікі Беларусь адносна дыскрымінацыі дзяржаўнай Беларускай Мовы. Але мяне НІХТО з беларусаў, дэмакратаў, сяброў БНФ, таварыства Беларускай Мовы, не падтрымаў, нават, той жа , Сяргей Дубавец, які прачнуўся і пачаў дыскусію на гэтую тэму толькі ў 2013 годзе .

Я спрабаў абараніць нашу Мову, дзяржаўную беларускую мову праз суд. Ды дзе там, паўсюдна беларусафобія. Глядзіце фотакопіі адказаў расійскіх агентаў, якія займаюць пасады ў судах Рэспублікі Беларусь. ( на асобных старонках) Усе гэта патрабавала пэўных маіх высілкаў і юрыдычных ведаў. Звярнуўся я і ў Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь. Глядзіце фотакопію адказу. Пазней , мой даўні знаёмы , чалавек добры, беларус, але прыстасаванец, Анатолій Цікавенка, мне распавёў , што ён заўсёды бараніў Беларускую Мову, як суддзя Канстытуцыйнага суда.

Вось так і атрымліваецца, што беларусы, дэмакраты заўсёды спазняюцца. Самае смешнае , што яны абгрунтоўваюць сваё гультайства «рацыянальнымі» дзеяньнямі.

Ці мы можам «як усе» ?

Дык вось прыклад **«іррацыянальнага» дзеяньня..** Эўропы, сапраўднай Эўропы.

**Мальта** . Ведаеце такую краіну, якая ёсьць ў складзе Эўрапейскага Звязу?

Надарылася мне крыху пазнаёміцца з мальтыйскай культурай. Дык вось. Мальта далучылася да

Эўрапейскага Звязу. А закон ЭЗ такі, што ЎСЕ дакументы Эўрапейскага Звязу павінны перакладацца на мову кожнай дзяржавы, у тым ліку на мальтыйскую мову. Гэта , канешне, справа лінгвістаў Але мальтыйская мова была вельмі бедная, зразумела , што тэхнічных панятак на мальтыйскай мове не існавала. І што? Закон ёсьць Закон. Праз 14 месяцэў ЭЗ вынайшоў рашэньне Праблемы, дапамог падрыхтаваць адмысловых перакладчыкаў. І УСЯ дакументацыя Эўрапейскага Звязу перакладаецца на мальтыйскую мову....

Мальта. Дзяржава-выспа. 400 000 жыхароў. Плошча -316 км$^2$. Валюта-- Euro.

Прыклад мальтыйскай мовы.

ar nisa fis-settur tat-teknoloġija

Politika tax-xogħol − 30-04-2013 - 11:27

Għal kull 1,000 mara bi grad ta' baċellerat fl-Ewropa, 29 biss huma dawk li gradwaw fis-settur tal-IT. Minn dawk id-29, 4 biss jaħdmu fis-settur tal-ICT. Nhar il-Ħamis 25 ta' April, fl-okkażjoni tal-jum internazzjonali tan-nisa li jaħdmu fis-settur tal-ICT, esperti internazzjonali ddiskutew dwar dawn il-figuri u n-nuqqas ta' nisa f' dan is-settur. http://www.europarl.europa.eu/portal/mt

Пытаньня «рацыянальных» дэмакратаў ёсьць?

**«За Незалежнасьць»**

У гэтым годзе дыктатар аднавіў сваю актыўнасьць па «интергации двух народов», былі падпісаны чарговыя дамовы. Сітуацыя (фармальна) выглядала нядобра, быў зроблены істотны (фармальна) крок у бок знішчэньня суверэнітэту Рэспублікі Беларусь. Сапраўдныя беларусы зладзілі з'езд беларусаў «За Незалежнасьць».

Я браў удзел , канешне, быў дэлегатам , у з'ездзе беларускіх дэмакратаў «За Незалежнасьць». Але выступіць ня змог -- «чарга не дайшла».

Я захаваў маі карткі ўдзельніка і заклік «Арганізатараў», глядзіце фотакопіі на асобнай старонцы. Добры Заклік, ён актуальны і зараз. Але ці пачулі яго беларусы? Бадай, што – НЕ.



## 2001

## Выбары Прэзыдэнта

### Мой ліст у газэту і пошук «дэмакратычнага наменклятуршчыка»

Я добра адчуваў сітуацыю і ведаў ,што выбары мы, дэмакраты, можам выйграць у «народнага прэзыдэнта», які стаў дыктатарам, калі знойдзем адпаведнага «кандыдата». Тут я ўжо згадваў , што і новы кіраўнік БНФ, В.Вячорка, не хацеў слухаць парады сяброў БНФ. А іншыя актывісты апраўдваліся «*Робім тоя, што можам».* ( Вось і зрабілі). Што я мог у такой сітуацыі ? Я напісаў ліст у газэту «НН» і падпісаўся Вітаўт Невядомы . То была на пачатку студзеня 2001 года. Газета надрукавала мой ліст. Я прапанаваў знайсьці «дэмакратычнага наменклятуршчыка», які быў бы адзіным «кандыдатам на пасаду Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь». Я не ведаю ШТО ( і ці ўвогуле) думалі фармальныя лідэры аб «выбарах». Але ўражаньне такое, што яны, кожны з іх, (пасля «знікненьня» В.Ганчара, а потым журналіста Зміцера Завадскага) думалі кожны дзень, калі ён «знікне».. Дзе там думаць аб выбарах, Беларусі... Ага, чую... А цябе на маё месца. Адказваю. Баішся. Маеш права. Але не перашкаджай, сыйдзі з «пасады» --- дай месца мужным людзям.

Выбары 2001 года паказалі, што лідэры дэмакратычных сілаў спалохаліся таксама і адказнасьці за Ўладу (а раптам і сапраўды возьмуць уладу) . Дэмакраты ціха аддалі “кандыдата” ў рукі СССР -га

камуніста Василия Леонова ( сакратара КПБ-КПСС), якога “незалежныя” журналісты пасьпяшаліся, па звычаю, абвесьціць «апазіцыянерам». Василий Леонов сваей дзейнасьцю , у чарговы раз , даказаў цынізм функцыянераў КПСС. Ягоныя тлумачэньня, ягонай дзейнасьці ў 2001 годзе, якія ён агучыў у 2013 годзе добрыя ,бадай, толькі для дзяцей.

Прыгадаю толькі адно: узначальваць штаб кандыдата на Прэзыдэнта Беларусі і быць перакананым ( гаварыць іншым тоя..) што перамогі ня будзе – гэта нешта дзіўнае. Адпаведна, В.Леонов нічога і не рабіў для пасьпяховай выбарчай кампаніі. Гэта я ведаю, бо працаваў у штабе. Ну і, канешне, шкоднае (ідыёцкае) змаганьне былых партфункцыянераў (ад КПСС) за блізкасьць да цела «Кандыдата». Асабліва шкоднай была дзейнасьць Валентины Полевиковой, якая «перамагла» Василия Леонова.

А ўвогуле, быў такі “наменклатурщик”, але не ТОЙ, называўся ён Владимир Гончарик .

У Эрмітажы (Ленінград, на той час) мяне ўразіла карціна нямецкага мастака , “Бойка за жанчыну”. Жанчына спакойна назірала як біліся «уладары», самцы.... І чакала канца бойкі каб аддацца пераможцу, больш моцнаму самцу. Але грамадзтва не арганізм біялагічнай істоты, якая шукае магчымасці пошуку лепшых генаў, і яго не кланіруеш. З другога боку, жыццё паказала, што вельмі часта грамадзтва ператвараецца ў натоўп (самку) і аддаецца мацнейшаму самцу, то бок, палітыку, які выглядае такім.

Дазвольце , спадарства, падрабязна апісаць маю палітычную дзейнасьць ў той год.

Маі прыватныя праблемы засталіся, сітуацыя, нават , ускладнілася. Але , былы «образцовый комсомолец» (толькі ў школе і ўніверсітэце) , так і дзейнічаў: «Думай сначала о Родине , а потом о себе». ( для маладых, гэта словы з савецкай прапагандыскай песьні).

Дык вось, я падумаў аб Радзіме, Беларусі і на прапанову Алеся Астроўскага, актыўна ўвайшоў у выбарчаю кампанію 2001 году. Удакладню. У БНФ мяне далучылі да «палітычнай Камісіі», кіраўнікоў якой быў Алесь Астроўскі, урач, выкладчык Гродненскага медыцынскага інстытута. Спадар Алесь, у вольны, ад працы час, цікавіўся тэхнялёгіяй прапаганды, а таму прапанаваў апазыцыйным структурам правесьці семінары для падрыхтоўкі актывістаў да агітацыйнай кампаніі. Але, бадай, дрэнна ён дамовіўся з кіраўнікамі апазыцыйных структураў, бо не паўсюдна такія семінары адбыліся.

Але ,Алесь Астроўскі і я, Валеры Грыцук, рушылі ў падарожжа па краіне Беларусь. Наша задача: даць веды актывістам апазыцыі для паспяховай і бяспечнай (для саміх актывістаў) агітацыйнай кампаніі пад час выбараў. Наша падарожжа пачалося на пачатку траўня («мая») 2001 года.

Прыехалі мы ў Віцебск , сабралася каля 40 чалавек. Хрыстафор Жаляпаў і іншыя віцебскія актывісты змаглі сабраць людзей. Была шмат пытаньняў, бачна была што людзі рыхтуюцца сур'ёзна да справы. Некаторыя віцебскія сябры і потым кансультаваліся ў мяне, калі сустракалі мяне ў Менску.

Прыехалі мы ў Гародню. Ніхто на прызначаную сустрэчу не прыйшоў. Увогуле, у пакоі, дзе мы павінны

праводзіць «трэнінг» людзей не была. Чаму так адбылося - я не ведаю. Але думаю, што прычынай была звычайныя чалавечыя стасункі : «не любілі» Алеся Астроўскага ў Гародні.

Наступным горадам нашага падарожжа была Бярэсьце (Брэст). Сумна, але і тут не атрымалася сабраць актывістаў. На «навучаньне» прыйшло 3 чалавека. Зразумела, што мы з імі пагаварылі, адказалі на пытаньня. Але ж то былі, запланаваныя семінары-трэнінгі для ўсей вобласьці.....

Прыехалі мы ў Гомлю. Тутака добра папрацавалі Віктар Карніенка і Юры Варонежцеў. Людзей на трэнінг прыйшло многа. Адбылася вельмі цікавая і гарачая дыскусія. Прыемна то ўспомніць. А вось «номер люкс» у галоўным гатэлі Гомлі быў страшным, то непрыемна ўспамінаць.

Наступны горад, Магілёў , на мяне зрабіў вельмі сумнае ўражаньне. Перадусім, нас «людзей з Цэнтра» , увогуле ніхто не сустрэў, памяшканьне, дзе павінна была адбыцца сустрэча актывістаў вобласьці і наш трэнінг, «пад замком».Можа, толькі праз якую гадзіну, Астроўскі знайшоў «гаспадара» памяшканьня, але трэнінг не адбыўся.

У Менску, гораду «разумных», мы не ладзілі трэнінг.

Вось такая падрыхтоўка была да «лёсавызначальных» выбараў. Хто вінаваты? Чаму апазыцыя так дрэнна рыхтавалася ( ці рыхтавалася ?) да выбараў - я не ведаю. Шукаць тады адказы на гэтыя пытаньні ў мяне таксама не была магчымасьці.

А вось тоя , як «рабіліся кандыдаты на пасаду

Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, мяне цікавіла. Зразумела, што аб «кухні» пошуку «Кандыдата» я даведаўся пазней, бо я не быў фармальным лідэрам апазыцыйнай партыі і ня быў расійскім вывядоўцам, каб увесь час круціцца каля гэтай «палітычнай кухні».

Пасля падарожжа - агляду нашых структураў, я працягнуў працу ў «палітычнай камісіі» БНФ. Неяк дзіўна атрымалася, што ані Вячорка, ані ягоныя наменікі, не абмяркоўвалі з «Палітычнай Камісіяй» накірункі працы БНФ у выбарчай кампаніі. Па прапанове Астроўскага, мы (сябры Камісіі) пачалі выдумляць магчымыя тэксты для нашых ворагаў -лукашыстаў, каб знайсьці трапныя адказы на іхнія магчымыя «закіды». Потым высветлілася, што праца наша была марная. Улада дзейнічала не «фігурамі» (калі ўзгадаць шахматы) , а «дошкай».Потым , Астроўскі прапанаваў выдумляць агітацыйныя ўзоры, зараз гэта называюць «налепкамі». Але, сякую, такую, Канцэпцыю выбарчай кампаніі мы распрацавалі. Старшыня Камісіі, Астроўскі, выклаў яе на пасяджаньні Сойму БНФ. Вячорка не падтрымаў гэтую Канцэпцыю, адпаведна і Сойм не пагадзіўся з «Канцэпцыяй Астроўскага». Але ніхто, нічога іншага не прапанаваў. Вось такая палітычная праца была ў БНФ.

Потым Вячорка накіраваў мяне ў групу Вацлава Арэшка (такога майстра на ўсе справы). Увогуле, то была дзіўна, Арэшка не быў сябрам «Палітычнай Камісіі БНФ», а яму была даручана кіраваць распрацоўкай узораў агітацыйнай кампаніі.

Я быў на пасяджэньні «групы Арэшка» два разы. Але

пасля маёй крытыкі, што не можна прапаноўваць 20 узораў, павінна быць ня больш 3-х, а лепш толькі адзін узор, мяне болей не запрашалі на патаемные сходы Арэшкі. Група «Арэшкі» рабіла ўзоры для «кожнай сацыяльнай групы» .... Смех ды годзе. Нібы мы мелі неабмяжаваныя фінансавыя сродкі.. Я лічу, што такім чынам проста «адмываліся грошы»... У чыю кішэнь? Я не ведаю.

І гэта ўсё адбывалася ў БНФ! БНФ, якім кіраваў вучань ЗП, Вянцук Вячорка.

Потым, калі Сямён Домаш спалохаўся, што яго атруцілі і адмовіўся ад удзелу ў выбарах, я далучыўся да штабу Владимира Гончарика, да групы «спецыялістаў выбарчых кампаній». Кіравала групай ( «кантракт» на вялікія грошы, ці 30000 , ці 50 000 даляраў) госпожа Светлана Наумова . Якую я ведаў па яе прымітыўнай працы на расійскага бізнесмена пад час «выбараў» 2000 года ў Першамайскім ( маім) раёне горада Менску.. Яна яму параіла раздаваць «подарки избирателям», што, дарэчы, была незаконна.

У той групе быў таксама «суперспецыяліст» ( ад расійскага « ГРУ») Андрей Суздальцев. Якім чынам ён туды ўлез, я не ведаю, магчыма ён быў патрэбен як «офицер связи» для хуткага кантакту «Кандыдата» з Масквой... Група выпрацавала некаторыя прапановы, але ( я так зразумеў), што большасьць з таго, што была прапанавана, «отметала» Главный специалист всех времен и всех политических кампаний Валентина Полевикова. Але і госпожа Светлана Наумова не разумела сутнасьці беларускага выбаршчыка. Прыклад. «Кандыдат» збіраўся ехаць у мой родны горад

Кобрынь, я напісаў і тэкст, «акцэнты»( факты) , што трэба сказаць, каб зацікавіць жыхароў Кобрыня адразу, паказаць жыхарам, што ён «тутэйшы» ведае, што адбываецца ў горадзе.. Але тут ужо госпожа Наумова («теоретик») , «отмела» мае прапановы. Смешна і сумна, У нас вельмі часта палітыкі блытаюць «теоретиков» з «практиками». Так нейкі чалавек можа быць паспяховым «теоретиком», але вельмі дрэнным «практиком». Рабіць PR на поле «адміністратыўнага рэсурса» -- вельмі проста, а вось супраць... То , ужо сапраўды, мастацтва «практика».

Вядома , што «наш Кандыдат» не перамог. Канешне, вельмі важнай прычынай было тоя, што вельмі і вельмі позна пачаў ён агітацыйную кампанію, бо вельмі позна яго прапанавалі, як «Адзінага кандыдата» ад апазыцыі.. Можа гэта і была прычынай таго , што праца ў штабе была вельмі дрэннай: «Что ни делай , а мы не выйграем»., -- бадай так думалі ўсе ў штабе В.Гончарика і чакалі канца «Кампаніі», каб атрымаць даляры «за працу».

Мая выснова:

Большай «халтуры» чым у штабе В.Гончарика, я нідзе не бачыў.

І на адвечнае пытаньне:

Што важней –Грошы , ці людзі?

Я магу дакладна адказаць: канешне , ЛЮДЗІ, чалавек.

Нагадаю, што фармальныя лідэры апазыцыі пагадзіліся на тоя, каб «Кандыдата» прапанаваў былы сакратар КПБ-КПСС В.Леонов . Ён прапанаваў наступных

кандыдатаў:

старшыня « Федерации профсоюзов Белорусской»**-- Владимир Гончарик,**

былы старшыня Гарадзенскага абласнога Савета дэпутатаў (1994 -1996), быў ён і дэпутатам ВС 12 і 13 -га скліканьня (да снежня 1996 **) -- Семен Домаш,**

першы кіраўнік урада Прэзыдэнта А.Лукашенко , былы банкір, («кандыдат» на выбарах 1999 года)**--- Михаил Чигирь,**

былы министр обороны ( у годы анархіі ва ўрадзе Рэспублікі Беларусь) **--Павел Козловский ,**

**кіраўнік «Партии коммунистов Белорусской»--- Сергей Калякин.**

Узгадаем і тоя, што займаў пасаду Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь энэргічны, бязпрынцыпны, нахабны , сексапільны самец. // Я размаўляў з жанчынамі адносна прывабнасьці Александра Лукашенко і быў здзіўлены, што жанчыны, з вышэйшай адукацыяй, вельмі прыхільна ставіліся да Лукашенко – ён ім падабаўся , «як мужчына»».// І вось супраць такога самца трэба была выставіць кандыдатам чалавека, які спадабаецца «народу» ( А «**народ»** , як жанчына, перадусім, **любіць вушамі.)**

І з другога боку, апазыцыя не паказала «народу» (нават пасля «дефолта» 1998 года) заганнасьць і карумпаванасьць улады Александра Лукашенко.

Кампанію 2001 года можна акрэсліць так:

*Ніхто не хацеў працаваць..*

Канешне, то не тычацца шэраговых сумленных сяброў БНФ.

Дарэчы, мне не заплацілі за працу, але , то мая асабістая прычына.

Перадусім паспрабую знайсьці адказы на наступныя пытаньні.

1. У 1999 годзе нібы «апазыцыя» наладзіла спектакль (выбары) , які негатыўна паўплываў на актывістаў сапраўднай апазыцыі, дзякуючы выкрутасам ЗП (глядзіце вышэй). Чаму прапанавалі быць «кандыдатам» Зянону Пазьняку, чаму ён пагадзіўся?

2. Ад 1999 года , пасля ачышчальнага з'езда БНФ, не пачалася падрыхтоўка да «афіцыйных выбараў» 2001 года. Чаму ?

3. Чаму пад час «афіцыйных выбараў» 2000 года не праводзілася агітацыя за «байкот» і адначасова падрыхтоўка структураў і людзей да 2001 года?

4. Чаму , нават, на пачатку 2001 года не быў зроблены паліталягічны і псіхалягічны аналіз магчымага («партрэт») «Кандыдата» ад апазыцыі?

   Я ведаю, спецыялісты былі, якія жадалі дапамагчы апазыцыі, нават тыя, якія валодалі тэхнікай NLP (нейралінгвістычная праграмаваньне).

5. Чаму фармальныя лідэры апазыцыі (В.Вячорка, А.Лябедзка, С.Калякін**, сацыял-дэмакраты*) адмовіліся ад абмеркаваньня магчымасьцей

будучага «Кандыдата», адпаведна , і ягонай асобы, а «Кандыдата» аддалі Леонову?

*-- сацыял- дэмакраты на той час біліся за «партфель» Партыі. ** Калякін сам хацеў быць «Кандыдатам».

6. Чаму падрыхтоўка апазыцыйных структураў да выбараў пачалася толькі ў траўні 2001 года? (Дзень галасаваньня – 9-га верасьня).

7. Хто вінаваты, што , рэальна, «Адзіны Кандыдат» з'явіўся толькі ў жніўні? (галасаваньне адбылося 9 -га верасьня).

Я пералічыў толькі галоўныя пытаньні. І вось мая думка адносна паразы беларускіх дэмакратаў, № 2.

А) Не была падрыхтоўчай працы да палітычных кампаній пасля паразы №1. выбараў 1994 года, ды і (для БНФ) 1995 года.. 1996 –га. Дэмакраты не тлумачылі насельніцтву парушэньня Канстытуцыі Прэзыдэнтам і іншыя злачынства новай улады. У 1999 годзе павінна была пачацца падрыхтоўка да выбараў 2001 года і абсалютна памылкова не быў выкарыстана «рэсурс» выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў (глядзіце вышэй). І трэба была такі абмеркаваць у асяродзьдзе апазыцыі «адмову Пазьняка» у 1999 годзе, звышамбіцыі якога выкарыстаў Віктар Ганчар у сваёй «гульне».

В) Бяздзейнасьць, спрэчкі 1999 года ў БНФ справакаваў Зянон Пазьняк, якому трэба была чэсна , маральна ( па-хрысціянску) адмовіцца ад

«пасады» яшчэ на пачатку 1997 года, калі ён (лідэр БНФ) паказаў сваю бяздапаможнасьць пад час захопу усёй ўлады ў Рэспубліцы Беларусь праз Лукашенко, у лістападзе 1996 года. «ОГП» і старшыня Партыі, Анатоль Лябядзка, не развілі, не пашырылі дзейнасьць «ГРАК» ( Грамадзкі Рух у Абарону Канстытуцыі 1994 года) і не падтрыхтавалі і свае партыйныя структуры да выбараў.

C) Пад час «афіцыйных выбараў» 2000 года фармальныя лідэры апазыцыі пагадзіліся на поўную анархію. Чаму? Можа страх за сваё жыццё, які быў падмацаваны чарговым «знікненьнем», забойствам журналіста Завадскага?

D. Чаму , нават, на пачатку 2001 года не быў зроблены паліталягічны і псіхалягічны аналіз магчымага («партрэт») «Кандыдата» ад апазыцыі?
Я не маю адказу на гэтая пытаньне. У БНФ В.Вячорка спрабаваў кіравацца аўтарытарным кірункам ЗП, а таму, не жадаў пагаджацца на прапановы іншых, 2001 год тоя паказаў.

У «ОГП» , бадай лічылі, што трэба за вялікія грошы (якіх не была) запрасіць «спецыялістаў».. Але няма «даляраў» -- няма «спецыялістаў». У камуністаў не была ані «даляраў», ані «спецыялістаў».. Сацыял-дэмакраты ўсё яшчэ змагаліся за «партфелі» Партыі...

E) Чаму фармальныя лідэры апазыцыі В.Вячорка, А.Лябедзка аддалі «Кандыдата» ... Я думаю, што , перадусім, баяліся «узяць уладу». Так, потым, па прапанове NGO-шніка Александра Мілінкевіча, В.Вячорка пачаў трымацца Сямёна Домаша.... Але , то ўжо была запозна.

F) Падрыхтоўка апазыцыйных структураў да выбараў пачалася толькі ў траўні 2001 года , на маю думку, таму што фармальныя лідэры ( і актывісты) былі разгублены ( пасля «ўсіх падзей») і не ведалі «ШТО» рабіць. Ці мелі права «лідэры» на разгубленнасьць? Канешне -НЕ!

G) Хто вінаваты, што , рэальна, «Адзіны Кандыдат» з'явіўся толькі ў жніўні? Я думаю, што гэта быў уплыў на Домаша і Вячорку Александра Мілінкевіча і ,канешне, няздольнасьць рэальна «дамовіць» кандыдатаў у кандыдаты, Василия Леонова. А, ён абвесьціў, што «сами кандидаты выбрали Единого».

Але трэба адзначыць і адзін станоўчы момант выбарчай кампаніі 2001 года і , такі, мужнасьць Владимира Гончарика. То, з ягонай згоды Кандыдата ( як афіцыйнай асобы) была распаўсюджана інфармацыя аб злачынствах Александра Лукашенко, па «знікненьню» (забойству) апазыцыянераў і журналіста.

На жаль, Віктар Івашкевіч, які надрукаваў таксама матэрыялы адносна тых «знікненьняў» (забойстваў) і тады паказаў, сваю няздольнасьць прагназаваць развіццё падзей. Амаль увесь наклад ягонай газэты, «Рабочы» , быў канфіскаваны міліцыяй.

Тоя, што вельмі позна «прачнулася» апазыцыя і сведчыць час , дата, калі адбыўся «V Кангрэс Дэмакратычных сілаў «Грамадзкая кааліцыя за адзінага кандыдата», 18 жніўня 2001 года, Менск. Я канешне быў удзельнікам і гэтай акцыі. Глядзіце на асобнай старонцы фотакопію маей «карткі».

Крыху раней адбыўся «Кангрэс Беларускай моладзі», куды мяне запрасілі  як «госьця». На вялікі жаль, я прастудзіў горла і ня мог гаварыць. А ў мяне была ШТО сказаць дэмакратычнай моладзі, перадусім , папярэдзіць іх аб памылках «дарослых» палітыкаў.

Амаль адначасова з Кангрэсам моладзі адбыўся з'езд БНФ.

Цікавая ( ?) , але звычайная сітуацыя для мяне напярэдадні  дня галасаваньня.  Хадзіў я па праспекту ім. Францыска Скарыны, у Менску, і аглядаў агітацыйныя плякаты. На стэндзе, недалёка галоўнай крамы «ГУМ», я пабачыў замежнікаў, па гаворцы, я зразумеў, што гэта немцы. Я запытаў іх на ангельскай мове , ці цікава ім даведацца крыху болей аб выбарах - яны згадзіліся паслухаць. Але пад час маей «лекцыі» мне перашкаджаў нейкі чалавек ( я думаю з «КГБ»), які то занадта блізка быў каля мяне, амаль цёрся, то «праціскаўся» паміж мной і немцамі. Таксама непасрэдна за мной стаялі два «бойца ОМОН». Вельмі падобна на тоя, што меня хацелі справакаваць на

«хулиганския действия».Але абыйшлося. Пасля гэтай «падзеі» я напісаў Ліст у прадстаўніцтва OSCE (АБСЕ) у Менску, дзе паказаў як «ідзе» выбарчая кампанія.

Вось былі тады такія падзеі і гэта на тле маей ужо вельмі складанай асабістай сітуацыі (дадалася крымінальная справа).

Мая асабістая сітуацыя вельмі пагоршылася пасля таго як я выйграў судовы працэс у менскай міліцыі, як юрыст ( як абаронца Правоў Чалавека) я пераканаў суд , што міліцыя ня хоча працаваць згодна з Законам. Але ў ліпеню (напярэдадні дня майго нараджэньня) я , раптоўна, быў арыштаваны на працоўным месцы, у Акадэміі Навук . У міліцыі паведамілі мне ,што супраць мяне ўзбуджана крымінальная справа. Як, пазней, растлумачыў мне, вядомы юрыст, Міхаіл Пастухоў, такімі артыкуламі крымінальнага кодэксу «любіць» карыстацца «КГБ». То такі артыкул, які ўжываецца да тых , хто скраў у дзяржавы асабліва сакрэтныя дакументы. Пазнаёміўся я тады і з «дзяржаўным адвакатам», які павінен быць пад час допыту. Дык вось гэтая жанчына , стаяла каля вакна, увесь час там нешта спрабавала убачыць... Такі «адвакат» , на мяне не звяртала ўвагі. Яшчэ раз дзякуй следчаму - «БНФ-цу», які па маю прозьбу , выклікаў адваката Веру Стрэмкоўскую. Вялікі дзякуй ёй , яна падтрымала мяне маральна і падказала мне ,што я павінен гаварыць.

Але за кратамі я быў нядоўга. Дзіўным чынам, следчы крымінальнага аддзелу, вельмі малады чалавек, пашкадаваў мяне, БНФ-ца. Бо, як сам мне растлумачыў таксама нейкі час быў у шэрагах БНФ. Гэты прыклад

яшчэ раз паказаў , што БНФ мог быць уплывовай сілай у Беларусі, калі б лідэр БНФ не займаў такую жорсткую пазіцыю і больш сілаў аддаў бы БНФ-**арганізацыі** , а не бязсэнсоўнай працы ў Вярхоўным Савеце, асабліва, пасля непрыняцця «Волі Народа Беларусі» правесьці рэфэрэндум.

Мая «сіла». «Журналіст».

Я думаю, што будзе цікавым і карысным для беларускага чытача задумацца адносна наступных двух фактаў з майго жыцця, якія звязаны з падзеямі, якія я падаў вышэй..Такія факты сведчаць аб агульнай сітуацыі ў Беларусі. Праблемы майго прыватнага жыцця паказалі мне, што я , сапраўды валодаю моцным аўтарытэтам ( «сілай») у Першамайскім раёне. Першы прыклад. Той міліцыянт , які мяне арыштаваў, вырашыў «падстрахавацца» супраць маёй «сілы». Гэты міліцыянт напісаў заяву свайму начальніку, што я яго «укусіў», то бок, я «здзейсьніў напад на супраціўніка міліцыі». Для цікаўных. Я ніколі нікога не кусаў. Былі яшчэ прыклады страху іншых урадоўцаў маёй «сілы».Але на іх моцна ціснула іншая «сіла», вышэйшая ўлада.

Тут я хацеў бы засяродзіў увагу чытача на іншай «сацыяльнай групе», журналістах. Дык вось, калі я выйшаў з вязьніцы, выпадкова сустрэў мяне «журналіст» Генадзь Барбарыч. Я напісаў слова журналіст у косках таму, што я яго не лічу журналістам. Вось чаму. **Першае** пытаньне, якое задаў мне Барбарыч была такое: «Ці вы сапраўды ўкусілі міліцыянера?» . Мая выснова: гэты чалавек -- не

журналіст. Ён сваё становішча выкарыстоўвае толькі для пошуку сенсацый каб зарабіць больш , грошы толькі грошы, яго цікавяць. Дарэчы, такія паводзіны вядомы для абсалютнай большасьці старых журналістаў.

Пазней я меў другі прыклад ад чалавека, якога я паважаю, але журналіста, палітычнага аглядальніка. Калі ён напісаў артыкул аб магчымых кандыдатах ад апазыцыі на пасаду прэзыдэнта Беларусі, то ён падрабязна напісаў аб УЖО вядомых беларускаму грамадзтву людзях і **нічога** не напісаў аб астатніх магчымых кандыдатах. На маё пытаньне чаму ён так зрабіў, журналіст адказаў, што астатнія «кандыдаты на Кандыдата» невядомыя грамадзтву людзі... (!?) Я паўтару, **журналіст** сказаў: «Яны невядомыя..». Вось таму я і не паважаю беларускіх журналістаў ( у тым і недзяржаўных). Задача (місія) журналіста ,перадусім, ДАВАЦЬ ІНФАРМАЦЫЮ, для таго каб «невядомыя» сталі вядомымі грамадзтву. Беларускія журналісты сваю працу выкарыстоўваюць выключна эгаістычна, толькі каб зарабіць большыя грошы ( абсалютная большасьць). Я маю яшчэ прыклады для такой высновы.

Большасьць старых журналістаў, маюць іншую праблему, увесь час яны блытаюцца ў тэрмінах, пераносяць паняткі дэмакратычных краін на дзяржаўныя структуры дыктатарскай Беларусі і гэтак далей.. І фактычна яны дапамагаюць дыктатару: «*Мы такие как все»*. Але, дзеля Справядлівасьці, сярод маладых журналістаў ёсьць сапраўдныя журналісты, але на іх шляху стаяць старыя рэдактары.

## «Валадарка». За кратамі

Ліпень 2001 года ,спякота, я маю на сабе толькі кашулю і вось , я ў кайданках. Позна вечарам з будынку міліцыі Першамайскага раённага ўпраўленьня ўнутраных спраў мяне забраў «варанок» (так у гады крываЖэрнага дыктатара Сталіна людзі называлі міліцэйскую машыну, у якой везлі арыштаваных). Запіхнулі мяне ў маленькі закутак буды. Бо буда «варанка» падзелена: вялікая частка для міліцыянтаў, а маленькая , для арыштантаў. Вельмі доўга ехалі, бо «варанок» забіраў арыштантаў з усяго горада. Ну і нейкі арыштант, бадай, тыповы «зэк», пачаў байкі баяць. “Менты” адзін раз запатрабавалі *«тишина»*, другі раз... А потым, *«выхадзі па аднаму»*, то бок, з нашага закутка... І пачалі «вучыць», лупцаваць гумавым дручком, па чарзе. Бо ніхто з нас не «выдаў» баюна... Надыйшла чарга і да мяне...Але я не атрымаў «лекі» гумавага дручка.. Не ведаю чаму...Мне «выдалі» іншае: маі кайданкі так заціснулі, што хоць ты плач, вельмі балюча была..

Памятаю, таксама вялікае здзіўленьне гаспадароў Валадарскай турмы, калі пабачылі мяне, «прафесара» (так мяне «зэкі» абазвалі, бо я быў з барадой).

Памятаю і голыя дошкі ў камеры, на падлозе, на якіх прыйшлося мне муляць рэбры... І гарачыня, паветра няма, бо акенца вельмі малая... Памятаю таксама «салідарнасьць»: грузін , які чакаў на дэпартацыю ўжо 2 месяцы даў свой швэдар мне «пад галаву».

Вось такая была ў мяне «экскурсия в главную

достопримечательность власти диктатора Александра Лукашенко»... Гэта табе не «ледовый дворец», а сапраўдны цуд і дасягненьне дзяржавы Беларусь. Можа напісаць заяву ў ЮНЕСКО?

Так, следчы («БНФ -вец») мяне вызваліў, часова. Але крымінальная справа не была спынена. Праз нейкі час, мяне зноў пачалі шукаць., а таму я забраў увесь мой «законны час» на адпачынак у АН - гэта атрымалася , агулам , 6 месяцаў. Пасля 9 -га верасня я пачаў жыццё сапраўднага канспіратара. Але 9 -га верасня я адпрацаваў напоўніцу.

**Сыны і дочкі Беларусі!**

**Пад пагрозай незалежнасць нашай Дзяржавы.**

Дык збярэмся на свой Усебеларускі З'езд, каб увесь свет пачуў, што мы самі здольныя вырашыць лёс Бацькаўшчыны, што мы супраць гандлю суверэнітэтам краіны.

**Мы, як сябравалі, так і далей будзем сябраваць з Расіяй, але як дзяржава з дзяржавай, раўнапраўна і годна.** Мы не жадаем быць нічыім рэгіёнам, нічыёй акругай.

Хто хоча быць гаспадаром у сваім доме, няхай падтрымае Усебеларускі З'езд, які прымае Акт Незалежнасці Беларусі!

**Усебеларускі З'езд пачынаецца 29 ліпеня 2000 года.**

Забудземся на непаразуменні і крыўды! Згуртуемся!

Дзе згода, там свабода!

*Ён твой, Усебеларускі З'езд,*
*А таму*
*Ты, як свайму,*
*Паспрыяй яму!*

**Аргкамітэт Усебеларускага З'езду**

Адрас для карэспандэнцыі: 220065, Мінск, а/я 297
Кантактны тэлефон: (017) 223 65 29




Валеры

Грыцук

Вынятка
з пратакола № 9 паседжання Мінскай гарадской Рады
Грамадскага аб'яднання «Таварыства Беларускай Мовы
імя Францішка Скарыны».
ад 23 жніўня 2001 г.

**Прысутнічала: – 11 чалавек**
**Усяго: – 15 чалавек**

**Павестка дня:** Аб вылучэнні сяброў Грамадскага аб'яднання «Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны» ( г. Мінск, вул. Румянцава, 13; тэл.: 2134352 ) у якасці назіральнікаў ва ўчастковыя камісіі г. Мінска па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**Слухалі:** Анісім Алену, якая прапанавала вылучыць у якасці назіральніка ва ўчастковую камісію № 40 па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ПЕРШАМАЙСКАГА р-на г.Мінска сябра Грамадскага аб'яднання «Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны» ГРЫЦУКА ВАЛЕРЫЯ ІВАНАВІЧА які пражывае па адрэсе: г. Мінск, вул. ШУГАЕВА д. 17 к. 1. кв. 145.

**Выступілі:** Мухіна Леанарда, якая падтрымала прапанову Анісім Алены і прапанавала паставіць пытанне на галасаванне.

**Вынікі галасавання:**
За — 11
Супраць — 0
Устрымаліся --- 0

**Пастанавілі:** Накіраваць у якасці назіральніка ва ўчастковую камісію № 40 па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ПЕРШАМАЙСКАГА р-на г. Мінска сябра Грамадскага аб'яднання «Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны» ГРЫЦУКА ВАЛЕРЫЯ ІВАНАВІЧА.

Старшыня Мінскай гарадской Рады
Грамадскага аб'яднання
Таварыства Беларускай Мовы
імя Францішка Скарыны — Анісім Алена

Сакратар — Л.Смачных

Зарэгістраваны 6.09

**Улада выходзіць з народу і належыць народу.**

**Беларускі закон дае права кожнаму грамадзяніну краіны ажыццяўляць назіранне за ходам выбараў. Грамадзянская ініцыятыва "Незалежнае назіранне" аб'ядноўвае людзей, якія будуць працаваць дзеля адкрытасці і справядлівасці выбараў. "Незалежнае назіранне" абароніць Вас ад фальсіфікацыяў і парушэнняў на выбарчых участках. "Незалежнае назіранне" пакажа сапраўдныя вынікі галасавання.**




# Ваш голас будзе ўлічаны!

**ДЗЕ той «голас» ?**

«ИН» 8.I.2001

# Угода з намэнклятурнікам

Беларусь вісіць над безданьню. Экалягічная праблема закранула кожнага, насельніцтва памяншаецца, працоўныя рэсурсы не ўзнаўляюцца, амартызацыя вытворчых сродкаў дасягнула катастрафічнага стану, золатавалютных запасаў дзяржава практычна ня мае, абсалютная большасьць людзей – жабракі. Надзеі на лепшае ў грамадзтве няма. Кожны грамадзянін Беларусі мае толькі адну задачу: неяк выжыць.

Беларусь як нацыянальнае ўтварэньне страціла амаль усё. Ёсьць толькі танюсенькая нітачка Надзеі, так бы мовіць, зьвязаная з "паветраным шарам", якую трымае ў руках невялікая купка сапраўдных патрыётаў Беларусі. Выратаваньне. У чым яно, нашае Выратаваньне? Яно ў самаахвярнасьці да канца, у адзінстве ўсіх патрыётаў Беларусі, у першынстве розуму і ў клопаце пра будучыню ўсёй Беларусі, што стаяць па-над уласнымі амбіцыямі. У разумным змаганьні з ворагамі беларушчыны.

Мы мусім пагадзіцца на некаторыя кампрамісы, бо мы слабыя, ня маем шырокай падтрымкі. Сёньня якраз той выпадак, калі мы – розум і семя Нацыі – павінны найлепшым чынам паказаць сіле супраціў Розуму. Розум і самаахвярнае жаданьне перамогі.

Вялікая перамога магла б пачацца з маленькай перамогі.

На жаль, існуюць аб'ектыўныя прычыны, чаму прэзыдэнтам у 2001 годзе ня можа стаць патрыёт беларушчыны. Але ёсьць пакуль спадзяваньне, што гэтую пасаду можа заняць ня вораг, а прыхільнік Беларусі і ўсяго беларускага. Кандыдата з такімі якасьцямі можа прывесьці да ўлады дэмакратычнае беларускае грамадзтва. Во гэта й будзе нашая маленькая перамога, калі пры ўладзе апынецца ня-вораг беларусаў. Такі чалавек павінен паважаць і правы чалавека, інакш ён аўтаматычна будзе ворагам беларусаў.

Такім чынам мы павінны скласьці партрэт будучага кандыдата ў прэзыдэнты.

Думаю, што я маю ўсе правы катэгарычна настойваць на сваёй прапанове, бо ў нацыянальна-вызвольным руху я ад пачатку яго афармленьня, я ахвяраваў яму ўсім сваім асабістым жыцьцём і матэрыяльнымі каштоўнасьцямі. Перакананы, што большасьць сяброў БНФ "Адраджэньне" стамілася ад пазьняковскіх "маральных перамог". Яна можа быць, яна будзе. Трэба нам, патрыётам, сьціснуць зубы і пакуль пагадзіцца на малую перамогу, маленькі крок наперад. Я маю на ўвазе, што Лукашэнку можа перамагчы толькі паважаны "намэнклятуршчык". Наша задача знайсьці "намэнклятуршчыка"-беларуса, падпісаць зь ім дамову пра плян дзеяньняў і гарантыі. Мы найперш мусім выключна дакладна акрэсьліць праграму-мінімум, якую павінен выканаць будучы прэзыдэнт, і сьпіс тых дзеяньняў, якіх ён не павінен рабіць ні пры якіх варунках, інакш ён не пазьбегне сьмяротнай кары. Мы абавязаныя зразумець, што нашая рахманасьць тут не да месца, шкадаваньню і паблажлівасьці ёсьць таксама мяжа. Сёньня – альбо ніколі! Гэта павінна вісець над намі як дамоклаў меч.

Выкананьне нашай праграмы-мінімуму неабходна пачаць з нас – дэмакратаў. Найперш мы абавязаныя прымусіць лідэраў апазыцыі забыцца на свае амбіцыі. Ніхто, ніхто зь вядомых сёньня дэмакратаў пакуль ня можа быць кандыдатам у прэзыдэнты. Усе яны могуць быць толькі дарадцамі ці камандай нашага кандыдата у прэзыдэнты. Другое нам трэба разгарнуць рух, аналягічны польскаму "Пане рэдактар". Кожны з нас павінен стаць рэдактарам мікрагазэты, ягоная задача – выраб і распаўсюджваньне газэты ад 10 асобнікаў да 1000 і болей, што дазволіць наладзіць супраціў Лукашэнкаваму замбаваньню. Палякі гэтак змаглі, ці зможам мы?

Усе дэмакраты павінны дакладна зразумець сутнасьць насельніцтва Беларусі. А яна выяўляецца ў дзьвюх аксыёмах: насельніцтва, як і жанчына, любіць вушамі і карыстаецца прынцыпам (калі мае прынцыпы): "Падлец, але мілы". Наступная: "Гэты ўжо набраўся (наеўся), то можа і нам што застанецца". Апошняя аксыёма дзейнічае амаль абсалютна і ў нас ("выбары" ў палатку), і ў Расеі (нядаўнія выбары губэрнатараў). Таксама нельга забывацца пра падыход Лукашэнкавых агітатараў, якія хочуць выклікаць (і выклікаюць) магутны разбуральны рэзананс адмоўных эмоцыяў, злоснасьці, скіроўваючы яго затым у патрэбным кірунку.

Сёньня, як ніколі, мы стаім перад выбарам: альбо ўсе дэмакраты разам працуюць, альбо дэмакратаў у Беларусі ня будзе, бо ня будзе Беларусі.

**Вітаўт Невядомы, Менск**

## Дзень галасаваньня

9 -га верасня я вельмі добра папрацаваў для Дэмакратыі. Своечасова я зарэгістраваўся назіральнікам на выбарчым участку, які месціўся ў школе мікрараёна «Усход» , а таксама я зарэгістраваўся назіральнікам пры акруговай выбарчай камісіі Першамайскага раёну горада Менску. Назіральнікам мяне вылучыла Менскае гарадзкое аддзяленьне Таварыства Беларускай Мовы імя Францыска Скарыны, як сябра Арганізацыі. Глядзіце фотакопіі.

Я нагадаю, што старшыні і многія сябры выбарчых камісій у Першамайскім раёне («члены») добра мяне ведалі як дэпутата. Старшыня выбарчай камісіі , прозвішча я не памятаю, у будынку школы , (уч. №40) таксама добра мяне ведаў, адпаведна парушэньня заканадаўства там ня было. Толькі на пачатку галасаваньня была спроба выдаць 2-а бюлетэня аднаму чалавеку, «за жонку». Вельмі мяне здзівіла «бязззубасьць» незалежных назіральнікаў ( ад дэмакратаў, «Вясны»...). Былі дзве дзяўчыны, яны сядзелі, маўчалі і, нават не адзначалі колькасьць грамадзян, якія прыйшлі галасаваць. Аб «бяззубасьці» незалежных назіральнікаў гаварыў і мой сябра ,Мікола Ясенка. Атрымаў я ад яго інфармацыю ( на «пэйджар») што адбыўся масавы «вброс бюллетеней» на выбарчым участку, які месціўся ў будынку «архітэктурнага факультэта Б П І. , політэхнічны інчтытут.

Пад час падліку галасоў ( участак №40), я стаяў

непасрэдна за спінамі сябраў камісіі—назіраў. Перакідаў «галасоў» я не заўважыў-- падлік адбыўся чэсна.

Потым я хуценька паехаў да будынку адміністрацыі Першамайскага раёну, там працавала акруговая выбарчая Камісія. Назіральнікі былі.. Але НАЗІРАЛЬНІКАЎ... Разумееце, людзей, якія павінны былі НАЗІРАЦЬ, працэс працы выбарчай Камісіі, то бок, прыняцце пратаколаў участковых выбарчых Камісій, працэс агульнага падліку галасоў, дыскусію сябраў Камісіі....Вось усяго гэтага не была. Усіх назіральнікаў (недзе 9 чалавек) пасадзілі у асобны пакой, які месьціўся далёка ад пакою, дзе працавала выбарчая Камісіі і загадалі (!!! ) ім чакаць «вынікаў» працы Акруговай выбарчай Камісіі. Дык вось , **УСЕ (гэтыя 9 чалавек) пагадзіліся на «арышт» і фактычнае парушэньне выбарчага Закону і Канстытуцыі! Ужо тады, у 2001 годзе! А там былі назіральнікі, якіх вылучыў БНФ, Беларускі Хельсінскі Камітэт і іншыя .... І вось такія паводзіны дэмакратаў! Ледзь трохі ўлада «пугай» ляснула і ўсё – нагавіцы мокрыя ў дэмакратаў**.

Зразумела, што мне змагацца ўжо была позна, падлік пратаколаў і «галасоў» амаль скончыўся. Але далей была цікавая гісторыя. Сядзім мы на «выгнаньні» ( «Камчатка», ці «Магадан»), разам з намі сядзіць адзін сябра (можа сябра, бо я яго не ведаў) выбарчай Камісіі, пільнуе нас, «Назіральнікаў»... Ужо ноч, блізка першай гадзіны... І вось адзін «назіральнік» не вытрымаў, ён пачаў патрабаваць «вынікі». Гэта быў прадстаўнік Беларускага Хельсінскага Камітэта. А «назіральнік»-

ахоўнік , нібы “член” выбарчай Камісіі, сказаў, што калі будзе яшчэ адно пытаньне то ён пакліча міліцыю ( у будынку была шмат міліцыі) і нас *«выставят из помещения»*....Цікавая карцінка... Ну і БХК-ст ціхенька сеў, як той казаў, «уцёрся». Але, не, справа не скончылася... Праз нейкі час, раптам, устае іншы Назіральнік і таксама патрабуе «вынікі». Як потым я даведаўся, ён быў сябрам Ліберальна дэмакратычнай партыі, вайсковец. І гэты наш «член»-ахоўнік сапраўды ідзе да дзвярэй клікаць міліцыю... Але тады ўстаў я і ветліва папрасіў яго паклікаць Старшыню выбарчай Камісіі. Дзіўна, але праз нейкі час, у пакой увайшлі не міліцыянты, а Старшыня акруговай выбарчай Камісіі. «Старшыня» меў нейкія паперы, здаецца, то быў «черновой протокол» ( пратакол сапраўдных вынікаў). «Старшыня» гаворыць, што мы павінны яшчэ пачакаць.... А усе мы ужо стаміліся, другая гадзіна, ноч. І вось, устаю я, Грыцук Валерый Іванавіч, з-за спінаў маіх калегаў, звяртаюся да «Старшыні» па імяню і імяню ягонага бацькі, бо добра ведаў Старшыню. Я патрабую зараз жа абвесьціць нам вынікі галасаваньня за кандыдатаў на пасаду Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь у Першамайскім раёне. Чалавек, «Старшыня», разгубіўся, бо ён не спадзяваўся мяне тутака пабачыць....

Як той казаў..нямая сцэна... А потым «Старшыня» абвясціў сапраўдныя вынікі галасаваньня.

У нашым раёне «кандидат Владимир Гончарик» перамог «кандидата Александра Лукашенко».. Мы запісалі на паперкі «вынікі», бо копіі Пратакола нам не далі. Але, потым, я нідзе не знайшоў афіцыйных

вынікаў «галасаваньня» па гораду Менску. Вось так, я сваім аўтарытэтам сарваў «элегантные выборы» (словы дыктатара Алесандра Лукашенко) у Першамайскім раёне горада Менска.

Я думаю, што чытачы, адчулі «дух» тых часоў і , галоўнае, няздольнасьць дэмакратаў змагацца за Закон, за Справядлівасьць. Ёсьць таму і іншы прыклад, ніжэй.*** Чаму я мог ( і магу) ? Чаму іншыя грамадзяне, якія лічаць сябе дэмакратамі, НЕ маглі і ня могуць змагацца, за элементарнае выкананьне Закону?

Вось , зараз, ёсьць толькі адзін Змагар, Генік Лойка.! Ён адзін выйшаў супраць дыктатуры змагацца за дзяржаўную беларускую Мову. Як той казаў, ён паўстаў адзін супраць танка, нават без гранаты, толькі са Сцягам, і спыніў танк.

Вось так (большасьць) «жуем...» непрывабную масу, 18 год, а дыктатар гвалціць краіну Беларусь. «*Абы не была вайны», «Лепш сініца ў руках, чым журавель у небе*».. Такія правілы жыцця для беларусаў. І не заўважаць жыхары Беларусі, што тая «сініца» хутка ператкінецца птушкай «калібрі»... А «вайна» ідзе, толькі яна ціхая, непрыкметная і яе ахвяраў шмат, але «адыходзячы» яны таксама маўчаць... «А можа..» Зразумела, што парушэньняў выбарчага заканадаўства па Беларусі пад час выбараў 2001 года (і пазней) была шмат... Маўчаць і насельнікі Беларусі, як і зараз, па вельмі незразумелай "шпіёнскай" справе, якіх у "37" была шмат. Таксама тады насельнікі Беларусі маўчалі. Моўчкі "пазбавіліся"(толькі афіцыйныя дадзеныя) 600 000 сваіх суродзічаў…

Выснова: 2001 год.**Не было выбараў - быў чарговы захоп улады, «перманентны».**

**Пяпярэджаньне ад дэмакратаў , якое «не дайшло»**

Я прашу звярнуць увагу на наступныя фотакопіі і ўважліва прачытаць тэкст. Гэта тэкст папярэджваньня аб немагчымасьці парушэньня Закона сябрам («членом») выбарчай Камісіі. Да выбараў была створана група («структура») назіральнікаў, якім Захад даў вялікі «грант». Гэтую структуру ўзначалілі спадар Грыб і спадар Бяляцкі. Дык вось гэтая група і падрыхтавала такую ўлётку для «персанальнага» адрасату.

То бок, у кожнай улётцы павінна быць прозвішча сябра (“члена”) выбарчай камісіі і, адпаведна, гэтая ўлётка павінна быць перададзена адрасату, згодна з прозвішчам. Я не ведаю , як і каму перадаваўся такі напамін , ці былі яны ўсе выкінуты (ўлёткі) на сметнік. Але я назіраў «працу» назіральнікаў ад узгаданай групоўкі. Назваць працу іх пасіўнай – то замала. Адпаведна, я думаю , што «персанальны напамін» НЕ быў перададзены сябрам выбарчых камісій. Ніхто з маіх знаёмых таксама не чуў аб такіх выпадках, не была паведамленьняў і міліцыі аб «хулиганских действиях» , якія бы перашкаджалі працы выбарчых камісій ..... Я маю на ўвазе, што нехта спрабаваў перадаць такую ўлётку «адрасату». Бадай, ніхто!

Гладзіце фотакопію такога «моцнага кроку праваабаронцаў»

Заклік грамадзянскай ініцыятывы “Незалежная назіранне” ***(«Зварот да сяброў выбарчых камісій»)***

Мужнасьці ім, «Іныцыятыве», забракла.

Але па «гранту» справаздачу зрабілі.

РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ

Управление внутренних дел
Администрации
Первомайского р-на г. Минска

10.08.01 г.

№ Гр-4-140

ГРИЦУКУ Валерию Ивановичу
220141, г.Минск-141-до востребования

Сообщаю, что Ваше заявление на имя прокурора Первомайского района г. Минска от 29.06.2001 г., направленное последним в Первомайское РУВД г.Минска, рассмотрено и приобщено к материалам уголовного дела N 01011060776, возбужденного 04 мая 2001 года в отношении Вас по ст.377 ч.2 УК РБ.

Начальник Первомайского РУВД
г.Минска А.А.Пархомчик

«Падарунак» мне ад дыктатуры за 10-ць год актыўнай дэпутацкай і апазыцыйнай дзейнасьці.

2001

(?)

*Голас народа святы.*
*Сенека*

# Зварот да сяброў выбарчых камісій

Шаноўны (ая)_______________________________

Выбары Прэзідэнта Беларусі – гэта магчымасць народа вызначыць будучыню сваёй краіны і тым самым вызначаць нашу ўласную будучыню. Справядлівасць і законнасць правядзення выбараў залежыць ад ВАС.

Мы спадзяемся на ВАШУ сумленнасць і прынцыповасць. ВАС могуць прымушаць удзельнічаць у фальсіфікацыі вынікаў выбараў. Заклікаем ВАС не рабіць гэта!

Ад ВАШАЙ пазіцыі залежыць тое, як будзем жыць мы з вамі і нашы дзеці.

**Памятайце!** Калі ВАС схіляюць да фальсіфікацый і падлогаў – вас штурхаюць на злачынства, за якое прадугледжана адміністратыўная і крымінальная адказнасць. Перш чым паверыць абяцанням пра беспакаранасць – падумайце пра свой лёс!

Адказнасць за парушэнне заканадаўства аб выбарах:

*Артыкул 192 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь:*

Падлог дакументаў па выбарах ці парушэнне таямніцы галасавання, ці заведама няправільны падлік галасоў, ці іншае скажэнне вынікаў галасавання, здзейсненыя сябрам камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ці іншай асобай, якая прымала ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні выбараў, -- караецца штрафам ці пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады, ці займацца пэўнай дзейнасцю, ці папраўчымі работамі на тэрмін да двух гадоў, ці абмежаваннем волі на тэрмін да пяці гадоў, ці пазбаўленнем волі на той самы тэрмін.

*Артыкул 167.3 Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях РБ:*

...прадастаўленне магчымасці галасаваць на выбарах адной асобе за іншую..., а таксама іншыя парушэнні заканадаўства аб выбарах, за якія не прадугледжана крымінальная адказнасць, -- цягне за сабой накладанне штрафу ў памеры да дзесяці мінімальных заработных плат ці папраўчыя работы на тэрмін да двух месяцаў з утрыманнем дваццаці працэнтаў з заробку.

**Абараняйце закон, і закон абароніць ВАС!**




Грамадзянская ініцыятыва "Незалежнае назіранне"

## 2002

## Год суму і роспачы. Пачатак новага жыцця...

Гэты год для мяне быў вельмі сумны. Як потым я зразумеў, тады, у 2002 годзе пачалася новая дэкада майго жыцця. Вось так, неяк цікава атрымліваецца, маё жыццё вельмі розніцца ў кожнай наступнай дэкадзе ( 10 год).

Я , надалей, быў вымушаны жыць у жорсткай канспірацыі, паціху, непрыкметна выходзіў з кватэры, таксама , азіраючыся, паціху «заскокваў» у кватэру. Вечарам, у кватэры, уключаў толькі маленькую лямпу. Музыку і навіны слухаў толькі праз слухаўкі. Як той казаў, быў ніжэй травы, цішэй вады.

Але супрацоўнікі сілавых структураў так моцна хацелі мяне знайсьці, што нават хадзілі па кватэрах шматпавярховых дамоў мікрараёна «Уручча» і пыталіся у жыхароў, ці не ведаюць яны дзе жыве Грыцук Валерый Іванавіч.... Былі яны і ў суседняй кватэры, размаўлялі там з маімі знаёмымі.

Потым нейкія «супрацоўнікі» спрабавалі ўвайсьці ў кватэру, якую я наймаў, але старшыня жыллёвага кааператыва (добры чалавек) пераканаў прадстаўнікоў улады (дыктатуры), што там ніхто не жыве. Вялікі дзякуй, вам Мікалай Пятровіч, дзякуй і ягонай жонцы.

Удзячны я, таксама і Міколе Бусьнюку, майму сталаму партнёру па грамадзкім справам ва «Уруччы», які таксама дапамог мне ў цяжкую хвіліну. Дарэчы, для

Мікалая Петровіча ад мяне падвоенная падзяка, вялікая, бо менавіта ён даў мне кватэру , у якой ніхто не жыў. Чаму ніхто не жыў? Бо, перадусім, баяліся. Гаспадар той кватэры памёр ад цяжкай хваробы , «рак». Але выбару у мяне не было і, я там быў вымушаны жыць.

За адно , я такі ўдзячны многім жыхарам мікрараёна «Уручча»: яны мяне не выдалі дыктатуры . Бо я, сапраўды, жыў у гэтым мікрараёне, карыстаўся грамадзкім транспартам, хадзіў на пошту і гэтак далей... За 12 год працы для жыхароў мікрараёна, канешне , мяне ведала шмат людзей. Больш таго, я нагадаю, я быў вядучым палітычнай праграмы на мясцовым тэлебачаньні амаль пяць гадоў.

Падкрэсліваю, што я карыстаўся сапраўднымі метадамі канспірацыі, нават бараду вырасціў, насіў акуляры і гэтак далей (згодна з апісаньнем метадаў канспірацыі), але пазнаць мяне можна была. Сябры БНФ жартавалі на гэты конт. Але мне была не да жартаў.

І вось пад канец лютага 2002 года мне абавязкова трэба была з'явіцца ў афіцыйную ўстанову па прычыне маіх прыватных спраў. Зразумела, што міліцыя ( і «КГБ») ведала адносна маіх спраў у гэтай установе. Да таго ж, на пачатку сакавіка павінен быў скончыцца мой «працоўны адпачынак» і, мне трэба была ісьці на працоўнае месца ў Акадэміі Навук. Грошы у мяне таксама канчаліся.

Паўстала вялікае пытаньне: **што рабіць**?

Я прасіў дапамогі праваабаронцаў. У БХК (Алег Гулак і Г.Паганяйла) наўпрост, сказалі, што не могуць мне дапамагчы: трэба мне дамовіцца з адвакатам. Я размаўляў таксама і з Алесям Бяляцкім, з якім быў знаёмы ад 1989 года. У адрозненьні ад В.Вячоркі, Бяляцкі пагадзіўся выслухаць мяне. Я падрабязна распавёў яму аб маей сітуацыі. Але…На маю «гісторыю» Алесь Бяляцкі ўвогуле НІЧОГА мне не адказаў, зразумела, што нічым ён ( і ягоная праваабарончая «Вясна») мне не дапамог. Ён тады мне нагадаў Генеральнага пракурора Божелко, у якога (значна раней) я быў «на прыёме». Дзіўная то была «картина». У невялікім пакойчыку сядзіць за сталом Божелко, побач нехта ( каля дзвярэй ахоўнік), які прапанаваў мне сесьці ( добра , што не ў вязьніцу) . Я сеў у крэсла і распавёў сутнасьць маёй «праблемы» і парушэньне Законаў Рэспублікі Беларусь праваахоўнай сістэмай РБ, я даў прыклады, факты. Дык вось, «Генеральный Прокурор РБ Божелка» не сказаў ані слова, нічога не спытаў... Можа то не быў чалавек, а пудзіла ? Божелко не дапамог мне і не пакараў парушальнікаў законаў Рэспублікі Беларусь. Можа і сапраўды дзейнічала правіла: «БНФ-вец ёсьць па-за Законам, ягоныя сведчаньні не лічацца».

Я быў сябрам БНФ , а таму запытаў у кіраўніка нашай раённай арганізацыі, ці можа БНФ неяк мне дапамагчы. Дык вось, Сяргей Шынкевіч (кіраўнік) сказаў, што мы (сябры БНФ) будзем стаяць з пікетамі каля будынку вязніцы, дзе ты будзеш сядзець за кратамі..... «А што мы можам..».. Такая будучыня мяне не задавальняла. В.Вячорка адмовіўся нават размаўляць са мной. Я спрабаваў пагаварыць з Старшынёй БНФ, Вінцуком

Вячорка, але ён увогуле НЕ захацеў размаўляць са мной ані “зараз”, ані “потым”! Гэта была найвялікшая абраза для мяне, мяне, чалавека, які рэальна будаваў БНФ ад 1990 года, збудаваў найвялікшую і найбольш эфэктыўную раённую арганізацыю БНФ за ўсю гісторыю існаваньня БНФ, нават і да гэтага часу, 2013 года. Паводзіны Вінцука (Валентіна) Вячоркі можна назваць па-народнаму: плюнуў у душу.

Але я сварку ўчыняць не стаў....

Дык для каго і для чаго я павінен скласьці сябе ў ахвяру ?

Насельніцтва Беларусі чалавечымі ахвярамі не разбудзіць, ды , бадай, ужо зараз і нават падвышэньне цэнаў не мае эфэкту на  “замарожанае насельніцтва”

Дык вось у такой сітуацыі я апынуўся...

Маючы такі ( 5 год за кратамі «автоматом») «артыкул» крымінальнага кодэкса, я не спадзяваўся, нават з добрым адвакатам, застацца на свабодзе.

Я такі вырашыў на нейкі час ( можа на 1-2 месяцы) знайсьці больш надзейную схованку, пакуль я не вырашу ўсе пытаньня з адвакатамі і цалкам не зразумею, абсурдныя ( з фармальнага пункта гледжаньня) паводзіны ўлады.

Калі разважаць фармальна. За што мяне караць? Я - не кіраўнік палітычнай партыі, не ствараю групоўку з афіцэраў для «захопу ўлады» , нават не анархіст...., і , нават, не апазыцыйны бізнесмен з вялікімі грошамі.... Больш таго, я нічога не скраў. Гэта ў мяне “менты” і, іхнія паслугачы, скралі шмат рэчаў. Так, канешне, с

палітычнага боку, зразумела: 11 гадоў я псаваў паслугачам дыктатуры «кроў». Дарэчы, у гэтым годзе, адзін вядомы фармальны лідэр так і сказаў, што яго (пасля 19.12.2010) пратрымалі за кратамі за “старые грехи». Вось і мяне, за “грехи», агулам.

Я змагаўся за Справядлівасьць , выкананьне Закону і тлумачыў людзям што ёсьць Ісьціна. Ці такая дзейнасьць можа быць акрэслена як “грехи”?

Ці была ў мяне іншае выйсьце? Бадай, што не.

Але ж , але ж..

Аб наступнай прыгодзе майго Жыцця – у другой частцы Кнігі.. Можа ў наступным годзе.

Маё змаганьне за **Справядлівасьць і Ісціну*** прывяло мяне на зусім іншую, абсалютна нечаканаю, для мяне дарогу, да якой я не быў прыгатаваны. Пачалося маё блуканьне па пакутах.....

- **Ісьціна.** У неславянскіх мовах ёсьць толькі адно Слова, якое акрэслівае аб'ектыўны стан рэчаў і працэсаў --- **Ісьціна.**
- А вось славянскія мовы маюць яшчэ слова «праўда», у выніку чаго, сярод славянаў вельмі папулярны выказваньня: «у кожнага свая праўда», «яго праўда», «мая праўда».. Для мяне такі стан рэчаў абсалютна непрыймальны, таму мне больш падабаецца карыстацца словам **Ісьціна.**
-

Бо як давалі «праўду» мы ведаем шмат гістарычных прыкладаў, і нават той, «Сонца круціцца вакол

Зямлі», па «праўдзе» хрысціянскіх начальнікаў, а «праўдашукальніка» спалілі...

Вось да мяне і прыйшла «думка»... А ці не «паляць» і сёньня людзей, якія шукаюць «праўду», толькі «паляць» больш «цывілізаванымі» спосабамі?

На сваім ўласным прыкладзе я ведаю: «паляць»!

Таму, сябры, «праўда» можа ў кожнага свая, ( 9,5 мільёнаў першая..) , але

**ІСЬЦІНА – АДНА!**

## Інтарэсы Валерыя Грыцука

Абарона Правоў Чалавека, Дэмакратыя, Палітыка, , адукацыя па Правох Чалавека, кнігі з канкрэтнымі фактамі, гісторыя;

кунг-фу, плаваньне; музыка гарманічная, ад Баха да метал і "АВВА" ; рэформа мясцовай улады (самакіраваньне), , тэатр, экалогія-здароўе, вынаходніцтва і…..

## Хто я ў кароткіх адказах.

1. Я ведаю , якія памылкі нельга рабіць і што можна ўзяць найлепшае ад нашых суседзяў.

2. Мне ня трэба была рабіць істотных палітычных памылак і быць папулістам

3. Мне не «пашэнціла» быць камуністам і абяцаць людзям рай на Зямлі.

**4. Для мяне Справядлівасьць і абарона Правоў Чалавека - гэта мой шлях.**

5.Мне ня трэба выстаўляць уласных амбіцый дзеля асаблівага шляху, бо я гатовы на кожнае супольнае дзеяньне на карысьць Беларусі.

**Палітыка - гэта мастацтва кампрамісаў, пасляховая – дзеяньня ў дакладна вызначаны час.**

6.Мне ня трэба была быць пры ўладзе каля дыктатара,каб зразумець што краінай кіруе дыктатар.

7.Я ўжо шмат год , СПРАВАМІ, паказваю маю адданасьць Беларусі.

8. Мне ня трэба вучыцца дэмакратыі і трываласьці палітычнага змаганьня, бо я на шляху палітычнага змаганьня за дэмакратычную і багатую Беларусь ужо 23 гады.

9.Мне ня трэба была займацца бізнэсам , «накруціць» мільены, каб зразумець, што толькі Дэмакратыя дазваляе на чэсны выгодны бізнэс, карысны для Беларусі.

10.Мне ня трэба сябе пераконваць, што галоўнае ня грошы, сям'я, дзеці ,а мая Беларусь. За якую я змагаюся не словамі, а справамі ўсё маё свядомае жыццё..

Я лічу, што , падмуркам, фундаментам пабудовы дэмакратычнага грамадзтва, грамадзянскай супольнасьці ёсьць мясцовае самакіраваньне . Улада Народа павінна быць пабудавана ад нізу, ад падмурка. Гэта маё крэда!

За ўладу грамадзян я змагаюся ад 1989 г.. Менавіта, таму я быў адным з актыўных стваральнікаў першага Камітэта грамадзкага самакіраваньня і Беларускага рэспубліканскага фонда падтрымкі дэмакратычных рэформаў

( Фонд імя Льва Сапегі), таму я актыўна абараняў мясцовае самакіраваньне як дэпутат і праз прэсу. Толькі мае артыкулы на гэтую тэму былі ў газэтах 1994 года і нават 2000 г. Толькі два прадстаўніка дэпутацкага корпусу ўдзельнічалі ў працэсе абароны мясцовага самакіраваньня Канстытуцыйным судом, гэта В.Шчукін і я .

ЧЫСТАЯ, СУВЭРЭННАЯ, ДЭМАКРАТЫЧНАЯ і БАГАТАЯ БЕЛАРУСЬ !

Вось мая мэта, вось наш агульны шлях. Пойдзем разам і дойдзем да Беларусі.

САЛІДАРНАСЬЦЬ, САМААХВЯРНАСЬЦЬ - гэта цэмент для нашага падмурка.

**Разам ---- МЫ СІЛА, паасобку - пясок!**

Маі прапановы - гэта найперш маі know-how.

Для пачатку.

1.Стварэньне заканадаўства прамога дзеяньня з дапамогай ( закон на кампутэры) кампутэрнага банку ( закон «для простых», без тлумачэньня адвакатаў , закон -правіла) на падставе прэцэдэнтнага права.

2.Стварэньня аб'ектыунай сістэмы судоў праз адпаведную сістэму абраньня і адкліканьня суддзяў (але не мафіёзная карпарацыя, бо маем прыклад супернезалежнасьці суддзяў у Расіі , Польшчы, але залежнасьці ад хабару і карпаратыўнай мафіі). Першыя 10-15 год праз мясцовыя выбарчыя органы дэпутатаў.

3.Спрыяньню незалежным, але адказным і маральным СМІ (адпаведны закон ).

4.Я вынайшаў законы: аб паскарэньні развіцця грамадзтва ад хуткасьці абарачэння інфармацыі; закон агульнай хвалі, а таму магу іх эфэктыўна выкарыстаць для развіцця Беларусі і дабрабыту грамадзян.

Больш таго маю план эфектыўнага пераходу да рынкавай эканомікі і сацыяльнага грамадзтва, здабычы таннай энергіі…

А\Найперш - гэта шырокая, зразумелая інфармацыя для грамадзян ( адпаведны закон) . Мы, патрыёты Беларусі, павінны пераканаць грамадзян, што **кожны** грамадзянін адказны за краіну Беларусь, як ён адказны за сваю сям'ю. Пабудова грамадзянскай супольнасьці - вось наша мэта. Для мяне - гэта кірунак жыцця, будаваў гэта і буду будаваць праз развіццё недзяржаўных арганізацый і ўдасканальванне сістэмы ўлады.

Ад інфармацыі для ўсіх, разуменьня і грамадзянскай згоды, да грамадзянскай супольнасьці.

В\Стварэньня ўмоваў эфектыўнай працы для ўсіх грамадзян і прафілактыка

безпрацоўя і здароўя. Уся праўда наступстваў “Чарнобыльскай катастрофы”.

C\.Імплэментацыя заканадаўства Швецыі цалкам , то бок, поўная замена беларускага заканадаўства на шведскае, за выключэньнем караля і іншай драбязы.

*Моцным - падрыхтаваную дарогу,*

*Слабым - ад дзяржавы дапамогу .*

Правіла для дзяржавы: грамадзянам не павінна быць заўтра горш чым сёньня.(«хуже чем сегодня»).

Стварыць Канцэпцыю пагадненьня: дзяржава - грамадзянін.

D\.Давесьці людзям ,што эканоміка павінна непазбежна стаць рынкавай ( альбо кубінскай )

- гэта ведае кожны разумны чалавек, але шляхі да яе розныя. Я меў магчымасьць уважліва наглядаць, аналізаваць, за працэсамі трансфармацыі ў Польшчы, ведаю добра палітыкаў і палітыку, а таму ведаю ЯЕ , ведаю як пазбегнуць драматычных памылак ( НЕ чытаў , а пабачыў на ўласныя вочы).

E\.Для людзей здароўе - гэта галоўнае, але здароўе кожнага грамадзяніна ёсьць багаццем і ўсей краіны.Таму захаваньне здароўя кожнага грамадзяніна - гэта абавязак дзяржавы і , перадусім, самога грамадзяніна.( адпаведны закон).

Маю план як захаваць , палепшыць ахову здароўя і пазбегнуць катастрафічных памылак трансфармацый, з улікам вопыту Польшчы ( і іншых).

F\ Зразумела, што я пагаджаюся з Праграмай БНФ. Падтрымліваю адпаведныя прынцыпы Аб’яднаных дэмакратычных сілаў, але маю і ўласныя прапановы і канцэпцыі.Але найперш лічу, што кожны грамадзянін павінен хацець ведаць Ісьціну (Праўду), а таму мы ўсе павінны здабываць праўдзівую інфармацыю і перадаваць адзін аднаму. Нельга ісьці ямістай дарогай , калі ўвесь час вочы заплюшчаны.

Для моладзі адукацыя па Правох Чалавека - гэта ключ да Ісьціны .

“ *«Достойные» в Беларуси имеются, но одни не хотят изменить свою жизнь, другие -не могут, третьи – боятся.”* **То так!**

Я - нічога не баюся. Лех Валенса сказаў: «Не хачу. Але павінен.” Я згодзен.

---

Грыцук Валеры Іванавіч

Нарадзіўся ў г.Кобрынь, беларус, вучыўся ў рускамоўнай школе №1, у 17 год выехаў з Кобрыня. Адукацыя – вышэйшая, БДУ, настаўнік, хімік, дадатковая, (без дыплёму,) юрыдычная; жыццёвая – палітычна-эканамічная, па-за Радзімай. Аспірантура, АН СССР, ІБХ, г.Масква. Кандыдат хімічных навук.Праца: ІБАХ АН БССР – НА Беларусі ), г.Менск,. старэйшы навуковы супрацоўнік.

Ад 2002 - гэты час: палітычны аналітык, абаронца Правоў Чалавека (International)

Грамадзянская дзейнасьць:

1978- 1981 - актыўны ўдзел у акцыі «Абарона Вярхняга гораду»,

1981 – 1987 – удзел ў акцыі «Беларуская школа ў Менску»,

1985- 1990 -- сябра і удзел у акцыях клуба «Спадчына».

Сябра БНФ «Адраджэньне» ад 1989г, ад рэгістрацыі ( і сходу у Чырвоным касцеле, Дом Кіно), паспяховы кіраўнік у Першамайскім раёне г.Менска

1989 – 1999 г. – адзін з заснавальнікаў, актыўны ўдзельнік , намесьнік старшыні, першага на Беларусі і паспяховага Камітэта Грамадзкага Самакіраваньня «Уручча- 1, 2,3»;

1992 – Найбольш актыўны стваральнік (1 з 2-х) і адказны сакратар першай вялікай непалітычнай арганізацыі для рэформы мясцовага самакіраваньня – Беларускага Рэспубліканскага Фонду Падтрымкі Дэмакратычных Рэформаў ( Фонд імя Льва Сапегі). Першы на Беларусі публіцыст для рэформы мясцовага самакіраваньня і ідэі рэальнага самакіраваньня. Заснавальнік сацыяльнага фонду «Уручча». Сябра ТБМ імя Францыска Скарыны. Заснавальнік і старшыня першай на Беларусі адукацыйнай арганізацыі для правоў чалавека- Адукацыйны Цэнтр «Правы Чалавека». Удзельнік стварэньня іншых шматлікіх дэмакратычных арганізацый. Працаваў як журналіст ( на ганарару) у газеце «Вячэрні Мінск» (без пасведчаньня), «Наша Уручча»; некалькі гадоў (да закрыцця) быў вядучым палітычнай аналітычнай праграмы на кабельным тэлебачаньні Першамайскага раёну (Менск); выдаваў бюлетэнь «Адукацыя для Правоў Чалавека». Абаронца правоў Чалавека, сябра «Amnesty International». Стваральнік і каардынатар міжнароднай арганізацыі "Незалежныя дэмакраты супраць аўтарытарных рэжымаў". Актыўны выступоўца на міжнародных канферэнцыях, галоўная тэма – Правы Чалавека і дыктатура на Беларусі.

Прыватнае жыцце- вольны (быў жанаты).

Палітычная дзейнасьць.

Прымаў удзел ва ўсіх акцыях беларускай апазыцыі ад 1989 года, удзельнік амаль усіх Кангрэсаў Дэмакратычных сілаў; эфектыўны дэпутат мясцовай

прадстаўнічай улады (г.Менск), старшыня Камісіі па захаваньню законнасьці і правапарадку, ад 1990 г.; Паспяхова арганізаваў ( і сам збіраў) збор і рэгістрацыю ( каля 20 000) подпісаў за рэфэрэндум ад БНФ, 1992г. Паспяхова арганізаваў выбары дэмакратычнага прэзыдэнта ў 1994 г. , у выбарчай акрузе Першамайскага раёну г.Менску ад БНФ ( адзіныя паспяхова арганізаваныя выбары). Але, і першы, хто публічна і рэзка скрытыкаваў З.Пазьняка за палітычна шкодную "дубовую" палітыку супраць Расіі ( яго артыкул аб «расійскім імперыялізме»). На з'ездзе БНФ (1995) зрабіў дакладны аналіз сітуацыі і правільны прагноз развіцця БНФ, калі менавіта толькі з гэтай мэтай быў кандыдатам на пасаду Старшыні. Прагноз спраўдзіўся. Стваральнік і старшыня Дэпутацкага Клубу г.Менска «Дэпутаты за рэформы».

Ініцыятар стварэньня «ГРАК», Грамадзкага руху ў абарону Канстытуцыі (1994 г. і 1996г.), першы хто папярэджваў аб планах змены Канстытуцыі і неабходнасьці абароны Канстытуцыі, ліст да М.Грыба. (ёсьць у ягонай кніжцы). Адзін з заснавальнікаў БСДГ у 1991; сябра Беларускай экалагічнай партыі зяленых, да ліквідацыі партыі. ; паспяховая праца назіральніка за выбарамі ў 2001г., адразу на дзвух роўнях ( Першамайскі р-н г.Мінска) была эфектыўнай—парушаць Закон не дазволіў. Актыўны ўдзельнік Нарадаў АБСЕ, дзе рэзка і канструктыўна крытыкуе палітыку ўладаў Беларусі і кіраўніцтва АБСЕ, з прапановамі Плана дзеянняў для Беларусі. Актыўна ўдзельнічае ў міжнародным руху „Адукацыя для Правоў Чалавека". Актыўна працуе з польскімі і нямецкімі палітыкамі; а таму ў выніку шэраг ягоных ініцыятываў, для апазыцыі Беларусі, былі падтрыманы польскімі палітыкамі.

У 2006 г быў прэтэндэнтам на пасаду прэзыдэнта РБ ад апазыцыі;. актыўна падтрымліваў дзеянні беларускай апазыцыі ў кантактах з палітыкамі ЭЗ. Прапанаваў ( і атрымалася) урадам Германіі і Францыі запрасіць Адзінага Кандыдата на сустэрэчу з вышэйшай уладай, Парыж, Берлін (2006г.) Мае кантакты з іншымі эўрапейскімі палітыкамі і арганізацыямі. Валодае PR-тэхналёгіямі. Гэта з ініцыятывы Валеры Грыцука паўстала

" ВЕРЫМ, МОЖАМ. ПЕРАМОЖАМ". Ягоны варыянт: "**Хочам**. Можам. Пераможам".

Атрымаў ад улады крымінальную справу: по статье, фактычна, «хищение особо секретных документов» і , мае "справы" "за абразу Дзяржавы і прэзыдэнта" на міжнародных канферэнцыях.

Супраць гвалту і несправядлівасьці, заўседы абараняе людзей, бароніць беларускую мову, першы публічна, праз незалежную газету "паказаў праблему"; менавіта таму была пададзена позва ў суд супраць намесьніка старшыні Вярхоўнага суда РБ П.Міклашевіча ( на той час) і іншых. Дамогся судовага працэсу супраць пракурора г.Мінска М.Купрыянава;

здолеў такі выйграць судовы працэс супраць міліцыі г.Мінска. Пададзена заява ў Камітэт Правоў Чалавека ААН аб дыскрымінацыі выбарчых правоў на Беларусі, таму як кожны грамадзянін мае роўные правы, калі грамадзянін

А.Лукашенко прапанаваў сваё АСАБІСТАЕ пытаньне на рэфэрэндум, то на рэфэрэндум павінна быць такоя ж пытаньне кожнага грамадзяніна.

Не баіцца змаганьня за Праўду, змагаецца і перамагае, але не кідаецца ў «бойку» дзеля танных сенсацый. Ставіць мэту і дасягае яе.

У якасьці прыклада. Год працы спатрэбіўся каб арганізаваць канферэнцыю і выставу ў Польшчы прысвечаную славутаму Васілю Быкаву і, гэта акцыя адбылася ў Нацыянальнай бібліятэцы Польшчы.

Хто аналягічна ўшанаваў памяць Васіля Быкава?

Працуе ЭФЕКТЫЎНА на справы для беларусаў, дзеля Беларусі дэмакратычнай, сувэрэннай, незалежнай, багатай.

РОЗУМ, САЛІДАРНАСЬЦЬ і САМААХВЯРНАСЬЦЬ -- гэта ключ да поспеху!

Памятаем : "Няма Вольнасьці без Салідарнасьці"

Толькі ўсе Беларусы РАЗАМ --- тады мы СІЛА!

**СПРАВЯДЛІВАСЬЦЬ і ІСЬЦІНА (Праўда) – ГЭТА ПАДМУРАК.**

Руководствуясь ст.246 п.1, 247 ГПК Республики Беларусь,
ОПРЕДЕЛИЛА:

Грицуку Валерию Ивановичу отказать в возбуждении дела за неподведомственностью спора суду Фрунзенского района г.Минска.

Обязать Фрунзенский райфинотдел г.Минска вернуть Грицуку Валерию Ивановичу государственную пошлину в сумме 13000 рублей, уплаченну им по квитанции от 7 июня 2000 года.

Определение может быть обжаловано в Минский городской суд через суд Фрунзенского района г.Минска в 10 дневный срок со дня вынесения.

Судья:



ОПРЕДЕЛЕНИЕ

24 июля 2000 года судья суда Фрунзенского района г.Минска Хрущевская Л.П. рассмотрев исковое заявление Грицука В.И.

УСТАНОВИЛА:

Грицук В.И. в заявлении в суд указывает, что Заместитель Председателя Верховного Суда Республики Беларусь дал ответ на его надзорную жалобу на русском языке, чем нанес моральный вред его национальным чувствам и достоинству и просит компенсировать его с ответчика в размере 10 млн.рублей.

Следует отказать в возбуждении дела за неподведомственностью его суду Фрунзенского района г.Минска.

В соответствии со ст.14 Закона Республики Беларусь "Об обращениях граждан" от 6 июня 1996 года граждане имеют права требовать компенсации имущественного ущерба и материального возмещения морального вреда от органов, учреждений, организаций или предприятий, должностные лица которых допустили нарушение прав и свобод граждан при рассмотрении их обращений. !

Аналогично – ст.937 Гражданского кодекса Республики Беларусь.

Согласно ст.354 ГПК Республики Беларусь жалобы на неправомерные действия государственных органов, иных юридических лиц, а также организаций не являющихся юридическими лицами, и должностных лиц подаются в суд по месту нахождения государственного органа, иного юридического лица, другой организации или по месту работы должностного лица, чьи действия обжалуются. Миклашевич

Ответчик работает в Верховном Суде Республики Беларусь, расположенном по ул.Ленина,28 в г.Минске на территории Ленинского района, поэтому истец вправе обратиться с иском в суд Ленинского района г.Минска. ; а ст.46 ГПК?

# О П Р Е Д Е Л Е Н И Е

**об отказе в принятии заявления**

„22" августа 2000

Народный судья Ленинского района гор. Минска Тупик В.М.

ознакомившись с заявлением гр. Грицука Валерия Ивановича

и находя, что при разрешении данного дела в соответствии со ст.353 ГПК Беларуси, предусмотрен иной порядок обжалования.

руководясь ст. 246 п.2 ГПК РБ,

О П Р Е Д Е Л И Л

гр. Грицуку Валерию Ивановичу

в принятии заявления отказать.

Определение может быть обжаловано в Минский городской суд через народный су ние 10 дней.



Копия верна:
Судья:
Секретарь:

Народный судья Подпись

Вера Тупик

Борисов, тип., з.966, г. 10000

Звароты ў суд Грыцука Валерыя, які спрабаваў

абараніць беларускую дзяржаўную мову.
Ад першага дакумента і далей.

Рашэньне суда Фрунзінскага р-на , якое абараняе беларусафобаў ,намесьнікаў старшыні Вярхоўнага Суда, Мироніченко і Миклашекича.
Спроба абскардзіць у Менскім гарадскім судзе.

Руск. мова

РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ

МІНСКІ ГАРАДСКІ СУД
МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ СУД

220092 г. Минск, ул. Дунина-Марцинкевича, дом № 1, тел. 252-17-19

12 февраля 2001 г.

№ 4П-120

ГРЫЩУКУ В.Л.

г. Минск - 141,
до востребования

~~Минским~~ городским судом рассмотрена Ваша жалоба на определение суд Ленинского района г. Минска от 22 августа 2000 года об отказе в возбуждени дела по иску о компенсации морального вреда к Мироніченко И.А., который якобы нарушил Ваше право пользования белорусским языком.

Определением судебной коллегии по гражданским делам Минског городского суда от 7 декабря 2000 года указанное определение суда оставлено бе изменений.

Оснований для отмены судебных постановлений не имеется, посколь для рассмотрения Ваших требований законодательством установлен иной несудебный, порядок обжалования.

Председатель: Ардяко М.М.

Приложение: 2 л.

Зак. 8261 тир

Ніжэй. Спроба судовага працэсу супраць Старшыні Вярхоўнага Суду РБ, В.А.Сукало.

раунюцо Сукало В.А.

# ОПРЕДЕЛЕНИЕ

об отказе в принятии заявления

« I. » июня 2001

Судья Ленинского района гор. Минска Зенькевич В.Н.

ознакомившись с заявлением гр. Грицука Валерия Ивановича

и находя, что в возбуждении дела следует отказать, в соответствии со ст.246 ч.I ГПК РБ, так как дело неподсудно суду Ленинского района г.Минска.

Супраць
старшыні
Вярхоўнага
суда РБ
В.А. Сукало

руководствуясь ст. 246 ГПК Республики Беларусь,

ОПРЕДЕЛИЛ:

гр. Грицуку В.И. в возбуждении дела - отказать.

xxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxxx.

Определение может быть обжаловано в Минский городской суд через суд в течение 10 дней.

Судья




ГП «Минская типография» 1998 г. Зак. 8002, тир. 5000

245
353
246 г.1

# ВЫЗНАЧЭННЕ

II аб адмове ў прыняцці заявы января 2001

[redacted] Ленинского » . . . . . . . . . . . . 199 . г. Зенькевич В.Н.

Народны суддзя Грицука Валерия Ивановича раёна гор. Мінска

азнаёміўшыся з заявай в соответствии со ст. 245 ГПК РБ судья отказывает в возбуждении дела в связи с отсутствием у заявителя права на

і знаходзячы, што обращение в суд, если исковое заявление не подлежит рассмотрению в судах ввиду его неподведомственности.

Поэтому считаю, что в возбуждении дела Грицуку В.И. следует отказать, поскольку его исковое заявление не подлежит рассмотрени в судах ввиду его неподведомственности.

кіруючыся арт. 125 ГПК Рэспублікі Беларусь

**ВЫЗНАЧЫЎ**

гр. 217 [redacted]

Грицуку Валерию Ивановичу

у прыняцці заявы адказаць.

Вызначэнне можа быць абскарджаць у Мінскі гарадскі суд праз народны суд у тэрмі 10 дзён.

Народны суддзя [redacted] Подпись

Копия верна:
Судья:
Секретарь:




Тип. МСХП ... Т. 10000

Вышэй.

Рашэньне суда Ленінскага р-на , якое абараняе беларусафоба ,намесьніка старшыні Вярхоўнага Суда, Миклашекича. ( Я шукаў суд, дзе ёсьць **«подведомственностью**” )

Ніжэй.

Спроба судового працэсу супраць «Управления юстиции», якое не разгледзіло маю скаргу супраць беларусафобаў «Минского городского суда».




19 декабря 2001 года
г.Минск,
ГЛАВПОЧТАМТ
До востребования
Грицуку Валерию Ивановичу

В соответствии с определением судьи суда Фрунзенского района г.Минска от 7 декабря 2001 года – не уплатой государственной пошлины в размере 5 минимальных заработных плат, возвращаем Ваше исковое заявление по иску к Управлению юстиции Мингорисполкома о компенсации морального вреда.

Приложение: исковое заявление в двух экз., копия решения суда Ленинского района г.Минска, заявление от 25 ноября 2001 года, 2 заявления без даты, 2 листа с ксерокопиями квитанций, подлинник квитанции на уплату госпошлины в сумме 9000 рублей, копия определения от 19 декабря 2001 года.

Для возврата госпошлины в сумме 9000 рублей Вам следует обратиться с определением суда и квитанцией в финотдел Администрации Фрунзенского района г.Минска.

Судья: Л.П.Хрущевская

**Я спрабаў абараняць і свае правы ў межах Закона**



Сакратарыят Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь

220016, г. Мінск, вул. Карла Маркса, 32, тэл. (017) 227-52-09, факс (017) 227-80-12

№ 05-11/40 "24" 01 2001 г.

220141, г. Мінск – 141,

Грыцуку В.І.
(да запатрабавання)

Паважаны Валерый Іванавіч!

Ваш ліст ад 17 студзеня 2001 г. атрыманы. Змест яго ўважліва вывучаны і прыняты да ведама.

У сувязі з хвалюючым Вас пытаннем паведамляем, што Канстытуцыйны Суд займаўся пытаннямі ўмацавання становішча абедзвюх дзяржаўных моў у грамадстве. Так, у межах сваіх паўнамоцтваў менавіта Канстытуцыйны Суд у свой час унёс у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь прапанову аб унясенні ў Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях нормы аб адказнасці за парушэнне заканадаўства аб мовах, узняў перад Саветам Міністраў пытанне аб неабходнасці ўжывання афіцыйных бланкаў на абедзвюх дзяржаўных мовах і да т.п.

Тлумачым таксама, што разгляд канкрэтных грамадзянскіх спраў і спраў аб адміністрацыйных правапарушэннях у кампетэнцыю Канстытуцыйнага Суда не ўваходзіць.

Першы намеснік
Начальніка Сакратарыята А.А. Дударэнка

**Мае звароты ў Канстытуцыйны суд РБ, дзе я звяртаю ўвагу КС на моцнае парушэньне канстытуцыйных правоў грамадзян ўладамі.**




# Сакратарыят Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь

220016, г. Мінск, вул. Карла Маркса, 32, тэл. (017) 227-52-09, факс (017) 227-80-12


№ 05-11/413 "27" 04 2001

220141, г. Мінск-141,

Грыцуку В.І.

Да запатрабавання.

Паважаны Валерый Іванавіч!

Ваш зварот разгледжаны ў Сакратарыяце Канстытуцыйнага Суда. На пастаўленыя ў звароце пытанні паведамляем наступнае.

1. Па пытанню аб унясенні змяненняў у заканадаўства аб дзяржаўнай пошліне і грамадзянскае працэсуальнае заканадаўства тлумачым, што адпаведныя прапановы Вы можаце прадстаўляць названым у артыкуле 99 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь органам і асобам, якія маюць права заканадаўчай ініцыятывы. Канстытуцыйны Суд правам заканадаўчай ініцыятывы не валодае.

2. Адносна скаргі на рашэнні судоў агульнай кампетэнцыі і дзеянні службовых асоб судовых органаў паведамляем, што Канстытуцыйны Суд таксама не валодае правам кантролю за законнасцю судовых рашэнняў па канкрэтных справах. Такімі паўнамоцтвамі валодаюць толькі вышэйстаячыя судовыя інстанцыі, а таксама органы пракуратуры.

3. Па прапанове аб праверцы канстытуцыйнасці Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 8 ад 12 сакавіка 2001 года паведамляем, што названы Дэкрэт з'яўляецца часовым і згодна з часткай трэцяй артыкула 101 Канстытуцыі прадстаўляецца ў трохдзенны тэрмін для разгляду ў Нацыянальным сходзе Рэспублікі Беларусь. Часовыя дэкрэты

захоўваюць сілу, калі яны не адменены большасцю не менш, як дзве трэці галасоў ад поўнага складу кожнай з палат Нацыянальнага сходу. Да заканчэння названай працэдуры пытанні аб мэтазгоднасці прынящця названага Дэкрэта было б лагічна ставіць перад Палатай прадстаўнікоў і Саветам Рэспублікі.

Згодна з артыкулам 116 Канстытуцыі прапановы аб праверцы канстытуцыйнасці нарматыўнага прававога акта могуць быць унесены ў Канстытуцыйны Суд Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, Палатай прадстаўнікоў, Саветам Рэспублікі, Вярхоўным Судом, Вышэйшым Гаспадарчым Судом і Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, да якіх згодна з часткай чацвертай артыкула 6 Закона "Аб Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь" могуць звяртацца іншыя асобы.

**Першы намеснік**
**Начальніка Сакратарыята** **А.А. Дударэнка**

**МІНІСТЭРСТВА ЮСТЫЦЫІ**
**РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**
220048, г. Минск, Калектарная, 10
Тэл. 20-86-87



**МИНИСТЕРСТВО ЮСТИЦИИ**
**РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ**
220048, г. Минск, Коллекторная, 10
Тел. 20-86-87

08.05.2001 № 03-34/5553

г.Минск-141,
ДО востребования
ГРИЦУКУ В.И.

Ваше обращение рассмотрено в Министерстве юстиции.

Разъясняем, что в требованиях к кандидатам на должность судьи согласно ст. 62 Закона Республики Беларусь от 13.01.1995 «О судоустройстве и статусе судей в Республике Беларусь» не предусмотрено одним из требований владение белорусским языком. В разделе II «Статус служащего госаппарата» Закона Республики Беларусь «Об основах службы в государственном аппарате» не указана обязанность владения белорусским языком при назначении кандидата на должность служащего госаппарата.

В соответствии со ст. 14 Закона Республики Беларусь «О языках в Республике Беларусь» судопроизводство ведется на белорусском или русском языках.

Начальник Управления
организационного обеспечения
деятельности судов Н.А.Зеленко

Малеева

ОПРЕДЕЛЕНИЕ

Судья Фрунзенского района города Минска Угнивенко И.Н. 25 января 2001 года рассмотрев заявление Грицука Валерия Ивановича к Минскому городскому суду о взыскании денежной компенсации морального вреда,

УСТАНОВИЛ:

В заявлении суду Грицук В.И. просит суд о взыскании с Минского городского суда денежной компенсации морального вреда в сумме 30 млн. рублей, причиненного ему в связи с несвоевременным ответом на его жалобу, использованием работниками суда в ответах русского языка, выражений, оскорбляющих его достоинство.

Из текста заявления следует, что фактически Грицуком В.И. обжалуются действия судей Минского городского суда, его председателя. Дела данной категории неподведомственны суду Фрунзенского района города Минска, в силу чего в соответствии с п. 1 ст. 245 ГПК Республики Беларусь в возбуждении дела по заявлению Грицука В.И. следует отказать.

Руководствуясь ст. ст. 319-320 ГПК Республики Беларусь, судья

ОПРЕДЕЛИЛ:

В возбуждении дела по заявлению Грицука Валерия Ивановича к Минскому городскому суду о взыскании денежной компенсации морального вреда-ОТКАЗАТЬ.

На определение может быть подана частная жалоба или принесен протест.

СУДЬЯ: Угнивенко И.Н.

Копия верна.
копия верна



**Яшчэ адзін судовы дакумент, які сведчыць: суда ў Беларусі НЯМА!**

МІНІСТЭРСТВА ЮСТЫЦЫІ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

220048, г. Мінск, Калектарная, 10
Тэл./факс 220-96-84



МИНИСТЕРСТВО ЮСТИ
РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУ

220048, г. Минск, Коллекторная, 1
Тел./факс 220-96-84

03.09.2001 № 03-34/ № 10284

На №

220141, г.Минск-141,
до востребования
ГРИЦУКУ В.И.

Ваше обращение рассмотрено в Министерстве юстиции Республики Беларусь.

Разъясняем, что согласно ст. 17 Конституции Республики Беларусь, государственными языками в Республике Беларусь являются белорусский и русский языки, на них же ведется и судебное производство в Республике Беларусь.

Также разъясняем, что согласно постановлению Совета Министров Республики Беларусь от 26.02.1993 № 105 «О ставках государственной пошлины», с кассационных жалоб на решения суда взимается государственная пошлина в размере 50 % ставки, установленной на подачу искового или другого заявления и жалобы, а по имущественным спорам – ставки, исчисленной исходя из оспариваемой суммы.

Повторно разъясняем, что согласно п. 4.3 Положения о Министерстве юстиции Республики Беларусь, утвержденного Постановлением Кабинета Министров Республики Беларусь от 01.12.1995 № 656, Министерство юстиции решает задачи обеспечения необходимых условий для функционирования судов, при соблюдении принципа независимости судей и подчинения их только закону.

По поводу составления искового заявления Вы вправе обратиться в юридическую консультацию. Другие вопросы, изложенные в Вашем обращении, в компетенцию Министерства юстиции не входят.

Начальник Управления
организационного обеспечения
деятельности судов

Н.А.Зеленко

Короткевич

## III. Дадатак 1. Філязофскі аркуш - некаторыя думкі; палітыка

### ІСЬЦІНА і СПРАВЯДЛІВАСЬЦЬ

### Ісьціна

Мне вельмі не падабаецца, калі гавораць “твая праўда”, “яго праўда”…

А ШТО такое “праўда” ? Так, ёсьць нейкая філязофскае акрэсьленьне гэтага панятка. Але сутнасьць павінна быць адна, панятак “праўда” павінен адлюстроўваць аб’ектыўную сытуацыю, то бок, факты, альбо меркаваньне, якое заснавана на фактах. Я – не філёлаг, але я глядзеў слоўнікі, эўрапейскія мовы. Дык вось, у неславянскіх мовах ёсьць толькі адно слова, адзін панятак: ІСЬЦІНА. Я прапаную беларусам быць больш эўрапейскім народам і адмовіцца ад слова “праўда”, а карыстацца толькі словам “ісьціна”.

Дарэчы Ўладзімір Караткевіч шырока ўжывае менавіта слова “ісьціна”. Чаму адмовіцца? Бо словазлучэньне “твая праўда”, “яго праўда” моцна ўбіты ў галовы большасьці насельнікаў Беларусі, а таму толькі “выключэньне” слова “праўда” вылечыць хваробу хлусьні. Калі нехта не згаджаецца з думкай, высновамі, іншага чалавека, то трэба гаварыць: “*То тваё меркаваньне, а я маю іншы погляд на гэта*”. Бо “погляд” , залежыць, як гавораць палякі, ад месца сядзеньня.Такім чынам мы не будзем заблытвацца ў моўнай хлусьне.

## Справядліваць

Ці можа быць Справядлівасьць бяз Ісьціны? Маё меркаваньне – НЕ!

Бо, ШТО такое Справядлівасьць? Таксама філязофскае тлумачэньне можа быць шырокае. Але калі разважаць прасьцей, то гэта такая сітуацыя, калі чалавек маральны задаволены сітуацыяй. Я падкрэсьліваю слова маральны, каб не пачынаць спрэчку адносна сітуацыі "задавальненьня".

Можна і з другога боку. Справядлівасьць — гэта сітуацыя, калі права чалавека не парушаецца.Так , маем іншы складаны панятак, "права". Але, перадусім, ёсьць прыродныя правы, напрыклад, на жыцьцё. Але на маю думку, усе Правы Чалавека, якія выкладзены ў Усеагульнай Дэклярацыі Правоў Чалавека ААН і ёсьць "права" для Справядлівасьці.

Але галоўным падмуркам яе ёсьць Ісьціна, бо як кожная збудаваньне , якое пабудавана не на цвёрдай глебе , не ёсьць трывалым, так і Справядлівасьць бяз Ісьціны будзе спрэчнай, то бок, ня будзе Справядлівасьцю.

## Чаму людзі баяцца праўды ?

Звычайна людзі баяцца праўды, калі яна невыгодная, непрыемная, а часам праўда забівае, палітычна і, нават, фізічна. Але вельмі часта людзі баяцца праўды , дакладней, ня хочуць ведаць **Ісьціну**, бо трэба "варушыцца", нешта рабіць, за нешта змагацца. А так , як той казаў, чарапаха схавала свой галоў пад панцыр і, яна нічога не бачыць. Але ў людзей "панцыр" звычайна вельмі крохкі – разцерушаць. Ці як я даваў прыклад пад час выступу на тэлевізіі. Ты жывеш у шматпавярховым доме, маеш добрую кватэру, грошы, вызалаціў сваю кватэру, але

аб агульным даху не клапоцішся. Астатнія таксама з цябе прыклад узялі. Таму надыйдзе час калі дах абваліцца (ці працячэ) і твая залатая кватэра таксама пацерпіць. То так і ў грамадзтве. Вядомы выраз*.”Калі палітыкай ты не цікавішся, то палітыка сама прыйдзе да цябе”.* Цэны ў крамах, плата за кватэру, падаткі –гэта ўсё Палітыка.

Дзякуючы выхаваньню, я вымушаны ўсё жыцьцё змагацца за Праўду ( але больш мне падабаецца слова **Ісьціна**). Больш таго, я лічу, што Праўда і Справядлівасьць ідуць побач. То бок, Ісьціна перадусім. Разумелі тоя і разумныя старажытные грэкі. Мы ведаем гэта*:” Платон мне сябра, але Ісьціна даражэй”.* Калі хаваюць Ісьціну –прыходзіць Бяда.

## Ісьціна і эгаізм.

Вось МАЗ дыктатар аддаў ( а яго чарговы сьпекталь для народа -- то сьпектакль). Чаму? Бо,эгаізм у Беларусі -- то беларуская эпідэмія . Дыктатар прагне кожным коштам застацца пры ўладзе, а насельніцтва і тыя , хто называе сябе “апазыцыя” хочуць ( ад “бязвыходнасьці”) **жыць пры мягкай дыктатуры**. Але ёсьць закон дыктатуры, які дзейнічае: ***«НЕ ХОЧЕШЬ ЛЮБИТЬ – БУДЕШЬ БОЯТЬСЯ».***

Прапанову супрацоўнічаць з дыктатарам Александрам Лукашенко “тройка”- НЯМ, абгрунтоўвае тым, што трэба думаць аб будычыні Беларусі.

Пераконваць эгаізм (гэта сапраўдная прычына) Мілінкевіча і Някляева няма сэнсу. Старыя стомленыя людзі думаюць аб спакоі і выгодным жыцьці.

А вось маладзёну Янукевічу трэба растлумачыць ягоную памылку.

Я выкладу тут толькі тэзысы.

Янукевіч, зараз старшыня БНФ, памыляецца, бо мае эгаістычных дарадцаў, як, Юрыя Чаусава. Выбачай, Юрый. Але , за далёка ты “пайшоў”. У прыватнай гутарцы Чавусаў мне сказаў: “ Я хачу жыць пры мягкай дыктатуры, а не жорсткай”.

----- Наступнае. “Клопат аб будучыні”. Нібы.. Спачатку я дам меркаваньня іншага, з расейскага СМІ.------- >”” *Что же касается кредита, то политолог уверен, что Москва будет платить Лукашенко за то, что он идет на российских условиях в сфере интеграции. «А условия эти заключаются в удовлетворении аппетитов российских капиталов в Беларуси” і “Россия постепенно, но неуклонно берет под полный свой контроль ряд сегментов белорусской экономики, – условия кредитов будут ужесточаться за счет фактического приобретения жизненно важных предприятий, то есть “фамильного серебра*”»

Узгадайце меркаваньне , такоя ж Віктара Карніенка., дарэчы былога дарадца Мілінкевіча.

Як можа разьвівацца краіна? Толькі тады , калі ў краіну ідуць вялікія інвэстыцыі і ёсьць вытворчасьць тавараў па сучасных тэхналёгіях, то бок, прадукцыя канкурэнтназдольна на сусьветным рынку. Пры дыктатуры Лукашенко гэтага ня можа быць, бо дыктатар ПАДМАНВАЕ інвестараў. Другоя, палітыка. У 2015 годзе Лукашенко вымушаны будзе аддаць значную частку сувэрэнітэту Беларусі Расіі, а да таго часу, і значную частку эканомікі Беларусі. І паступова ,пад уладай Лукашенко, ад Беларусі застанецца адна назва, нават бяз культурнай аўтаноміі. Адбудуцца незваротныя зьмены . Памятаеце? “*Резать по живому*»

***Дык для якой Беларусі, вы хлопцы, ідзеце на здраду Дэмакратыі і Правам Чалавека?***

World government

## Урад планеты Зямля

Пашырэньне дзейнасьці транснацыянальных кампаній ініяцуе стварэньне “Урада планеты Зямля”

Так, я бачу ( а фантасты даўно апісалі дзейнасьць “Урада планеты Зямля”) ,што наша цывілізацыя ўсё больш набліжаецца да стварэньня такога ўраду.

Прыкметамі ёсьць наступныя чыньнікі:

1)Усё больш актыўная дзейнасьць транснацыянальных кампаній , якія ўсё больш парушаюць, без пакараньня, заканадаўства краін, дзе яны дзейнічаюць.

2) Усё больш значная адлегласьць паміж вельмі багатымі (якія ўсё больш забіраюць капітал Зямлі для сябе) і асноўнай часткай насельніцтва, якая ўсё больш бяднее.***

3) Сацыяльнае напружваньне ўзрастае ва ўсім Сьвеце.

4) Эканамічныя крызысы ,відавочна, больш частыя і гэта тэндэнцыя будзе ўзмацняцца.

5) У больш далёкай персьпектыве, касьмічныя падарожжы запатрабуюць таксама большай каардынацыі краін.

Такім чынам , у бліжэйшай персьперктыве, вельмі верагодная транснацыянальная сацыялістычная рэвалюцыя, перадусім у Эўропе, якую магчыма папярэдзіць толькі праз скаардынаваныя дзеяньня дэмакратычных урадаў для ўсталяваньня Справядлівасьці, перадусім, значнага кантролю за банкамі, іншымі фінансавымі кампаніямі і “афшорнымі зонамі”. *( Вось сёньня я пачуў, што ЭЗ пачынае гэта рабіць)*.

Вядома , што EU (ЭЗ) будзе вельмі жорстка кантраляваць банкаўскую дзейнасьць. Зразумела чаму, бо менавіта банкі

сваёй (“пірацкай”) дзейнасьццю прычыніліся да крызіса. Але праблема больш шырокая. Другоя дзесяцігоддзя мы назіраем росквіт дзейнасьці ТРАНСНАЦЫЯНАЛЬНЫХ кампаній, адпаведна і дзейнасьць ТРАНСбанкаўскай сістэмы, уключна з афшорамі і “люксембургамі” і Аўстрыяй. ***

Дзейнасьць гэтых Т-кампаній (I-companies) і Т-банкаў ( I-banks) нібы рэгулюецца заканадаўствам тых краін, дзе яны дзейнічаюць..Нібы, бо існуе процьма “дзірак” у заканадаўстве, якія I-companies, I-banks выкарыстоўваюць для несправядлівага ( часта і незаконнага) абагачэньня. У сувязі з гэтым, лагічна, паўстае пытаньне. Калі ёсьць I-companies, I-banks, то бок , якія дзейнічаюць па ўсяму Сьвету (**the World)** то ХТО ( што) павінен кантраляваць іх дзейнасьць? Бо спадзявацца, што цалкам ліберальны капітал будзе карыстацца Маральнымі Прынцыпамі, тоя ж, што спадзявацца на ваўка, які будзе есьці не кожную авечку.

Паўстае і другоя пытаньне: ці ёсьць мяжа назапашваньню багацьця: 50, 100, 200, 300 млрд. $ для асобнага капіталіста і, ці не ёсьць гэта пагрозай для Дэмакратыі?

А таму, мы, павінны задумацца, ужо зараз, ці ёсьць альтэнатыва **the World Government? Ці можа G20 быць такім “урадам” ?**

*** Вось інфармацыя з артыкула “Нетократия и нетос”, Владимир Винников 16 мая 2013. “””*В 1995 году Интернетом пользовалось 16 миллионов человек, в 2000-м - 361 миллион, в 2005-м - 1018 миллионов, в 2010-м - 2011 миллионов, на конец 2012 года их было уже свыше 2,4 миллиарда.*

*Рекорд держит Китай - 611 миллионов человек на конец 2012 года, а по относительной - Исландия: 95% населения. А меньше всего их в КНДР - там Интернет попросту отсутствует как таковой…… Сегодня*

*ситуация выглядит попросту катастрофичной: мировой ВВП по итогам 2012 года оценивается примерно в $80 трлн., а мировая денежная масса (агрегат L) - в $1130 трлн.*

*Иными словами, сегодня свыше 95% циркулирующих в мире денег носят чисто информационную природу и являются, по сути, "глобализационными" деньгами, не связанными ни с какой реальной стоимостью.*

***83% этих гигантских средств распоряжается всего 1% населения планеты.”””***

Адпаведна, у каго грошы -- у таго і Ўлада.

## Справядлівасьць і палітычныя ідеялогіі

Разьвіцьце кожнай краіны патрабуе палітычную ідэялёгію, не абавязкова дзяржаўную, звычайна гэта ідэялёгія партыі, якая мае ўладу. Але палітычная ідыялёгія заўсёды ёсьць. Я заўсёды змагаюся за Справядлівасьць, а таму я хачу, каб і ў палітычнай ідыялёгіі яна прысутнічала. Найбольш гэтаму адпавядае сацыял-дэмакратыя. Я заўсёды быў і ёсьць сацыял-дэмакратам . Мне вельмі падабаўся прыклад Швецыі. Але з другога боку , у сучасным Сьвеце, ідэялёгія сацыял-дэмакратыі ня можа быць канкурэнтам лібералізму, менавіта таму і Швецыя паступова адыходзіць ад гэтай ідэялёгіі. Што здарылася? На маю думку, прычынай ёсьць Кітай, дзе збудаваны “выспы капіталізму”, адпаведна кітайская прадукцыя ( дзе выкарыстоўваецца праца амаль раба) цалкам зьмяніла сусьветны рынак. Да выхаду Кітая на капіталістычны рынак дзейнічалі “правілы”, адпаведна і вытворчасьць пры «ідэялёгія сацыял-дэмакратыя» таксама магла існаваць. Зараз”правілаў” , фактычна, няма .(СГА, “ВТО”-рус., не дастаткова), што можна параўнаць з пачаткам бегу. Шмат

хто пачаў свой бег, калі яшчэ не была сігнала –“старт”. Зразумела, што такія “спартоўцы” будуць “першымі”. Адпаведна, у сучасных умовах, палітычная ідэялёгія лібералізму будзе “першай”. Ці трэба дзяржаве зусім адмовіцца ад ідэялёгіі сацыял-дэмакратыі? Складанае пытаньне. Я думаю Швецыя падкажа “адказ”

Але я думаю, што трэба, перадусім, пераглядзець агульна сацыяльную палітыку дапамогі. У вельмі значнай ступені, людзі самі сабе, **сьвядома, шкодзяць свайму здароўю.** Кожны чалавек мае “Права”, адпаведна, мае “выбар”. То чаму не прапанаваць, кожнаму маладому грамадзяніну, які мае 18 год, “сацыяльны кантракт”. Я думаю, што калі ў гэтай “дамове” паміж Грамадзянінам і Дзяржавай дакладна запісаць умовы сацыяльнай дапамогі грамадзяніну ў залежнасьці ад яго дбайнасьці аб сваім здароўе, то такая прапанова дазволіла бы ашчаджаць агульныя сродкі (дзяржавы) і зьменьшыла бы колькасьць хваробаў. Бо,напрыклад, ніхто не прымушае чалавека спажываць алкаголь і наркотыкі, у тым і нікацін (папяросы). Маеш задавальненьне, хочаш мець небяспечная эмоцыі – плаці сам за яго, а не патрабуй грошы дзяржавы, то бок іншых людзей. Гэта павінна быць “правілам казіно”. Ці гэта справядліва? Абсалютна справядліва, бо карыстацца чужымі грошамі - то не справядліва. Чаму тыя людзі, якія не ўжываюць наркотыкі павінны аддаваць свае грошы наркаманам?

Не павінны і, то ёсьць Справядлівасьць.

## Нацыянальная ідэя для беларусаў

Сёньня – гэта чатыры складнікі.

***Мая зямля --- Беларусь !*** ( бяз розных там “союзов”)

То ёсьць стрыжань нацыянальнай ідэі беларусаў, але Беларусь павінна мець моцны грунт беларускай культуры.

***Беларусь суверэнная незалежная дэмакратычная багатая беларуская!***

Агульнае для ўсіх беларусаў:

ЗЯМЛЯ, ДОБРЫ НАЧАЛЬНІК, СПАКОЙ, НАЙЛЕПШАЕ ХАРЧАВАНЬНЕ.

Чаму так ?
Гэта вынікае з адказаў на пытаньні:

1. Чаго баіцца беларус ?

Згубіць ЗЯМЛЮ. Свой кавалак зямлі, які корміць амаль кожнага беларуса.(і зараз –месца працы)

2. Каго баіцца беларус ?

НАЧАЛЬНІКА.

3. Чаго хоча беларус ?

СПАКОЮ.( Парадку,“каб не была вайны”,“цвёрдай рукі” \пакуль яшчэ\)

Але “спакой” будзе больш трывалы ,калі будзе дэмакратычная ўлада, якая ня будзе “ваяваць” нават слоўна (вербальна) з суседзямі.

4. Аб чым марыць беларус ?

Аб “каўбасе намазанай маслам” на кожны дзень, то бок…

Аб НАЙЛЕПШЫМ ХАРЧАВАНЬНІ.

І каб гасьцей добра пачаставаць можна была бы.

Таму:
**Мая зямля --- Беларусь !**
Мой НАЧАЛЬНІК ----- Леў Сапега і Янка Купала.
Мой СПАКОЙ --- гэта толькі мая незалежная дзяржава Беларусь.
Маё НАЙЛЕПШАЕ ХАРЧАВАНЬНЕ --- гэта тоя, на якое я САМ зарабіў без перашкодаў улады, але з яе дапамогай.

**Беларусь можа быць нармальнай эўрапейскай краінай -- “як усе”**

Я яшчэ раз прапаную ўсім беларусам распаўсюдзіць "**як усе**" (*как все*) і на грамадзянаў краінаў Эўрапейскага Зьвязу. Мы можам параўнаць Беларусь і іншыя краіны.

Грэцыя— 11,2 мільёнаў жыхароў, плошча – 131 957 км$^2$

Бельгія – 10,7 мільёнаў жыхароў, плошча – 30 528 км$^2$

Партугалія – 10,6 мільёнаў жыхароў, плошча – 92 072 км$^2$

Чэхія --- 10, 5 мільёнаў жыхароў, плошча – 78 866 км$^2$

Венгрыя ----- 10 мільёнаў жыхароў, плошча – 93 000 км$^2$

Аўстрыя ---- 8,3 мільёнаў жыхароў, плошча – 83 870 км$^2$

Швецыя* ---- 9,2 мільёнаў жыхароў, плошча – 449964 км$^2$

і

**Ірляндыя ---** 4, 5 мільёнаў жыхароў, плошча – 70 000 км2

http://europa.eu/about-eu/countries/index_en.htm

Усе гэтыя краіны не жылі не жывуць за кошт нафты і газу , а колькасьць жыхароў і плошча тэрыторыі параўнальныя з Беларусьсю. У Швецыі вялікая колькасьць паўночных тэрыторый, але колькасьць насельніцтва падобная. Швецыя*--- самая шчасьлівая краіна ў Эўропе ( 3-я, у Сьвеце) , па інфармацыі на май 2013 года.

Ірляндыю я ўзгадаў таму, што гэтая краіна **вельмі хутка**, эканоміка, наблізілася да разьвітых эўрапейскіх краінаў,

але мела меньшы “патэнцыял” чым мае Беларусь. Я не ўзгадваю вельмі пасьпяховыя краіны, якія маюць **меньшую** колькасьць насельніцтва і **меньшую** тэрыторыю…

Наша Беларусь мае 9,5 мільёнаў жыхароў, плошча – 207 000 км$^{2.}$

Беларусы - працавітыя людзі і могуць хутка набываць патрэбную кваліфікацыю, то бок , выключна, за кошт сваёй уласнай працы, быць багатымі і не горшымі ( а лепшымі) за ўзгаданыя краіны.

*Няўжо беларусы горшыя за грэкаў, які не змаглі стварыць сучасную прамысловасьць?. Грэцыя мае толькі земляробства, турызм, будаўніцтва і марскія справы .*

Беларусы маюць добрую базу для хуткага разьвіцьця сучасных тэхнялёгій, маюць таленавітых праграмістаў, працавітых людзей, добрую зямлю, выгодныя камунікацыі….

Істотна не проста “працаваць”, а працаваць эфектыўна, то бок , быць лепшымі ў канкурэнцыі. Гэта магчыма і для беларусаў.

Для багацьця беларусаў і посьпеху Беларусі , як краіны, патрэбна толькі адно: дэмакратычная улада.

***Ці хочам мы, беларусы, быць багатымі і сапраўднымі эўрапейцамі?***

ХОЧАМ! МОЖАМ!

*А ці , сапраўды, хочам?*

## Палітыка

*Я прапаную чытачам мой погляд на розныя палітычныя праблемы.Артыкулы былі напісаны ў розныя гады.*

**Сувэрэнітэт – гэта выгадна! Свая мяжа дае золата.**

Ці многія беларусы задавалі сябе пытаньне : навошта існуюць маленькія краіны?
Што гэта за краіны: Люксембург, Манака., Андора, Ліхтэнштэйн, Мальта, Сан-Марына, Кіпр – дзяржавы, якія маюць роўныя правы ў АБСЕ ( OSCE) і, некаторыя, у Эўрапейскім Зьвязе, (EU).
Беларусь мае тэрыторыю памерам у 207 тыс.кв. км .А вось плошча зямлі, на якой знаходзяцца Люксембург –2,6 тыс. кв. км., у 80 разоў меньшая чым мае Беларусь.! Мальта - 316.кв. км. толькі. Адпаведна , усе гэтыя краіны маюць і мала людзей . Напрыклад у Люксембурзе жыве толькі 474 413 жыхароў гэта як у нашым горадзе Гомлі. Насельніцтва наступных сувэрэнных краінаў, Сан-Марына – **31 500**, Манака –33 443 чалавек**,** Ліхтэнштэйн –**35 622,** Андора – **69 524,** Мальта –**400 007,** Кіпр –**971 391.** Гэта як насельніцтва нашых беларускіх гарадоў.Усе яны не маюць нафты і газу.
Чаму ўсё ж такі існуюць такія краіны? І чаму іх не “прыхватызавалі” вялікія суседзі ?
Існуюць , таму што вельмі выгадна эканамічна , найперш, жыхарам гэтых краінаў. Адпаведна маюць і палітычныя выгоды – голас іхняй краіны роўны і яго чуюць іншыя , вялікія дзяржавы. Пачуцьцё нацыянальнай годнасьці ( “**такія як усе**”) таксама істотна.Толькі адзін прыклад. Княства **Люксембург** мае суседзяў Бельгію, Францыю і Германію. Але Люксембург, па багацьцю ( “на галаву” вышэй) жыхары гэтай мікракраіны ў Эўропе ( і сьвеце ) першыя! . Глядзіце валавы прадукт (УВП**) (GDP).** Таксама як Страсбург і Брусель, Люксембург з'яўляецца палітычным цэнтрам Эўразьвязу.. Зараз, калі Інтэрнет не праблема для кожнага, можаце ўсе спраўдзіць і не

спрачацца наконт лічбаў. З другога боку, «УВП» у Расіі , якая багатая на газ і нафту і, фактычна, жыве за кошт продажу іх. Зразумела, што трэба ўсё (багацьце) пералічваць на аднаго чалавека ( *але не з анекдоту*). Адпаведна, “сярэдні” грамадзянін Расіі бедны чалавек, значна бяднейшы за люксембургжца.
Чаму Люксембург ( іншыя мікракраіны) не захапілі вялікія краіны? Чаму нямяцкамоўная Аўстрыя не далучылася да Германіі ? Чаму там не гавораць, што бяз Германіі яны (аўстрыйцы) не пражывуць? Найперш таму, што Эўропа – гэта не Азія ( дзе і Расія), а таму канфлікты вырашаюцца таксама дэмакратычнымі перамовамі., а не вайной да апошняй крыві, у тым ліку і эканамічнай.

Вельмі ва многіх беларусаў распаўсюджана думка: “**жыць як усе”.** Так давайце жыць як усе ў ЭЎРОПЕ. Мы знаходзімся ў Эўропе. ***Жыць так як жыве Люксембург, Мальта, ці самая шчасьлівая краіна—Данія (5,2 млн. чалавек***). Вядома таксама, што нядаўна вельмі бедная Ірландыя таксама стала багатай і зараз там працуе каля 1-га мільёна эміграваных палякаў.
Прыклад гэтых вельмі маленькіх краінаў павінен пераканаць усіх тых нашых грамадзян, якія яшчэ гавораць “*Без России мы не проживём*”. Зараз відавочна, што такое сцьвярджэнне – гэта правакацыя, гэта ідыялагічная вайна супраць сувэрэннай Беларусі, супраць Нацыі Беларусаў.
***Наша Беларусь не павінна быць горшай за малыя краіны , павінна быць лепшай.***
Апошні прыклад – гэта Балгарыя і Румынія, краіны блізкія па асноўным паказчыкам да Беларусі. Пасьля ўступленьня ў Эрапейскую ўнію яны вельмі хутка пачынаюць багацець! Адзіная праблема, якая не дае ім хутка разьвівацца – гэта карупцыя. Але карупцыю ствараюць звычайныя людзі, бо лічаць , што даць хабар – то не злачынства.
Ну, а прыклад, Аўстрыя, дзе размаўляюць на нямецкай мове, як у Германіі, павінен пераканаць “белорусских родственников русских”, што разумныя грамадзяне Аўстрыі, якія маюць вельмі шмат падобнага з блізкім ім

нямецкім народам, жадаюць жыць у “асобнай кватэры”, СВАЁЙ краіне. Аўстрыі не багата на энэргарэсурсы.
Нялішне ўзгадаць і прыклад народа баскаў і каталонцаў, якія маюць аўтаномію ў Гішпаніі, якая ўжо даўно ў Эўрапейскай Уніі, (EU) але зараз змагаюцца за СВАЮ Незалежнасьць!. Бадай гэта зьвязана і з эканамічнымі выгодамі. Нават на тэрарыстычныя акты ідуць. Чаму ? Бо нават у аб’яднанай Эўропе і маленькім народам (краінам) хочацца мець СВОЙ ГОЛАС і самім валодаць сваім багацьцем.Яны таксама не хочуць быць паразітамі на “целе” іншай дзяржавы.
Тоя ж зараз абмяркоўваецца ў Бельгіі! Палітычныя партыі 2-х рэгіёнаў, Фландрыі і Валоніі спрачаюцца аб форме федэральнай сістэмы і нават асобнай незалежнасьці !?. Бельгія даўно ёсьць членам Эўразьвязу( EU).
І апошні аргумент .Для тых, хто не любіць думаць. Анекдот савецкіх часоў. Не хачу нікога пакрыўдзіць. “Памірае стары жыд. Сваякі пытаюцца ў яго аб чым ён марыў усё жыцьцё. Ён адказвае: “*Хацеў каб мяне зрабілі ўладальнікам 1 м дзяржаўнай граніцы. Гэта ж колькі б я мог золата купіць!*” Свая мяжа дае золата. Так, дае, толькі ..Каму? Ці роўна ўсім грамадзянам, ці толькі купцы злодзеяў, якія захапілі ўладу? Дарэчы, грошы за “візы” – грошы за “мяжу”, з паветра.
Вось такая Ісьціна жыцьця. Трэба і беларусам брацца за розум.

## Незалежнасьць

Глябалізацыя – гэта новы вельмі істотны працэс, моцны як цунамі. Калі беларусы не пасьпеюць на працягу 10-20 гадоў дабудаваць Нацыю, то беларусаў ня будзе.

Зараз вось Мытны Саюз. Прэзыдэнт-Казах, Назарбаеў , пабачыў у ім небясьпеку для Нацыі казахаў. Руская мова

там пакуль пануе ў дзяржаўных ворганах, таму Назарбаеў ініцыяваў Закон, і вельмі хутка, усе дзяржаўныя ворганы, дакументы будуць толькі на казахскай мове., больш таго , казахі пераходзяць на лацінскія літары. То бок ствараецца фільтр для расійскай экспансіі.Трэба разумець таксама, што глябалізацыя вымушае ўрады больш супрацоўнічаць праз міжнародныя ворганы, таму нават імперыяльная Расія зацікаўлена мець "дадатковы голас" праз дзяржавы-сатэліты (марыянеткі) , нават, праз непрызнаныя "анклавы".

Вось прачытаў на tut.by , што расіяне масава скупляюць кватэры ў Менску. А таму ( адпаведна закону) мясцовую ўладу, у Менску, ужо могуць ствараць і расіяне, зразумела, што на сваю карысьць, а не на карысьць беларусаў. Гэта падобна дзеяньням іншапланецян , у творы майго любімага пісьменьніка Кліффарда Саймака, "Амаль як людзі".

Больш таго існуе агульная праблема : імперыялізм Путіна і расійскай эліты.

1)Генетычны імперыялізм Расіі ( ведаем прыклад – Паўднёвая Асетыя)

2) Звышамбіцыі Путіна –"собирателя земель" ( ЕАзСОЮЗ)

3) Імперыялістычны плян захопу Беларусі- тры варыянты, якія агучыў TV-killer Доренко, 15 год таму. Зараз , варыянт № 2-- эканамічны.

І безумоўна дэнацыяналізацыя дзяржаўнай эліты ў Беларусі.

Таму Незалежнасьць Беларусі пад пагрозай, але галоўная пагроза зыходзіць ад насельнікаў Беларусі, якія вагаюцца*:"А ці не аддаць тую Незалежнасьць за большы кавалак каўбасы сёньня*…".

Вось такія словы сказаў вядомы ўсім "палітык", ён сказаў,

бо баіцца за сваё фізічнае жыцьцё.

*"Если мы хотим быть независимыми, то ни я, ни вы, граждане Беларуси, не должны наклоняться и вставать не колени. Если склонимся и встанем на колени – не поднимемся. Всю жизнь нас будут понукать*"**.**

Але гэтыя словы датычаць усіх жыхароў Беларусі.

Уладзімір Караткевіч сказаў*:"Калі мы самі не падымемся з кален, то ніхто нас не падыме".*

А што пакінем дзецям?

Калі прададзім Незалежнасьць, то дзецям застануцца чарнобыльскія радыёнукліды і новыя экалагічнашкодныя расійскія заводы і хваробы, хваробы…

І канчатковае зьнікненьне ўсяго беларускага….

То такую будучыню хочуць Беларусы?

А сёньня так: "*Вось і большасьць нашых дзеячаў культуры не хоча адмаўляцца ад ужо не ў першым пакаленьні засвоеных рускіх стандартаў, культурную ніву Беларусі яны засяваюць не сваім, а чужым насеньнем, наперад ведаючы, што за гэта здабудуць вялікую ласку ад канчаткова адарваных ад нацыянальных традыцый палітыкаў, прычым самых высокіх рангаў, а таксама падначаленых ім ідэолагаў*" -- **Леанід ЛЫЧ**

"***Што ты ня змог – цябе даруюць, што ты ня хочаш – праклянуць***", -- Ібсэн, трагэдыя "Бранд".

**Развагі Беларуса: БУДЗЕ ці НЕ БУДЗЕ?**

"*Цярпець каменьні, стрэлы Лёсу, ці зрушыцца на мора*

*крыўдаў і зьнішчыць іх Змаганьнем?”*

“Гамлет”,Шэкспір

Існуе тэза З.П. : “Дыктатар захавае дзяржаву з НАЗВАЙ ” Беларусь” – прыйдуць дэмакраты- нацыяналісты і АДРОДЗЯЦЬ БЕЛАРУСЬ БЕЛАРУСКУЮ.”

ХІБЫ Пазьняка (чарговыя), памылкі гэтага падыходу:

- Не ўлічваецца імклівы працэс ГЛЯБАЛІЗАЦЫІ
- Не ўлічваецца моцны накаваны нам уплыў культурны і інфармацыйны Расіі і магчымасьць капітуляцыіі дыктатара перад Масквой.
- Не ўлічваецца будучая супярэчнасьць прынцыпаў Дэмакратыі і неабходнасьць ПРЫМУСОВАЙ БЕЛАРУСІЗАЦЫІ, нават “мягкай”.
- Не ўлічваецца дэмаграфічная праблема ( і зьмяншэньне беларускага субстрату)
- Не ўлічваецца імклівасьць разьвіцьця і тэхнялёгіі і грамадзкіх працэсаў ( паскараецца хуткасьць зьменаў, з разьвіцьцём цывілізацыі – мой закон)
- Не ўлічваецца працягласьць часу панаваньня дыктатуры, адпаведна, выхаваньня “лукашыстаў”.
- Не ўлічваецца зьменлівасьць у сусьветнай палітыцы, зьменлівасьць тэндэнцый, цэнтраў
- Не ўлічваецца ўзрастаньне запатрабаваньнеў “патэрналісцкага грамадзтва” і зьмяншэньня рэсурсаў—“эфект грэкаў”.

- Не ўлічваецца “дрыгва” тэндэнцый “Союза” з Расіяй

  Такім чынам, ЗП прапануе мрою, самападман, зрабіць падставай і тлумачэньнем пасіўнасьці і **нежаданьня** змагацца з дыктатурай, а таму, **змагацца за Беларусь.**

  **<u>Каротка аргументы-пытаньні</u>**

- --- Папулярнасьць ангельскай мовы і разьвіцьцё новых тэхнялёгій менавіта на грунце гэтай мовы, адпаведна кантакты праз ангельскую мову , ці будуць тут зьмены ?

- Расійскі фактар заўсёды будзе моцны – ад яго плотам НЕ адгародзішся, як нейтралізаваць яго?

- Прыклад. Праблемы Латвіі з русскими. Славакія ўвяла штрафы за карыстаньне іншай мовай . Францыя - штрафы за забруджваньне французскай мовы. Дэмакратычны эўрапейскі урад Ірландыі спрабуе АДРАДЗІЦЬ ірляндзкую мову—**марныя спробы**…. Дзе Шатляндыя – у спадніцах ?

- Што будзе хутчэй: урад - беларусаў ці пераход крытычнай рысы – зьмяньшэньне беларускага субстрату, найперш - патрыётаў? Прыклад Ізраіля нам не пасуе—ён утварыўся сярод варожых і абсалютна непадобных культурна краінаў і МАЕ СТАЛУЮ ПАДТРЫМКУ ЗША.

- Павялічэньне інтэграцыі грамадзян Беларусі ў сусьветную інфармацыйную прастору і г.д Які ўплыў працоўнай міграцыі беларусаў у Расію ? (негатыўны)

- 10- 20 гадоў яшчэ дыктатуры Лукашенко і зьнікне цалкам беларускі субстрат. Беларуская мова ў выглядзе “эсьперанто”?

- Сярод краін Сьвету ня будзе тых, хто будзе зацікаўлены дапамагчы Беларусам. Былі прусы, народ зьнік з Гісторыі, але доўгі час была “Прусія”. Ну і ШТО ??? Аўстрыя існуе толькі таму, што ёсьць Эўразьвяз і дэмакратычная Германія.

І што можна зрабіць з гэтым:” *Анатолий Шумченко: «Понятие суверенитета сведено до уровня куска колбасы и теплых батарей. Это страшно»* 22 кастрычніка 2010 г.” ?

**19 год гвалту на Беларусі, дыктар-калхозьнік зьнішчае Беларусь.**

Александр Лукашенко неяк сказаў***:”Беларусь будет столько -- сколько буду я***”(то бок, пры ўладзе, ён разлічвае на 29 гадоў яшчэ)

Такі прагноз дыктатара ёсьць вельмі рэальны. І ня толькі я кажу, што Беларусь ,як дзяржава, “вісіць на валаску”, таму што дыктатар будзе бараніць толькі мяжы сваёй улады, але імперскі Кремль будзе паступова забіраць яе, будзе час, калі застануцца ад Беларусі толькі “пожар на болоте” (флаг) і “гнілая совхозная капуста” (герб). Тоя можна параўнаць з мухай у павуціньне. Адзіны вырыянт ратаваньня Беларусі - гэта выкінуць Лукашенко з Беларусі.

Але з чаго пачалося…? Няўдалыя спробы радыя “Свабода”*** зрабіць аналіз 18 гадоў улады дыктатара не далі адказаў на пытаньне “чаму” і “ як”.. Бадай таму, што

многія ўдзельнікі праграмы “ПА” зьвязаны з расійскімі сьпецслужбамі. Так, я згодны з некаторымі ацэнкамі спадара Валерыя К. і господина Ш., але яны вельмі недастатковыя , каб звычыйны чалавек зразумеў сітуацыю.

“Чаму?”.

1990 – Прынята Дэклярацыя аб сувэрэнітэце Беларусі, далёка не першая ў СССР. 25.08.1991 Дэклярацыі аб сувэрэнітэце Беларусі нададзены канстытуцыйны статус.Верасень 1991 , наступныя крокі да сувэрэнітэту Беларусі… Сьнежань 1991, юрыдычнае зьнішчэньне СССР. Вось тут і пачатак падрыхтоўкі “кадра”.. “Парт-хоз” наменклатуры саюзных рэспублік зразумелі, што “КАТА” няма і пачалі “пацукі” красьці ўсё і “вся”. І калі ў іншых (Азія, Каўказ) кланы , плямёны, якія неяк такі стрымлівалі катастрафічнае зьнішчэньне народнага дабра, то у Беларусі “парт-хоз” намеклатуру нічога не стрымлівала, а дэнацыяналізаваным “самымсавецкім” беларусам Кебіч і К$^{О}$ тлумачылі, што ЎСЁ залежыць ад Масквы і“ парт-хоз” рабаваў беларусаў, воровали, воровали…. Вынік быў такі, што ўсё было па “талонах” і насельнікі БССР былі абадраны “як ліпка”. Грамадзяне Беларусі працавалі і “гналі эшалоны “ са сваёй прадукцыяй у Расію, задарма.. Масква не дапамагала… Разгубленыя насельнікі не ведалі ШТО рабіць, БНФ не тлумачыў зразумела ( для простых) сітуацыю… Насельнікі БССР прызвычаеныя Кашпероўскім і інш. да цудаў , чакалі ЦУДА…..

А зараз зазірнем у Маскву. Што ў СССР была самым моцным? Так! “КГБ” ! Там, сапраўды, працавалі вельмі разумныя людзі ( Путин - прыклад).Адпаведна, КГБ-сты ( сярэдняе “зьвено”) пачалі пісаць планы «Будующего» ужо ў 1990, адпаведна і “план”, як захаваць уплыў на былых

“братьев”.

Быў такі план і адносна Беларусі. Асабліва нічога новага, за ўзор былі ўзяты дзеяньньня ЦРУ у Паўднёвай Амерыцы. Калі коратка—“***сукин сын, но НАШ сукин сын».***

Аналітыкі памятаюць частыя падарожжы Александра Лукашенко ў Маскву , амаль за год да выбараў 1994.. З кім ён там сустракаўся, чаго там боўтаўся… Да гэтуль, мы ведаем вельмі мала. Але і ў Бібліі сказана : “*Судзіце не па словах, а па пладах*…”.. “Плады” мы бачым.

…………………………………………………………………

****Радыя “Свабода” павінна быць і зноў радыё “ВЫЗВАЛЕНЬНЕ”, а не проста “праўдзівым радыё” на ўзор эўрапейскага радыё*.

**Павук па назьве Лукашенко.**

Што ёсьць Беларусь? Беларусь – гэта зямля, людзі і прадпрыемства і беларуская культура, якая зьнікае. Бо назва, Рэспубліка Беларусь – гэта толькі абалонка. Але абалонка бяз унутранага зьместу - мёртвая. Дыктатар Лукашенко, каб захаваць сваю ўладу, частку прадпрыемстваў ужо прадаў, то бок , можна лічыць, што іх няма ў Беларусі. “У гэтым годзе дыктатар Лукашенко плануе прадаць наступныя 19 стратэгічных прадпрыемстваў Беларусі…” З гэтай нагоды убілася да мяне ў галаву “алегорыя”. А як у жывёльным жыцьці бывае?

Вось павук. Пляце сетку-павуціну, ліпучаю… І чакае

ахвяру. У сетку трапіла муха. Павук падбег да яе, уваткнуў у яе свой рот-трубачку і запампаваў у цела мухі энзімы ( як у страўніку). Пакінуў муху вісець. Праз нейкі час ізноў падбег да мухі і высмактаў усё з яе цела. Але "муха", абалонка, засталася такой як і была… **Нібы і муха засталася.**

Так і дыктатар Александр Лукашенко ўсё высмоктвае з нашай Беларусі, з нас, як той павук і дапамагае яму ў гэтым Путін і К$^{o}$. Калі мы ня будзем змагацца, не зладзім Супраціў, то ад Беларусі застанецца адна "абалонка".

Ці гэтага мы, беларусы, ХОЧАМ ,ці ХОЧАМ СВАБОДЫ і БЕЛАРУСІ?

То, можа час успомніць мой заклік да дзеяньня!

ХОЧАМ ! МОЖАМ ! ПЕРАМОЖАМ !

Да Справы!

" **Москва сломала Александра Лукашенко"**

Паводзіны дыктатара Лукашенко ў Эреване паказалі, што Масква яго зламала, а дакладней, надламала.

Зараз пачынаецца працэс продажы Беларусі па кавалках , «пядь по пяди", да поўнай страты сувэрэнітэту Беларусі і зьнікненьне з мапы Зямлі. Пры Лукашенко – гэты працэс **будзе ісьці няўмольна**. Спачатку дыктатар пагодзіцца быць ,фактычна , губернатарам, а потым пагодзіцца толькі на гарантыю бясьпекі сябе , сыноў і сваіх мільярдаў. А беларусы? То ня яго клопат.

“КТО ВИНОВАТ ?» ХТО !?

Вінаваты, перадусім, грамадзяне Беларусі ( 99% з іх) , і тыя, хто лічыць сябе апазыцыяй і, безумоўна, фармальныя лідэры, якія нарабілі шмат памылак , і вельмі мала працавалі з жыхарамі Беларусі. Вінаваты пазьнякі, вячоркі, калякіны, лебедкі, трусавы, статкевічы і іншыя. Зразумела, віна кожнага з іх розная, але агульны эфэкт мы ведаем. Я не хачу нікога пакрыўдзіць, але я зрабіў аналіз (глядзіце асноўную частку Кнігі). “Праблема” пачалася стваралася не сёньня, а ў 1992 годзе.. 1993 .1994. 1995.**1996**. …

Апазыцыя спрабавала нешта тлумачыць народу **толькі** пад час выбарчых кампаній, паказвала чарговую «Альтернативу» . Мала таго, што марнаваліся грошы, тысячы ўлётак заставаліся ў “офісах”, альбо , па дурасьці, адданы міліцыі. І нават тых людзей, якіх апазыцыя з'агітавала пад час выбараў , больш таго, сваіх “кандыдатаў”, структурная апазыцыя «кидала», забывалася на іх.

Фармальныя лідэры тлумачылі, што па-за выбарчымі кампаніямі народ ня хоча слухаць іх. Кожнага грамадзяніна, не вар’ята , можа заўсёды нечым зацікавіць. <u>Чаму напрыклад цікавы рэлігійныя місіянеры ?</u>

На палітычныя праблемы можна «выйсьці» праз сацыяльныя, «гарачыя» праблемы, але трэба для гэтага РОЗУМ і эфэктыўнасьць PR і жаданьне ПРАЦАВАЦЬ і працаваць з людзьмі кожны дзень.

Абсалютная большасьць дэмакратычнай грамады выбрала больш камфортны шлях: рэалізаваць (на паперы) праекты пад замежныя гранты. Нават у палітычных партыях сябры

працуюць НЕ на праграмныя мэты, а для тых людзей, хто дае грошы. БНФ – гэта яскрава паказаў. Але такое ёсьць ня толькі ў БНФ. Замежныя “палітычныя” падарожжы сталі асноўнай формай “змаганьня. Я абяцаю, што зраблю ўсё каб Захад больш не запрашаў некаторых “лідэраў”, а тым больш “запісных NGO-шнікаў” . ХОПІЦЬ! Пакажыце ПРАЦУ ў Беларусі, ваш вынік. *Перадусім, пакажыце адзін “партызанскі раён”, тэрытарыяльную адзінку, дзе людзі цалкам падтрымліваюць апазыцыю, вас.*

Я 18 год паказваю мадэль сумеснай працы. Каб перанесьці цяжкую шафу, трэба не хадзіць каля яе , не мацаць, а ўзяцца разам і перанесьці. І не баяцца за папсаваныя жылы і боль.

18 год дзейнасьці апазыцыі ў Беларусі паказала, што ёй бракуе РОЗУМУ, САМААХВЯРНАСЬЦІ і САЛІДАРНАСЬЦІ.

ХОЧАМ - то мець **моцнае** жаданьне працаваць, МОЖАМ – то мець розум і самаахвярнасьць, здольнасьць да эфэктыўнай працы. ПЕРАМОЖАМ – то быць салідарнымі і эфэктыўнымі.

Заклік вялікага паляка ,Паўла II спраўдзіўся ў Польшчы. “ *Няма свабоды без салідарнасьці”.*

“ **ШТО РАБІЦЬ” (“ что делать?”)**

А) Падрыхтаваць і правесьці Кангрэс, дзе заслухаць справаздачы фармальных лідэраў за 18 год і прыняць адпаведныя рашэньня.

В) Зьмяніць дзейнасьць на функцыянальную й , перадусім, пачаць абарону сацыяльных правоў і Правоў Чалавека, падкрэсьліваючы неабходнасьць палітычных зьменаў-- прычыну «обычных проблем».

Зразумець ,што ў апазыцыі няма “палітыкаў”, ёсьць толькі дысыдэнты. Бо “палітыкі” уплываюць на “ход” жыцьця.

Неадкладна брацца за цяжкую штодзённую працу . Усе, хто лічыць сябе дэмакратамі, павінны зараз «ісьці ў апошні бой». Шанец здабыць перамогу ёсьць, але толькі ў цяжкай і няўдзячнай працы, у штодзённых размовах з грамадзянамі, пераканаць іх, што **пры Лукашенко ня будзе «завтра»**, што «завтра», для іхніх дзяцей і ўнукаў не будзе каўбасы з маслам. І ці будзе каўбаса? Трэба паказаць , што сувэрэнітэт Беларусі дае практычную выгоду грамадзянам, нават, калі будуць часовыя цяжкасьці. Трэба зараз растлумачыць «членам избирательных комиссий» ( большасьць гэтых людзей 10 гадоў у камісіях), што гэта яны адказныя за бандытызм улады і трываласьць дыктатара.

Трэба размаўляць з наменклатурай,шукаць кампраміс.

Мы можам перамагчы, але трэба так працаваць, каб потым балелі усе “жылы”. Разумець, што гэта “апошні бой”! Вораг зараз псіхічна слабы, ён згубіў “волю”.

“ Воля к Победе упрямее стали» !

Наша “воля” павінна менавіта быць такой! Тады пераможам !

ХОЧАМ! МОЖАМ ! ПЕРАМОЖАМ!

Але, ці хочам?

## Як ЗМАГАЦЦА?

Я паўтару, што ў змаганьні за Беларусь дэмакратычную, беларускую, сувэрэнную, багатаю, я ад 1990., кожны дзень,

з большай, ці меньшай актыўнасьцю.

Я заўсёды кіруюся Розумам і эфэктыўнасьцю, а таму мне вельмі не падабаецца, калі людзі, якія хочуць мець уплыў на палітыку, не думаюць аб эфэкце іх дзейнасьці. Ёсьць такі прыклад, Зянон Пазьняк. Я яго ведаю ад 1978. Яго палітычны "баланс" – АДМОЎНЫ (-). Для Беларусі ён зрабіў больш шкоды, чым карысьці. Больш таго, зараз Пазьняк , стары чалавек, вельмі часта паказвае сваё неразуменьне сітуацыі. Прыклад. Ён гаворыць:"*Апазыцыя павінна зьнікнуць*". Авось апытаньне НИСЭПИ. "Из опрошенных 21.3% считают себя оппозиционерами".!!!!

Так, можна (і часта –трэба) не верыць НИСЭПИ, але апазыцыянеры, то ня толькі сябры партый. Па Пазьняку, 21.3% грамадзян Беларусі павінны зьнікнуць. ПАЛІТЫКА – гэта СЛОВЫ, гэта ,перадусім, ДАКЛАДНЫЯ ВЫЗНАЧЭНЬНЯ (рус.-- терминология , понятные слова)

Бо , "*Спачатку была Слова*".

i

Вось гэта карысна вам ведаць.

Сацыёлаг Нікалюк:

"*Пералічу найбольш значныя рысы асобы:*

***максымальная аўтаномнасьць, самадастатковасьць і сталая арыентацыя на зьдзяйсьненьне !!! выбару.***

***Асоба ня толькі робіць выбар !!! сама, але і ня схільная давяраць яго каму б то ні было, а таксама дэлегаваць гэтае права зьнешнім інстанцыям.***

*Беларускае грамадзтва складаецца зь меншасьці і большасьці.* ***Большасьць — гэта тыя людзі, якія самастойна рабіць выбар !!! ня могуць****. І яны маюць патрэбу ў той фігуры, якая будзе ўсё вырашаць за іх. Калі гэтая фігура знойдзеная, то яны знаходзяцца ў камфортным стане. Сутнасьць у тым, што чалавек, які сфармаваўся аднойчы, ужо ня можа зьмяніцца. Таму*

*праблема Беларусі — гэта праблема адсутнасьці крытычнай масы* ***АСОБАЎ.”***

……………………………………………………………………………

То як змагацца? Перадусім **быць Асобай, а таму трэба змагацца за свае правы заўсёды і паўсюдна.** І калі вялікая колькасьць грамадзян Беларусі ( Асобы) будуць змагацца за свае правы -- адбудзецца рэзананс у грамадстве і дыктатура будзе скінутая з цела Беларусаў.

То бок, толькі рэвалюцыя можа вырашыць лёс Беларусі і беларусаў.

Можа быць і пасіўная “змаганьне” асобных грамадзян , дакладней , дапамога Змагарам. Гэта вельмі проста. Калі ты лічыш сябе дэмакратам, але вельмі баішся “непрыемнасьцей”, то дапамагай тым людзям , якія змагаюцца.

*Чым ты можаш дапамагчы?*

Ды на самы розны спосаб. Кожны чалавек жыве і мае патрэбу ў розных рэчах. Вось і запытай у Змагара:”Чым я цябе магу дапамагчы?”. Самы просты спосаб – грошы, але то можа быць і дапамога праз працу, можа трэба дапамагчы кватэру адрамантаваць, ці нейкае абсталяваньне…

То бок, дапамога Змагару можа быць розная, галоўнае -- тваё ЖАДАНЬНЕ дапамагчы

Алгарытм перамогі: давер – прапанова – падтрымка дзеяньнямі

Бо, толькі РАЗАМ – МЫ СІЛА! Паасобку – пясок.

*ЯК можа ўдзельнічаць **сьвядомы беларус** у захаваньні Беларусі?*

СЬВЯДОМАСЬЦЬ

САЛІДАРНАСЬЦЬ САМААХВЯРНАСЬЦЬ РОЗУМ

1. Сьвядомы беларус, то бок, разумець і пашыраць нацыянальныя каштоўнасьці, ён павінен быць лепшым Чалавекам, а таму павінен дапамагаць жыхарам у вырашэньні сацыяльных праблемаў, быць ініцыятарам Зваротаў да мясцовай улады.

2.Сьвядомы беларус павінен растлумачыць сваім суседзям і калегам на працы, чаму нам ВЫГАДНА жыць у незалежнай сувэрэннай, СВАЁЙ дзяржаве, у Беларусі.

3. Сьвядомы беларус павінен растлумачыць сваім суседзям і калегам на працы, што аб'яднаньне грамадзян Беларусі магчыма толькі на беларускай мове, а таму трэба вучыцца размаўляць на беларускай мове, таму што гэта і ёсьць ПАТРЫЯТЫЗМ грамадзяніна Беларусі. Але нельга нікога прымушаць! Знайдзі спосаб пераканаць! Бяз аб'яднаньня мы ніколі не дагонім Эўропу і , наадварот, ментальнае аб'яднаньне ( прыклад Японіі ) дазволіць нам хутка стаць сапраўднымі багатымі эўрапейцамі.

4.Сьвядомы беларус павінен дапамагаць актывістам апазыцыі ( альбо быць сам ім) праз розныя спосабы і дзеяньні.

ЯК ?

Фінансавая дапамога , але не мізэрная - 1000 (ці 5000) руб. і **пастаянная**, ад 1 % да 10% ад заробку.

Тэхнічная дапамога ( аддай старую тэхніку, кампутар, друкарку і г.д актывістам апазыцыі )

Інфармацыйная дапамога ( дапамажы надрукаваць

інфармацыю, распаўсюдзь інфармацыю, якую сам знайшоў у Інтэрнэт, ці атрымаў ад сяброў). 10--30 асобнікаў -- гэта таксама Справа. Дапамажы зрабіць Інтэрнэт-старонку мясцовасьці, мікраяраёну, вуліцы.

5.Сьвядомы беларус павінен дапамагаць іншым сьвядомым беларусам у штодзённым жыцьці, так як 1000 гадоў робяць габрэі ( беларускае слова - жыды)

6.Сьвядомы беларус павінен распаўсюджваць веды аб Правох Чалавека і тлумачыць, што ВЕДЫ -- гэта пачатак Дзеяньня!

На пытаньне "совка" : "А што гэта мне дасьць?". Адказвайце: "А для чаго адукацыя? А што вам далі вурокі ў школе? " “Лепш ведаць свае Правы , чым не ведаць!” “Бо ВЕДЫ пазбаўляюць ад рабства”.

7.Сьвядомы беларус павінен фіксаваць ( ствараць базу дадзеных) усіх выпадкаў парушэньня Правоў Чалавека і законаў РБ праз лукашыстаў.

А таму

РАШУЧАСЬЦЬ таксама неабходна.

ХОЧАМ ?! МОЖАМ ?! а тады і ПЕРАМОЖАМ !

*** “давер’’. Вельмі часта можна пачуць:”*А я никому не веру*». Гэта хлусьня, бо заўсёды ёсьць чалавек, якому ты верыш. А гаворaць так,таму, што “сацыяльнае гультайства” .Трэба паглядзець на людзей і падумаць:

”А што ён зрабіў карыснага?”.Тады і знойдзеш таго, каму можна верыць.

**Чаму мы маем тоя , што маем?**

Успомнім асноўныя падзеі, калі “мы” маглі..

1992 год

1994 год ………………………………

1995 год. Кіраўніцтву БНФ забракла розуму.

1996г. Мы змарнавалі шанец, бо не знайшлося Лідэра, які бы заклікаў «Народ Плошчы» пад сьцены Канстытуцыйнага суду.

1999г. Мы змарнавалі шанец, бо нават міліцыя гатовая была стаць на наш бок, бо тэрмін Прэзыдэнта скончыўся. Але празьмерныя амбіцыі Зянона Пазьняка і ягоная панічная ўцечка з Беларусі, махлярства Віктара Ганчара і млявасьць фармальных лідэраў пазбавілі народ Беларусі прыходу Дэмакратыі.

2001г. Мы згубілі шанец у часе прэзыдэнцкіх выбараў праз нерашучасьць фармальных лідэраў й страх адказнасьці перад уладай – а раптам зваліцца... Чаму мы дазволілі «пакрыўджаным», былым паплечнікам дыктатара вырашаць лёс Беларусі?

А тады сапраўды грамадзяне маглі выбраць іншага й адмовіць «незаменимому». Бо як інакш разумець, пры адсутнасьці ( !!!) агітацыі за «апазыцыйнага Адзінага кандыдата», поўнай бяздзейнасьці ягонага штабу, і такі высокі працэнт падтрымкі старому наменклатуршчыку ?

А таму

1. Я ЗГОДНЫ, што за 18 год апазыцыйная дзейнасьць так і не стала эфэктыўнай. Але трэба адрозьніваць паняткі “*навучыцца*” і “ *рабіць*” , “*быць*”. Напрыклад, мы ўсе ў школе вучым гэаметрыю, але не ўсе могуць выкарыстаць гэтыя веды ў жыцьці, вылічыць ( па формуле ) адлегласьць.

2. Вельмі шмат актывістаў апазыцыі (старых і маладых) вучылася на розных семінарах за мяжой і НАВУЧЫЛІСЯ як

можна змагацца.

3.  Але,кожны чалавек,беларус асабліва, хоча мець як меней клопату. А калі скарыстацца з “навучэньня” , то будзе вялікі клопат, то бок – “за кратамі”. Вось нават “ маўклівых” асудзілі. Каму ГЭТА падабаецца?

4.  Прычына неэфектыўнай апазыцыі палягае ў СТРАХУ ,адпаведна, адсутнасьці **самаахвярнасьці,** адсутнасьці **салідарнасьці** з боку насельнікаў Беларусі . ( Пад час польскага змаганьня нават артысты проста прыносілі грошы тым людзям, якія змагаліся , Змагарам. Рэальная салідарнасьць ,узаемная дапамога , людзей была вялізарная).

5.Ды, і з боку Эўропы ,салідарнай дапамогі НЯМА, так як гэта была ў часы польскай “Салідарнасьці”

6.Канешне і праблема амбіцый “лідэраў”. Так і засталося. Праблемы “БНР” 1918-га, сучасныя фармальныя лідэры не зразумелі

7. Я вельмі крытычна стаўлюся да фармальных лідэраў апазыцыі”, то бок, я лічу, што яны неэфектыўныя змагары.

Праблема ў тым, што рэальных ЗМАГАРОЎ была і ёсьць вельмі МАЛА !

Але, перадусім, павінна быць ім дапамога (салідарнасьць) тых, хто лічыць сябе дэмакратамі, “апазыціянерамі”.

“ «**Абы не была вайны”**

Якое «самооправдание», апраўданьне бяздзейнасьці, апраўданьне адмовы бараніць свае Правы засталося ў насельнікаў Беларусі.

1)“*Абы не было войны”* Але сёньня, у XXI стагоддзі, панятак “вайна” маё ўжо іншы сэнс. Вайна ў Беларусі ідзе і, нават мае чалавечыя ахвяры. "*Иногда, решая идти на какое-то важное в своей жизни дело, мы бросаем фразу: «Ну и что будет ? В самом худшем*

*случае - не убьют ведь». В Беларуси этот худший случай наступил: теперь буквально каждый белорус может попасть в какой-нибудь государственный эксперимент и по факту будет объявлен врагом”,* - вось так вызначыла “вайну” грамадзкая дзеячка з Віцебску. Я з ёй згодны. І вось нядаўна пракуратура дыктатара абвесьціла , што грамадзянін абразіў прэзыдэнта ў стане непрытомнасьці. Ці гэта далёка ад сталінскіх часоў, калі за “**абразьлівыя сны**” высылалі людзей да “ГУЛАГУ”? ( зараз чарговая ахвяра – “ *шпион*; чэрвень 2013) А можа і тоя , што ў нас дрэнная ахова здароўя , адсутнасьць дзяржаўнага “змаганьня” з радыёнуклідамі - гэта таксама “вайна”. Бо ахвяры ёсьць, толькі яны “ціхія” бяз выбухаў і стрэлаў.

2) “*Абы не уволили с работы*”.“Кантракт” дзейнічае даўно і вельмі часта, гэтая прымусовая “дамова” выкарыстоўваецца супраць апазыцыянераў. У Польшчы інтэлігэнцыя стварыла “KOR”, камітэты абароны работнікаў. Так, у нас незалежныя прафсаюзы спрабуюць выконваць гэтую ролю, але нешта слаба, то трэба ім дапамагчы.

Ведаем, што дыктатар Лукашенко стварыў яшчэ і сапраўднае прыгоннага права, так, зрабіў толькі для адной (пакуль) часткі прамысловасьці. А можа яму спадабаецца і зробіць тоя на ўсіх дзяржаўных прадпрыемствах?
Працоўная эміграцыя беларусаў у Расею павялічваецца …

3) “*У нас стабильность*” Паступова, месяц за месяцам гэтая стабільнасьць робіць з Беларусі турму, стабільнасьць за кратамі, “порядок за решеткой” , у прямым сэнсэ. Але ёсьць і такія насельнікі Беларусі, якія ( пры “чарка” і скурка ад “шкваркі”) згодны жыць у турме (вязьніце).

Што “народная мудрость” наступнага ,прапануе для балотнага жыцьця?

“Сініцу” мы маем, аб жураве не марым, а “сініца” можа хутка ператварыцца ў “калібрі”.(вельмі малую птушачку).

**Тунельны эфект у палітыцы (2006 год)**

Апошнім часам на Беларусі назіраецца рост палітычных паганак, што для сучаснай Беларусі з”яўляецца амаль традыцыяй. Магчыма гэта зьвязана і з тым , што ў нас захавалася савецкае “КГБ”, і адпаведна працуюць па тых інструкцыях.
Але самы цікавы бок гэтай справы з’яўляецца тоя , што “сейбітамі “ гэтых “грыбоў ” есьць тыя, хто лічыць сябе знаўцамі беларускай гісторыі. Відавочна паўстае адпаведнае пытаньне :Ці ведаюць яны ўвогуле сэнс палітыкі ? Ці трэба вучыцца на памылках мінулага ?
Бо неяк цяжка ўявіць, што ўсе яны агенты “КГБ”.
А што нашая гісторыя ? Праз хуткі час сьвядомыя беларусы будуць ізноў сьвяткаваць гадавіну БНР .Дзяржава, якая так і не стала дзяржавай . Але чаму ?
Галоўнай прычынай усіх бедаў беларусаў-ліцвінаў ёсьць адсутнасьць салідарнасьці, перавага ,не, нават, шаленства , асабістых інтэрасаў, амбіцый, над інтэрэсасьмі Нацыіі. Што , найбольш дзіўна, нежаданьне і страх перад вырашэньнем агульных праблемаў пераважае нават перад разуменьнем карыснасьці асабістай з пункту гледжаньня разумнага эгаізму.
Вось і зараз , калі з”явілася рэальная магчымасьць перамогі аб’яднаных дэмакратычных сілаў над дыктатурай, ёсьць добры пачатак – “5+”, зноў цісьне “гістарычная хвароба “.
Найбольш здзіўляе тоя, што насуперак логікі падзей і цвярозаму аналізу сітуацыі, параўнаньне з мінулым, некаторыя “дэмакратычныя лідэры “, ( некаторыя нават

маюць навуковыя дэсэртацыі) не разумеюць сітуацыю. Яны не могуць ( ці ня хочуць ) уцяміць сэнс простага закону : супраць сілы можа быць толькі адэкватная сіла .
Паўстае наступнае пытаньне ; ці то шаленства амбіцый, ці то выкананьне чарговай “спецоперации» ?
Можна як заўгодна крытыкаваць Анатолія Лябедзка, успамінаць ягонае мінулае, але ў адным ён мае дакладна рацыю: супраць існуючай улады спачатку патрэбна выставіць агульную аб’яднаную **сілу.**
Як будзе выглядаць гэтая сіла, колькі ў яе будзе галоў, колькі тулаваў на пачатку - усе гэта не істотна.У патрэбны палітычны момант гэта будзе беларускі асілак, з адной галавой, адным тулавам і адным “чарадзейным мечам “.( як “трансформер”)
Назіральнікі, народ, павінны пагадзіцца і з тым, што спачатку яны не змогуць “разгледзіць твар “ гэтага асілка , за рыцарскімі латамі. Але на пэўным этапе рыцар пакажа хустачку “князёўны”.
Сёньня, “асілак”, толькі яшчэ набірае сілы , яшчэ не скончыўся працэс аб”яднаньня дэмакратычных сілаў. Вядома, што Беларусьсю кіруе дыктатар, сіла якая не мае аніякіх маральных нормаў і не прытрымліваецца нават уласных законаў. Таму працэс падрыхтоўкі “асілка” вельмі складаны.
Вядома, што на пэўных этапах гісторыя лёзунг “Хто не з намі - той супраць нас “ бывае патрэбны, зараз такі момант. Адсюль відавочна , што з”яўленьне розных “матрешечных “ кааліцый, ці створаных на амбіцыях асобаў, проста шкодныя для лёсу Беларусі.
Сілу перамагае толькі большая сіла. (ці вірус)
Яшчэ на жаль ёсьць і другая небясьпека, Беларусь яшчэ застаецца вельмі блізка да пашчы імперскай суседкі і ад гэтай бяды можа выратаваць толькі аб’яднаная сіла беларусаў.
У нашай апазыцыі есьць таксама і праблема “былых наменклатуршчыкаў “, якія раптоўна сталі апазыцыянерамі. Што дзіўна, іх вельмі любяць “раскручивать “ незалежныя газеты...

Але дзе “оппозиционная Винникова “ ? Дзе былы “аб’яднаны кандыдат ” ?
Усе гэтыя “бывшие “ (і іхнія бацькі) 70 гадоў труцілі галовы простаму люду, а зараз зноў жадаюць ускараскацца на галоў народа, толькі пад іншай маскай. Хай яны адпрацоўваюць цяжка, сваю шкоду і дзякуюць Богу , што беларускі народ іх судзіць ня будзе. Талерантны.
Няпраўда, што беларускі народ любіць наменклатуршчыкаў, начальнікаў. Глупства ! Ён іх баіцца, як чорта . Народ сваю любоў, ці каханьне, паказаў у 1994 годзе.
Зразумела, што Прырода і жыцьцё вельмі складаныя па сваёй структуры, але адначасова і простыя, бо падпарадкоўваюцца аднолькавым законам.
У атамнай фізыцы існуе такая з’ява як тунэльны эфект. Сутнасьць : магчыма, нават немагчымае.
Тунельны эфект можа быць і ў палітыцы, што паказалі падзеі ў Грузіі.
Чаму ў Беларусі гісторыя павінна пачынацца зноў ад 1987 года ? Чаму спачатку “неабходна “ абраць прэзыдэнта – намеклатуршчыка ? Але ці есьць у беларусаў нацыянальныя наменклатуршчыкі ? Іх няма !
Няўжо спадарства так хутка забылася на агітацыю за розныя сьмяротна небясьпечныя рэферэндумы
“За Союз з Россией “ товарища Ярошука ? Ці маўклівую згоду на “аб’яднаньне “ Вайтовіча ? (“За расійскі рубль для Беларусі” Статкевіча.)
Грамадзтва Беларусі непадобна нават на ўкраінскае грамадзтва -- значна больш зрусіфікавана.
З другога боку, калі кінем позірк на Каўказ, то можам пераканацца, што можна ўладкаваць свае жыцьце і без наменклатурнага дзядзкі, ці “сынка “. Прэзыдэнт Грузіі дае якраз добрае тлумачэньне тунельнага эфэкту ў палітыцы. Бяз падрабязнасьцей, відавочна, што самы малады прэзыдэнт на тэрыторыі былога СССР не ёсьць наменклатуршчык. Дык чаму Грузія, якая не з”яўляецца суседкай Эўрапейскага зьвязу, народ, які цяжка назваць

гістарычна эўрапейскім, раптоўна сталі бліжэй да Эўропы, чым мы беларусы-ліцвіны ?
Сёньня ўсе мы, беларусы, павінны паверыць у песымізм нашага славутага Васіля Быкаваі ,. Што *ў Нацыі часу не засталося*...
Трэба спыніць гульні ў “дэмакратычныя аб”яднаньні”, узьняць покліч „Пагоні” Максіма Багдановіча ратаваць Беларусь і гучна сказаць “НЕ!” выканаўцам “спецопераций» .
Таму сёньня актуальны , толькі адзіны лёзунг ” *Хто не з намі – той супраць Беларусі”.*
На Беларусі цмока можа перамагчы толькі адзін рыцар , які мае на гербе “5+”.Стаць часткамі ягонага цела, ягонай зброі, дадаць сваю сілу да ягонай сілы --- гэта абавязак кожнага беларуса. І толькі тады, калі ўзгадаваны намі рыцар будзе моцна трымаць меч у сваіх руках і трывала стаяць на нагах, толькі тады Ён зможа паказаць свой твар ворагу і “князёўне”. І гэта будзе твар наступнага прэзыдэнта Беларусі .
Але перамога Беларусі залежыць ад таго , што пераможа – масавы страх ( але людзей не забіваюць і да ” гулагаў” не высылаюць), амбіцыі лідэраў і “спецоперации» , ці розум, салідарнасьць і адказнасьць за будучыню Беларусі ., будучыню Нацыі.
Тунельны эфект магчымы і для Беларусі,але спачатку трэба збудаваць гэты ”тунель “ цяжкай штодзённай працай, трэба забыцца на страх, трэба штодзённа тлумачыць сябе і іншым, што за намі сіла.
Што мы аб”яднаныя, абавязкова пераможам. Спачатку перамога над агульным ворагам, а потым будзем вышукваць недарэчнасьці і “блох” у сваіх саюзьніках.
***Разам – мы сіла, паасобку – пясок.***

## Тым ХТО супраць.

Ёсьць два гатункі насельнікаў Беларусі: людзі, якія думаюць і насельнікі, якія шукаюць чым напхаць страўнік.

З першымі можна спрачацца, у нечым пераконваць, ці пагаджацца. З другімі дыялёгу ня будзе. У пікетах я іх наслухаўся, бо з вуліцы іх не пагоніш. Галоўнае, яны выкінуць на цябе, як памыі, сваю лаянку, а маі аргументы ( апанента) слухаць не жадаюць - ужо зьбеглі. Дык вось, гэты “простой народ” можа нешта зразумець ТОЛЬКІ праз санкцыі, праз галодны страўнік.. Мая Беларусь моцна хворая, бо мае ракавую пухліну дыктатуры, якая сама “не рассосётся”.Патрэбна тэрміновая аперацыя!

Што будзе , калі нічога не рабіць??? Беларусь ператворыцца ў мадэль Паўночнай Карэі з кітайскімі ўплывамі , эканоміку Беларусі апануе расійскі крымінальны бізнес, які будзе даваць “простому народу” грошы толькі на хлеб з “чарнілам” На Беларусі паўстануць (ужо ёсьць, пестыцыды) экалягічнашкодныя прадпрыемствы, які будуць рабіць прадукцыю для Расіі і Эўропы. Пачнецца масавы вываз сьмецьця і нават атамных адкідаў з Эўропы ў Беларусь. *Расійскім бізнесменам -- грошы, а беларусам- хваробы.*

Беларусы паціху паміраюць, праз 50 год беларусы зьнікнуць фізічна, у нашу Беларусь прыцягнуцца расійскія мусульмане, потым кітайцы. Усе --- Беларусь зьнікне канчаткрва. Падрабязьней можна прачытаць на "http://www.nashaziamlia.org , http://grycuk.livejournal.com

Нават жывёлы клапоцяцца аб сваіх дзетках, а наш “простой народ” не хоча думаць і клапаціцца аб будучыні сваіх дзяцей і ўнукаў Бо клапаціцца – гэта не толькі накарміць.

Чалавек – НЕ расьліна і не звычайная жывёла! Ці ў прадстаўнікоў “простого народа “ і “народного президента»

есьць іншы “рецепт Жизни» акрамя як быць паразітам на целе Расіі ?

**Асноўныя праблемы: быць Беларусі , ці не быць?**

1) ГЛЯБАЛІЗАЦЫЯ

2) ДЭНАЦЫЯНАЛІЗАЦЫЯ і ДЭПАПУЛЯЦЫЯ Беларусі

3) ДЭСУВЭРЭНІЗАЦЫЯ Беларусі

Менавіта у гэтых межах мы павінны шукаць адказ на галоўнае пытаньне. Таксама мы павінны памятаць, што (1) – працэс НЕЗВАРОТНЫ. (2) і (3)—мы можам спыніць, але час для гэтага вельмі абмежаваны. Калі зараз не пачаць рэальная змаганьне, то праз 10 гадоў будзе позна. Нехта скажа, а вось Чэхі і Славакі, зараз ,можа, шатляндцы…

12 год таму я вынайшаў новы закон: “ПАСКАРЭНЬНЕ ЗВАРОТУ ІНФАРМАЦЫІ ПАСКАРАЕ ГРАМАДЗКІЯ ПРАЦЭСЫ” . Арабскія рэвалюцыі пацвердзілі маю выснову. Але паскараюцца ЎСЕ працэсы ў жыцці!

**Для новай Беларусі**

Вялікі дзякуй, спадару Эдварду Лукасу, міжнароднаму рэдактару часопіса The Economist, за шчырую і дзейную цікавасць да Беларусі.

Але на ягоныя сумненьня я прапаную:

*1\ “”Шчодрая стабілізацыйная падтрымка з боку зьнешніх крэдытораў нясе ў сабе рызыку таго, што безадказны ўрад прызвычаіцца да дармавых грошай.””* **--- грамадзкі і апазыцыйны кантроль выдаткаў, усё ў Інтэрнет.** (і прыклад Польшчы)

*2\””Жорсткія зьнешнія абмежаваньні азначаюць, што эканамічныя цяжкасьці будуць перашкаджаць рэформам і дэмаралізоўваць рэфарматараў””*--- **тлумачальная праца для грамадзян праз НУА , ім гранты на гэта, КГСы.**

*3\. “”Хуткая прыватызацыя разбурае ўладу дзяржаўных бюракратаў. Але яна ж перадае права валоданьня ўласнасьцю авантурыстам і розным сябрам і знаёмым людзей рэжыму.””*- **празрыстасьць праз інтэрнет, грамадзкі кантроль, абмяркаваньне ( інтэрнэт-рэферэндум**)

*4\ “”Наўпроставыя замежныя інвэстыцыі прыносяць грошы і тэхналёгіі. Але яны ж ствараюць адчуваньне крыўды: людзі пачынаюць адчуваць, што дыямэнты ў кароне іх краіны былі прададзеныя занадта хутка і занадта танна.””* –**ПРАЗРЫСТАСЬЦЬ і грамадзская абмяркаваньне розных варыянтаў, тлумачальная праца, значная частка грошаў ад прыватызацыі на пенсіі.**

……………………………………………………………………

АЛЕ ,сёньняшнія дэмакраты, якія ХОЧУЦЬ узяць уладу, павінны быць маральнымі—гэта перадусім!

Яны павінны працаваць з тымі, усімі, ХТО хоча шчыра працаваць для Беларусі, і разумець, што народ няўдзячны, то бок, дэмакрат, Змагар, павінен быць гатовым на ахвяру.

Для чаго, для каго?

*Для Беларусі сувэрэннай, незалежнай, дэмакратычнай, а таму , і багатай.*

**Бясплатная віза для беларусаў. Visa-free. Чаму?**

Тоя, што эўрапейскія палітыкі часта бываюць вельмі цынічнымі – гэта факт.

“*Эўразьвяз чакае адказу ад беларускіх уладаў на запрашэньне пачаць перамовы, каб спрасьціць візавы рэжым, заявіла прадстаўніца Эўразьвязу ў Менску Майра Мора. ЭЗ па-ранейшаму гатовы прыступіць да перамоваў пра падпісаньне пагадненьняў пра спрашчэньне візавага рэжыму і* ***рэадмісіі,*** *што спрыяла б разьвіцьцю кантактаў паміж людзьмі і прыносіла карысьць грамадзтву Беларусі ў цэлым», —* заявіла Мора .” *«Усё, што для гэтага трэба, —* ***гэта адказ уладаў*** *Беларусі на запрашэньне Камісіі пачаць перамовы, накіраванае ў чэрвені 2011 году*», — дадала яна.”\радыё “Свабода”\ Таксама такім прыкладам можа быць і заява чэшскага палітыка, ці то графа, ці то князя.. У размове з Івонкай Сурвіла, гэты палітык заявіў, што беларускі бок не хоча размаўляць на тэму візаў, бо не хоча падпісаць дамову ад рэадмісіі (?!)…. Ну цырк – ды годзе. Нібы сябра бізнесмэна ад палітыкі спадара Міха-ча, не ведае, што ў Беларусі пануе дыктатура ( можа таму , што “сябра”). А дыктатар Александр Лукашенко лічыць , што глыток вольнага паветра беларусу зашкодзіць, бо пачнуць беларусы думаць. Па той жа прычыне дыктатар не хоча вольнага “памежнага руху” з Польшчай.. Дык дзе тут “собака зарыта” ? На маю думку ўсё вельмі проста --- няма моцнага лабізму беларусаў у справе візаў. Эўрапейскім палітыкам Беларусь нецікавая, і беларускія праблемы для іх на 100-м месцы. Але , калі ёсьць “хваля”, то яна можа вынесьці на паверхню розныя справы…

Вось маем прыклад: Францыя і Арменія. Ці ёсьць дзяржаўныя ( ці геапалітычныя) інтэрэсы Францыі ў Арменіі? Няма! Але, на гвалт, “новенькі” прэзыдэнт Францыі, амаль што першы візіт робіць у Арменію! Францыя абяцае армянам значнае палягчэньне ў атрыманьні шангэнскіх візаў, і, у хуткім часе, нават безьвізавы рэжым з ЭЗ! Чаму армяне сталі такімі любімымі для Францыі, адпаведна і для ЭЗ ? Адказ просты: вельмі моцны лабізм армянскай дыяспары ў Францыі. Такі моцны, што Францыя (і ЭЗ) не баіцца мільёна армянскіх

эканамічных эмігрантаў , якія “рванут” у Эўропу. Бо так будзе. Вось дадзеныя.””” **15%** *дарослага насельніцтва з тэрыторыі былога Савецкага Саюза хочуць эміграваць* ***у іншую краіну назаўсёды****. Такія вынікі апытаньня інстытуту Гэлапа ( 2010 - 2012 гады) на тэрыторыі былых савецкіх рэспублік (за выключэньнем краінаў Прыбалтыкі).*

***Гэтае жаданьне вагаецца ў залежнасьці ад краінаў — 40% у Арменіі.”””***

То бок, амаль палова насельніцтва Арменіі хоча сёньня выехаць на жыхарства ў Эўропу, і Францыю. ЭЗ гэта не палохае! А беларусы? *У Беларусі — 17% гатовыя да эміграцыі, але (!!! ) не абавязкова ў ЭЗ ! Я лічу, што большасьць з іх думае пра Расею. Армяне, дакладна, хочуць іміграваць толькі ў ЭЗ! Відавочна, што беларусы не “рванут” у Эўропу. Больш таго, калі паглядзець дадзеныя ААН па ўцекачам,то за ўсе гады (нават пасьля 19.12.2010) у дыяграмах ААН беларусаў не знайсьці ( бо мала ўцекачоў) але мы знойдзем там тых жа армян і нават грузінаў.*

**Рэадмісія.** Ці сапраўды гэта праблема і можа быць праблемай? Сёньня няма дамовы аб рэадмісіі, а таму Беларусь не абавязана прыймаць мігрантаў, якія “прорвалися в Европу» праз тэрыторыю Беларусі. Дык як ЭЗ , разваліўся ад націску “орд мигрантов с Востока» ? Больш таго, сёньня тэхнічнае сродкі дазваляюць так абсталяваць мяжу (граніцу), што і “ конік” не праскочыць. Ёсьць і іншы варыянт: даваць кожны год уладам Беларусі грошы на памежнікаў –плаціць ім за працу для ЭЗ. Рынкавы падыход: беларускія памежнікі ахоўваюць ЭЗ ад нелегальных мігрантаў, а ЭЗ плаціць ім за гэтую працу. Ды і некалькі дзесяткаў мільёнаў (нават 100) – гэта нішто ў параўнаньні з марнатраўствам мільярдаў эўра, якія ідуць невядома куды.( была нядаўна інфармацыя) аб дзейнасьці Эўракамісіі.

Высновай гэтага кароткага аналізу “візавай праблемы” ёсьць наступнае:

1) Беларусы не стварылі лабісцкага Руху па візавай праблеме
2) Эўрапейскія палітыкі паказваюць выключны цынізм адносна беларусаў
3) Фармальныя апазыцыйныя лідэры ў Беларусі не разумеюць важкасьць візавай праблемы для ачышчэньня мазгоў беларусаў, а таму гавораць і намагаюцца палепшыць візавую сітуацыю толькі для вузкіх мэтавых груповак.

І я нагадаю, тоя, што выстаўляюць як нейкае (Каго? Чаго?) дасягненьне, вялікую колькасьць выданых шангэнскіх візаў для беларусаў – гэта як дзяржаўная статыстыка….

Бяруць візы тыя ж самы людзі, то бок, невялікая колькасьць насельніцтва Беларусі. Вось таму і атрымліваецца, як у песьні:”*Каб любіць старонку нашу — трэба ў розных краях пабываць!”.*

Што рабіць? Неабходна паставіць першую задачу перад усімі дэмакратычнымі грамадзянамі БЕЛАРУСІ : пачаць дзеяньні па ціску на ЭЗ каб дамагчыся на працягу 1-го года БЯЗПЛАТНЫХ ВІЗАЎ ( не “*спрасьціць візавы рэжым*”) для грамадзянаў Беларусі. Пісаць ліст ( пішуць усе, хто ўмее пісаць , адзіны тэкст на ангельскай можна зрабіць) у Эўрапейскую Камісію і асобным палітыкам.

Усе лідэры, дэмакратычныя актывісты, якія бываюць у ЭЗ павінны гаварыць аб гэтай праблеме і іншыя дзеяньні. Пазьней я выстаўлю адрэсы.

Можам?

ХОЧАМ! МОЖАМ ! ПЕРАМОЖАМ!

Галоўнае – сапраўды хацець.

***P.S.*** *"Медведев., (Расія) адмежаваўся ад Беларусі ў справе візаў.*

*«Перамовы пра адмену візавага рэжыму з Эўразьвязам Расея вядзе ад свайго імя, а не ад імя саюзнай дзяржавы зь Беларусьсю."\\ Украина утвердила договор с ЕС об упрощении визового режима.*\\\ --- Як усе ? Дык наперад!

## ГАНДАЛЬ з ТЭРАРЫСТАМ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Абсалютна зразумела, чаму закрылі крымінальную справу супраць польскага журналіста, ( таксама і супраць Архэ) . Некаторыя ўплывовыя польскія палітыкі абяцалі "пусьціць у Эўропу" адданага паслугача дыктатара –Макея.\\\ *Я меў рацыю*, *калі пісаў гэта. Была запрашэньне Польшчы для Макея на 17-18.05 да Польшчы*\\\ Больш таго, нейкім чынам паслугачы дыктатара "угаварылі" французскіх урадоўцаў з МЗС. Апошняе вельмі дзіўна, бо Францыя ніколі не цікавілася Беларусьсю.

Што (хто) наступнае на продаж?????

Тоя, што Александр Лукашенко з'яўляецца тэрарыстам --- даўно вядома, ягоныя дзеяньня кваліфікуюцца нават юрыстамі, як дзеяньня тэрарыста. Некаторыя цывілізаваныя ( і нецывілізаваныя) краіны маюць прынцып: не гандляваць з тэрарыстамі. Я лічу гэта правільным, бо жыццё паказала, што тэрарысты атрымліваюць грошы на сваё злачынства і працягваюць сваю дзейнасьць.

У сьвеце , сёньня, найбольш яскравым прыкладам гэтага ёсьць самалійскія піраты. Ну , а ў Эўропе, гэта, канешне, Александр Лукашенко. Мы памятаем гандаль ЭЗ за свабоду Казуліна, але толькі "сілавая акцыя" (эканамічныя

санкцыі) USA дапамаглі дыктатару хутчэй прыняць рашэньне. Зараз вось і зноў “чакаецца вызваленьне палітвязьняў”…. І вось ужо нават дробныя шаўкі з быдлячага двору дыктатара цяўкаюць :” Так, так -- гэта цалкам магчыма.”.

Так, мне шкада тых людзей, якія сёньня за кратамі. Але , гэтых, якось- такось, дыктатар вызваліць… (можа ?). Але праз некалькі месяцаў, а ў 2015 (на 100%) будуць новыя палітвязьні… Кола пракруцілася чарговы раз….

А такога “товару” у дыктатара шмат--- “свободный рынок”….

Гандаль “жывым таварам” заўсёды быў. Але гэта трэба спыніць.

**Дыялёг? Не! Гандаль.**

Ну вось кола пайшло на свой шлях, на тым жа месцы…

Кажуць—дыялёг, некаторыя нават “паўнавартасны дыялёг, шырокі”… Гэта што, яны заданьне ад “КГБ” выконваюць?

Але з кім? Дзе партнёр? Беларусь апанаваў дыктатар-тэрарыст Александр Лукашенко. “Дыялёг” з тэрарыстам не магчымы, але магчымы гандаль… То чаму не гаварыць эўрапейскім палітыкам, так, мы разумеем, што на “аўкцыён” дыктатар выставіў 10-12 палітвязьняў і патрабуе за іх вялікія грошы на падтрымку сваёй дыктатуры… Так, напрыклад, Захад заплаціў—7-10 чалавек дыктатар вызваліў.. Але, у 2014 ці ў 2015 (дакладна) возьме новых закладнікаў….

Кола круціцца --- і ўсё пры працы…. А некаторыя апазыцыянеры нават па эўропам шастаюць як па сваім агародзе. А “”народ”” ? Народу --- ВІЗА.

А да натуральнай сьмерці дыктатара яшчэ далёка.

**Кастрычнік здрады (2012)**

Ну вось і пачулі. Так, мінулы месяц паказаў, што лёс беларускіх дэмакратаў нікога не хвалюе, адпаведна і , не цікава , ані Захаду, ані старому ”змагару”: будзе Дэмакратыя на Беларусі, ці ня будзе.

ЭЗ ( EU) не вырашыўся на эканамічныя санкцыі супраць дыктатуры.ЭЗ ( EU) не прыняў рашэньня аб новых візавых забаронах для паслугачоў дыктатара Лукашенко….

Польскія ўлады, у чарговы раз , здрадзілі беларускім дэмакратам. Згодна “працэдуры” , польскія ўлады выслалі да дыктатара Лукашенко чарговыя дакументы аб фінансавай дапамозе беларускім дэмакратам (**і парушылі ўласны Закон**), а таксама адкрылі інфармацыю аб выдадзеных грантах. Ані ЗША, ані Эўропа не высылалі дакументы фінансавай дапамогі актывістам “Салідарнасьці” у Польшчу.

Выснова: гістарычны польскі шавінізм для беларусаў жыве і сёньня.

http://www.osce.org/ru/odihr/94675

Намі , беларусамі, гандлююць. І гэта ўжо ня толькі здрада. Але… Мы, бадай, дазваляем УСЁ гэта !? А дыктатар Лукашэнка і ягоныя паслугачы сьмяюцца , яны задаволены. http://www.osce.org/ru/odihr/94440

І апошні kick, спадзяюся, што , не “апошні цвік у труну” беларускай апазыцыі ўвагнаў стары нацыяналіст, які сам жыве выключна на грошы Захаду (USA), эмігрант ад 1996г., заснавальнік БНФ, спадар ЗП. Апошні, фатограф і гісторык тэатру, ( быў і палітыкам) не знайшоў у сваім “слоўніку” іншых акрысьленьняў для ў**сіх беларускіх апазыцыянераў**, якіх тысячы, акрамя вызначэньня

“вікаўская апазыцыя”. Ну неяк можна была бы зразумець яго, калі бы ён назваў, вось гэтыя людзі, напрыклад, :Калякін, Лябедзка, Вячорка, Станкевіч,Саньнікаўі г.д. Вось гэтыя людзі і ёсьць “вікаўская апазыцыя”. А то , паставіў “клеймо” на ЎСЮ беларускую апазыцыю…Ці слушна? І якоя ён, эмігрант, спажываючы амерыканскія грошы, мае на гэта права на абразу **ўсіх** апазыцыянераў? Старыя “заслугі”?

Які ад іх эфэкт?

То можа менавіта Пазьняк сапсаваў адзіны шанец адраджэньня Беларусі ?

## Дыялог ці сон эўрапейскіх палітыкаў?

Напісаў я гэты артыкул адразу па сустрэчы "партнёраў" у Празе, але перш чым апублікаваць хацеў пабачыць нейкую рэакцыю эўрапейскага грамадзтва.

Вынік : гэтая тэма была мала цікавай для эўрапейскіх медыя (СМІ), нават зараз , пад час “выбараў”.

А таму ўжо можна сказаць, што для Эўропы гэта праект кшталту : **галоўнае працэс** , а не вынік. Была ў мяне сустрэча з некалькімі эўрапейскімі палітыкамі і я змог шчыра паразмаўляць з імі.

Чым яны тлумачаць "Дыялог" ? Я пералічу галоўныя аргументы.

*1.Ранейшая "ізаляцыя” не была пасьпяховай палітыкай*

*2.Неабходна "**пугу**" замяніць на "пернік"*

*3."Дыялог" дазволіць "пашырыць прастору”( ?!) дзейнасьці для апазыцыі"*

*4."Дыялог" дазволіць "адсунуць Беларусь ад России"*

*5."Дыялог" праз Праграму “Усходняе партнёрства”*

*уцягне Беларусь у зону рынкавых рэформаў, што створыць "базу" для дэмакратызацыі.*

Сярод палітолагаў найбольш распаўсюджана думка, што пашыраныя кантакты ( "Дыялог" ) з дыктатарскай уладай Беларусі дазволіць *эвалюцыйным* шляхам ператварыць дыктатуру ў дэмакратычную дзяржаву.

Адразу адкажу на "Аргумент гістарычны". Польскі "круглый стол" адбыўся з дазволу і па Плану Крэмля (групы Яковлева- Горбачёва) у час аб'ектыўнага распаду СССР. Але існуе (як і раней) дыктатура на Кубе і ў Паўночнай Карэе.

З другога боку, “дыялог” з дыктатарам Румыніі Чаўшэску толькі ўзмоцніў дыктатуру і “Секюрэтэ” (аналаг “КГБ”).

У Расіі , праз рынкавыя рэформы, пасьля 20 гадоў, мы назіраем рэгрэс Дэмакратыі… І шлях Путіна ў сьлед Лукашенко.

Што яшчэ ?

Эўрапейскія палітолагі таксама гавораць, што словы дыктатара Лукашенко трэба ўспрымаць як "*дипломатический язык*", то бок, ягоныя заявы -- гэта не інструкцыя для дзеяньнеў, а толькі словы каб напалохаць. Нам, беларусам, можна толькі сьмяяцца з такіх эўрапейцаў.

Адносна шляху "эвалюцыі" да Дэмакратыі ніхто з эўрапейцаў не назваў нават прыблізна час для гэтага працэсу. Некаторыя гаварылі, што Беларусь знаходзіцца на роўні Польшчы 70-х гадоў. Але ў Польшчы быў тады амаль голад, на ,Беларусі яшчэ далёка да голаду.

**Сітуацыю на Беларусі можна акрэсьліць азіяцкай прымаўкай: альбо шах памрэ, альбо ішак здохне.**

**А хто раней ? Вось у чым пытаньне!**

Неяк раней ,на адным з эўрапейскіх семінараў абмяркоўвалася парадыгма: "Дыялог" --гэта **Міт** ці Рэальнасьць?

На семінару прысутнічалі фармальныя лідэры ад БНФ і АГП. Вельмі сумна, але яны не абгрунтавалі сваю думку, што "Дыялог" з дыктатарам не магчымы, прыводзілі звычайныя факты аб парушэньнях Правоў Чалавека. Самі яны выглядалі разгублена. Эўрапейцы больш разважалі па-філязофску і займаліся славеснай эквілібрыстыкай.

Падсумаваць эўрапейскія мроі і балбатню можна словамі міністра замежных спраў **Польшчы Сікорскага: "** ***Мы рызыкнём, але мы ставім на Лукашенко"****. \\ рызыкнулі і ???*

Самае цікавае, што гэтыя словы ён сказаў, апасля размовы(аргументаў) з УСІМІ фармальнымі лідэрамі беларускай апазыцыі, а таксама ў прысутнасьці Казуліна і калабарацыяніста Мілінкевіча. Тут можна нагадаць , што лоббінг фармальных лідэраў апазыцыі ў эўрапейскіх структурах абсалютна праваліўся. Фармальныя лідэры паказалі сваю няздольнась і неэфэктыўнасьць ня толькі на "беларускім фронце" , але і на "эўрапейскім". Дарэчы,некаторыя эўрапейскія журналісты гэта падкрэсліваюць, як і палітолаг Александр Рар . ЧАГО ЯНЫ ДАСЯГНУЛІ за 16 гадоў?

Фармальныя лідэры абсалютна забыліся на Італію. А Лукашенко яшчэ ў 2003 г. сказаў, што "старшынства Італіі ў ЭЗ будзе “мостам для ўмацаваньня адносін рэспублікі з ЭЗ".Вынік --- прэмьер Берлусконі, на другім канцу "моста" , запрасіў у Рым і сустрэўся з апошнім дыктатарам Эўропы,т.Лукашенко. Беларускі дучэ, зацікавіў

італьянскага авантурыста , які не стаў патрабаваць ад "дучэ" якіх-кольвек рэформаў.

Для Італіі, дучэ - гэта нармальна.

Што далей? Хто, чарговы на пацісканьне бруднай рукі апошняму дыктатару, злачынцу Александру Лукашенко ? Так , была Грыбаўскайтэ….Хто яшчэ ?

***Ці можна знайсьці моцныя аргументы для эўрапейскіх палітыкаў каб іх пераканаць, ці , нават, напачатак, прымусіць цвяроза разважаць, з улікам Гісторыі, што дыялог з дыктатарам не прыводзіць да дэмакратызацыі краіны*.**

Алё тут ёсьць іншая праблема: эўрапейцы зараз не гатовы слухаць нас, беларусаў. Больш таго, яны ўжо абсалютна не жадаюць слухаць збанкрутаваных лідэраў апазыцыі. Чаму? Адносна "апазыцыі" -- зразумела. Але трэба ўлічаць і тоя, што эўрапейцы напалоханы Крызысам, ім вельмі ня хочацца, нават,на дробязь, пагоршыць сваё жыццё, нешта ахвяраваць на Салідарнасьць, эўрапейскія Каштоўнасьці . Зараз ёсьць цынічная суперпрагматычная палітыка, без стратэгіі на будучыню ў Эўропе, усе тлумачаць проста -- Крызыс. А таму гульня "Дыялёг" ім вельмі выгодна, бо хавае амаральныя дзеяньня фармальнымі дэклярацыямі.

Але я маю сталёвы аргумент, адказ самага дыктатара, што не ёсьць дыпляматычнай гульнёй. Гэта сказаў Александр Лукашенко 23 красавіка : " ***У нас политической либерализации предостаточно", "ползучей контрреволюции мы не допустим".***

Якія аргументы яшчэ трэба?

Але эўрапейскія палітыкі гэтых слоў "не пачулі"!

А таму я прапаную ЎСІМ свядомым беларусам-патрыётам

пачаць адукацыйную працу сярод эўрапецаў. Мы павінны растлумачыць ім ШТО гэта за дыктатура ў Беларусі і чаму Лукашенко добраахвотна ніколі не "дэмакратызуецца" і не аддасьць уладу.

Фармальныя лідэры правалілі "эўрапейскую палітыку". Але мы, усе дэмакраты, павінны быць эфектыўнымі, бо праз "крок" -- Паўночная Карэя" на Беларусі,з кітайскімі варыяцыямі.

А таму я прапаную ЎСІМ свядомым беларусам-патрыётам пачаць адукацыйную працу сярод і нашага насельніцтва. Бо адукацыя эфэктыўна, калі даем ФАКТЫ, але нават у выступах" кандыдатаў" ёсьць акрэсленьне рэжыму, але (амаль) няма фактаў, якія даводзяць злачынасьць дыктатуры Лукашенко для Беларусі і большасьці насельніцтва.

Неабходны (як паветра) таксама скаардынаваны лоббінг "беларускай справы" у Эўропе, але бяз мілінкевічаў і фармальных лідэраў.

*Яднаймся ! І працуем на адукацыю эўрапецаў, а таксама на адукацыю ўласнага народу.*

## «Диалог» як падстава для чарговага падману і самападману некаторых псеўдапалітыкаў.

І вось сабакі дыктатара Лукашэнка збрахалі. Розныя там гігіны і К$^{o}$ растлумачылі, ШТО дыктатар "прапанаваў". Ці не сорамна стала дылетантам ад палітыкі , перадусім паважанаму **паэту** Някляеву? Адносна сексота Левковіча гаварыць няма чаго - усеагульная ганьба яму!

Але, так абрыдла мне бачыць, за 20 гадоў, як новыя людзі ( старыя і маладыя) прыходзяць у апазыцыю і пачынаюць хаду, у кола, ад пачатку. Цыкл паўтараецца, і так 17 гадоў, што вельмі выгодна для дыктатара.

Больш таго, я катэгарычна супраць паэтаў і музыкантаў у палітыцы. Яны ня здольныя разумець сітуацыю, бо ўвесь час іхнія думкі за воблакамі.

Гуманітарыі, увогуле, бяз вельмі працяглай падтрыхтоўкі і “практыкі,” таксама не прыдатны да палітыкі, бо яны ня здольны на якасны аналіз. Нельга параўноўваць з Вацлавам Гавэлам! Ягоная роля ,перадусім, была роля маральнага аўтарытэту, а не Ўлады, улады ён не меў. Наступнае. Чэхі і славакі не паспелі ператварыцца ў “советского человека!”, як то ёсьць з беларусамі. А таму Некляеў ужо паказаў сваю няздольнасьць быць палітыкам, што заканамерна.

Кожная справа, павінна ўлічваць максімальную колькасьць існуючых праблем і ўмовы існаваньня гэтых праблем.

Адпаведна.

Я заклікаю ўсіх, маладых і старых, які лічаць , ці хочуць быць лідэрамі , перадусім адказаць на гэтыя пытаньні!

***А ))) Дзе ? КАЛІ? ЗА АПОШНІЯ 30 год грамадзтва (апазыцыя) змаглі дамовіцца (ДЫЯЛОГ) з дыктатарам?*** ( Лукашенко – гэта Кадаффі!)

**Я ведаю толькі прыклад Ярузельскага , у Польшчы. Але ён( 1989) быў ПАЛЯКАМ-ПАТРЫЁТАМ і КЛАПАЦІЎСЯ АБ БУДУЧЫНІ ПОЛЬСКАЙ ПОЛЬШЧЫ.**

***Ці ёсьць Лукашенко БЕЛАРУСАМ , ці КЛАПОЦІЦЦА ЁН АБ БУДУЧЫНІ БЕЛАРУСКАЙ БЕЛАРУСІ? Ён думае выключна толькі пра сваё жыццё-ўладу і плеваць яму на Беларус. ЁН ЗГВАЛЦІЎ і ГВАЛЦІЦЬ БЕЛАРУСЬ.***

***В))) ШТО можна была зрабіць за часы Сталіна ( дыялог), ці нават Брежнева ?***

***С))) ЯК можна беларуская грамдзтва пазбавіць Страху ?***

***D))) Захад. Чаму Захад пагаджаецца на самападман? У псіхалёгіі ёсьць такі панятак і тлумачэньне: суб’екту свядома , ці падсвядома выгадна падманвацца. Шмат каму на Захадзе самападман выгодны.***

***E))) Насельнікі Беларусі. ЯК 50-70% насельнікаў РБ ПРЫМУСІЦЬ ДУМАЦЬ і РАБІЦЬ ВЫСНОВЫ?***

***І ЯК ФАРМАЛЬНАЙ АПАЗЫЦЫІ УЗЯЦЬ ДАВЕР і СПАЧУВАНЬНЕ АД 70% насельнікаў РБ?***

На ўсе гэтыя пытаньні я, канешне , ведаю адказы.(глядзіце іншыя артыкулы) А вы?

P.S. Зразумела, што насельнікаў Беларусі, у большасці, задавальняе нават не грошы ў рукі, а АБЯЦАНЬНЕ грошаў…..

Дык такіх можна падманваць бясконца.

**НЕ МОЖА, ЦІ НЕ ХОЧА !?**

“”’Камісія Эўрапарлямэнту па міжнародных справах абмеркавала падыходы Эўразьвязу да Беларусі пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 2010 году. Сярод іншага дэпутаты зьвярнуліся да Эўрапейскай камісіі з прапановай ацаніць выніковасьць цяперашніх эўрапейскіх санкцыяў адносна беларускіх уладаў і — **узмацніць** іх або скасаваць, Дэпутаты ацанілі зьмены, якія адбываюцца ў Беларусі апошнім часам, і спрабавалі выпрацаваць падыходы, якія мог бы скарыстаць Эўразьвяз у гэтай сітуацыі””

Я нагадаю што такое “САНКЦЫІ EU“ -- гэта толькі ЗАБАРОНА выдачы візаў і вельмі дробныя, сапраўды, санкцыі супраць эканамічнага злачынцы і «кошелька Лукашенко» - фирм Пефтиева, які канешне , зараз свой прыватны бізнес цалкам зрабіў праз “офшор” Кіпра і

Мальты,, краін EU.

Яцэк Пратасэвіч: «*Я незадаволены палітыкай Эўразьвязу адносна Беларусі*» ЗАРАЗ !!!???Дэпутат Яцэк Пратасэвіч, кіраўнік дэлегацыі Эўрапарлямэнту па Беларусі, лічыць, што краіны-сябры Эўразьвязу раз'яднаныя ў пытаньні пасьлядоўнай палітыкі адносна Беларусі. «*На маю думку, гэтыя санкцыі дзейнічаюць ня надта добра"///* То бок і ён называе абмежаваньня "санкцыямі". Адбылася падмена паняткаў і эўрапейцы маральна задаволены – яны ж увялі санкцыі супраць дыктатара.

СМЕХ – ДЫ ГОДЗЕ! САМАПАДМАН і ПАДМАН!

Таму ж Яцэку  Пратасэвічу я прапаноўваў сустрэцца пяць гадоў таму і потым яшчэ. Але палякі лічаць сябе вельмі разумнымі, якія ўсё ведаюць. Той жа Сарыюш-Вольскі нарэшце сказаў, што хопіць "назапашваць інфармацыю аб Беларусі…" БО ДАСТАТКОВА, каб зразумець разумным., але-такі патрэбны добры аналіз.

Мая прапанова дэпутатам Эўрапарлямэнту ( яшчэ ў 2005) аб стварэньне  спецыяльнай пасады ў Эўрапейскай Камісіі – "камісар па справах Беларусі". НЯМА і ў 2012!  Бо бюракратычны механізм патрабуе "шестеренкі".

Выснова такая, што калі нават адносна  "атамнага Ірану" краіны ЭЗ ня могуць дамовіцца, то праблема Беларусі, для іх як   праблемы Марсу.

Вынік: НЕ МОЖА, ЦІ НЕ ХОЧА !?  -- канешне  НЕ ХОЧА !

**Траянскі конь для беларускай дэмакратыі**

Як разумець калабарацыянізм ?

Ці быў калабарацыянізм, напрыклад, у Францыі, у час II-ой вайны, ці толькі "реал політік" ? Але сёньняшняя Францыя асудзіла калабарацыянізм і палітыку Пэтена.

Тоя, што сёньня робіць Мілінкевіч са сваім Рухам, гэта толькі "реал політык" ці відавочны калабарацыянізм?

Я перакананы, што гэта калабарацыянізм дзеля сваіх эгаістычных інтарэсаў і "адмываньне" грантавых грошаў.

Больш таго, як "Траянскі конь" падмануў ( і знішчыў) жыхароў Троі ,так Мілінкевіч падманвае маладых апазыцыянераў і, ( ды і дэмакратычную Беларусь) у рэшце, знішчыць іх палітычна.

Адзін прыклад абсалютнага падману. Адразу апасля падпісаньня Дэкярацыі Блоку , Мілінкевіч ( былы член КПСС) заявіў, што камуністы таксама могуць далучыцца да Блоку. Але ж Сяверынец, ягоная Партыя і МФ катэгарычна супраць камуністаў!

Ранейшыя заявы Отбелівателя аб супрацоўніцтве з дыктатурай вядомыя і, марныя спадзяваньні, што маладыя пераканаюць і зменяць сутнасьць Мілінкевіча,а вось сябе яны забрудзяць на ўсё жыццё калабарацыянізмам з дыктатурай.

Так, пакуль, часова, Мілінкевіч не падтрымлівае публічна дыктатуру, але ў "европейскіх калідорах" даводзіць палітыкам, што трэба падтрымліваць Лукашенко. Сведчаньне гэтаму -- заява старшыні парламента Europe Jerzy Buzeka, пасля сустрэчы з Мілінкевічам. Я катэгарычна не згодны з панам Buzek ( ён паляк), а таму я даслаў яму ліст, дзе патлумачыў ягоную памылку і маніпуляцыю Мілінкевіча.

**Лічыць, што праз Лукашэнку можна ўмацаваць**

**незалежнасьць - гэта самападман, бо ён нават правесьці беларусізацыю Беларусі ня хоча.**

**А вось, менавіта, беларуская Беларусь -- гэта падмурак Незалежнасьці. Чаму , напрыклад, Казахстан не вельмі непакоіцца -- бо ён казахскі і надалей мацуе казахскі падмурак ! (**але Назарбаев катэгарычна супраць палітычнага саюзу).

Для мяне няма дзіва, што Александр вярнуўся ў свой нармальны стан, у якім быў да 2006, то бок "адмываньне" грантавых грошаў і атрыманьне рэнты на сваё камфортнае жыццё, без карысьці для Беларусі.

*( Я вельмі шкадую, што, менавіта, я зрабіў Мілінкевічу "дарогу ў ЭЗ, EU).*

Яшчэ адзін прыклад калабарацыянізму Мілінкевіча праз ягоную жонку.

Інна Кулей зрабіла паведамленьне на Сустрэчы АБСЕ ( 29.09 -- 9.10.2009).

Яна зрабіла моцны акцэнт на тым, што ахвяраў дыктатуры стала значна меньш і рэпрэсіі ўжо і не рэпрэсіі. Склалася ўражаньне, што гэта быў выступ прадстаўніка лукашенкаўскай дэлегацыі. То бок, можна параўнаць, раней рабаўнік забіраў усё і пакідаў гузакі і раны на целе ахвяры, а зараз забірае толькі грошы і пакідае толькі сіняκі.

Я лічу, што гэта была вельмі тэрмінова і спецыфічна падрыхтаваная інфармацыя для Эўропы , Інна так спяшалася на Сустрэчу, што забылася ўсе свае дакументы, не магла аніяк пацвердзіць сваю асобу. Я вымушаны быў пацвердзіць яе асобу (шкадую) Інны Кулей кіраўніку –арганізацыі" Сустрэчы АБСЕ", які мяне ведае амаль 10 гадоў ( я вядомы і сталы ўдзельнік сустрэч АБСЕ). Я нагадаю, што на Сустрэчы АБСЕ, прысутнічаюць прадстаўнікі 55 краін, адпаведна прысутнічаюць палітыкі ЭўраЗвязу.(ЕС ). Вось і атрымалася, што калабарацыяніст

Мілінкевіч вельмі хацеў даць "аргументы"ЕС для адмены санкцый дыктатару і ягоным хаўруснікам.

8 лістапада, у "ПА", радыё Свабода, Віктар Карніенка спрабаваў абараняць пазіцыю свайго шэфа. Больш таго , ён скарыстаўся прыёмам маніпуляцыі, калі гаварыў , што нехта ( ? ) з апазыцыі супраць "Усходняга партнёрства" і г.д. Большасьць ягоных аргументаў -- то голая дэмагогія. (Зараз Карніенка адышоў ад “шэфа”--2013).

Якія вынікі мае "Рух" ад моманту рэгістрацыіі ???!

Чаму так адбываецца , што здольныя і разумныя змагары пакідаюць шэрагі змагароў? Я лічу, што наперш вінаваты фармальныя лідэры, а таксама, і "простыя апазыцыянеры", якія не зразумелі высілкі змагароў, у тым ліку, і Віктара Карніенка.

Мы памятаем нечаканы развал СССР, таксама можа быць нечаканы заняпад дыктатуры Лукашенко..... Але калі не будзе разумных змагароў "у дзеяньні", “у баявой форме", то не будзе каму "поднять власть, которая в грязі валяется".

І знойдзецца чарговы авантурыст...... Але гэта будзе дакладна канец Беларусі.

Дык ці патрэбны нам "Траянскі конь" ? Не!

Беларусі патрэбны самаахвярныя змагары, змаганьне якіх належным чынам ацэнена , і сярод дэмакратаў ёсьць (павінна быць) сапраўдная Салідарнасьць.

## “**ИМИТАЦИЯ” , ці Падман.**

Можна таксама нагадаць, словы Крылова (басня)**:** “***А вы друзья как не садитесь – в музыканты не годитесь!»***
Я прачытаў вельмі ўважліва адказы Александра Мілінкевіча на пытаньні ў сувязі з ініцыятывай “Народны рэферэндум”. На tut.by з’явілася шмат каментароў. Мне

вельмі спадабаўся наступны : *ptk-74 (23.05.2013 14:25) писал(а):Так я не понял, в обществе огромное желание перемен или апатия? раньше перемен хотело меньше(30-50-60), теперь - 75-80% - Беларусов хотят перемен і те же 75-80% -* ***Беларусов - не хотят ничего для перемен делать, даже думать мозгами*** *о Беларуси.. как бы хотят сразу проснуться в новой лучшей Беларуси ptk-74 (23.05.2013 14:25) писал(а):Так я не понял, в обществе огромное желание перемен или апатия? ---- Апатия к переменам."*

Я ведаю Мілінкевіча даўно, больш даведаўся пра яго ў 2001 годзе. Даю тут яму "фору", будзем лічыць, што ён цікавіцца палітыкай ад 2001 года, калі прапанаваў Домаша. 2013 – 2001 = 12 . То бок, 12 год , для разумнага чалавека, былога навукоўца - фізіка, кандыдата навук, ёсьць абсалютна дастатковы тэрмін каб зразумець сацыяльныя і палітычныя працэсы ў грамадзтве і жаданьня людзей. Больш таго, ён меў уласную "прэзыдэнскую кампанію",у 2006 годзе."..*речь не будет идти о свержении диктатуры и т.п. вещах,* ***а о том, какую мы хотим страну построить***" і "*.Мы хотим, чтобы в стране началась национальная дискуссия."* І "*На "Народном референдуме" будут подниматься вопросы о том, что мы хотим изменить в нашей стране**." Там будут экономические и социальные вопросы**."*

То бок, пасля 12 гадоў "у палітыцы" Мілінкевіч і БНФ ( не ўзгадваю паэтаў) не ведаюць , што хочуць насельнікі Беларусі.

На жаль лідэр БНФ ( on-line) увогуле не адказаў на пытаньне: *Для Чаго?*

Нешта мне гэта нагадвае метафару расійскага палітыка аб *«хирурге, который 99 пациентов зарезал насмерть ,а 100-го, возможно, не зарежет*..». У палітыцы, як і для войска, павінна быць Стратэгія і тактыка., больш таго, павінна быць Праграма мінімум і Праграма максімум.

Стратэгіі на “фронце” Апазыцыі нешта не праглядаецца, а вось тактыка, відавочна, непаспяховая.Прапануецца падманная “акцыя”, бо сам спадар М. гаворыць, што “*Я тоже мало верю, что власти вдруг повернутся лицом к этому референдуму,”.*То бок , “прадстаўнікі Апазыцыі” хочуць пачаць размаўляць з людзьмі, але пачынаюць з ПАДМАНУ! І ў гэтай “акцыі” самае смешнае, будзе ўдзельнічаць “Кампанія – *Гавары праўду!”.*

Больш таго, спадар М. вельмі спадзяецца , што далучыцца да “акцыі” шмат новых людзей…. Дзіўна, што ён не задаў сам сябе пытаньне: “А для чаго ім далучацца, які сэнс?”. Каб дыктатура выкінула ў смецце сабраныя “подпісы” і “паставіла на ўлік “КГБ” актывістаў? Ён што не ведае, як у раёнах, у вёсках, паслугачы дыктатуры рэпрэсуюць “**бытавых”** актывістаў, якія змагаюцца **толькі** за лепшую дарогу, ці лямпачкі ў ліхтарах ? (Прыклад Змагара “за здароўе”, віцебскага ўрача; бюллетень"Могилевский выбор") .Такім чынам, прапанавая тактыка з’яўляецца згубнай. Я ,нават, не пытаюся якім чынам дыктатура дазволіць ( і дзе?) ім сустрэчы з людзьмі. Спадар М. нешта забыўся як праводзіліся “Народныя Сходы”. То няхай запытае, былога сябра БНФ, спадара Івашк-ча.

Можна, канешне, здзіўляцца, як былы навуковец не заўважыў супярэчнасьць у сваіх ацэнках стану насельніцтва і паўтарыў тоя некалькі разоў. Вось гэта – “*огромное желание перемен… и апатия*”.Можа гэта ўжо склерос старога чалавека ? Ці гэта насельніцтва такое , як «пациент у хирурга».

АНЕКДОТ. « *Да, батенька, у вас гангрена всей руки. Надо резать.* Пациент – А может не надо резать?. Врач – *А вы хотите умереть*? Пациент-- Нет. Но руку резать не дам». Вось тутака, якраз пасуюць словы спадара М. “*И всегда нужно задаваться вопросом:: что же нужно людям? Абсолютное большинство белорусов не хочет потрясений.*” /то бок, “на халяву”/ Бо, зразумела,

насельнікі Беларусі вельмі хочуць “стабильности» . Чарговая супярэчнасць: бо “ПЕРЕМЕНЫ” без “*потрясений”* быць ня могуць. Не будзем спрачацца: малыя ,ці вялікія “*потрясения”,*бо кожная змена сітуацыі – гэта “*потрясение”.* З другога боку, няма чаго здзіўляцца з беларусаў. Вунь грамадзяне краін ЭЗ, грэкі , гіспанцы, партугальцы таксама ня хочуць “*потрясений”,* бо яны хочуць быць паразітамі для краінаў-донараў, і бэсцяць канцалярыну Ангелу Меркель, якая патрабуе ад іх ,каб яны **жылі на заработаныя ўласнай працай грошы**, толькі. Палякі, пасля 23 год *“перемен”* і “*потрясений”* вельмі незадаволеныя, такіх каля 40%. Дык якоя “адкрыццё” хоча зрабіць былы навуковец спадар М. разам з “кампаніяй” у сацыяльнай галіне?

Высновa: Спадар Мілінкевіч паказаў прыклад чарговай дэмагогіі.

Чаму ён не заклікае ўлады да беларусізацыі БЕЛАРУСІ ?

З другога боку, калі гэтыя “сябры” сапраўды” хочуць эфэктыўна размаўляць з людзьмі, то яны павінны, у гэтых “30 гарадах” ініцыяваць стварэньне АргКамітэтаў для заснаваньня “Камітэтаў Грамадзкага Самакіраваньня”, роля і функцыі якіх “прописаны» у беларускім заканадаўстве. І падтрымка мясцовых актывістаў гэтых АргКамітэтаў з “Цэнтра” дазволіць ім пазбегнуць рэпрэсій, рабіць (і зрабіць) тоя, аб чым гаворыць спадар М., і нават больш.

Я не магу абмінуць і іншае.

Мілінкевіч закрануў, нагадаў, сваю старую страшылку. “***Беларусь будет просто на корню куплена Россией*.”**У той жа час, ён не прапанаваў “Шлях”.

Беларусь , эканоміка, пастyпова забіраецца Расіяй. “Ржавую трубу” Расія забрала і эфэктыўна выкарыстоўвае. На чарзе “МАЗ” і “нафтаперапрацоўка”. У гэтым “вектары” расійскай палітыкі ёсьць толькі адна праблема: час. Але галоўны “КГБ –ст всея России» вырашыў, па-кітайску, не

спяшацца,”*плод саспее і сам зваліцца ў наш кошык”.*

Ці падумаў спадар М. ,што перад грамадзянамі Беларусі стаіць дылема: **Альбо пагадзіцца на “*перемены”* і “*потрясения*”, і то, вельмі хуткія і балючыя. Альбо , у краіне ДЭНАЦЫЯНАЛІЗАЦЫІ, ДЭГРАДАЦЫІ, ДЭПАПУЛЯЦЫІ, праз 10-15 год усё, расійскае, як кароста, апануе цалкам Беларусь.**

Калі нехта думае, што з «приходом России» будуць **усе** жыць лепш --- марныя спадзяваньня. Расійскія бізнесмены таксама ўмеюць лічыць грошы.

Мне вельмі ня хочацца каб Беларусь апынулася ў стане біблейскага “бурыданавага асла”….

Бо я , таксама Беларус, і актыўны Патрыёт Беларусі.

**Для каго патрэбны “АДЗІНЫ” ???**

*Для “вахты” каля тэлефона Апазыцыі **?***

Вельмі ўважліва слухаў і чытаў думкі “экспертаў” і палітыкаў……

Пераважае “навіна” аб Кандыдаце на прэзыдэнта … Ізноў пераважае “мантра” – трэба Адзіны.

Я яшчэ магу зразумець “экспертаў”( тыя, якія на відавоку), якія акрамя пустых разважаньняў і пісаньнем “ старонак аналізу”, за гэтыя 16 гадоў аніякай карысьці для Дэмакратыі не паказалі.

Але як зразумець беларусаў, якія лічаць сябе“палітыкамі” ?

Яны ж відавочна ставяць колы пяпярэд каня ! Успомнім гісторыю!

1994г – З.Пазьняк быў катэгарычна супраць Адзінага, бо,

патаемна, верыў, што народ выбярэ яго. У 1994г. сапраўды ЛІЧЫЛІ галасы і сапраўды былі выбары. Ну калі яшчэ можа быць то, што, будучы Кандыдат можа выхваляцца па 2-3 гадзіны на дзяржаўным радыё і выступаць ад мікрафона “ у заднем праходзе”, ці з трыбуны парляменту, з прамой трансляцыяй ТБ, некалькі разоў на тыдзень ???

1996г.. ……………………………………………???

1999г...…………………………………………. ???

2001г.--- фармальныя лідэры апазыцыі спалохаліся, што раптам Улада зваліцца на іх і таму не маглі дамовіцца паміж сабой “што рабіць”, дарэчы як і ў 1996… І вось пакрыўджаны прэзыдэнтам, ортодаксальны камуніст, махровы наменклатуршчык хоча “пакараць” свайго вучня Лукашенко і прапануе свае паслугі вызначыць АДЗІНАГА . Тады яшчэ была надзея, што дэмакратычныя актывісты прымусяць сяброў выбарчых камісій ЛІЧЫЦЬ ГАЛАСЫ. Але перад Апазыцыяй стаяла класічная PR-задача: Асобу перагуляць Асобай. Я памятаю, як, абсалютна непалітычныя інтэлігентныя жанчыны млелі на адзін выгляд “кабеля з вусамі”. Інстынкт сексуальны гуляў у паветры. А што апазыцыя? Выстаўляе СТАРОГА наменклатуршчыка, з вельмі слабай кіраўнічкай “Штабу”, якая нават не ведала “ШТО” павінен гаварыць Кандыдат людзям! Апазыцыя дала сябе падмануць, угаварыць, што будзе ціхі “наменклатурны пераварот”, і таму трэба “іхні чалавек”, добра вядомы “Намеклатуршчык”.! У выніку апазыцыя вельмі слаба працавала на “эфект, адпаведна , і “Адзінага” вылучылі вельмі позна.

**2001 --- то быў АДЗІНЫ для НАМЕНКЛАТУРЫ**

2006г. ---- Пасля 2004г. заходнія палітыкі пачалі ўгаворваць лідэраў Апазыцыі знайсьці АДЗІНАГА , каб скарыстацца “аранжавым сцэнарам”. Я сам, на замову, пісаў аналізы –характарыстыкі на магчымых “прэтэндэнтаў”, для эўрапейскіх урадаў. Пасля доўгіх дыскусіяў і “пагрозаў” Захаду даваць “гранты” толькі пад

АДЗІНАГА, Апазіцыя пагадзілася выбраць САМАГА КАМПРАМІСНАГА АДЗІНАГА., АЛЕ НЕ ЗМАГАРА.

АЛЕ ў 2006 “ГАЛАСЫ” ужо НЕ ЛІЧЫЛІ і дэмакраты , аніяк НЕ змаглі кантраляваць падлік галасоў!

**2006**- -- **то быў АДЗІНЫ для ЗАХАДУ, для EUROPE, а потым для “ГРАНТАЎ”!**

**2008 --- ГАЛАСЫ” НЕ ЛІЧЫЛІ** і дэмакраты , аніяк **НЕ змаглі кантраляваць** падлік галасоў! ( узгадваю, бо быў “сігнал” дыктатуры, што “прапусцяць” апазыцыянераў у Палатку.)

**2010 --** “ **ГАЛАСЫ” НЕ ЛІЧЫЛІ** і дэмакраты , аніяк **НЕ змаглі кантраляваць** падлік галасоў! ”**АДЗІНага”” не была,** бо трэба была адказаць насельніцтву на пытаньне:”*А кто вместо него?*” Вось і выклалі ўвесь “тавар” на продаж. Зразумела , што была і іншая прычына: звышамбіцыі лідэраў.

Ізноў у 2015, фантасмагорыя : «выбары президента», нібы выбары **.**

“**ГАЛАСЫ” НЕ будуць ЛІЧЫЦЬ** , а дэмакраты , аніяк **НЕ здольныя кантраляваць** падлік галасоў!

ДЫК ЯКУЮ МЭТУ СТАВЯЦЬ «дыскутанты» ?

Перамагчы на «вуліцы» і «плошчах»? Але з КІМ? Народ? Ён ня будзе гатовы да такіх высілкаў. Ды і якой халеры ? «*Яшчэ хуже будет*». Дыктатар, выцягне некалькі мільярдаў даляраў са свайго асабістага Фонду , ці з Расіі, і кіне электарату напярэдадні «выбараў». Ці памятаюць, господа эксперты апытаньне “НИСЭПИ” на пачатку 2006 ды і іншыя? Апытаньне паказала, што ажно 10% гатовы былі змагацца на вуліцах! А колькі была ? Вось так і будзе.

З другога боку, Беларусь не саспее да рэвалюцыйнай сітуацыі, канешне, калі Масква не перарэжа «пупавіну».

Бо памятаем. «Вярхі ня **МОГУЦЬ**, нізы ня **ХОЧУЦЬ»**

і гвалтоўнае “збядненьне насельнікаў».

У Кыргызстане так і была. Я вельмі добра ведаю тамтэйшую сітуацыю.

То навошта нам зараз АДЗІНЫ ? ДЛЯ КАГО ???

Але найперш трэба павярнуцца да майго, аўтэнтычнага закліку: “ **ХОЧАМ**, **МОЖАМ, ПЕРАМОЖАМ** !”

Бо вунь, у Бога вераць і вераць ужо 2010 гадоў, а хто і болей…

## МОВА і Слова.

“***ХТО КАК ХОТИТ - ТОТ ТАК И ГОВОРИТ”***

У Полацку, дыктатар Беларусі, Лукашенко, сказаў, што кожны можа свабодна карыстацца той мовай, якой хоча, рускай, ці беларускай.

У 1995 г. ён таксама гаварыў “ХТО КАК ХОТИТ - ТАК И ГОВОРИТ” і зрабіў Рэферэндум па зьнішчэньню беларускай Мовы. У 2012 дыктатар Лукашенко катэгарычна заявіў, што да пытаньня “языка” – “ мы возвращаться не будем”. Чаму? Бо “ *у нас демократии столько, аж тошнит*..». Сучаснасьць паказала, што колхозник разумее толькі «колхозные примеры». Добра, даем. Ён кажа “свабодна”. То свабодна беларускай мовай у Беларусі можна карыстацца так, як карова можа “свабодна” есьці траву на выпаленым поплаве.. ЗРАЗУМЕЛА???

Так, пытаньне Мовы –не простае, нават у Кыргызстане і Казахстане, на Ўкраіне дэпутаты ВР пабіліся да крыві—“за Мову і Язык”…

А ў дадатак усяго Глябалізацыя…..

Толькі, я ўпэўнены , што Нацыя без нацыянальнае Мовы існаваць ня можа. Сучасны прыклад—шатляндцы, якія хочуць сувэрэнітэту (ад Англіі асобна) і адраджэньня сваёй Мовы.

**ШТО РАБІЦЬ?**

“*Перад неабыякавымі да лёсу сваёй краіны патрыётамі даўно стаіць пытаньне: што рабіць, як рабіць”*

Адказ на эміграцыйныя ініцыятывы.

Ёсьць 3, тры, варыянты скідваньня дыктатара:

***фізічнае знішчэньне, народная рэвалюцыя, “польскі варыянт”- дыялёг.***

Усё астатняе –гэта толькі “пражэкты” для “грантаў”. “польскі варыянт”- дыялёг – гэта ня можа быць у Беларусі. Я ўжо пісаў на гэты конт.

Давайце паглядзім, што больш верагодна. Ведаем прыклады дыктатараў. *Сталин, Гитлер, Чаушеску, Мілошевіч, Хусейн, Каддафи, Саддат… Дыктатары “братских» краін: Ислам Каримов, Гурбангулы Бердымухамедов, Ильхам Алиев, Александр Лукашенко*…

Як “скінулі” дыктатараў – мы ведаем. Вось зараз і для Саддата рыхтуецца “фізічныя знішчэньне” .Адпаведна, пытаньне: ДЗЕ і КАЛІ ( за апошнія 30 гадоў) “скінулі” дыктатара мірным шляхам ?

Для Беларусі трэба ўлічваць таксама прагнасьць расійскага імперыялізму і рэальную адсутнасьць Нацыі

беларусаў… Дарэчы , у новых “задачах КСОР”—“наведение порядка в стране участнице Договора», то бок, дыктатары: дапамогуць збройнай сілай дыктатару….

Я лічу, што калі ў ВЫКАЗВАНЬНЯХ ( і ДЗЕЯНЬНЯХ) беларускай апазіцыі (як унутры Беларусі, так і за яе межамі) НЕ будзе ПРЫНЦЫПОВАСЬЦІ і РАШУЧАСЬЦІ - ПЕРАМОГУ над цяперашняй "УЛАДАЙ" у нашай краіне дасягнуць будзе НЕМАГЧЫМА.

САЛІДАРНАСЬЦЬ,
САМААХВЯРНАСЬЦЬ, СВЯДОМАСЬЦЬ, РОЗУМ --- гэта выратавальнікі БЕЛАРУСІ.

**Яшчэ раз –“Мова”.**

У Беларусі беларуская мова паступова знішчаецца. Ці будзе гэта на карысьць Беларусі? Ці будзе гэта на карысьць насельнікам Беларусі? НЕ! НЕ БУДЗЕ”

Чарговы раз я звяртаюся да гэтай тэмы з нагоды падзей у краінах нашых былых “братоў”.

Кыргызстан. Снежань 2012. Прыняты закон аб абароне кыргызскай мовы, паводле якога будуць караць дзяржаўных дзеячоў, якія адмаўляюцца гаварыць на кыргызскай мове.

Казахстан.

Раней быў прыняты Закон*.” Знание казахского языка должны демонстрировать не только чиновники, но и жители, так как все заявления в госорганы нужно будет писать по-казахски* “ .І вось зараз наступны крок. Нурсултан Назарбаев даручыў ураду адмовіцца ад “кирилицы” і для казахскай мовы выкарыстоўваць толькі

лацініцу. Раней тоя зрабіў Узбекістан , Азербайджан. Тлумачэньне простае. Інфармацыйныя тэхнялёгіі (IT) усё больш заваёўваюць абшары чалавечага жыцця і,зразумела, што ўжываецца лацініца. Каб не апынуцца на ўзбочыне Цывілізацыі трэба прыстасоўвацца да IT.

Мы, беларусы, маем сваю «лацініцу», але і “звыклай” мовай, большасьць насельнікаў РБ ня хоча карыстацца. Чаму? Дыктатура? Рускія акупанты? Гэта так. Але ня толькі. Перадусім , гультайства беларусаў. Чаму?

Вось насельнікі Беларусі ( і мой брат з Кобрыня) любяць гаварыць “трэба жыць як УСЕ”. Але пад “УСЕ”, найчасцей разумеюць суседзяў па працы, вуліцы, горада.. Уся краіна--- то далёка , і не заўсёды “ўсе”. Я ім прапаную пашырыць гэтае ” як УСЕ” на краіны Эўропы. А таму даю прыклады звязаныя з Мовай.

Славакія. За карыстаньне неславацкай мовай у публічным месцы--- штраф!

Германія. Федэральны суд вырашыў прымусіць грамадзянку , 61 год ёй, вывучыць нямецкую мову. Яна прыехала ў Германію 30 гадоў таму з Турцыі.

Францыя. У дзяржаўных дакументах запісана*. “Французская мова з’яўляецца часткай падмурка нацыянальнага адзінства. Веданьне французскай мовы жыццёванеабходна для паспяховай інтэграцыі* .”

Францыя. За выкарыстаньне нефранцузскіх словаў у СМІ можа быць накладзены штраф.

Англія. Тут дзяржава можа даваць грошы ісламскім тэрарыстам (вядомы нядаўні прыклад), але веданьне ангельскай мовы абавязковае для ўсіх без выключэньня.

ЗША. Вядома, што ёсьць некалькі штатаў, дзе каля 90% насельніцтва карыстаюцца гіспанскай мовай, але веданьне ангельскай --- абавязковае.

Россия. 2 гады таму, жонка прэзыдэнта Медведева сказала тоя, што ў галовах мужа, Путина і іншых “кремлевцев”

“***Там где русский язык – там территория России.» .***

Бадай дастаткова прыкладаў, для людзей…

але

AND

“Швейцарский журналист спросил, как получилось, что русский язык не является официальным языком в Эстонии."А почему он должен быть им? Приведем пример: мы оккупируем вашу страну и по истечении 50 лет говорим, что вы должны сделать эстонский официальным языком. Оккупационные власти захватывают земли, депортируют сотни тысяч людей в Сибирь и присылают своих людей на эти земли. И теперь, когда мы снова независимы, язык оккупационных властей должен стать вторым государственным языком? Не задавайте мне смешных вопросов!" — сказал президент Эстонии Тоомас Хендрик Ильвес.”

І вось гэтае.

‘’’’’Уладзімір Падгол***: ”Галоўны сэнс жыцьця і існаваньня насельнікаў гэтых лякальных выспаў***\\\большасьць мястэчак Беларусі-- ВГ\\\,— ***гэта чаканьне цуду, чаканьне паляпшэньня. І яно, на маю думку, цісьне і перамагае ўсе нашы прапановы рэформаў і ўзоры рэформаў у эўрапейскіх краінах.”***

**Шатляндцы, беларуская мова і .. як усе.**

*„..усе спробы апазыцыі аб'яднацца на нацыянальных*

*падставах праваліліся.»* Гэта моладзь піша. *«Дык вось, каторы раз паўтару: ніколі ніводнай такой спробы не прадпрымалася.»*

*«Ні разу ў найноўшай гісторыі. А ў нашых заходніх і паўночных суседзяў менавіта такое аб'яднаньне дало плён. Дзеля чаго я і пішу зноў пра гэта. Людзі, гэта ж ваша культура, ваша мова, ваша краіна.”*

**Дубавец Сяргей**

Прачытаў я уважліва on-line Сяргея Дубаўца. Добрая справа думаць аб Мове і зручна гаварыць на публіку, калі ты “ у краніка”. (Мяне на этэр “свабоды” не пускаюць). Але я гавару аб этнацыдзе беларусаў 10 год на канферэнцыях АБСЕ. Такі відавочна , што паважаны вілянец (ці ўжо пражанін) Дубавец- філёзаф, які ў пазыцыі “ад Радэна” развважае “Як?”. Але ў такой пазіцыі людзей не пабачыш. Эксперт і палітык вымушаны бачыць людзей і (добра , калі можа) разумець электарат.

Прыгожую “Ідэю” кінуў філёзаф Дубавец, але мы ўжо гэта праходзілі. \\БНФ 1992// Чаму рэферэндум1995г. прайшоў так гладка для ўдалы? Ня толькі таму, што кіраўніцтва БНФ ( Пазьняк і К$^{o}$) не захацела агітаваць супраць рэферэндума. Я тут пісаў ужо на гэтую тэму. Вялікая частка грамадзтва была напалохана патрабаваньнем нацыяналіста Пазьняка беларусізацыяй.. Асабліва наменклатура, якая, з большага, русская. Я добра памятаю, як мне, дэпутату, тады , у вочы, русские чиновники (у Менску) кідалі: “ *Мы не будем говорить на вашем языке*”. …А што змянілася? Зараз горш чым у 1995. Дубавец узгадаў шатляндцаў. (15.10.2012, пагадненьне аб рэферендуме аб Незалежнасьці Шатландыі) Так, іхнія лідэры ўжо дамовіліся з урадам Англіі аб рэфэрэндуме аб Незалежнасьці ў 2014г.

Баскі , самы ваяўнічы народ Эўропы, сёньня , у сапраўдных выбарах, выбіраюць уладу..Так, Баскі ( Гіспанія) унь людзей забівалі дзеля сваёй

Незалежнасьці… , каталёнцы ( у Гіспаніі) амаль абвесьцілі Незалежнасьць… Флямандцы ня хочуць жыць у адной дзяржаве з валонцамі (Бельгія), а таму, амаль 2 гады няма ўрада Бельгіі (часовы). \\ Дарэчы, распавядалі людзі, якія працавалі ў Фляндрыі, там французскую мову ведаць ня хочуць, толькі фламандская\\ Але і Англія і Гіспанія і Бельгія ёсьць у ЭЗ. *Дык чаго ж яны хочуць гэтыя збунтаваныя этнасы (ці нацыі )* ? Усюды, тыя , хто хоча Незалежнасьці гавораць ,што яны "кормяць" другую частку краіны… Зразумела, што гэта не абсалютная праўда.. Але…

Але азіяцкія дыктатары ( былога СССР) дбаюць аб сваёй нацыянальнай мове. У Туркменістане жорсткі нацыяналізм, улада Ўзбекістану цалкам ігнаруе правы рускамоўных, якіх там яшчэ шмат. Назарбаев (Казахстан) прыняў спецыяльную Праграму казахізацыі Казахстана і, яна паступова ажыццяўляецца і нават пяройдуць на лацінскія літары.

Таджыкістан, дзе амаль палова працоўнага насельніцтва працуе ў Расіі, трымаецца таджыцкай мовы. Вось толькі кыргызы-анархісты кідаюцца з канца ў канец і ў моўнай праблеме.

Ці можна гаварыць, што большасьць беларусаў – гэта дурні? А тады як выглядаюць грэкі, якія патрабуюць ад нямецкай Меркель каб яна плаціла ім за дармовае віно і іхнія скокі, а не за працу, бо працаваць як немцы, ці нават як беларусы яны ня хочуць. А вось зараз партугальчыкі ледзь не спалілі свой Парламент, бо не хочуць "заціскаць паса"… Палякі таксама ўжо нібы блізкі да бунту, праз свае прафсаюзы…

Але беларусы адрозніваюцца ад астатніх ( от "всех") тым, што "дзякуючы" русским і палякам так і не стварылі сваю Нацыю, а жыць беларусы хочуць добра зараз, яны патрабуюць : "*Ты нам дай*!". Адкуль возьмуцца грошы, сапраўдныя, а не паперкі Попандупалы, іх не цікавіць. Не цікавіць менавіта па гэтай прычыне: няма Нацыі, няма

адзінства.

А на “каўбасе” не аб’яднаешся –гэта я бачу ўсе 22 года, якія я вымушаны быць у палітыцы. Тады што?

Прыгожая “Ідэя” філёзафа Дубавца не “ спрацуе” бо, па прыкладу Фідэля Кастро, наш нацыянальны штурмавы батальён мы не створым.

Тады што? Перадусім, неабходна цяжкая , штодня, праца з насельніцтвам усіх дэмакратаў беларускамоўных і рускоговорящих, нам неабходна пераканаць насельніцтва ( вбить в мозги) ,што далей “ТАК ЖЫЦЬ НЕЛЬГА, ( нельзя)!”

Бо ня толькі мулка сядзець на цвіку. Але і шкодна для здароўя свайго і асабліва шкодна для здароўя нашчадкаў.. А потым…

***Вось гэта.***
**Т.Меліклі, Мова як нацыянальная ідэя.**

**З дапамогай мовы.**

« Мова, якая мае дзве асноўныя задачы: быць сродкам чалавечага мысленьня і галоўным сродкам зносін людзей паміж імі.

“***З дапамогай мовы можна праводзіць захопніцкія войны , падпарадкоўваць сябе іншыя народы, змяняць грамадзтва ў патрэбным накірунку. Больш таго, тыя якія спаткалі напад, не будуць супраціўляцца, таму што, часцей за ўсё яны гэтага не адчуюць і не ўсвядомяць. Акрамя таго, усё гэта робіцца на глыбінным, схаванным роўне, што забяспечвае асабліваю эфэктыўнасьць рэалізуемых памкненьнеў.”***

Я нагадаю, што жонка прэзыдэнта Медведева (Россия) публічна абвясціла: *«Там где русский язык—там территория России»*

## *СЛОВА*

“***Калі б не свабода Слова, былі бы мы як нямыя і маўклівыя бараны, якіх вядуць на забіццё”*****-- George Washington**

“*Александр Федута является убийцей Правды , а потому, до конца своей жизни НЕ имеет морального права на публичные высказывания, более того, прямо или в замаскированном виде восхвалять диктатора Александра Лукашенко, которого, и Федута, привёл к власти. Напомню. Федута запретил публикацию доклада С.Антончика*.”, але піша хваласпевы дыктатару.

Я пісаў гэта неаднарозова, але , бадай, мала хто разумея Мову, таму напісаў на і “языке”. І я лічу, што, усе, тыя, хто маюць кантакты, і больш таго, публікуюць словы забойцы–Федуты, насамрэч ёсьць ворагамі Беларусі. “*Скажи КТО твой друг- скажу КТО ты.* “З першай “каманды” Лукашенко, толькі Лябедзка больш-меньш адрабіў сваю шкоду для Беларусі.

Нешта, хутка забыліся на амаральны ўчынак Федуты супраць хрысціянскага-дэмакрата…

Бо, менавіта, такая “памяркоўнасьць” да ворагаў і здраднікаў Беларусі губіла і, і такі, згубіць Беларусь. Жывы арганізм ратуе “імунітэт”, а не талерантнасць (памяркоўнасьць) да вірусаў (ворагаў)

Час прыйшоў скончыць з “памяркоўнасьцю” і жыць дэмакратам згодна з прынцыпамі Маралі!

## “**НИСЭПИ”і хлусня для грантаў**

Ці памятаюць, господа эксперты апытаньне “НИСЭПИ” на

пачатку 2006 ды і іншыя? Апытаньне паказала, што 10% жыхароў РБ гатовы былі змагацца на вуліцах за Дэмакратыю. Амаль столькі ж хацела пратэставаць і пад час выбараў 2010 года. Колькі была рэальна на вуліцах – мы ведаем. Можна зрабіць параўнаўчы аналіз лічбаў "НИСЭПИ" , дзе жыхары Беларусі вельмі не задаволены жыццём, палітыкай краіны, але гэта лічба не супадае з лічбай (колькасьццю жыхароў) якая сведчыць, што вінаваты "президент». Няўжо за 14-18 год (апытаньня) у Беларусі ёсьць яшчэ людзі, які не ведаюць, што ЗА ЎСЁ адказны "президент». Тым больш, ён сам гэта гаварыў. Такія ж супярэчнасьці, вельмі часта бываюць, калі "НИСЭПИ"дае лічбы адносна паяднаньня з ЭЗ, альбо з Расіяй. Журналісты з гэтай нагоды, акрэслілі такую сітуацыю як "круглы кубік". *Такім чынам "НИСЭПИ" таксама ёсьць забойцам Праўды, бо дае лічбы, якія не* адпавядаюць рэчаісьнасьці. Манаеў! Час -- «на пенсию»!

З ЖЫЦЦЯ…

## "СА", МЯСА і КУХАР

Гэта магло быць казкай, але гэта "быль". У сумную навагоднюю ноч, на 2013 год, прыходзілі ўспаміны з даўняга жыцця… Узгадалася і такая армейская гісторыя.. А было тоя , тады, калі я першы раз, на пасадзе дзяжурнага афіцэра Савецкай Арміі, мусіў сачыць за парадкам у сталоўцы і на кухні. У афіцэра ёсьць салдаты, адпаведна , я даў загад салдатам пільнаваць парадак, а таксама пільнаваць і працу кухара. Мы ж ведалі, што кухары-прапаршчыкі – то першыя злодзеі. Да 4-х гадзін раніцы, я час ад часу, правяраў "парадак", а потым загадаў салдатам быць пільнымі і, лёг спаць… Прачнуўся я на снеданьне. Усё была ў парадку… Але вось надыйшоў час абеду… І тут пачалося…. Дзе МЯСА!? "Дзе мяса?", -- пыталіся салдаты. Я паглядзеў ( бо Дзяжурны "принимает пищу» апошнім).. Сапраўды, на талерках у салдат не было

мяса, амаль не было… Бо , быў такі малюсенькі “кусочек мяса” на талерцы для кожнага салдата…. Вось так, кухар вырашыў “праблему”, бо МЯСА **ён скраў** і падзяліў сярод сваіх сяброў, а вось салдатам кінуў ”кусочек мяса”…. Зразумела, ад камандзіра часткі я атрымаў пакараньне.. Мая памылка была ў тым, што я паспадзяваўся на “ сваіх”, салдатаў- беларусаў… А беларусы не захацелі спыніць злачынства і , нават, мне не паведамілі мне, што адбываецца злачынства….

Ці не нагадвае вам, сябры, гэтая “казка” сітуацыю ў Беларусі: кухара–злодзея Александра Лукашенко, які скраў у грамадзян Беларусі “МЯСО”?

Ці памятаеце вы словы , яшчэ прэзыдэнта Лукашенко : “… *ну и детям маленький кусочек мяса..».*

Розныя дзіўныя выпадкі былі ў маім жыццю…Так, напрыклад, я “хрышчэньне” атрымаў у серкавай кіслаце… Шмат разоў быў на 1 см, ц 1 секунду ад смерці… Здраду блізкіх людзей таксама перажыў.

Я не быў у роспачы, калі праз дыктатуру, згубіў усё матэрыяльнае, усе нажытае…. Дыктатура ,праз суд, рабіла мяне мярцьвяком… Але я жыву і змагаюся за Ісьціну і Справядлівасьць да Перамогі.

«*Не для славы – а для Справы»*

**Валеры Грыцук**

## Чаму людзі баяцца праўды ?

Звычайна людзі баяцца праўды, калі яна невыгодная непрыемная, а часам праўда забівае, палітычна і, нават, фізічна.

Дзякуючы выхаваньню, я вымушаны ўсё жыццё змагацца

за Ісьціну, Праўду ( больш мне падабаецца слова **Ісьціна**). Больш таго, я лічу, што Праўда і Справядлівасьць ідуць побач. Вось таму праўда аб Верхнім Горадзе, у Менску, напрыканцы 80-х, штурхнула мяне змагацца за Справядлівасьць на гістарычную спадчыну для беларусаў. Мы тады перамаглі.

Далей была змаганьне за Праўду гістарычнай спадчыны ў клюбе "Спадчына" і сустрэчах сьвядомых беларускіх мастакоў, што скончылася ўтварэньнем БНФ "Адраджэньне"..

У 1990г. "вецер пераменаў" пахіснуў маю навуковую дзейнасьць і паставіў мяне перад выбарам: альбо рабіць Навуку і стаць акадэмікам, альбо актыўна будаваць дзяржаву Беларусь, незалежную і дэмакратычную, а потым і багатую, дзе шануюць Правы Чалавека.

На тыя часы не было палітыкаў, а большасьць разумных людзей не хацелі быць нейкім дзівам--- палітыкам..

Але для мяне 1 год дзейнасьці ( ад 1989) у Камітэце Грамадзкага Самакіраваньня "Уручча-1,2, 3" Менска ("КОС"-рус.), які стварылі самыя розныя, але неабыякавыя людзі, паказаў мне, што можна знайсьці **Ісьціну** , калі вельмі яе хочаш. Потым, дзейнасьць у БНФ "Адраджэньне" пераканала мяне, што я абавязаны "ісьці ў палітыку". У жорсткай канкурэнтнай барацьбе на дэпутата я перамог, так пачалася мая эфэктыўная дзейнасьць па абароне жыхароў Менска і Правоў Чалавека. Як дэпутат, некалькі гадоў камуністам-дэпутатам, я даказваў, што менавіта мая дзейнасьць у камісіі па "кантролю за міліцыяй" найбольш эфэктыўная і, яны вымушаны былі абраць мяне старшынёй дэпутацкай камісіі. 10 гадоў майго змаганьня за **Ісьціну** , Спавядлівасьць, Закон і Парадак у Першамайскім раёне Менска былі цяжкімі, але паспяховымі, так, што ўсё кіраўніцтва раёну мяне паважала і лічылася з маёй думкай., а міліцыя была талерантна да БНФ.

Менавіта, таму мне не перашкодзілі арганізаваць пераможныя выбары (1994) для кандыдата ад БНФ у Першамайскім раёне і здабыць другое памяшканьне ( офіс) БНФ “Адраджэньне”. Больш таго, да канца 2000 г. не была рэпрэсій дэмакратаў, з боку міліцыі.

Пасля страху ў 1999 г., прэзыдэнт пачаў набіраць моц , адпаведна, узмацняліся рэпрэсіі. І калі ў 2001 годзе фармальныя лідэры дэмакратычнай апазыцыі спалохаліся “узяцця ўлады”, а таму аддалі, “Кандыдата” пакрыўджанай наменклатуры, то мне засталося толькі напісаць ліст на радыё “Свабода” і дапамагаць апазыцыйным кандыдатам. Але, ужо ў маі 2001-га ўлада адчула, што “перамога” дзейны прэзыдэнт, а таму, у якасьці “прэвентыўнай меры” узбудзілі абсурдную крымінальную справу супраць мяне . Потым мяне арыштавалі на працоўным месцы, у Акадэміі Навук.
Выбары апазыцыя , канешне, прайграла, а таму міліцыя ізноў пачала шукаць мяне, каб ужо кінуць мяне за краты на 5 гадоў.

Але немагчыма змагацца за **Ісьціну** для народа, калі ты – за кратамі. Вось таму я выбраў іншы шлях, патаемная дзейнасьць, але працяг змаганьня за Беларусь. Маі актыўныя кантакты з эўрапейскімі палітыкамі, паказалі Эўропе, што яна мае краіну з дыктатурай сталіноўскага тыпу.

Менавіта я адкрыў “Адзінаму кандыдату” (2006) дарогу ў Парыж і Берлін. Гэта **мой** тэкст быў узяты за ўзор для першай Рэзалюцыі Эўрапейскага Парламенту і г.д, праз эўрадэпутатаў Лібіцкага і Шыманскага.

А зараз мой заклік 18 мая ( і спецыяльны Ліст) да Іспаніі, якая зараз presidency EU, запатрабаваць ад уладаў Беларусі спыніць рэпрэсіі ў Беларусі, не забіваць Ісьціну, меў паспяховы вынік.

Сёньня Беларусь можа выратаваць толькі Змагар, які ўсім сваім жыццём паказаў, што ён і ёсьць Змагар.

Ад 1994 г былі прэзыдэнты для розных “суб’ектаў”, але не для Беларусі, новым прэзыдэнтам для Беларусі павінен быць прэзыдэнт ІСЬЦІНЫ (праўды). Менавіта я заўсёды змагаўся і змагаюся за ІСЬЦІНУ.

## Маі справы

*11 ліпеня. Кожны год , у гэты дзень асабліва, я разважаю. Спрабую адказаць, у чарговы раз, на пытаньні:* ***Што я зрабіў для набліжэньня да Беларусі дэмакратычнай незалежнай беларускай ? Што я зрабіў добрага для добрых людзей****?*

*11.07. – гэта Дзень майго нараджэньня. Апошнія 18 год вельмі сумны дзень.*

*10 ліпеня 1994 на Беларусі адбылася катастрофа горшая за “Чарнобыльскую” і, я вымушаны забыцца на свае мары, сваё асабістая шчасце і справы, але змагацца з прычынай і наступствамі гэтай палітычнай катастрофы.*

*Адносна 1-га пытаньня. Я думаю, што наступны крок быў зроблены. Чарговая краіна ЭЗ пачала больш цікавіцца правамі грамадзян і праблемай нелегэтымнай улады ў Беларусі. Я прапанаваў дэмакратычным актывістам вельмі практычныя “крокі” – справы, каб рэальна “дайсьці” да насельнікаў Беларусі. Адносна 2-га пытаньня складаней. Так, былі дробныя справы, але то іншыя людзі, а не я, павінны адказаць на гэтая пытаньне….*

*З другога боку, я перакананы, што я жыву згодна з*

*маральнымі прынцыпамі ( хрысціянскімі) і ў згодзе са сваім сумленьнем. Але змаганьне не скончылася, а таму.*

**ХОЧАМ! МОЖАМ ! ПЕРАМОЖАМ !**

Мы павінны даказаць , абгрунтаваць ВЫГАДУ для ўсіх (большасьці) жыхароў жыцця ў сістэме дэмакратычных каштоўнасьцей, эўрапейскіх.

Не можам змагацца за палітычныя рэформы - змагаймся за “лямпачкі ў пад’ездах”, за гонар “народнага абаронцы”, за сацыяльныя правы, пакуль…

Растлумачыць, паказаць, пераканаць нашае насельніцтва , што не заўсёды “сініца ў руках лепш за журава з небе”. Бо справа ня толькі ў лёсе асобных людзей, а справа ў лёсе Нацыі , жыцця нашых унукаў і праўнукаў. Наш шаноўны Уладзімір Караткевіч даў Беларусі сымбаль менавіта журава.

А што зрабілі сябры палітычных партый для канкрэтнага чалавека, свайго суседа? Дзе, у якім горадзе, раёне, мікрараёне , вуліцы, ёсьць апазыцыянер, пра якога людзі гавораць: « *гэта наш абаронца*» ? Так ёсьць такія людзі, але іх ня больш чым пальцаў адной рукі. Замала, каб нам ДАВЯРАЛА насельніцтва.

А чаму? А таму, што палітычны актыў партый, партыйныя лідэры й нават тыя 2-е праваабарончыя арганізацыі не падтрымліваюць рэальна такіх ( ці патэнцыянальна такіх) народных абаронцаў. Вось і таму зразумела, што няма нават сярод апазыцыі Салідарнасьці ( маральная падтрымка замала) , а таму няма й Самаахвярнасьці.

А без гэтых чыннікаў дыктатуру не адолець.

Вось тады, калі мы пераканаем, заваюем давер большасьці выбарцаў, тады мы скінем дыктатуру з нашых плечаў й усцешымся журавамі ў небе Беларусі.

Ёсьць й іншы шлях. Мы можам стварыць салідарную, цвёрдазгуртаваную сілу самаахвярных патрыётаў. Але

першы і другі шлях патрабуюць надзвычайных высілкаў, працы, ахвяраў. Акцыямі ад выбараў да выбараў нічога не зменіш.

Мы павінны таксама знайсьці сістэмовыя рашэньня абароны нашых актывістаў, эфектыўна супрацьдзейнічаць рэпрэсіям й ня дзяліць іх на малыя і вялікія.

Мы павінны стварыць “Чорную кнігу Беларусі”, кнігу-летапіс. Запісаць у яе ўсіх «опричников» дыктатуры. Мы й нашыя нашчадкі павінны ведаць «чорныя твары».

Нашыя бацькі, ды й маё пакаленьне, не напісалі кнігу пра «твёрдых сталінцаў», але мы можам, то наш абавязак напісаць пра іншыў «твёрдых....», лукашистов.

Азірнемся навокал. Прыклад нашай суседкі Польшчы паказвае, што нават праз 23 года змены сістэмы «неназваныя» людзі старой сістэмы , іхняе «твардые», перашкаджаюць і пагражаюць Дэмакратыі.

Ці патрэбна беларусам змаганьне? А можа перачакаць ? Як заўсёды?.

Але Цывілізацыя НЕ будзе чакаць на нас! У Свеце ўвесь час ідзе змаганьне, бясконцы «марафон» , няма ў гэтым свеце месца на беларускую «талерантнасьць», а дакладней, адсутнасьць нацыянальнага імунітэту. Можна, канешне, вечна быць падНачальнікам, быць сервільным. Але прыйдзе час й на самага сервільнага, як на Зносака ў «Тутэйшыя» знойдзецца “куля”.

Таму мы маем выбар: або, або. Неяк жыць , «плыць» са згоды Начальніка ( -каў) , ці не адбіраць будучыню ўнукам, урэшце стаць, а не толькі «звацца» Людзьмі! Дапамагчы Беларусі “ускочыць у апошні вагон” Цывілізацыі, захаваць Беларусь й жыццё нашым унукам , праўнукам.

То марныя спадзяваньня , што «калісьці будзе добра», лепш стане без нашых высілкаў......

Ці можа нехта думае, што насельніцтва Беларусі можа быць вечным паразітам на целе Расіі? Марна. Можа палякі

й маюць рацыю, калі гавораць «*Надзея матка дурняў».* Хто хоча быць дурнем ?

Больш таго відавочна, а пабачаць усе таксама, што «парадак» дыктатуры сябе вычарпаў. Хто хоча паўтору эканамічнага крызысу 1992- 1993 гг. ? Ці можа жыццё на «траве» Паўночнай Карэі? Ці быць рабамі Расіі??

Калі мы хочам зменаў, то неабходна Змаганьне. Адпаведна ўсім лідэрам апазыцыі трэба адкінуць амбіцыі і сапраўды, сінхронна (рэзананс), пачаць дзейнічаць па адзінаму плану, у якім галоўным аб'ектам будзе звычайны грамадзянін. Але найперш трэба азірнуцца –ШТО мы зрабілі? Зразумеем, захочам і рушым наперад.

А тады

***ХОЧАМ! МОЖАМ ! ПЕРАМОЖАМ !***

***

*Гэтыя артыкулы былі напісаны ў розныя гады і ёсьць малай часткай маіх думак, думак аб Беларусі.*

**Дадатак 2.**
**Адкрытыя аўтарам новыя законы Прыроды і грамадзтва**

Закон аб хвалевай структуры Сусьвету.

В.І.Грыцук

The Universal Waves Theory .

Агульная Тэорыя Хвалі (АТХ)

**Закон існаваньня і развіцця Матэрыі і , агульна, Сутнасьц**і.

*Асноўнае*
I. Усё матэрыяльнае і нематэрыяльнае мае хвалевую натуру і мае паводзіны, уласцівасьці ХВАЛІ.

II. Вызначаючым фактарам развіцця падзей і сутнасьцей ( матэрыяльнага і ідэальнага ) з'яўляецца РЭЗАНАНС.

III. Паводзіны і ўласьцівасьці сукупнасьцей можна апісаць адзінай тэорыяй Хвалі

З гэтага вынікае, што каб атрымаць неабходны вынік трэба стварыць умовы рэзанансу.

Што ёсьць галоўнай уласьцівасьццю Матэрыі?

Што ёсьць галоўнай уласьцівасьццю ідэальнай субстанцыі, сацыяльных працэсаў і г.д.?

Перадусім , я прапаную, новае тлумачэньне існаваньня і

развіцця Матэрыі і, агульна, Сутнасьці.

Вызначэньня

Матэрыя – гэта сукупнасьць атамаў і элэментарных часьцінак.

Энэргія хваляў. Удакладнім: энэргетычная поле --- як частка стаячай хвалі…

Энэргетычная поле, прыклад, электрычнае , а таксама біяполе. Гэтыя складнікі таксама залічым да Матэрыі.

Для вызначэньня формулы АТХ, вызначым:

"S" "-- Сутнасьць ,ёсьць матэрыя + ідэальныя працэсы.

Я прапаную: Сутнасьць ( Матэрыя + Ідэальнае) мае агульную уласьцівасьць, то бок валодае ўласьцівасьцямі хвалі, адпаведна, яе функцыянаваньне апісваецца функцыямі хвалі.

Такім чынам,

F = f (n, A)
n -- ёсьць хуткасьць ваганьняў ( частата)
A --ёсьць вышыня хвалі ( amplitude of a wave)

F-- ёсьць матэматычная функцыя "S'. f – матыматычнае дзеяньне.

Адпаведна, разумеем, што розныя гатункі Сутнасьці маюць розную частату і амплітуду.

ВЫСНОВЫ

I. Усе матерыяльнае і нематэрыяльная ( Сутнасьць)мае

хвалевую натуру і мае паводзіны, уласцівасьці ХВАЛІ.

II. Вызначаючым фактарам развіцця падзей і Сутнасьцей ( матэрыяльнага і ідэальнага ) з'яўляецца РЭЗАНАНС.

III. Паводзіны і ўласьцівасьці сукупнасьцей, частак Сутнасьці можна апісаць адзінай тэорыяй хвалі .

IV. Развіццё Сусвету ( Прасторы) ідзе згодна з функцыямі хвалі.

V. Усе часткі Сутнасьці маюць сваю частату і амплітуду.

VI. Рэзананс ёсьць магчымы стан для Сутнасьці.

VII.Эфэктыўнасьць паводзін Сутнасьці вызначаецца станам рэзанансу.

VIII.З гэтага вынікае, што каб атрымаць неабходны вынік трэба стварыць умовы рэзанансу.

10 лістапада 2002 г.

<u>Прыклады Хвалі.</u>

1.Чаму матылёк на адлегласьці нават 10 км чуе сваю "палавінку"? Калі карыстацца малекулярнай ( часьцінкі) тэорыяй, то малекула "ферамона" не можа патрапіць да матылька, а вось хваля ад "палавінкі" – можа.
2. Чаму мы ,калі пабачым чалавека , які нічога не робіць, не гаворыць, апрануты нейтральна, але падсвядома робім для сябе выснову: падабаецца - не падабаецца ? А калі вельмі падабаецца, "хваля эмоцый", то ўжо можам гаварыць аб рэзанансе, то бок, супадзеньні нашай "хвалі" і ягонай "хвалі". Гэтым можна таксама растлумачыць і "харызматычнасьць".
3. Мы ўсе чулі такія словы "рытм","біярытм", а гэта і ёсьць

якраз Хваля. Трэба памятаць таксама, што ёсьць і “стаячыя Хвалі”. Так ,як, напрыклад, біяполе. У першыню, дарэчы, зафіксаваў біяполе (ліста расліны) наш славуты беларус, Наркевіч-Йодке.
4.Хвалі эмоцый. Мы вельмі часта чулі аб “хвалях жаху і г.д.”. Такія хвалі сапраўды могуць з’яўляцца, калі тысячы асобных “хваляў страху” трапляюць у рэзананс і, адпаведна, утвараецца , адна магутная Хваля. Дарэчы ўсе ўнутраныя органы чалавека маюць сваю хвалю і вельмі небяспечны рэзананс з хваляй нашага воргану.
Навукоўцы вынайшлі , што існуюць такія арганізмы, калі , у некаторы момант, частка клетак гэтага арганізма высылае “хвалю смерці” іншым часткам арганізма (ці нават іншым клеткам) і арганізм ( іншыя клеткі) памірае.

## II. ГРАМАДЗТВА

**<u>Закон</u>**

***Усе сацыяльныя (адпаведна і палітычныя) працэсы паскараюцца з паскарэньнем распаўсюджваньня інфармацыі.***

***F = f (n, A)***

***n -- ёсьць хуткасьць распаўсюджваньня Інфармацыі***
***A --ёсьць моц уздеяньня (важнасьць) Інфармацыі***

F-- ёсьць існаваньне , пачатак «Працэсу». f – матыматычнае дзеяньне.

**Выснова.** Каб змяніць палітычную сітуацыю трэба эфэктыўна распаўсюджваць Інфармацыю, але такую, якая трапіць у “рэзананс” думак, чаканьняў грамадзян, то бок , ёсьць жыццёва важная.

Гэты Закон я адкрыў у 2000 годзе.

Усім, хто мае якасную вышэйшую адукацыю вядома Дыялектыка і асноўны Закон , “**пераход колькасьці ў якасьць**”. Дык вось якраз пэўная колькасьць Інфармацыі спараджае новую “якасьць”, новую грамадзкую свядомасьць.

Найлепшым прыкладам існаваньне Закону “інфармацыя-свядомасьць” былі , як гэта называюць “арабскія рэвалюцыі”. І аўтар масавага і эфэктыўнага распаўсюджваньня Інфармацыі праз Інтэрнэт з Эгіпту нават атрымаў прэмію ЭЗ.

Заўвага. *Інфармацыя павінна не толькі “быць” у прасторы , але яна павінна быць «узятая да галавы» .Гэта тоя ж як глядзець на лімон, (цытрыну) садавіну, якую раней не бачыў. Але калі пасмакуем , то адчуем ягоны моцны смак.*

**IIa. Супольнасьць, часцей натоўп, успрымае тыя заклікі, якія ,як цень, ёсьць у іхняй свядомасьці, ці падсвядомасьці.**

Зыходзячы з гэтай тэзы, я , у 2005 годзе, прапанаваў апазыцыі заклік:

**ХОЧАМ! МОЖАМ! ПЕРАМОЖАМ** ! Нехта замяніў маё слова “ХОЧАМ!” на “ВЕРЫМ!”. У Беларусі існуе толькі яшчэ адзін заклік, які ведаюць усе “ЖЫВЕ Беларусь!”

Я і сёньня ня ведаю, якое першае слова лепшае. Праблема палягае ў грамадзтве, бо большасьць насельніцтва яшчэ ня вырашыла, ШТО яно ХОЧА.

З другога боку, у актыўнай частцы грамадзтва, якое ХОЧА перамен, бракуе ВЕРЫ ( так гаворацць розныя эксперты).

Але для мяне , <u>то спрэчная тэза</u>.

Я зыходжу з тэзы **змаганьня “патрэбы” і “ідыяльнага**” ( у варыянце Гегеля). Я прапаную наступную мадэль для вырашэньня гэтай спрэчкі.

Чалавек, моцны духам, апынуўся на вялікай пясчанай пустэчы. Праз нейкі час ён пачынае пакутаваць ад смагі. Дапамогі чакаць няма як. Падкрэсліваю, да самага далягляду ( а можа і далей) толькі пясок. Дык вось ён будзе шукаць ваду ( і ратаваньне) ад ВЕРЫ, што знойдзе, ці ад ПАТРЭБЫ?

Я лічу, што -- ад ПАТРЭБЫ.

Можна прывесьці шэраг прыкладаў “патрэбы” з вайсковых дзеяньняў, дзе веры ў вайскоўцаў (шэрагоўцаў асабліва) не было перамагчы ворага, узяць нейкую “кропку”, але была ПАТРЭБА,то бок, прымусовае (часта) ХОЧАМ і такія вайскоўцы перамагалі.

Дык вось адносна беларусаў. Няма яшчэ такой ПАТРЭБЫ, не “прыпякло”. “Жить можно».

Калі прыпячэ?

.................................................................................................

Я прапаную і наступны заклік: *РАЗАМ – МЫ СІЛА*

*ПААСОБКУ -- ПЯСОК!*

.................................................................................................

***Кожная кропля вызначальна… (“кропля”- у сэнсе, дзеяньне)***
***Бяздзеяньне – гэта згубленая магчымасьць.***

***Час - гэта чарга падзей.***

***Нішто не знікае, яно пераўвасабляецца.***

СУТНАСЬЦЬ жывога АРГАНІЗМУ

III*. **Жывыя арганізмы існуюць згодна закладзенай праграмы (генафонд) і здольнасьці* супрацьстаяць ( і/альбо ўзаемадзейнічаюць) навакольнаму асяродзьдзю .Эфэктыўнасьць і час існаваньня жывога арганізму залежыць ад яго здольнасьці выпраўляць(пераадольваць) памылкі сістэмы( у арганізме).***

* Здольнасьць вызначаецца для ўсіх арганізмаў якасьццю генаў, а для чалавека і яго разумовымі магчымасьцямі вырашаць праблемы, у тым ліку і самаачышчэньне арганізму. “Памылкамі сістэмы” з’яўляюцца шкодныя малекулы, “радыкалы “ (звышактыўныя малекулы) і пашкоджаныя тканкі, а таксама змены ў “энэргэтычных кропках”. Негатыўныя псіхічныя працэсы таксама можна лічыць памылкамі сістэмы.

**Сутнасьць функцыянаваньня жывога арганізму**

Арганізм чалавека у пэўным сэнсе адыябатычная сістэма (закрытая) , але падлягае ўплыву звонку . У адпаведнасьці з гэтай тэзай неабходна вызначыць найперш унутраныя фактары але і ўлічыць і вонкавыя ўздеяньня.

Унутраныя

I. Мікраўзровень

1.Метабалізм малекулаў

A) Назапашваньне смецьця – незменных і шкодных малекулаў , "радыкалаў"

Якія складаюцца з малекулаў радыкалаў , малекулаў-ёнаў , якіх больш чым неабходна; малекулы прасторы, тыя, якія не ўключаюцца ў метабалізм, але займаюць месца кантактаў, займаюць прастору для ўзаемадзеньня малекул метабалізму.

B) Стан клетак

Клетачны цыкл.

1. Працэсы жыцьця і самазнішчэньня клетак
2. Ненармалёвыя клеткі (праз выпадковасьць, мутацыі) і змяненныя клеткі ( ракавыя клеткі)
3. Клеткі-смецьце: састарэлыя , нежыцьцяздольныя клеткі, якія не паляглі дэградацыі.

Тканкі, супольнаць клетак.

4. Працэсы жыцьця і самазнішчэньня тканак
5. Ненармалёвыя клеткі і гіпертрафіраваны рост тканак (найперш з ракавых клетак)
6. Састарэлыя тканкі , якія не паляглі дэградацыі.

II. Макраўзровень, цела і арганізм цалкам, як сістэма базуючася на праграмах.

Агульныя нататкі

Арганізм нагадвае кампутар, але ягоная праграма –

гэта генафонд, (геном) запісаная ў ДНК.(гены)

Дзейнасьць арганізму – гэта перманентнае адкрыццё і праца праграмаў. Пад час карыстаньня праграмамі ўтвараюцца памылкі, якія назапашваюцца.

«Памылкі» арганізма – гэта некарысныя працэсы ( шкодныя) якія ўтвараюць шкодныя для арганізма малекулы і малекулы-смецце, а таксама выклікаюць псіхічныя забурэньня.

Неабходна таксама ўлічваць , што праграмы ( ДНК) бываюць ад пачатку з памылкамі; у выніку мы маем генытычныя хваробы і ненармалёвае функыянаваньне арганізму, ці нават яго выгляд.

**Інфармацыйны абмен.**

У сувязі з тым, што усе клеткі супольна ствараюць некалькі ўзроўняў энергэтычнага поля, якоя таксама можна лічыць інфармацыйным полем. Поле можа быць істотна пашкоджана, альбо пашкоджаньне можа быць часовым ,адпаведна поле мае «дзіркі». Парушаецца інфармацыйны абмен, як на макраўзроўнях так і на мікраўзроўнях. Вядома, што кожны ворган і клетка мае таксама і сваё электрычнае поле. Больш таго, клеткі абменьваюцца інфармацыяй праз выпраменьваньне энергіі. Вядома таксама, што кожны ворган ( клетка ?) вагаецца у прасторы з пэўнай частатой, што адпавядае пэўнай **хвалі**.

Пашкоджаньня клетак, альбо ўздзеяньне вонкавай энергыі на арганізм могуць змяніць «хвалю» воргана, што вядзе да спыненьня ягонай функцыі.

**Пашкоджаньня , агульны вобраз.**

Пашкоджаньне і ненармалёвае дзеяньне ва ўсіх частках жыцьцёвага ланцугу .

1. Сапсаваныя «праграмы», генафонд , ДНК.
2. Пашкоджаньне ў час счытываньня (рэплікацыі РНК), ненармалёвая транспартная РНК.
3. Пашкоджаньне ў часе сынтэзу пратэінаў, у рыбасомах
4. Пашкоджаньне пад час дзеяньня мікраарганізмаў, перадусім вірусаў.
5. Пашкоджаньне пад час уздзеяньня шкоднай энергіі.

ВОНКАВЫЯ ФАКТАРЫ.

Арганізм чалавека , найперш, эвалюцыйна прыстасаваны да функцыянаваньня ў навакольным асяродзьдзе, якое (прыстасаваньне) ідзе пастаянна., Але трэба ўлічваць экстрэмальныя фактары і экстрэмальнае ўздзеяньне.

A). Фізычнае ўздзеяньне на цела - безпасрэдны кантакт.

B) Уздзеяньне на псіхіку.

C) Энэргетычнае ўздзеяньне

1.Электрычнае і электрамагнітнае поле

2. Уздзеяньне на біяполе чалавека

3. Уздзеяньне на параметры хвалі часьцінак арганізму.

D).Уздзеяньне мікраарганізмаў

СТРЭС і ягоная роля.

Стрэс можа быць выкліканы фізычнымі ўздзеяньнямі:

гукавыя хвалі, светлавыя , электрамагнітныя і іншыя; таксама праз непасрэдны фізычны кантакт з іншым целам ;хваробы; псіхічнае ( тут і вербальнае) уздзеяньне і нават уздзеяньне нейкага паху (газ).

Стрэс вельмі часта можа быць выкліканы праз «2-ую сігнальную сістэму», псіхалягічнымі ўздзеяньнямі: вельмі негатыўнай інфармацыяй, альбо доўгатэрміновае ( акумуляцыя) негатыўнае ўздзеяньне інфармацыі. Вельмі важнае значэньне мае сіла ( амплітуда) уздзеяньня і перыядычнасьць ( частата) уздзеяньня.

Нямоцны, неразбуральны стрэс, які не адбываецца праз кароткія прамежкі часу, можа быць карысным арганізму, як «перазагрузка кампутэра» і можа, часам, абязшкоджваць уздзеяньне іншых шкодных фактараў, напрыклад, радыёнуклідаў.

Доўгатэрміновае назапашваньне чыньнікаў (акумуляцыя) стрэсу ёсьць фактарам заўчаснай смерці.

ВЫСНОВЫ

Складнікі

Жывы арганізм складаецца з наступных асноўных кампанентаў

I.Праграмы ( гены –ДНК), ўздзеяньня праграмы ( цела і «поле» цела)

II.Асяродзьдзя

III.Інфармацыйнага абмену паміж часьцінкамі ( рознага роўня) цела.

A) Дзейнасьць арганізму можна параўнаць з

дзейнасьцю кампутэра, адпаведна і кампутэравых праграмаў. Праграма арганізму (счытываньне інфармацыі з ДНК і г.д.) можа працаваць добра або дрэнна, што залежыць ад якасьці праграмы, вонкавых фактараў і назапашаных памылак сістэмы.

B) Прымаючы да ўвагі, што клеткі будуюцца і разбураюцца( аднаўляюцца) можна зрабіць выснову, што

1.Альбо «праграма» -генафонд мае вызначэньне дакладнай колькасьці клеткавых цыклаў, для кожнага тыпу клетак ( “аператар смерці”, адпаведны пратэін)

2. Альбо клеткавы цыкл перарываецца назапашваньнем памылак ( смецьця), якія блакуюць найперш кантактовыя зоны “інфармацыйных малекул”.

На падставе гэтай тэзы можна лічыць, што хваробы абумоўлены перадусім

1. праграмай ( генамі- ДНК)
2. моцным уздзеяньнем вонкавых альбо псіха-энергетычных унутраных фактараў ( стрэс), што вядзе да парушэньня метабалізму малекулаў і цыклу аднаўленьня клетак.
3. А таксама НЕ знішчэньнем шкодных мікраарганізмаў
4.Агульнай няздольнасьццю арганізму абязшкодзіць удзеяньне вонкавых фактараў

5. Агульнай няздольнасьццю арганізму знішчыць (выдаліць) «смецце» ўнутры арганізму.

Адпаведна на жыцьцяздольнасьць арганізму можна

ўплываць праз змену ( карэкцыю) «праграмы» з дапамогай геннай інжэнерыі

Альбо

праз мінімізацыю, выпраўленьне «памылак» і выкід «смецьця» з арганізму, то бок знішчэньне і выкід, шкодных і непатрэбных малекулаў і клетак. То бок, арганізм (чалавек) можа істотна сам уплываць на працэсы ў арганізме.

Як адзін з прыкладаў памылковай дзейнасьці «праграмы» - страта кантролю над ростам клетак, а таксама ініцыяваньне празмернага росту ўсіх тыпаў клетак арганізму, т.зв. рэакцыя метастазу, ці таксама ініцыяваньне выключэньна апаратараў кантролю росту клетак.

Варыянты вяртаньня да нармальнай работы арганізму.

А) Пошук памылкі «праграмы» і выпраўленьне памылкі. Найбольш верагодна, што «памылка» ( дэфект, замена нуклеятыдаў, нуклеязыдаў) адбываецца ў працэсе стварэньня транспартнай РНК, але не выключана, што адбываецца гэта пад час працы рыбасомаў.

1.Адпаведна трэба знайсьці прычыну пашкоджаньня т-РНК

2. Альбо знайсьці фактар, які перашкаджае нармалёвай дзейнасьці рыбасомы

В) Як варыянт, можа быць **стымуляваньне** больш эфектыўнай дзейнасьці імуннай сістэмы арганізму ( што абцяжарвае арганізм) і ініцыяваньне інтэнсіўнага **знішчэньня** ненармалёвых і шкодных клетак і шкодных мікраарганізмаў..

C) Аднавіць энэргэтычнае поле.

ПАМЯЦЬ

**IIIa.**

**Мая гіпотэза адносна фармаваньня памяці і захаваньня інфармацыі ў мозгу.**

Спачатку інфармацыя,якае перадаецца ў мозг праз электрычныя (ённыя) імпульсы нейронаў захоўваецца праз сетку электрычных зарадаў. (накшталт магнітных дамэнаў на дыску кампутэра.) Праз нейкі час адпаведныя энзімы робяць “форму” (“злепак”) кожнага новаўтворанага электрычнага поля і спрыяюць сінтэзу пратэіна –адзінкі памяці.(ці некалькіх пратэінаў).

Доўгатэрміновае захоўваньне інфармацыі – гэта адпаведна сінтазаваныя (новыя) пратэіны.

Успамінаньне (аднаўленьне) адбываецца дзякуючы таму, што “пратэін –адзінка памяці” аднаўляе патрэбнае электрычнае поле (“дамен”) якое далей , праз ,нейроны , дае інфармацыю адпаведным клеткам мозгу.

Магчыма аргументам на маю карысьць ёсьць “фантамныя болі”. То бок, калі “баліць” рука якой няма, бо адпаведны “пратэін –адзінка памяці” захаваўся ў клетках мозгу і праз нейкі працэс “уключаецца”. Ёсьць таксама зараз некаторыя біяхімічныя эксперыменты, які патрабуюць праверкі, што знішчэньне пэўнага пратэіна зніштчае інфармацыю ў мазгу.

**Радыёнукліды і здароўе**

Наступная мая прапанова беларусам – паклапаціцца аб сваім здароўе.
***Калі не можаш адмовіцца -- шукай способ як зменьшыць шкоднае ўздзеяньне.***

СПОСАБЫ
**фізіялагічны,** то бок, праз адпаведнае харчаваньне
**Энэргетычны**, праз адпаведная практыкаваньня, напрыклад, йога, але ня толькі
**Хімічны,** праз спажываньне пэўных лекаў і аптэчных вітамінаў.

Я спадзяюся, што наступны артыкул будзе карысны вам.

*НЕ ХОЧЕШЬ --- НЕ ДУМАЙ, НЕ ХОЧЕШЬ --- НЕ УМИРАЙ*
Ралыёнукліды нікуды не зніклі--- яны ў тваім арганізме.
“2013. 26 красавіка. Адбылася чарговая грамадзянская акцыя напамін “Ён звоніць і па цябе”!
“Рост очень многих заболеваний, не только онкологических, связан с Чернобылем.””- з навуковай канферэнцыі 2011г. ……………………….

ХТО ЗНІШЧАЕ БЕЛАРУСАЎ ?

Я ГАВАРУ ІСЬЦІНУ аб ВЫНІКАХ “ЧАРНОБЫЛЮ”

Я прашу. перадусім ,дакладна зразумець адрознасьць “радыяцыі” і “радыёнуклідаў”.
Але напачатку прапаную ўспомніць яшчэ тоя,што была ў СМІ.
“*Ученый и общественный деятель Алексей Яблоков, доктор биологических наук, профессор, член-корреспондент Российской Академии наук, член Нью-Йоркской академии наук, автор более 500 научных работ, в том числе более 30 монографий в своей книге "Атомная мифология" разбивает в пух и прах "Миф о*

*безопасности малых доз радиации". "Нет, и не может быть единого, для всех одинакового приемлемо-опасного уровня облучения. В одних местностях для одних групп населения приемлемо-опасный уровень может быть один, в других местностях и для других групп - другой. Приемлемо-опасный уровень облучения для одного человека в одной и той же возрастно-половой и этнической группе будет одним, а для другого человека из той же группы - другим. Наконец, в разное время дня и в разные сезоны года радиочувствительность одного и того же человека будет различной. Все сказанное выше, на мой взгляд, убедительно показывает бесперспективность и научную необоснованность широко бытующего понятия о "безопасной дозе облучения".*

“”*Врач-педиатр из городского посёлка Буда-Кошелёво Гомельской области Валентина Смольникова, которая наблюдает за так называемыми "чернобыльскими детьми" уже почти четверть века, утверждает: "Да, многие специалисты считают, что 20, 30, 50 беккерелей - это немного. Но если у ребёнка 20 беккерелей, сколько у него уже хронических заболеваний! На это они не смотрят. Сейчас же не гамма-фон главное . А то, что инкорпорация идёт, и вредное воздействие радионуклидов на человека усиливается на каждого. И количество врождённых пороков растёт, дети, которые рождаются - они уже с цезием. Он внутри них, он распадается, и он вызывает изменения в органах и системах, и этого нельзя не замечать*\\

Ёсьць навуковыя доказы гэтага на роўні энзімаў, малекулаў —аўт.\\ *Малые дозы радиации постепенно накапливаются в организме человека. И становятся большими, критическими. А после этого "выстреливают" различными патологиями. До 1986 года в Могилевской и Гомельской областях 80% детей были практически здоровы, а сегодня обратная пропорция - здоровых только 20%, есть целые районы, где вообще*

*нет практически здоровых детей... “*”

28-29 красавіка 2010 ў Кіеве прайшла міжнародная канфэрэнцыя з назвай "Жыцьцезабесьпячэньне насельніцтва..”,. "Ужываньне прадуктаў харчаваньня з радыеактыўнымі цэзіем-137 і стронцыем-90 \\ наступным хутка будзе плютоній-- аўт.\\\ уяўляе галоўную небясьпеку для людзей. У асноўным за кошт радыенуклідаў на працягу многіх гадоў фарміруюцца дозы ўнутранага апраменьваньня", -- адзначаецца ў рэзалюцыі. Яе аўтары кажуць пра рэзкае пагаршэньне стану здароўя насельніцтва. Гаворка ідзе аб "катастрафічнай" дэмаграфічнай сытуацыі ў постчарнобыльскіх раёнах, дзе сьмяротнасьць у некалькі разоў перавышае нараджальнасьць. Прычым зьніжэньне нараджальнасьці абумоўлена парушэньнем функцыянаваньня мужчынскай і жаночай рэпрадуктыўных сыстэм, а таксама паталёгіяй разьвіцьця плада дзіцяці..

“”’*Председатель Республиканского общественного социально-экологического объединения "Центр поддержки чернобыльских инициатив" Ивана Никитченко. В 2008-2009 годах я реализовал один проект, мы осмотрели людей в 24 регионах, которые считаются чистыми. И ни в одном из них, включая Минск, не было людей, не имеющих хронически поглощенных доз радиации. А эти дозы – это болезни, в результате которых наступает преждевременная смерть”.* “*Член-корреспондент Национальной академии наук профессор Иван Никитченко подчеркнул, что радионуклиды "вредны для организма в любом количестве". "Они разрушают клетки организма, иммунитет, становятся причиной различных болезней и сокращают продолжительность жизни человека"*.

Такія вось рэальныя умовы для жыцця грамадзян Беларусі. Што з гэтага вынікае?

Так. Гэта праўда! Тоя , што была ўзгадана вышэй. Але шаноўны спадар Нікітчанка, не біяхімік, ён фізік, які не працуе з малекуламі, але выснову зрабіў правільную, бо я ,

як біяхімік, пацьвердзіў яе ў шматгадовых эксперыментах: вельмі шкодны ўплыў уздзеяньня радыёнуклідаў на энзімы., то бок, на галоўны ( пасля нярвовых клетак) элемент функцыянаваньня арганізму. Шкода радыёнуклідаў ня толькі ў шкодных праменях ( як голкі працінаюць усё), але і ў іхніх хімічных уласцівасцях, як цяжкіх металяў. Усе чулі адносна волава (свінца), ртуці… Радыёнукліды яшчэ больш шкодныя ! Гэта адзін бок “медалю”.
Але , я вельмі хачу, каб беларусы зразумелі розніцу паміж тым, што разумеюць, калі гавораць “радыяцыя”, “доза”, “абпраменьваньне” і разуменьнем слова “радыёнукліды”. Дык вось “афіцыёз, урад, Лукашенко, МАГАТЭ, увесь час нам “падсоўваюць” слова “радыяцыя”, але не гавораць аб радыёнуклідах. Паспрабую растлумачыць “на пальцах”.
Калі афіцыёз гаворыць аб радыяцыі, то , фактычна, гаворыць аб праменях, якія ідуць ад глебы, то як бы сонечныя праменні, але ад зямлі. Ад іх можна прыкрыцца, ці сыйсьці ў іншае месца.
Крыніцай радыяцыі есьць радыёнукліды. Калі яны знаходзяцца на павярхні глебы, то дзейнічаюць як бы вельмі моцнае сонечнае выпраменьваньне.
А калі мы гэтыя “іскаркі”, радыёнукліды заглынем? То што яны робяць з тканкамі нашага арганізму ? Усё бачылі і ведаюць іскры ад вогнішча, ці ад гарачага металу. Што будзе калі шмат маленькіх іскарак трапіць на тканіну ? Іскаркі прапаляць у тканіне дзірачкі, якія мы нават не пабачым, але тканіна хутка парвецца. Тоя ж самая адбываецца з тканкамі нашага цела, калі радыёнукліды “выкідваюць іскаркі” ( α,β,Ɣ-выпраменьванне) і “спальваюць” тканкі нашага цела. І калі арганізм не паспея залатаць дзіркі, то тканкі разбураюцца і арганізм ( чалавек) павольна памірае.
Але фізікі забываюцца цалкам на другую праблему, якую я ўжо згадваў. Радыёнукліды – гэта найперш металы, цяжкія металы,цэзій, стронцый, амерыцый, плютоній і г.д. Адпаведна яны робяць такую ж самую шкоду для арганізма, як і нерадыяктыўныя цяжкія металы. Шмат хто

чуў, як Расія адмовілася ад беларускага посуду, бо ён утрымліваў цяжкі метал, кадмій.
А вось што засведчылі медыкі.
6-ы з'езд акушэраў і гінеколагаў і неонатантаў Беларусі,27-29 траўня 1997
Рэпрадуктыўная функцыя.
Тэзысы, стр.776 *"...найдены тяжелые металлы в грудном молоке.." ( і радыёнукліды)*
Радыёнукліды знойдзены таксама ў рэпрадуктыўных органах.
Хто пра гэта ведае? На жаль, беларускія вучоны маўчаць і баяцца паказаць рэальную сітуацыю ў СМІ. Усе гэтыя канферэнцыі --закрытыя, толькі для спецыялістаў. Не баіцца толькі прафесар фізік Іван Нікітчанка і прафесар, медык-паталагаанатам (навуковец-даследчык нябожчыкаў) Бандажэўскі. Дарэчы, “паталогоанатом”– гэта даследчык, менавіта, мёрцвых целаў. Я ж даследаваў жывая арганізмы. Іншыя навукоўцы (публічна) да гэтуль маўчаць….
Дзе думка біяхімікаў, генетыкаў? Яна ёсьць, але толькі “у калідоры і на кухне”.Фыктычна, яны сваім маўчаньнем спрыяюць вялікаму злачынству. Навукоўцы баяцца публічна гаварыць праўду, нават "моцныя" ( у калідоры) БНФ-цы. З другога боку, у нас няма журналістаў здольных на вышук ІСЬЦІНЫ. Ніхто не пытаў самага дасведчанага чалавека , акадэміка Яўгена Канаплю, ці БНФ-цаў з Інстытуту генетыкі.
Праблема ўздзеяньня радыёнуклідаў на жывы арганізм значна больш складаная і сітуацыя значна больш цяжкая.
Я шмат гадоў кіраваў ( і я сам рабіў доследы) навуковай праграмай уздзеяньня радыёнуклідаў, як цяжкіх металаў у комплексе з іншымі жыццёвымі фактарамі на арганізм на малекулярным роўні, у Нацыянальнай Акадэміі Беларусі . ( на дзеяньні энзімаў). Праграму фінансаваў Дзяржкамчарнобыль. Я не змог скончыць даследваньня - перашкодзіла "палітыка", мая жорстская пазіцыя БНФ-ца і інтрыгі "павукоў".
Але, мая выснова: радыёнукліды ( гэта цяжкія металы) на

малекулярным роўні змяняюць метабалізм арганізму, змяняюць звычайную эфэктыўнасьць лекаў.(ШТО дарэчы нядаўна засведчыў супрацоўнік “минздрава», але бяз спасылкі на радыёнукліды.)
Менавіта радыёнукліды як цяжкія металы адказныя за пашырэньне "звычайных" хваробаў! Важна таксама не толькі іх гамма, бета, альфа-прамяні, але іхняе хімічнае ўздзеяньне!
Небяспечная ня толькі  цэзій, але і стронцый і плютоній, амерыцый, якія спажываюць беларусы дзякуючы “дзяржаўнай палітыцы разбаўленьня”, то бок забруджаныя прадукты ( малако, зерне ) разбаўляюцца чыстымі прадуктамі і ідуць у продаж паўсюдна. А таму зараз няма чыстых прадуктаў у Беларусі.
З чым параўнаць шкоду ад радыёнуклідаў-цяжкіх металаў?
Энзымы- гэта малекулярныя машыны, якія адказныя за змену рэчаваў (малекул) у арганізме. Шмат хто чуў пра “пепсін”, які ёсьць галоўнай “машынай” для страваваньня ежы. Дык вось, калі ў гэтай малекулярнай машыне замяніць толькі адзін “вінцік”, то яна будзе працаваць горш, то бок, радыёнуклід замяняе сапраўдны (родны) вінцік . А таму шмат якія працэсы ідуць не так як трэба.
У выніку атрымліваецца тоя, што засведчыў прафесар Нікітчанка. “ ***Радионуклиды вредны для организма в любом количестве". "Они разрушают клетки организма, иммунитет, становятся причиной различных болезней и сокращают продолжительность жизни человека”***
Хто з беларусаў хоча жыць меней ?

Што трэба памятаць?
Радыяцыя (невялікая), то бок ,вонкавая, не ўнутры арганізму, на глебах Беларусі не ўяўляе небяспеку, але пыл мы таксама ўдыхаем.
Галоўная праблема – гэта радыёнукліды, якія беларусы праглынаюць разам з харчаваньнем кожны дзень.
Ці ёсьць ратаваньне ад гэтай павольнай смерці?
Ёсьць ! Спажываць чыстыя прадукты, якія атрыманы з

